цяжкім маўчаньнем. А як стаў гаварыць, пужаў яго голас—ненатуральна цьвёрды, сьціснуты нейкі, страшна было, каб не парваўся ён, каб не прабіліся скрозь яго напружную сьцісласьць нясьцерпна-пякучыя мужчынскія сьлёзы.

— Перш-на-перш пачалі рабаваць. Клалі на падводы ўсё, што толькі мела якую цану, і вывозілі. Падушкі, адзежу, збожжа, сьвіней, кур—усё-чысьценька. А тады падпалілі. Ня было ветру, дык хадзілі і падпальвалі кожную хату, кожны будынак. Спалілі ўсё да шчэнту, бервяна не асталося. А з людзьмі што рабілі... Былі на вёсцы аставаліся яшчэ некаторыя—не хацелі ісьці ад дабра ад свайго. Дык лавілі, зьдзекваліся, выраблялі, што толькі хацелі. Як рабавалі, дык лавілі мужчын і запрагалі ў калёсы, вазілі на іх іхнае-ж дабро. Вазы накладалі, як на каня, а калі ня браў каторы везьці—білі бізунамі, прыкладамі, калолі шаблямі. А потым, як запалілі, кідалі жывых у вагонь, заганялі бізунамі... Старых, жанчын—усіх, хто толькі трапляў пад рукі... Сына майго... семнаццаць гадоў... уцякаў ён ад іх, ад зьвяроў, убіўся некуды ў пуню, у дровы... дык падпалілі... жывога... і пахаваць не давялося... Жонку забілі, двое сірот пакінулі... недзе ў чужых... хто іх там ведае... А пачалі-ж потым нас шукаць. Усе лясы паабнікалі, усе разлогі... Дзе толькі знойдуць каго маладога—б'юць, страляюць. Людзі нашы з сем'ямі былі ў адным ляску сабраўшыся. Дык і там не далі спакою. Пачалі й тое адбіраць, што з сабой увалаклі. Падушкі з-пад дзяцей хапалі. А дазналіся, чые былі ў паўстанцах,—пачалі сеч. Двух мужчын да сьмерці засеклі. Потым яшчэ што надумалі—на ўсю акругу загад далі, каб ня прымалі нікога з нашае вёскі... Так і бадзяюцца некаторыя—галодныя, голыя... А іншыя падаліся куды-небудзь... У старцы многа пайшло... Хто ўжо ведае, як яно будзе далей...

Канчыўшы расказваць, ён пачаў з нейкай ненатуральнай старанасьцю раздзьмухваць агонь—мусіць хацеў схаваць сваё хваляваньне,—потым устаў і пайшоў за драўмі.

Хлопцы ляжалі ў напружным нямотным маўчаньні. Лясьніцкаму здалося, што недзе ў чорнай цішыні лесу пранёсься глухі прыдушаны енк. Можа гэта дзе-небудзь завыла сава? А мо' яшчэ не расталі ў вушшу адгалоскі таго, што давялося пачуць там, у воласьці?

Нешта балюча сьціскала сэрца, нешта гняло тупа-навіслым цяжарам. А ў галаве засела адно назольлівае, нявыводнае:

— Дзе мяжа гэтым зьдзекам? Дзе мяжа гэтай лютай варожасьці, гэтай жорсткай бязьлітаснай барацьбе? Ці ёсьць такія законы людзкасьці, якія-б маглі стрымаць крывавы шал гэтае барацьбы?

І сам сабой выплываў адказ, вырастаў з нутра, як страшны, але нямінучы вынік усяго перажытага:

— Бязьмежная гэта варожасьць і бязьмежная барацьба! І няма для яе ніякіх законаў і правіл, бо барацьба гэта на жыцьцё і сьмерць. Яна

падзяліла ўсё чалавецтва на два сьмяротна-варожыя лягеры—паміж іх ня можа быць міру, ня можа быць ладу. І ніхто ня стане воддаль ад іх, ніхто ня міне барацьбы.

— Хто ня з намі, той супроць нас!

Вярнуўся незнаёмы, падклаў дроў у вагонь і сеў у ранейшай паставе—маўклівы і задуменны. У гэты момант недзе зусім блізка запела, пачуўшы раньне, нейкая птушка. Тады Лясьніцкі ўспомніў пра казку перавозьніка Саўкі, пра дзіўную Іванькаву дудку.

Ці не яна гэта, тая чароўная дудка, узбудзіла народ, узьняла яго, каб пастаяў за праўду, за шчасьце? Ці не за ёй гэта так ашалела ганяецца панская зграя, на сьмерць перапалоханая яе дзіўным магутным іграньнем?

Яны праляжалі моўчкі аж да самага золку. Ніхто і вокам ня зьвёў у гэту кароткую вясновую ноч. А як занялося на зару, незнаёмы запытаў у хлопцаў:

— Вы куды цяпер пойдзеце?

Лясьніцкі адказаў адразу, быццам ён ужо думаў аб гэтым і ўжо даўно гэта вырашыў.

— Я пайду ў горад. Мне трэба бачыць Андрэя.

Чаму—бачыць Андрэя, дык ён і сам ня ведаў: неяк само сказалася. А Халіма памаўчаў троху і потым запытаўся ў незнаёмага:

— Ты што тут робіш?

— Я? А вось хаджу ды высьцерагаю. Калі на каго натраплю,— застрэлю.

— Ну й як?

— Забіў паню, афіцэра і двух легіёнаў...

— Адзін ходзіш?

Той падазрона зірнуў на Халіму. Відаць, падумаў, што хоча прысябравацца.

— Мне таварышоў ня трэба. Баюся людзей. Прападу, дык сам... Усё-роўна...

Тады Халіма рашуча нахмурыўся і заявіў:

— Пайду к дзядзьку, пашукаю матроса. Трэба ваяваць дзе-небудзь.

Незнаёмы вывеў іх на скрыжаваньне дарог і паказаў:

— Вось гэта—на горад, гэта—да дзядзькі твайго, а мне дарога— назад, у цёмны лес.

Лясьніцкі спытаў у Халімы:

— Калі сустрэнемся?

Той троху падумаў і адказаў:

— У першы дзень, як займуць бальшавікі горад, я там буду.

Сказаў зусім упэўнена, быццам загадзя ведаў, калі гэта будзе.

Яны разьвіталіся і пайшлі ўсе трое ў розныя бакі...

*(Працяг будзе)*

# У ПАХОДЗЕ

**Іоганэс Бэхэр**

Hart ist die Erde,
Hart ist Stahl,
Der Mensch, der Mensch ist
Härter als Stahl ..

(Зямля – цьвёрдая,
Сталь – цьвёрдая.
Чалавек, чалавек –
Цьвярдзей ад сталі)

Мы—цьвёрдае пакаленьне. Пакаленьне вайны, рэволюцыі. Мы ня вырасьлі ў спакоі. Нас ня выхоўвала ніякая ідылія. Мы ня мелі часу і— мы гэтым ганарымся—мы не хацелі траціць часу на тое, каб блішчэць на парадных маршах у уніформах мірнага часу. Мы глыталі кроў і агонь. Нашае цела і мозг поўныя гэтым. Мы—не манекэны поэзіі, мы ня маем нічога лішняга для больш-менш удалых драпіровак, балетных штукарстваў і дэкарацый. „Зямля—цьвёрдая, сталь—цьвёрдая, чалавек-жа, чалавек цьвярдзей ад сталі“.

Мы захоплены рэчаіснасьцю. Ап'янены сучаснасьцю. Вучэцеся ад машын у іх руху, сачэце за іх ходам. Гэта дакладнасьць монтажу, пунктуальнасьць рухаў, магутная моц, якая расьсякае дрыжачыя гураганы сьвету—вось гэта гвалтоўныя, вечныя помнікі нашага веку высокае творчае працы.

Вытворчасьць, фабрыка зрабіліся нашаю новай, нашай другой бацькаўшчынай. Біцьцё нашага сэрца падобна да роўнатактнага біцьця машын, што куюць будучыну. Мы заўсёды з тварцамі гэтае моцы, але ня з тымі, хто яе выкарыстоўвае; ня з тымі, хто „здымае сьмятану“ („Rahmabschöpfern“), але толькі з паказальнікамі жыцьця. Бо мы ведаем: спачатку мы мелі перад сабой толькі працу і змаганьне. Гэта мы маем і сягоньня. Ад бяды і сьмерці паходзіць нашае жаданьне ўлады.

Антэны, высокае напружаньне, трансформатары, шмаравідла, лягер бомбаў, мэталёвы гураган, электрычнае паветра—вось гэта мы. Мы—электрычныя вазы, паветраныя малаты, цэмэнт, вугольле, сьвідравальныя вежы, крыніцы газы... і калі вы запытаецеся, хто мы:

Wir rückenan: von Rouch versengt,
Schwarz, und Gesichter voll Narben.
In Mietshäusern, Stuben, wje Särge so eng,
Lagen wir lebendig begtaben.

Wir rücken an: aus der Erde gesprengt,
Massen, im Morgen grau.
Es kommt durch die Strasse die Masse geschwemt,
Masse, wie Stahl so grau...

(Мы надыходзім: прасякнутыя дымам,
Чорныя, твары поўныя рубцоў
У начатых хатах, кватэры цесныя, як дамавіны.
Ляжалі мы жыўцом пахаваныя.
Мы надыходзім: выскачыўшы з зямлі
Масы, шэраю раніцай.
Ідзе, плыве праз вуліцу маса,
Маса, шэрая, як сталь...)

Не зважаючы на бяз ліку зробленыя памылкі, якія ўцягвалі нас на пагібель, на забойчую трасцу, што давяла нас, блізка, да страты прытомнасьці,—усё-ж мы верым у адно мастацтва, у народнае мастацтва, ва ўтварэньне і ўзрастаньне новае гвалтоўнае песьні, якую будуць чытаць і сьпяваць мільёны, сьпяваць аб тым, што ў выніку змаганьня сьвет будзе належаць да тых, хто творыць.

„Мы патрабуем літаратуру моцных людзей, што ідуць па сярэдзіне жыцьцёвае плыні, адважных змаганьнікаў, якія ведаюць жыцьцё, якія трымаюцца моцна і ідуць супроць гнільля, агіднае цьвілі, магільнага нюханьня, шынкавых сьлёз, распусты, раскольніцтва, цемнаты і душэўнага калецтва.

Што робіць бяда?

Бяда робіць адно:

„Народ паўстае са скленчанага становішча!“

Маршрут чалавецтва ў будучыну для нас ясна вызначаны. Шлях—цьвёрды. Калёны будучыны, марш!

Ужо зноў пара ўзьняць штурм супроць аслупянелых і атлусьцелых, штурм проці акасьцяненьня і няпэўнасьці. Штурм!.. Слухайце сыгнал!

Вас-жа, вас, хто са сваёй хлусьнёй і лятуценьнямі захварэў соннаю хваробай, вам крычым мы:

„Прасьпеце гэты час! Калі-ж вы прачнецеся ад свайго нясумленнага сну, дык ня дзівецеся: на вашых палях хвалююцца магільныя землі і глыбока ў сьвеце вісіць чорнае сонца“.

Але мы не затрымаемся дзеля вашага сну. Мы пойдзем далей...

---

Лета. Воблакі, як калоды. Паветра гарыць.

Мільгаюць успаміны.

---

На поўдні—ляжыць горад, дзе я радзіўся. Самы паўднёвы горад краіны. Горад акружаны высокімі гарамі, якія выглядаюць, як высокі плот з востраканечных узгоркаў—пасярэдзіне катлавіна, як акамянелае мора. Ральля, па якой яшчэ цяпер—у век электрыфікацыі і трактараў—паўзе конь з плугам. Гэта горад кароткіх, але ўдарных гураганаў, цём-

ных хмараў, граду і... раптам яснае сталёва-блакітнае неба. Гэта горад высокіх лясоў на горызонце і масавых горных паяздоў. Блакітны нясходзячы лёд на верхавінах. Калі чалавек улетку шукае на небе воблака, дык бачыць ён у высокай далі вечны сьнег...

Краіна дзікіх ручаёў і лавін, краіна маланак і трывожных звонаў. Даліны, па якіх далёка разносіцца рэха далёкіх гураганаў. Краіна паляўнічых і сплаўшчыкаў, горных праваднікоў і дрывасекаў. Горад багамольных жвачных...

Вуліцы: няроўны брук—дзюры, як пасткі,—уважліва і асьцярожна абыходзіць. Абсаджаны алеямі тапляў, па абодва бакі канаўкі, густа пакрытыя крапівай і расьцярэбленымі галінамі тапляў, паваленых маланкаю. Каля дзеравяных слупоў верставыя каменьні, патрэсканыя каплічкі, побач на палёх з хмелем,—пажарныя сажалкі, каменьняломні, жвіравыя ямы; агароды, у якіх гніе капуста і градкі гарбузоў, што растуць на сьметніках. Чыгуначная грэбля. Чырвоныя гнёзды з цэглы—дамы чыгуначных дазорцаў. Тэлеграфныя драты. Сетка вялікае напружанасьці. Зграя варон. Там, дзе чыгунка праразае вуліцу,—набела памаляваныя чыгуначныя бар'еры,—там далей зноў акіян стэпаў. Доўгая чарга грузавых фурманак, якія вязуць дровы. Скрып ланцуга на лесапільні...

Тысячы крыжоў. Тысячы хрыстоў.

Крыжы на верхавінах гор, крыжы на раздарожжах. Крыж перад банкам, каля вадаспаду, крыж па сярэдзіне маста, крыж на выступе скалы, якая, нібы, стаіць перад усёй краінай.

Крыжы, хрысты ўсюды...

* * *

Я таксама сьніў „сон дасканальнага чалавека".

„Сон дасканальнага чалавека" сьніцца кожны дзень, кожную ноч. Ён сьніцца кожнаму. Кожны сьніць яго пасвойму. Адзін сьніць яго пры пачатку свайго жыцьця, калі яшчэ нічога ня сказана і не аформлена.

Жыцьцё: перабытанае поле сілы, на якім незнаёмая моц змагаецца з незнаёмаю сілай. Другі сьніць яго пад канец жыцьця. Магчыма, што некалькі хвілін перад тым, як ён назаўсёды зачыніць за сабою дзьверы. Лёс доўга з гэтым змагаўся, але нічога зьмяніць ня мог. Іншыя-ж сьняць яго так-сабе, між іншым. Раз на год—разумная доза,—каб не нарушвала жыцьцёвае сапраўднасьці. Сьняць стоячы, лежачы. Сьняць, нічога ня ведаючы аб гэтым...

„Дасканальны чалавек", па маёй думцы, павінен перад усім быць насычаны мускуламі. Павінен быць гаспадаром сваіх думак і пачуцьцяў. Вядзе змаганьне з прыродаю і ў працягу гісторыі чалавецтва прымае ўсё больш высокія і скомплікаваныя формы.

Калі я хадзіў па вуліцы, я прагавіта шукаў „дасканальнага чалавека".

З маім лятуценьнем аб „дасканальным чалавеку" я застаўся адзін.

Я добра зразумеў, што зьдзейсьніць жыцьцё „дасканальнага чалавека“ мне самому—надта цяжка.

Далей, што раз далей уходзіць шчасьце.

Мізэрныя іскры.

* * *

Дождж. Дождж.

Вуліца поўная дажджавым газам.

У дажджавым лесе не пяе ніякая птушка.

Сьпевы птушак спыніліся яшчэ перад дажджавым прылівам, які пракаціўся над краінай, пакуль уся краіна не зрабілася запаранаю дажджавой кашай.

Бульбянішнікі плывуць. Ураджай гніе ў вадзе.

Гвалтоўны дажджавы душ далей мочыць краіну.

Дажджавы шум ап‘яняе.

Як шырокая, поўбелая істужка з чорнымі плямамі і зялёным пробліскам, праносіцца дождж праз мой сон.

Прыгожае біцьцё мэханічнага бубна абудзіла мяне.

Дождж...

Ці гэта сэрцавае біцьцё зямлі, якая ўзьбіваецца на горызонце?

Я прачнуўся.

Гэта былі гарматныя стрэлы на Заходнім фронце...

Масы, паязды, масы.

Масы расьлі з зямлі. Масы расьлі ў зямлю. „Шэрая няшчасная маса. Я, маё ўласнае жыцьцё“.

І сон аб „дасканальным чалавеку“ прысьніўся.

---

Ноч... На выступе гары стаяў крыж з гнілога дрэва і фосфорычна іскрыўся. Распаленая таямніца.

Распалены крыж падняўся над сьветам, які вялікай, хвалістай, магільнай зямлёю разлёгся навакол крыжавога слупа. Вялізарны распалены крыж выпускаў праменьні бэнгальскага фэйервэрку. Як залаты дождж, капаў ён з крыльляў крыжа. Я выразна бачыў, як пры гэтай чароўнай пышнасьці мільёны людзей маліліся з закрытымі вачыма да вялікага крыжа.

Крыжавы знак сьвяціў.

Магільная ральля, на якой ён быў узьнесены, таксама сьвяціла.

Як рой камароў, ляцелі мільёны людзей на заблуканыя агні крыжа, падалі на магільную зямлю, на якой яны спальвалі жывое цела, сьпяваючы да агню крыжа гымн радасьці.

* * *

Хвілёвыя пробліскі ўспамінаў...

Зноў шагі. Ходзяць.

І гэты шлях, вялікі паход, жывая вуліца, штурханьне ў будучыну—пойдзе далей, калі і мая дарога, калі і твая, таварыш, дарога прыдзе да канца.

# НА ВЁСЦЫ

М. Нікановіч

I

Раніца заіскрыла вясельлем сонца, залатыя праменьні ў расе, на траве і на маладзенькіх лісточках дрэў з краскамі, камякамі запечанай крыві — яны адбіліся ў ваччу, роўным адбіткам пажару разасслаліся на паверхні ціхай вады. Яшчэ раней гэтага птушкі грымнулі галасамі разнастайнымі, зьмяшалі ў музыку дзівосную, веснавую...

А вёску пеўні будзілі. Узьляцеўшы на плот, які-небудзь густа-чырвоны, як знарок афарбаваны, певень, разьдзіраўся, вытрашчыўшы вочы, і калі чуў, што на другім двары гэтак сама пеў другі певень ды яшчэ лепш за яго — тады, намагаючыся, ён цягнуў на такую высокую ноту, што аж куры трэсьлі галавамі, як-бы хочучы збавіць свой слух ад гэтай, ужо залішняй, крыклівасьці. І пасьля сваёй песьні гэты певень доўга стаяў яшчэ на плоце, разяўляў сваю дзюбу, нібы пазяхаючы, і, апусьціўшы чырвоныя пад барадой блінчыкі, ды гледзячы адным вокам уніз на курэй, напэўна, думаў:

— От цяпер, напэўна дык я перамог! І што думаюць на гэта мае куры?..

А пачуўшы з другога двара зноў песьню—зноў прогся, пакуль не перасыхала горла ці ўстаўшая гаспадыня, адчыніўшы дзьверы сянец, ня звала ўсіх іх на сьнеданьне. Тады, цяжка зваліўшыся з плоту, ён ішоў, важна падымаючы ногі і ўсьцішаючы ўсю чараду, пражэрна набіваў вальлё стравай.

А сонца і вёскі ня цуралася; яно крышыла над ёй сваім цяплом, лашчыла і цалавала закіданыя дворы ды стрэхі саламяныя...

І не пасьпела адна хата курнуць камінам сваім, як ужо кожны двор забрунштыніў абаранкамі і круцёлкамі ў васільковай высі, а тут залекаталі буславай песьняй калодзежы, гумны загулі галасамі мужчынскімі, заляскалі калёсы на дарозе, на полі.

Па дварох бабы крычалі галасамі надарванымі, асіплымі, а на вуліцы ў мучным пяску у адных кашульках, увазголеных ад барады да падолу тлустасьцю, гразьзю і сьлінай, а то ў штоніках ці ў спадніччы на матузіках,—рыліся дзеці, бегалі, крычалі галасамі чыста-звонкімі, разудалымі...

Воддаль за вёскаю, па дарозе, абраслай маладой кудравай травіцай, адна партыя супроць другой „кулю качала". З палкамі ў кожнага

больш крапчэйшыя і спрытнейшыя хлопцы шпургалі адзін к другому круглую, як яблык, вытачаную з чачоціны кулю; не адбіўшы яе і прапусьціўшы—тая партыя адступала назад, аж да таго месца, дзе гэта куля сама астанаўлялася, і адтуль ужо каціла. Гэтакае адступленьне звалася „загнаць у лазу".

Ня раз здаралася, што гэтая куля рассаджвала ногі і галовы меншым дзецям, якія тут круціліся, і тады замест сьмеху нёсься нястрымана-балючы плач. Усяго бывае ў такім разе!

А з кожнай хаты маццяркі, напхаўшы жываты сваіх дзяцей бульбай з кіслым малаком ці нішчымнымі буракамі,—выпіхалі іх на вуліцу, а самі браліся за работу. А работы вясною ў гаспадарцы, для аднэй кабеціны ў сям'і, шмат; трэба і на полі пасадзіць бульбу, дома агародніну, запазьніўшыя кросны даткаць. Аніяк аднэй ня ўправіцца, хоць ты разарвіся; туды кінешся, дык тут будзе ня зроблена, а як тут робіш—там будзе застой. Бяда ў мужыцкай гаспадарцы; наняць можна было-б дзяўчынку, каб памагла які-небудзь дзень-два ўсеяцца якраз, управіцца; дык дзе там?! Калі-ж і прыдзецца гады ў рады на соль, на кавалак жалеза ды яшчэ на новую спадніцу к сьвяту выскрабці з засеку прыбухлага жыта, дык ледзь тады канцы з канцамі зьвядзеш, а вазьміся наймаць, дык і зусім бяз хлеба будзеш!..

Праўда, у жніво, пры касьбе, ды калі лён мнуць,—тады памагаюць суседкі,—дык і то не за плату: за гэта адрабіць трэба. Вось і праходзіць цэлая вясна, лета і восень у заядлай працы для мацеры дзяцей, і няма калі агледзецца ні каля сябе, ні каля дзяцей.

Па тры, а то і па больш тыдняў сарочак ня скідаюць у сям'і, ня мыецца нічога, а пра чыстату ў хаце ды пра лазьню і гаварыць ня прыходзіцца...

Вось і няма калі няньчыцца з дзяцьмі, песьціць іх.

— Гэта толькі купцом гарадзкім, а ня нам!..

Так кажа з болем у сэрцы сваім сялянская матка і толькі абатрэ клапатліваю рукою ў чорны падол сваёй спадніцы твань пад носам свайго дзіцяці, пагладзіць шурпатымі мазалямі яго галоўку, пацалуе ў запыленыя, з карою пяску ў кутках вусны—і... уся тут ласка.

Так і жывуць дзеці на вуліцы ад цямна да цямна, а што яны там робяць, як яны жывуць,—аб гэтым ня ведае ні бацька, ні маці іх.

II

Ї як толькі раніца ўсхліпнецца,—дзеці вуліцу ўхарошваюць сваімі ільнянымі кудзеркамі, рознакалёрнымі кашулькамі, рубашачкамі, і тады цэлы дзень чуецца: сьмех, крык ды плач... Ї так ужо не адзін дзень, і так ужо не адну вясну.

— Хлопцы!.. Будзем мо' пірагі пячы?..

— Ну давай!.. Замесім на аладкі і на пірагі... Вясельле будзем рабіць...

Месяць мокры пясок, гразь робяць, а з гразі дзяўчаткі выпляскваюць рознай формы аладачкі, пірагі вялікія... А то кінуць гэтую справу—другую гульню ўздумаюць...

— Давай, будзем лазьню тапіць!..

— Мы вось удвох будзем тапіць... я і Міхась, а вы ўсе да нас прыдзеце ў лазьню!..

— Добра!.. Пойдзем па венікі!..

Пашлі ўсе „па венікі"—ламаць якія-небудзь галінкі, а ўдваіх засталіся на дарозе тапіць лазьню... Сядзяць каля грудка накладзенага на дарозе каменьня, вочы прыплюшчваюць, рукі ўперад настаўляюць, як-бы бароняцца ад агню...

Прышлі ўжо і з „венікамі". Частка з іх ляглі жыватамі на дарогу, а рэшта сьцёбаюць іх па сьпіне вецьцем...

— О-то-то-то!..

— А-ця-ця-ця-ця!..

— О-о-о-о-о!..

Тонка, пісклява цягнуць на ўсе лады пад венікамі. Ляжыць і Міхась, 7-гадовы хлопчык, „парыцца", падае галасы ад духаты і здаволенасьці, як сталы мужчына, і ляпеча, павярнуўшы з пяску тварык:

— Памыемся—тады самагонку гнаць будзем!..

— Добра-а!..

— Ая-я-яй!.. Уцякайце!..—змагла толькі прарэзьліва крыкнуць адна дзяўчынка, як усе, ня ведаючы і ня бачачы, што там такая за небясьпека. Кінуліся на бакі з дарогі. Па інстынкту здагадаліся, што нехта ляціць па дарозе, раней імі не заўважаны... Часта-ж так бывае.

Адзін толькі Міхаська, які парыўся, лежачы на жываце, пакуль падняўся, каб уцячы, як ужо цяжкі воз перакаціўся парай калёс цераз адну яго нагу вышэй калена...

Яшчэ дзічэй і шыбчэй рвануў конь ад гэтага месца, войкнуў за Міхася селянін на возе, нешта слаба трэснула пад коламі.

Гэта-ж, ліха яму, конь малады і спудзіўся пратэсаў—рызьзя, якія нязвычайна трапяталіся, падскаквалі ў паветры над галовамі натоўпу, як несьлі хаваць нябожчыка, і, заламаўшы ў бакавую вуліцу, панёсься па ёй з усіх капытоў. Чым-жа вінаваты ў гэтым селянін?!

Як апаў пыл на дарозе ад фурманкі, дзеці ўбачылі, што Міхаська сядзеў, абапёршыся назад абедзьвюма рукамі, увесь белы, як сьнег, а з шырока-расчыненых вачэй ліўся нейкі сполах, нямы боль... Вярцеліся сьлёзы.

Захацеў падняцца і стаць на ногі,—нага правая балтухалася, у якія хочаш бакі, прыгледзеліся ўсе, ажно з лыткі на пяту, а там і на пясок, кроў чырвоная струменіць...

Спачатку ня чуў болю Міхась, а цяпер, як убачыў, што і ступіць на сваю нагу ня можа, і кроў льлецца з яе,—сеў зноў на дарогу і загаласіў...

Кінуліся ад яго дзеці наўцекі. Прыбегшы хто дамоў—ледзь прагаворыць.

— Міхасю конь нагу пераехаў!..

— У Міхася з нагі кроў гэтак прэ!..

— Міхасю нагу адламалі!..

Прыбеглі яго бацькі, а ён ужо і прытомнасьць згубіў, ляжыць на дарозе, як нябожчык, а вакол яго лужа крыві... Хвацілі на рукі, калошынку разарвалі,—а ззаду, вышэй калена, костка выперла наверх, а з-пад яе кроў бурболіць... На спуджана-трапечучых руках занесьлі яго дамоў і зараз-жа на падушках у больніцу накіравалі...

Вышлі дзеці пасьля паўдня гуляць на вуліцу, ды ўжо ня гуляецца нешта, вінавата пазглядаюць адзін на другога, як-бы што згубіўшы ці зрабіўшы вялікую віну другому...

Гульні ня клеіліся, ня пелася неяк; і, трохі пагуляўшы, дзеці разышліся па хатах.

А вечарам, у гэты-ж самы дзень, прыгнаўшы дамоў кароў з поля, большыя хлопцы пайшлі за вёску па дарозе кулю качаць...

Вечар цярушыўся цераз ціхія цёплыя змрокі, цьмянымі плямамі гуляў у кустох, ля могільніку. З далёкага гаю падымалі гармідар птушкі, і мо' таму ў хлапцоў было ўражаньне буйнай навокал жыцьцярадаснасьці...

Вінка—хлапец гадоў трынаццаці, даволі рослы паводле яго лет, з сымпатычна-загарэлым тварам ды блакітнымі, шэрымі вачыма, разгарэўшыся,—аж пот лье з яго ілба,—стаяў наперадзе аднэй партыі і лоўка адхвоставаў назад кулю.

Пацямнела яшчэ больш, так што трэба было мець добрыя вочы, каб зьмеціць, як яна гудзіць па зямлі.

— Вінка-а-а!..—крыкнуў Мікола передавы хлапец з другой партыі,—ужо цемнавата... давай качаць кулю „па гары"!..

Гэта значыць, кідаць яе не па зямлі, каб каціласяя, а каб дугой ішла ў паветры, і ў паветры, над галовамі трэба-ж яе і пераняць—адбіць.

— Дава-а-а-й-і!..—крыкнуў Вінка і запусьціў „па гары".

Куля адно сьвістала ў паветры, раз-по-разу гопалі адбоі аб яе, а гэтым часам рабілася яшчэ цямней. Мікола, запусьціўшы наўздагад кулю к партыі Вінкі і, крыкнуўшы „лаві", узяўся зноў за адбой, каб быць на ўсякі выпадак гатовым адбіць, калі яму кінуць яе, і стаў прыслухоўвацца: ці адаб'е хто яе, ці без адбою ляжа яна проста на зямлю...

— Трах!..

Нейкі кароткі і між тым мяккі пачуўся трэск.

— Ай!..

Страшна рэзнуў паветра крык.

Мікола ад страху аж да зямлі прысеў, калок выпусьціў, рот разявіў, здавалася, што гэты трэск і крык яго ўласны, яму балючы...

— Забілі!.. Вінку забілі!..

Пачуў толькі Мікола з таго боку.

Балюча ў сэрца кальнула, аж ногі затрымцелі, захацелася заплакаць, а потым думкі розныя завіхрылі.

— Скажу, што ня я кідаў кулю...

— Але-ж хлопцы бачылі, што я...

— Прызнаюся, мо' лягчэй будзе...

— А мо' яшчэ і так толькі сабе...

І, забыўшыся пра ўсё, кінуўся ён к Вінку. Калі падбег, дык ён ляжаў, распластаўшыся, бяз шапкі, а вышэй ілба, недзе з-пад валасоў, плыла чорная кроў і мачыла пясок...

Мікола, мала думаючы, кінуўся на калені і пачаў катурхаць яго, падымаць, цягаць, і, нарэшце, Вінка глянуў на ўсіх мутнымі, нічога не разумеючымі вачыма, нібы ён і сам ня ведаў, што тут такое з ім зрабілася.

— Чаго ты, Вінка, паваліўся?..

— Што табе, чорт яго ведае?..

— Баліць?..

Засыпалі хлопцы яго пытаньнямі. А Мікола стаяў, апусьціўшы рукі, зьбялелы, у дрыжыках.

— Вельмі-ж тады забалела... Аж ня помню... і цяпер галава круціцца...—ціха сказаў Вінка і зноў зачыніў павекі.

— Не чапайце!.. Паляжу трохі і буду здароў... Вось каб на яе агні з куляй...

Гэтым часам хлопцы навалі́ліся на Міколу за тое, што ён так пускаў кулю, як-бы наўмысьля ўдарыць Вінку. А Мікола ледзь ня плакаў, даводзячы, што ён тут зусім не вінаваты.

— Ты, брат, каб хацеў як ямчэй пусьціць, дык пусьціў-бы і добра, але ты, зараза, прымеркаваў, каб лопнуць яму па лысіне!.. падышоўшы к носу Міколы ды заліхвацкі выпучыўшыся і абапёршыся на адбой, даказваў гэтак малы карапуз, Васіль.

— Маўчы шчанё!.. А то вось зараз па рылу!..—ня то ад злосьці, ня то ад жалю буркнуў Мікола, бо што рабілася ў яго на душы ў гэты час— ніхто ня ведае.

— Ото-то!.. От папрабуй, такая сволач!.. Забіў Вінку...

Але не даказаў Васіль, як Мікола, каб мо' загаіць усю боль сваю душэўную, ляснуў па мордзе Васілю. Закруціўся той на адбоі, згубіў роўнавагу і сеў на дарогу.

Хто бачыў гэта—паклаліся з рогату, а Васіль, сашчапіўшы зубы, бахнуў адбоем па нагах Міколы. Той паправіў, і ледзь разьнялі хлопцаў. Неяк памалу зайшоў Вінка дадому, нават гаварыў дарогай:

— Ат, зусім не баліць!.. Глупства!.. Ня так мне было вунь, як зваліўся быў з елкі, што вароны на ёй былі аж на самым вяршку, ледзь не забіўся... А гэта дрэнь—вось толькі галава трохі баліць...

Гэта так гаварыў Вінка, каб хлопцы дома нікому не сказалі і не перадалі бацьку Вінкі—усё роўна бацька яшчэ папружкай паправіць...

Страх!

А як к хатам канцавым падыходзілі, Вінка спыніўся і ўсім ціха сказаў

— Ведаеце, што хлопцы? Не кажэце нікому, што са мною так было... Не канечне ўсім і ведаць, бо як даведаецца бацька мой аб гэтым, ён-жа мяне заб'е!.. Дый Міколе пападзе... А ці-ж ён вінаваты ў гэтым?.. Хацеў так мне, га?!.

— Ну, яно верна!..

— Правільна!..

Адазвалася грамада, і ўсе разышліся па хатах.

Невядома якім чынам, усё-ж такі даведаўся бацька Міколы аб учынку сына, і ўжо зусім вечарам, вярнуўшыся з поля дамоў,—сьпісугаваў Міколаву сьпіну і ніжэй яе папружкай так, што ні сесьці, ні легчы дагары нельга было...

Хто яго ведае ад чаго: ці то спужаўся, ці то ад болю, але Мікола ня спаў ноч гэту, а назаўтрае ўжо і ня ўстаў з ложка гнаць у поле скаціну.

III

Пасьля таго дня, як Міхасю пераламалі нагу, а Вінку разьбілі галаву, прайшло, нешта, дзён пяць.

Вярнуліся бацькі Міхася з больніцы і гаварылі, што Міхась скора выздаравее, але трэба яшчэ паляжаць, пакуль зрасьцецца косьць.

Дзеці былі рады, што так параўнаўча добра абышлося з Міхасём, і ўжо сумаваць пакінулі, а цяпер усю ўвагу зьвярнулі на Вінку, якому з кожным днём рабілася ўсё горай і горай...

Як лёг ён у той вечар, так і не падняўся. Бацька ўжо некалькі разоў прывозіў фэльчара, і той апошні раз сказаў:

— Запаленьне мазгоў!.. Вельмі малая надзея на выздараўленьне!..

Загаласіла маці, лесам цёмным нахмурыўся бацька.

Блузьніў увесь час Вінка, да памяці ня прыходзіў, качаўся ў нявымоўных пакутах па брудным ложку, у дзіравых дзяругах... Не хадзіў Вінка на двор для сваёй патрэбы, усё пад бокам было, а яшчэ дрэнна і нестаранна даглядалі за ім, ды к таму гнілая бульба пад ложкам, дзе ляжаў Вінка, у кашу зрабілася і аж нос зрывала, парасяткі малыя, якія ўбягалі на дні па некалькі разоў у хату, каб пакарміцца, давалі свой смурод, а што датычыць пра падпечак, дзе куры зімавалі, і цяпер некаторыя прыходзілі туды несьціся, пра той пах, які ён даваў,—і гаварыць ня прыходзіцца. І вось, у брудзе, у цьмяным закутку пад палаткамі, ляжаў хворы Вінка, а над ім вісела гэтае несьцярпіма-смуроднае паветра, абцугамі душыла за горла, зрывала чэрап на галаве...

А к яму яшчэ: заўсягдашняя сварка, крык дамашніх... Тут і здароваму захварэць!

У чым-жа вінаваты Вінкаў бацька, Рыгор, што прымусіў у такіх абставінах ляжаць свайго сына безнадзейна хворага?! Дык хто тут вінаваты: бацька, маці, мо' сам Вінка, а мо' і жыцьцё?..

Бацькава сэрца жадала-б, каб гэта можна было, палажыць свайго Віначку ў палацах, у чыстых здаровых пакоях, спаласнуць чыстатой, абгарнуць ласкамі, пяшчотамі!..

Ніхто тут не вінаваты—бедната тут вінавата!.. Вінаваты кавалак жыцьця, якім яшчэ жыве і сягоньня Рыгор, таго жыцьця, якое струпянела, згніло ў салодкіх подыхах мінуўшчыны...

— Мамачка... вадзічкі!..

Прышоўшы да памяці, шэпча Вінка, і маці дрыжачымі рукамі ад радасьці, што загаварыў сын, бяжыць па скрыпучай падлозе за конаўкай, чорнай зьверху, у сажы, у сярэдзіне ўся ў прыгарках жоўта-мутных... Гэта-ж малако парыла маленькай дзяўчынцы, што цяпер ад грудзей адлучыла...

Чэрпае халодную, толькі што з студні ваду. З нейкім прыкрым пахам гнойнай верхаводкі, падышоўшай у дождж надоечы, і дае Віначку... Засмагла п'е гэтую ваду хлапец, трымае маці яго пад голаву, трывожна-радаснымі вачыма сочыць за яго кожным рухам, а тымчасам глыбока недзе ў сярэдзіне грудзей будзіцца надзея:

— А можа?!.

Спакойна ляжаў Вінка ўвесь дзень аж да паўночы, а пасьля затарнавала яго, закідала... Зірнула маці на яго і адступілася, хвартухом твар закрыла і закачалася ўся ў ціхіх усхліпах...

— Сыночак мой!.. Птушачка мая, ягадка недасьпелая...

Яшчэ хмурней насупіўся бацька, адкінуў непадплецены лапаць убок і ўстаў з лавы.

— Ну, ціха, ціха!..

Ні то са злосьці, ні то з нецярплівасьці кінуў Рыгор жонцы...

Кінула плакаць яна, зноў падышла к Вінку, а ён ужо канаў. Неяк спуджана хліпаў шырокімі, на васковым твары, вачыма, дыхаў раз-по-раз з цяжкім хрыпам і сьвістам...

— А божа-ж мой!.. Сьвечка дзе?..—мятнулася маці да абразоў.

— Ня трэба!.. Хай яе агні спаляць!..—чамусьці злосна працадзіў скрозь зубы Рыгор і адвярнуўся рукавом падранай сьвіткі выціраць буйныя сьлёзы з запала-нэрвовых вачэй...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Назаўтра хлапца хавалі.

Як прынесьлі дамавінку яго на магільнік—тады і Мікола прышоў. Схаваўся за тоўстую бярозу і, сагнуўшыся, з жудасьцю пазіраў цераз ногі людзей туды, дзе стаяла на жоўтым пяску труна. Вельмі хацелася яму ўбачыць нябожчыка, нейкае нявымоўнае жаданьне і цікавасьць цка-

валі яго зірнуць хоць раз на той халодны і зусім чужы для ўсіх тут жывых труп, які раней рухаўся, думаў і гаварыў, і якога раней звалі—Вінка.

Вакол шныпарылі, як мышы, усе дзеці з вёскі, кожнаму хацелася ўбачыць апошні раз свайго таварыша Вінку. Мікола азірнуўся і ўбачыў, як каля яго прайшоў Косьцік, яго таварыш, і, схапіўшы яго за руку, ён ціха запытаў.

— Бачыў яго?..—і махнуў лахматай галавою ў пастралянай, жоўтай ад сонца, без казырца шапцы, у бок труны.

— Бачыў!.. Схудаў вельмі, не пазнаць...

— А я думаў...—і змоўк чагосьці Міколка.

— Чуеш, як маці галосіць?.. Шкадуе вельмі...

І, не сказаўшы больш нічога, Кастусь адышоўся, сеў пад бярозай і пачаў пазіраць у даль жоўта-зялёных палёў ды цвыркаць сьлінай скрозь зубы. Хто наглядзеўся—расступіліся, і Мікола з нейкім нямым і тупым страхам праціснуўся ўжо к самай труне і гэтак-жа пужліва ды з цікавасьцю непамернай зірнуў на Вінку... Глыбока ўпала мяккае яго цела, прыбранае ў чорныя картовенькія штонікі і рубашачку, няпрыемна тырчэлі ўверх наскамі чорныя, зробленыя на тандэт, картонныя туплі... На белай ільнянай галоўцы анучка кужэльная чыстая, мусіць, з старой мацерынай сарочкі выдраная, апаясала цемя, дзе рана была... А твар жоўты з уцягнутымі глыбока вачыма і выцягнуўшымся носам выяўляў ціхі спакой, дабрату, і здалося Міколку, мо‘ хутчэй уявілася, што Вінка як-бы хоча сказаць тымі апошнімі словамі, якія кінуў ён на разьвітаньні з сваёй кампаніяй.

— Ці-ж Міколка вінават у гэтым?.. Хацеў ён мне гэтае?..

І раптоўна Міколку так шкода зрабілася Вінку, што сьлёзы ў яго, як боб, самі сабой пасыпаліся на жоўтую дзюравую сьвітку.

— Ну, хто яго ведае, трэба, значыцца, у дол апускаць ці што?..—нехта сказаў з грамады, і мужчыны ўзяліся за лапаты.

Тады як-бы прачнулася маці, глянула на ўсіх чырвона-заплаканымі вачыма з тупым уяўленьнем усяго яе абкружаючага ды з вострым жалем у іх, смарканула ў чорную анучку, сагнулася над Вінкам, абхапіла дамавіну рукамі і загаласіла працягла-нудна, з прыслоўямі...

Міколка ў гэты час настолькі ашаламіўся, што зусім ня ведаў, што яму рабіць. Стаяў у асалапеньні і тросься сваім зморана-худым целам: у падраных на каленцах зрэбных штанох, у аднэй дзюравай сьвітцы на чорную кашулю...

Выплакала маці сьлёзы свае, атупіўся ўжо жаль, і, падняўшыся, яна правяла некалькі раз у задумнасьці сваімі худымі, жоўтымі, чорнымі і шурпатымі ад мазалёў за працай мацярынскімі пальцамі па белым шоўку галавы Вінкі і, уздыхнуўшы, выціснула:

— Сыночак мой, Віначка!.. Уцеха ты мая, радасьць мая!.. Каму я слоўца цяпер скажу, хто маю старасьць дагледзіць!?

Ня стрымала сэрца Міколкі, адчуў ён, што ўжо больш утрымацца ня зможа, ды яшчэ глыбока недзе ў грудзёх заныла нешта, засмактала ці абарвалася, ня ўспомніць цяпер добра Міколка, але хто быў тады там, усе зжахнуліся, нават маці Вінкі і тая змоўкла, зьдзівіўшыся. Ценкі, але поўны нявычарпанага болю і жалю разьліўся патокай плач наўзрыд... Убачылі ўсе, як нехта малы абшэрпаны, у сьвітачцы „хоць-ты верацяном растрасі", стаяў на каленях, выставіўшы да усіх босыя, чорныя патрэсканыя да крыві ад сіверу ногі, а галавой з рукамі ляжаў на грудзях Вінкі і нэрвова тарнаваўся ад нястрыманага плачу... Слоў ня было, бо слоў ён і ня мог знайсьці ў такім разе—гэта чыстае сумленьне з вострымі пачуцьцямі выліваліся над забітым таварышам.

То быў Міколка.

Ледзь адцягнулі яго ад дамавіны, нават Рыгор заплакаў, гледзячы на гэткае разьвітаньне, і, гладзячы яго па галаве, ласкава дабавіў:

— Ну што-ж ты зробіш?.. Ці-ж ты хацеў так, сынок?!

Андрэй усё гэта бачыў. Ён хлапец гадоў пятнаццаці, круглы сірата, але здольны і працавіты. Ён ужо даўно думаў як-бы зрабіць так, каб дзеці ўсёй вёскі былі дагледжаны нават і тады, як бацькі на полі працуюць... Доўга думаў, усялякія пляны будаваў перад сабою і проста ня мог быў выканаць некаторых, па ўсялякіх варунках... А вось цяпер гэтыя здарэньні яго яшчэ больш балюча датыркнуліся да чулай душы, і стала перад ім задача, што нешта такое трэба рабіць, каб выратаваць усіх дзяцей ад выпадковага няшчасьця, ад бруду, у якім яны бываюць, ад лаянкі, якой Андрэй быў вялікі вораг.

Малыя гады былі ў Андрэя, але розум быў у яго, як у дарослага мужчыны... Не здарма яго хваліў у школе настаўнік і лічыў за першага вучня... Разумеў усё жыцьцё сялянскае, патрэбы яго, разумеў так тонка мо' затым, што сам гора глынуў аж колькі ні хачу, як сіратою застаўся з самых раньніх гадоў жыцьця свайго...

І вось сягоньня, тут-жа, як у дол апусьцілі дамавіну, Андрэй ужо рашыў.

Прабег сярод усіх дзяцей і кожнаму шапнуў на вуха:

— Зараз каб у Канюхоў бераг сабраліся!..

— Валяй хлопцы ў Канюхоў бераг!..

— Чаго?

— От там убачыш!..

І не пасьпелі яшчэ магілы накапаць, а ўсе дзеці былі ў Канюховым беразе, гэта што недалёка за могільнікам раскінуўся стромкімі бярозамі, ясенямі, ліпняком, ды дзе-ні-дзе пракідаўся хвоямі з елкаю... А як прыгожа было ў Канюховым беразе, ну, проста хоць дзень з ноччу сядзі тут, і ніколі яно не надакучыць!..

Асабліва калі гэта вясною!.. З дрэў тады робяцца альтанкі, апырсканыя здаровым і прыемным водырам, пяюць салаўі і іншыя птушкі, дыванам мяккім трава сьцелецца, а з балота нясе пахам аіру...

Вось тут і сабраўся першы дзіцячы сход. Галдычылі на ўсе лады, сьмяяліся, некаторыя з старэйшых песьняй бразнулі...

І неяк само сабою так вышла, што Андрэй і прамову пачаў трымаць перад усім сходам, а сход сабраўся многалікі, чалавек дваццаць восем было, калі ня больш, рознага веку і стану.

Трохі зьбялеў Андрэй, як стаў пасярод кола для прамовы, нейкі ні то страх, ні то няўпэўненасьць працялі яго, і ён усё цёрся, а потым, як сталы які мужчына-аратар на сходзе, пачаў:

— Таварышы!.. Вы сягоньня сваімі вачыма бачылі, як хавалі нашага таварыша. На гэтым-жа самым тыдні Міхасю нагу пераламалі, і гэтак будзе не адзін раз за ўсё лета... Трэба неяк разам нам усім быць, старэйшым наглядаць за малодшымі, выдумаць розныя гульні, і добра тады будзе. Я пайду к настаўніку, і ён нам скажа, што рабіць, як час правесьці, каб і добра было, і ўсе здаровы і цэлы былі...

І доўга гаварыў аб гэтым Андрэй, прапанаваў наладзіць нейкую „такую добрую“ дзіцячую арганізацыю, якой і сам ня ведаў, як даць імя.

— Заўтра, пасьля паўдня,—нарэшце сказаў Андрэй,—зноў усе сюды зьбярэмся, а я раніцой схаджу к настаўніку, і ён усё зробіць, дапаможа!..

— Ладна!.. Добра!..

— Прыдзем, весялей так будзе!..

— Усе разам будзем!..

Згадзіўся аднагалосна сход, і дзеці радасныя пайшлі дамоў. А сонца цалавала іх галоўкі маленькія, песьціла ветрыкам, гольлейкам дрэў ня пускала з гаю, бо і гай рад гасьцям новым, вясёлым, жыцьцярадасным...

## IV

А як сонца саромлівай дзяўчынкай твар свой ружовы хавала ў празрыста-блакітныя далоні ды захіналася ад цікавых вачэй рукавом цёмна-баравым, тады дзеці дамоў прыпляліся, а як толькі парог хаты сваёй пераступілі, зараз-жа к бацьком з навіною:

— Тата!.. Мы ўсе, усе, і Тодараў Юзік, і Ганьнін Вінцэсь, і Адамава Волька, але ўсе, як з таго канца, дык аж да гэтага,—паказаў рукою хлопчык ад стала да дзьвярэй, уяўляючы ўсю даўжыню вясковай вуліцы, седзячы ў бацькі на каленях,—будзем цяпер хадзіць у Канюхоў беражок, і там гуляць!..

— Хто табе гэтае сказаў?..

— Ды як хто?! Андрэй Бізункоў казаў. Сабраліся мы гэта туды,—ён і кажа, так і так... будзем сюды зьбірацца, разам гуляць, і настаўнік мусіць будзе дапамагаць нам!..

І гэтак у кожнай хаце. З бацькоў адны сустрэлі гэту навіну, хоць і з небясьпекай нейкай няяснай, нямой, але і са здаволенасьцю.

— От няхай сабе, значыцца, там і гуляюць!.. Усё-ж такі ў чарадзе больш заняткаў...

А другія паглядзелі ня так:

— Гуляй пры хаце!.. Нечага валачыцца недзе па беражкох, ды чарадой... Будзе гэтак, як і Вінку Рыгораваму!..

— Ня сьмець хадзіць туды, сукін сын!.. Комуну яшчэ ўздумаюць, чаго добрага, рабіць пасьля гэтага!.. Ведаем мы гэтыя хітрыкі!..

Тады прыкра і балюча рабілася ў душы дзіцячай ад такіх бацькаўскіх слоў, і моўчкі думала яно тады:

— І які чорт падаткнуў мяне сказаць аб гэтым бацьку?!. Можна і бяз яго ведама было-б!..

Як-ні-як, а ўсе дзеці вёскі спалі ў гэтую ноч, як куры... Баяліся прапусьціць раніцу, каб не спазьніцца ў беражок...

Як толькі затрашчала першае падпаленае палена ў печы, паўсхваталіся і дзеці ў кожнай хаце.

— Мамка, есьці гатуй хутчэй!..

— От я есьці нешта вельмі хачу!..

— Мама, я ня буду чакаць сьнеданьня, дай мне маленькую скварачку і я пайду ў беражок!..

І так у кожнай хаце гарэлі дзеці нецярплівасьцю хутчэй вырвацца з душнай смуроднай хаты на вольнае паветра, злучыцца ў адну таварыскую сям'ю, дзе кожны з іх адзін другога зразумее лепш, як свайго бацьку... Забыліся ўсе аб тым, што Андрэй казаў, каб сабраліся не раней паўдня, але не сядзіцца ўжо дома пасьля гэткага згавору... Дзе там будзе чакацца, калі ўсіх падмывае, каб хутчэй сабрацца, пагарэзаваць... Ніколі-ж гэтага ня было, каб у адну чараду ўся вёска сышлася, праўда, бывае калі гэта на вясельлі, што зьбяруцца ўсе дзеці слухаць музыку ды паглядзець маладых, дый то сталыя хлопцы заўсёды іх, дзяцей, назад адціскаюць, а калі каторы пішчом лезе наперад, дык і папружка можа пагуляць па сьпіне такога сьмелага... Тады зьбіраюцца ўсе дзе-небудзь у кутку двара ці на вуліцы і, паглядаючы адзін на другога няпрыязнаскора, выпытваюць навіны...

— Каму ты каровы свае здаў?..—Пытае замурзаны, белазоры, у бацькаўскіх картовых майтках, большага брата „салдацкай“ рубасе, з чорнымі, „хоць рэпу сей“, нагамі, Кірылка ў Васіля.

Васіль моршчыцца і кідае нехаця.

— Міша Тодараў узяўся за жменю цукру!.. А твае?..

— А мае і так занялі!.. Нават і адпасваць ня буду!..

— Чаму?..—дзівяцца другія пастушкі.—Што-ж ты за лепшы?..

— А вот і лепшы!.. Падыход, брат, трэба ведаць!..

І з рызыкай ды гонарам расказвае ўсім хлапцом Кірылка, што яго кароў пасуць заўсёды, а ён гуляе і ў вус ня дуе, бо яго, Кірылкі, усе пастушкі баяцца вельмі...

І шмат аб чым гавораць, як зьбяруцца, але ў голасе кожнага заўсёды чуецца нейкая нацягнутасьць, недавер'е, нават няпрыязьнь... Калі

гэта зборышча адбываецца ды вечарам дзе, дык мацнейшы хлапец не праміне, каб упоцемках падчапіць свайго-ж таварыша, каб той, бразнуўшы дзе аб ганак,—рассадзіў нос, або, хаваючыся за дарослых хлопцаў ці мужчын, лупяць адзін другому па галаве так, што аж пасьля дзела такога плач надыходзіць... Зьбіраюцца гэтак сама ўсе дзеці і на „вялікадня“, ды на „сёмуху“, але тут ужо менш б‘юцца і сварацца, больш ладзяць, і вельмі-ж тады слаўна бывае...

Гэтак было трохі раней, а цяпер і самі дзеці праканаліся, што біцца няможна і гэта вельмі сорамная работа, бо нават і дарослыя цяпер ня б‘юцца, і калі Андрэй сказаў, што ўсе дзеці будуць зьбірацца разам і зробяць нейкую такую „добрую організацыю“, дык пасьля гэтага і ня дзіва, што ўсе так пільна чакалі таго часу, калі трэба будзе сабрацца. А як на тое ліха ўначы яшчэ захмарыла. А раніцой сухі вецер нарваў з дарогі пылу і сыпнуў у бяльматыя шыбы хат замурзаных, заскародзіў кіпцямі сваімі па стрэхах саламяных, сьвіснуў у комін і паімчаўся далей у шырокія прасторы выпетраных палёў, якія даўно ўжо чакаюць вады...

Гуляў гэты вецер у вольных у палёх, набіраўся там сілы непамернай, і тады, адчуваючы ў сваёй істоце моц, падлятаў к вёсцы і з нейкай дзікай песьняй сьцёбаў яе па баку, па галаве віхрастай, ляскаў варотамі ды вочапы калодзежаў ганяў бесьперастанку. Тады няпрыемна зрабілася дзецям, занудзіліся...

Гэта-ж дождж, мусіць, пойдзе, і ўся іх сёнешняя гульня пойдзе ні нашто... А цераз некаторы час лінуў то роўны, то касяком буйны дождж, якога так нецярпліва чакала ўся вёска... Не адзін гаспадар, усьпёршыся на падаконьнік сваімі чорнымі мазалістымі далонямі, задраўшы даўно няскрэбеную, ускудлачаную бараду, глядзеў на неба і меркаваў: ці вялікая хмара, і здаволена гаварыў сваёй бабе:

— Дзякуй богу за гэты дождждык, каб хаця ён такі прайшоў ды, паложым, да вечара... Паверыш, ажыло-б усё, загаманіла, яй-права!..

— А дзе-ж ён дзенецца?!.—упэўнена адказвала тая,—калі ўжо пайшоў, дык і пройдзе!.. Дзякаваць божачку міламу, што хаця на агародніну ўгодзіць добра...

— К чорту з вашымі божачкамі ды дажджамі!.. От сапсавала нам гэткае зборышча і рабі, што хочаш!..—хоць ня выказваўся, але думаў так у час бацькаўскай гаворкі яго сын, якому гэтак карцела вырвацца і пабегчы ў Канюхоў бераг...

Так, прынамсі, было ў кожнай хаце.

Сумавалі ў гэты дзень усе дзеці, седзячы каля вокан і сумнымі вачыма пазіраючы на сьлёзы стрэх хляўчаных, якія лілі на двары і дарогу цэлыя брудна-жоўтыя лужы. Ня ведаў ніхто з дзяцей, што Андрэй у настаўніка гэтым часам вырашае вялікае жыцьцёвае пытаньне, шырокае і глыбокае, як думка чалавека...

## V

К паўдню вецер разагнаў дажджліва-сівыя хмары, растрыбушыў іх, парваў і адсунуў на край неба. Сонца, аблітае цёплым дажджом, весела глянула з-за груд чорных воблакаў, закруцілася калясом і лінула цэлымі патокамі сьлепячага бляску.

І раней не сядзелася дзецям у хаце пад вокнамі. Не хацелася слухаць нудную песьню буйнага, як гарох, дажджу, а як убачылі, што гэтак весела зрабілася на дварэ,—высыпалі ўсе на вуліцу, зажмурыліся ад яскравага сьвету, зморшчыліся ад цёплай вады, якая неслася па вуліцы ручаінамі ды хлюпала з стрэх у капяжы і слаўна мыла ногі дзецям... Спачатку нясьмела ступалі па вадзе, ахкалі, калі яна падыходзіла вышэй к лытцы, а пасьля і зусім асвойталіся, і, падкасаўшы портачкі за каленкі ды падабраўшы спаднічкі, як у балерын тэатральных, панесьліся адзін за другім чарадой уздоўж вуліцы з гамам, з звонкім чыстым сьмехам... Бабы, падаткнуўшы ззаду аднэй рукой спадніцы і выставіўшы на сонца здаровыя і чырвоныя, як гладышы, лыткі, лезьлі з асьцярогай, высока падымаючы ногі, каб не памачыцца адразу,—у вагарод аглядаць сваё поліва... А высока і густа паросшая трава з лапушыстай крапіваю на ўзьмежках ці каля плоту мачыла іх ногі, абсыпала буйнай расою іх лыткі, і тады захліпалася баба ад халоднай вады, парасіўшай яе цёпла-крамянае цела.

А за імі з хат лезьлі і мужчыны. Вышаўшага на двор вецер з радасьцю сьцёбаў прыемным халадком у твар, а той, хто яшчэ „закархнуў“ гэтым дажджом у полазе, каб мухі так не мяшалі і ня кусалі,—цяпер выпаўзшы пад сонца,—плюхаўся босымі нагамі па гразі на дварэ ды, пацягнуўшыся, аж усе суставы трэснуць, скроб з нейкім смакам у сваёй жорсткай барадзе каротка адросшых валасоў, высока задраўшы галаву, а потым пальцы пераходзілі на скіўіцы і самі сабой лезьлі ў патыліцу, а там, пусьціўшы іх гуляць з усёй сілай, пазіраў уніз і нібы думаў нешта ды так, нічога не надумаўшыся, зноў ішоў у хату...

Гарэзавалі дзеці па вуліцы, поўнілі яе галасамі маладымі, гулказвонкімі... А потым усе, як-бы па камандзе, рынуліся к школе: адтуль вышаў Андрэй з кнігамі. Ён ішоў пасярод вуліцы, далёка пырскаючы ад сябе рэдкай гразьзю і вадой, з радасна-здаволенай, шырокай, ува ўвесь твар, ухмылкай...

Як плюнуць, абступілі яго нястройнай кучаю дзеці, пытаньнямі закідалі.

— Ну, як настаўнік, згадзіўся?!.

— Што ён казаў табе?

— Гэта кніг даў нам?..

Андрэй стаяў, ухмыляўся і маўчаў. Маўчаў, мусіць, дзеля таго, што ня мог адным адказам здаволіць усе запытаньні сваіх таварышоў, ці моʻ маўчаў дзеля таго, каб падняць гэтым свой аўторытэт начальніка...

„Вось ні з таго, ні з сяго я і старшым зрабіўся, маю нейкае слова, ды і настаўнік рад быў вельмі, гаварыў са мной, пасадзіўшы мяне на крэсла, чаю даваў... Як з роўніцаю вёў гутарку...“ прабегла шпарка ў галаве Андрэя, і ён, зноў усьміхнуўшыся ды абцёршы свой нос рукавом кашулі, маўчаў...

— Чаго ты маўчыш, зараза ты, каб цябе агонь сьпёк!?.—тонка-піскалівым голасам крыкнуў на Андрэя карапуз Васіль,—гонару набраўся ці якое ліха?!

— Набраўся, а табе што?..—агрызнуўся Андрэй і, забыўшыся аб сваім абавязку, ужо хацеў пашыбаць ад чарады, але потым, успомніўшы аб гэтым, стаў, абвёў усіх вачыма шэрымі з ружовай каёмкай у зрэнках, абцёр трохі замурзаны, увесь загарэлы ў полі твар і нос і весела кінуў:

— Хлопцы!.. Значыць, наша дзела выйграла, зробім організацыю мы, нібы як піянэры, вот!.. Настаўнік дапаможа нам... Тут на вуліцы няма чаго рассасульваць, бо ўсяго не перакажаш, а пойдзем зараз усе ў школу к настаўкіку, бо ў гай цяпер няма як ісьці—бач як наліло!?

— Ладна!.. Ідзём!..

Ї ўся рознакалёрная, заўсёды вясёлая, а цяпер і зусім разышоўшаяся грамада дзяцей паваліла за Андрэем у школу. Андрэй, як гусак, высока задраўшы галаву, паперадзе ішоў і расказваў усім дзецям, як яго прыняў настаўнік, што гаварыў і што можа быць з гэтага ўсяго...

— Казаў мне ён,—размахваючы рукамі, ужо гарачыўся Андрэй,—што з гэтага можа быць добрае дзела, каб толькі, значыцца, дзяржаліся ўсе разам, адзін за аднаго... У комсамольцы можна скора перайсьці...

Їншыя з дзяцей забягалі к Андрэю наперад, пад ногі і гэтак подбегам сьпяшаліся, ды, зазіраючы яму ў рот і ў вочы,—слухалі яго, самі разявіўшы раты. Ужо падыходзілі к ганку, як маленькі Пятручок, дробненька перасыпаючы ножкамі, бягучы паперадзе ўсіх і зазіраючы ў вочы Андрэю, не ўсьцярогся нейкай рагаціны, што ляжала на дарозе, і, заблытаўшыся ў яе нагамі, бразнуў пузам у гразь...

Рогатам захліпнулася грамада, як убачыла, што Петрык парсючком укачаўся, ён і сам быў сабраўся скрывіцца на плач, але, мусіць, адумаўся, што гэтае тхімканьне будзе сягоньня „ні к сялу, ні к гораду“, змоўк і скрозь сьлёзы, ухмыльнуўшыся сваім бяззубым ротам, ізноў уцёрся ў грамаду і ўкаціўся ў школу.

Шырока абнялі дзяцей гулка-звонкія пустыя сьцены школы, і няпрыветна глянулі на іх карты ды портрэты: Ігнатоўскага, Я. Купалы, М. Чарота... Спалохаліся яны спачатку, з панталыку зьбіліся...

Разам абарваўся шум і разухабістасьць, недарэчная ціш насунулася...

Андрэй тут зноў, як у хаце сваёй, арудуе.

— Пакуль што тут пабудзем гэты дзень, пакуль трава ад дажджу абсохне, настаўнік нам нешта маецца расказаць, а заўтра ў гай шмарга-

нём...—і, цмокнуўшы языком, як ад салодкага чаю, ды падміргнуўшы адным вокам, дабавіў:—програму выконваць!..

Зноў весела ўсім зрабілася, памалу разышліся, і пчаліным роем школа здалася.

Нагнулася гольлем рабіна ў шыбы, што за вакном стаіць, і з цікавасьцю зазірае туды, як-бы хочучы даведацца, чаго ў такую пару вясельле тут дзіцячае?! Ніколі-ж гэтага ня было!..

Настаўнік малады, гадоў пад дваццаць тры хлапец, чарнамазы, вочы калясом, гладка выбрыты, у аднэй рубашцы пад падцяжкі, у сандалях, сам з „савецкай выпечкі“, зараз увайшоў у школу з радаснай і мілай усьмешкай. Ён ужо засумаваў па дзецях, як кінулі яны хадзіць у школу, і цяпер быў нямаведама як рад іх прыходу.

— Здарова, хлопцы!..—весела кінуў настаўнік і ўсьміхнуўся.

— Дзень добры!.. Здрастуйце!..—на розныя лады і галасы адазваліся дзеці хорам і змоўклі ні то ад павагі к яму, ні то з боязьні. Ня гледзячы на тое, што настаўнік усе апошнія гады меў самае лепшае абхаджэньне з дзецьмі, аднак, настолькі закаранілася ў душы дзяцей боязьнь, што і цяпер, міжвольна баяліся яго, як настаўніка. Гэта-ж да настаўніка была тут настаўніца некалькі год „з быўшых“ і дала сябе так ведаць, што знак гэтай навукі застаўся хоць і ў маленькіх дробачках, але і па сёнешні дзень.

Мо' і надалей маўчалі-б дзеці, каб настаўнік усё з тэй-жа ўсьмешкай добрай, ветліва-ласкавай не зьвярнуўся да іх:

— Дзякуй, што сабраліся сюды, даўно гэтак трэба было, а ня бегаць па вуліцах ды сабак біць!.. Разумна будзем праводзіць час і для вас будзе лепш, і гэтак сама для бацькоў вашых, і менш будзе вось такіх нешчасьлівых выпадкаў з вамі, якія мелі месца ўжо з Вінкам ды Міхасём...

Шмат гаварыў настаўнік аб тым, што яны ўсе разам зробяць толькі адно дабро, усім будзе ладна, і ўсе пазайздросьцяць ім... А гэтым часам дзеці пад ласкаю слоў настаўніка адкінулі ўсякую афіцыяльнасьць і фамільярнасьць і зноў загулі радасьцю буйнай. Меншыя з іх наверх парт паўзлазілі, нагамі чорна-запэцканымі барабаняць ціха па дошках, большыя аж на стол нахінуліся..

А к вечару, пасьля заняткаў фізкультурай, ужо і харавыя песьні грымелі з расчыненых вакон школы. Аднавіўся хор, і гэтак удала было!.. На разыходзе ўсе дакляравалі сабрацца заўтра зноў у школу і адтуль пойдуць у гай экскурсіяй...

— Хлопцы!.. Глядзеце, каб да заўтрашняе раніцы ўсе былі чыста вымыты, пачынаючы з галавы да ног, каб ногі вашы ня былі такія, што хоць рэпу на іх сей, і захапеце з сабой па кавалку хлеба з салам падкрапіцца пасьля гульні...—гаварыў усім настаўнік.

— Добра!.. Добра!.. Зробім!.. Возьмем!..—загалдзелі ўсе, ня даўшы кончыць яму, і пасыпаліся з школы, бо ўжо амаль усім вельмі хацелася есьці...

Па вуліцы гаспадары ехалі з поля, бразгаючы жалезам у плузе ды бараной, і з цікавасьцю шырока-адчыненымі вачыма глядзелі на дзіва—дзеці летам самі пайшлі ў школу.

Ужо зьмяркалася зусім, а каля хат, на прызбах яшчэ доўга чуваць быў дзіцячы сьмех і няроўна-абарваныя галасы песьні, якія, падхопленыя вячэрнім ветрам, пералятаді цераз стрэхі і губляліся ў сьвежа-зялёнай руні жыта...

## VI

Назаўтра яшчэ сонца з-за бярэзьніку буйна-кудлатага не пасьпела паказаць свой твар залаты, яшчэ соладка спаў настаўнік у сваёй кватэры, суседняй з школьным пакоем, і сьніў прыемныя сны праведзеных учора часоў з дзецьмі, а ўжо школьная старажыха Алеся, маленькая, старая, згорбленая гадамі і жыцьцём кабеціна, адчыніла дзьверы ў школу... Абнялі і сьціснулі сьцены гэтыя радасна-вясёлыя галасы дзіцячыя, ажыла зноў школа, з раней пахмурнай, няпрыветнай аднавілася новым жыцьцём—гасьцінна запрашала к сабе, шырока адчыняючы дзьверы ўсім дзецям, ветліва ўсьміхалася вокнамі ў чырвані сонца. Нешта, мусіць, добрае такое сьніў настаўнік, бо ўвесь час усьміхаўся здаволенай ціхай усьмешкай, прабаваў сказаць штосьці ў сьне, але ўсё не ўдавалася яму, і ад гэтага трохі моршчыўся ён, але раптам ускочыўшы ў яго пакой дзіцячы гармідар прабудзіў яго, і ён яшчэ пад уражаньнем гэтага сну ўсьміхаўся...

— Дзеці ўжо тут!.. Вось малайцы!..—і ўжо зусім весела стала настаўніку, і ён, адкінуўшы з сябе пасьцілку, лежачы яшчэ на ложку, пазяхнуў і пацягнуўся ўсімі суставамі свайго цела так, як гэта дазваляла яму сіла і даўжыня ложка.

І Андрэй прышоў, але ня прышоў—ён ускочыў у школу з песьняй, з звонкім сьмехам, з тымі-ж кнігамі пад пахай, якія ўчора даў яму настаўнік. На яго ўжо сягоньня чыста вымытым твары ня было відаць ані крошачкі смутку; здаецца, Андрэй такім і радзіўся, такім пяройдзе ўсю дарогу жыцьця свайго, гэтакім-жа і памрэ... Глядзелі на яго дзеці—таварышы—і захапляліся яго вясельлем, а ніхто з іх ня ведаў таго, што Андрэй учора вечарам лёг спаць аб аднэй скарыначцы сухога хлеба і сягоньня ў яго, апрача вады, нічога ў роце ня было...

Андрэй жыў на хутары ў старога, беднага, без гаспадаркі дзедабабыля. А дзед жыў тым, што кошыкі плёў, бёрды бабам рабіў. Узяў да сябе сірату Андрэя зусім маленькім хлопчыкам, калі той застаўся адзін пасьля таго, як зьмерлі ў адзін тыдзень з гарачкі яго бацькі. Шкода стала старому хлопчыка, вось ён яго і ўзяў да сябе, давольнасьці ў ядзе і адзежы цэлае жыцьцё сваё яму ня было, дый патрабаваць яе нельга

было і не ад каго—старац старца не ўзбагаціць!.. Але жыў-гадаваўся Андрэй у дзеда і заўсёды дзякаваў яго...

Хоць галодны быў Андрэй, але затое вясёлы, і ўсё жыцьцё для яго было такое слаўнае, мілае.

— Хлопцы, колькі тут нас чалавек?—падымаючыся на пальчыкі, абводзіў паверх галоў усю грамаду Андрэй і пачаў лічыць...—Ого-го!.. арміі нашай сягоньня ўжо прыбавілася: маем сорак трох чалавек, з якіх—восем жанчын!.. Ладна!..

І, падумаўшы трохі, ён зноў кінуў, гуляючы вачыма:

— Яшчэ трохі рана і мусіць наш настаўнік сьпіць, а без яго мы нічога такога ня зробім!.. Пойдзем зараз на двор і там пагуляем хоць-бы у палачку-стукалачку!.. Га?..

— Пойдзем у палачку-стукалачку!..

— Згодны!..

Рванулі за дзьверы, і раптам двор напоўніўся нячуваным для яго гоманам і вясёласьцю...

Настаўнік, адзеўшыся і памыўшыўся, сядзеў ужо каля стала і піў гарбату з бутэрбродам, лашчыўся к багатым праменьням ранешняга сонца, якія снапамі цэлымі ўліваліся ў пакой, і любаваўса гэтым часам дзяцінымі гульнямі, захапляючымі і яго радасьцю, гарэзьлівасьцю іх...

Боўтаў ложачкай у шклянцы і думаў. А думкі лезьлі самі сабою, к успамінам усё варочаліся, падымалі заслону пражытых гадоў і паказвалі яму час дзяцінства яго...

Малы тады ён быў, зусім малы, як першы раз у школу пайшоў, нават і настаўнік не хацеў прымаць яго.

— Усё роўна нічога ня будзе!..—казаў той „гаспадзін вучыцель“, далікатна ўсьміхаўся бацьку яго, нібы хочучы гэтым сказаць:

— Яно то нічога з яго ня будзе, нічому тут добраму не навучыцца, але няхай сядзіць, месца ёсьць, дый ад цябе „пачценны“ перападзе мне за гэта лішняя пяцёрка, і пашана будзе другая!..

І нарэшце сказаў:

— Няхай застаецца, мо' што і выйдзе!

Дзіка сустрэлі будучага настаўніка сьцены школы, чэрствы, бязьмерназлосны (ды такі ён і быў) паказаўся яму высокі, белабрысы ў сініх дыягоналевых майтках, з моцнай на бойку рукой „вучыцель“. Ня ўзьлюбіў вучань свайго настаўніка і адвярнуўся ад яго; толькі ціхія, забітыя старэйшыя вучні любілі новага першагодніка, Уладзіка, тайком усьміхаліся яму, калі настаўнік быў у клясе і вясёлай чарадой абступалі яго на переменках ды хвалілі... А хвалілі вось за што: нягодны быў настаўнік і біў усіх за хоць-бы маленькі ўчынак, і ня любілі яго за гэта вучні, бо ўсім добра даводзілася, а больш усіх пападала дык гэта нашаму першагодніку: „без абеду“, пасьля вурокаў цэлы дзень на каленах за дошкай, „сталбом“ за партаю, выкручваньне вуха, „падзатыльнікі“... Усё гэта

даводзілася малому Ўладзіку толькі за тое, што ня здолеў сам настаўнік даць адпаведныя рамкі і працу для нязвычайна мяккай, чулай і творчай душы, а гэтак сама і яго нявычарпанай здольнасьці... Па сваёй прыроднай грубасьці і выхаваньню ў жандарскай школе для настаўнікаў, гэты „гаспадзін вучыцель“ ня мог уразумець, што дзіця, не находзячы грунту для здавальненьня памянёных якасьцяй яго, вылівае ўсё гэта ў рознастайных шалах, выдумках, мо‘ нават і злых, нядобрых учынках...

Ідзе лекцыя. Чытаюць у старэйшай групе незразумела-дзікае і зусім няцікавае па зьместу эвангельле, перакладаюць з славянскае мовы на „рускую“. „Вучыцель“ гуляе па клясе, залажыўшы назад рукі, задзірае ўверх голаў і важна пытае:

— А переведи ты, братец мой, паки?..

Першазімнікі, дзе і Ўладзік, завучваюць назаўтрае заданы сёньня ад паўдня вурок па лемантару.

У гэты час Уладзік ад няма чаго рабіць падымаецца з краю лаўкі, дзе ён сядзеў, і, гэтак сама паважна і ціха ступаючы, ідзе за настаўнікам, задраўшы голаў і залажыўшы рукі за сьпіну. У той час, як трэба паварнуцца настаўніку, Уладзік скоранька і нячутна, як мыш, бяжыць і садзіцца на сваё месца, як быццам нічога і ня было.

Вучань, у якога пытае настаўнік „пакі“ стаіць і ня ведае, што рабіць: ці сьмяяцца разам з большасьцю вучняў з выхадкі Ўладзіка, ці адказваць. І ў гэтай самай раздвойнасьці забывае, што значыць гэтае праклятае слова „пакі“. Маўчыць ужо злосны настаўнік, і зноў ідзе ціха ў другі канец клясы, і зноў Уладзік падымаецца, зноў ідзе за ім, дражнячы яго кожны крок... Чмыхаюць вучні, стрымліваюць у далоні сьмех.

— Как будет слово паки?—зусім злосна ўжо пытае настаўнік.

Стаіць, як слуп, з эвангельлем у руках вучань, сьмех разьбірае, нічога не адказвае.

— Ты чего молчишь?..—рыкнуў настаўнік і, суняўшыся на палавіне сваёй дарогі, крутнуўся назад і зачапіўся рукамі сваімі за Ўладзіка. Здрыгануўшыся, той, як вокам маргнуць, быў ужо на месцы.

— Ты опять проказничать!?—з пенаю на вуснах падбег да яго „вучыцель“ і, хваціўшы за вуха, вывалак на сярэдзіну клясы і, размахнуўшыся другою рукою, даў Уладзіку такога падзатыльніка, што той аж лысінай даўся ў клясную дошку.

— За доску!.. На колени!.. Без обеда!.. Сволочь, мерзость такая!..

— Опяць! Опяць!—з радасьцю хваціўся вучань за ненарок выказанае настаўнікам слова.

— Что опять?!—ускінуўшы бельмамі на вучня, крыкнуў яму настаўнік.

— „Пакі“, опяць!.. опяць!..—барматаў ужо зьбіты з толку вучань.

— Ну, и ты иди за ним опять...—паказаў ён, ядавіта ўхмыляючыся, на дошку, за якой стаяў ужо на каленях Уладзік.

А Ўладзік гэтым часам, вымазаўшы ўвесь свой твар пылам з крэйды, якая ляжала каля дошкі-ж, ткнуў свой твар з-пад дошкі на клясу вучням...

Грымнула кляса рогатам доўгім, нясьціхаючым, ня гледзячы на тое, што тут-жа быў і „гаспадзін вучыцель“. Той аж зьбялеў ад злосьці.

— Чего вы?.. Чего вы, скотовьё?!

— Уладзік!..—нехта выцадзіў.

Ткнуўся вучыцель за дошку і адхіснуўся, а потым, стрымліваючы сьмех і злосьць, рвануўся да яго за дошку і што там ён рабіў—вядома толькі Ўладзіку ды суседу па няшчасьцю. Нічога пасьля гэтага Ўладзік не гаварыў нікому, толькі сусед яго, як вышаў на „вольны сьвет“, дзівіўся доўга з бойкі.

— Як толькі ён, Уладзік, мог вытрымаць?..

У той-жа дзень, як „вучыцель“ пусьціў дзяцей на полудзень, Уладзік, выскачыўшы на хвілінку з-за дошкі, ухапіў крэсла, на якім сядзеў заўсёды настаўнік, густа выквацаў яго крэйдай і падсунуў сядзеньнем пад стол...

Прышоў „вучыцель“ увесь чырвоны ад выхлебанай міскі гарачых буракоў і, цяжка аддуваючы мокрыя белыя вусы, выцягнуў крэсла і, ня гледзячы на яго, сеў... Некаторыя нецярплівыя пырснулі, іншыя палезьлі пад лаўкі, як-бы чаго шукаючы, і там заліліся рогатам... Але гэты ўчынак, сьмех, падпаў пад добры настрой „вучыцеля“ і зышло з рук усім добра.

Вось тады нават яшчэ ў кволай душы Ўладзіка радзілася нешта такое, што пачало горача спрачацца з такім дурным укладам школьнага жыцьця, пачало пярэчыць яму, і тады-ж вылілася гэтае востра-цьвёрдай думкай—„Так немагчыма надалей, і каб я быў настаўнікам, ніколі-б гэтага ня было!“

Падняў галаву ад шклянкі Ўладзік, цяпер ужо сам настаўнік, і ачнуўся ад сваіх думак-успамін і, гледзячы цераз вакно на двор, дзе так весела бегалі і сьмяяліся дзеці, яму самому весела зрабілася, і другая думка зьявілася ў яго:

— От бегаюць, гуляюць дзеці, колькі ім хочацца, робяць, што ім жадаецца, абы карыснае гэтае было. Ня так, як у мае школьныя гады!.. Эх, як добра цяпер!.. З вялікай прыемнасьцю я зноў-бы пачаў жыць нанова з гэтых школьных гадоў, хоць і ў цяперашніх гадох маіх мне добра і я поўнасьцю здаволены жыцьцём!..

І пачаў завіхацца ён піць, каб хутчэй заняцца з дзецьмі. А пакуль ён пасьнедаў, дык дзеці зноў у школу сабраліся і пачалі выдумваць іншыя гульні, каб правесьці весялей час. Толькі нешта Андрэй быў маўклівым, усё паглядаў на дзьверы, адкуль павінен выйсьці настаўнік, і неспакойна чакаў.

— Дзень добры!.. Добры дзень, таварыш настаўнік!—нястройным хорам на розныя лады і тоны закідалі настаўніка дзеці...

— Дзень добры, хлопцы!..—весела паздароўкаўся з усімі настаўнік і, усьміхнуўшыся, ды, трэплючы па плячы Андрэя, сказаў:—„Ну, што-ж, хлопцы, пачнем з сягонешняга дня займацца як сьлед... У гай пяройдзем і там збудуем сваё царства...

Сьмяяліся радасна дзеці і ужо нічога не чакаўшы і ня слухаючы, рваліся з школы ў гай, пад сонца.

Набралі кніжак розных, скрыначак, сетачак і ўсе выплылі на дарогу ў гай. Дарога мякка-пыльная, у рамках нахіленых на яе калосьсяў жыта, і далёкая, здавалася дзецям вясёлай і радаснай. З падскокам беглі па ёй дзеці, таўкліся кучай, пхаліся і гучна сьмяяліся. Сьмех гэты расплываўся над здаўленымі вільгацьцю раніцы загонамі, дробна цярушыўся цераз высокія межы і далятаў да бліжэйшых хутароў... Тады выскаквалі адтуль дзеці і з цікавасьцю, прыставіўшы далонь к вачам, пазіралі на нябывалае зьявішча, а пасьля, пачакаўшы, і самі беглі ў гэту чараду пераскакваючы межы і росячыся ў жыце аж да пояса...

Адзін Андрэй, як сталы мужчына, важна, шырока расстаўляючы ногі, ішоў побач з настаўнікам і аб тым-сім зачынаў гаворку.

— Ну, чым вы там жывіцеся з сваім старым?..—пытаў настаўнік у яго.

— От, тым ды сім!..—усьміхнуўся Андрэй,—дзед цяпер на граблі і на бандарку больш налягае, ну, а я падзарабляю трохі ў гаспадароў, так і жывём!.. Але жыць нічога, добра...

Настаўнік, пачуўшы гэтае слова,—„жыць нічога, добра", ад такога пролетарыяту, як Андрэй, і ня верачы ў гэта, як быццам ён сказаў так сабе, толькі дзеля таго, каб што-небудзь сказаць, ён зноў з цікавасьцю запытаў:

— Дык, кажаш, жыць табе добра?

Андрэй глянуў сваімі іскрыстымі вачыма на настаўніка і, яшчэ вясялей усьміхнуўшыся ды махнуўшы рукою некуды ў бок, з радасьцю зноў кінуў:

— Уга-а... Яшчэ і як добра!.. Хлеб бывае на стале, рукі здаровы... Добра, значыць, з дзедам!.. Вось толькі сягоньня трохі галаднаваты, раніцою нічога ня еў... Але дармо!..

І, адсунуўшы сваю лахматую шапку на патыліцу, Андрэй далоньню змахнуў пот з лысіны і абцёр яе аб свае зрэбныя, афарбаваныя пад сіні колер, „галіфэ" і, прышчурыўшыся, пачаў пільна ўглядацца ў бок з дарогі...

Глядзеў настаўнік на гэтага горам прыбітага хлапчука і спачатку дзіўна яму рабілася: як гэта яму жыць дармо, у той час, калі ня еў нічога сягоньня?.. Усякія думкі перабіраў у галаве сваёй настаўнік і напасьля прышоў да аднэй больш, здавалася яму, пэўнай:

— От з самага маленства ўзгадаваўся ў пялёнках беднасьці і, як помніць сябе пачаў,—ня ведаў аніякай раскошы і распусты... Жыў

у працы, у ёй толькі знайшоў асалоду жыцьця свайго, бо з яе гадаваўся.. А цяпер яшчэ лепш уразумеў пражытымі гадамі, што шчасьце і радасьць у аднэй толькі працы!..

Ад гэтых думак весела рабілася настаўніку, усьміхаўся ён, а Андрэй, шмаргануўшы носам, сказаў:

— Вось тут, мусіць, у гэтым гаёчку мы, здаецца, і асталюемся... Іншага месца такога падхадзячага тут паблізу і няма... Эх, каб вы ведалі, таварыш настаўнік, якое тут слаўнае месца!..—сказаў Андрэй, зазіраючы ў вочы настаўніку, і шчоўкнуў пальцамі ў тахт сваіх слоў. І раптам з вясёлага настрою перайшоў Андрэй да ўдумна-спачуваючага, паглядзеў на кучу хлапцоў, што ўжо зьвярнулі з дарогі і пайшлі па сьцежцы, густа абросшай вялікай травой, сярод буйнага жыта. Настаўнік адразу заўважыў гэту перамену на твары Андрэя, хацеў папытаць, ад чаго гэта, але змоўк і сам угледзеўся ў каламутную чараду. Парушыў маўчанку Андрэй. Ён ціхім, з жаласьцю голасам кінуў зноў, махнуўшы рукою ў бок чарады...

— От бачыце, як чалавека прыбіла няшчасьце!.. Занудзіўся вельмі, а не вінаваты ён нічога ў гэтым, само неяк, чорт яго ведае, зрабілася... Плача часта, калі адзін дзе астанецца, вось у полі каля кароў ці дома дзе...

— Хто такі?..

— А, ведаеце, Міколка, што зусім не наўмысьля Вінку забіў!.. Пакутуе ён вельмі, шкада яго... Вы-б, таварыш настаўнік, бліжэй заусёды к яму, мо' лягчэй-бы было яму!..

Угледзеўся настаўнік у чараду і адразу запрыкмеціў, як бачком і ззаду ўсіх памалу плёўся Міколка ў той-жа сваёй аблавухай шапцы, сьвітачцы старэнькай, дзюравых майтачках... Усадзіўшы рукі ў прадраныя кішэні сьвіткі, ён ішоў, нізка апусьціўшы галаву, і маўчаў. Відаць, не займала яго аніколькі: ні гульня, ні хараство прыроды... Думкі нейкія надакучлівыя клінам убіліся ў яго галаву, і шчапалася яна ад іх.

Настаўніку шкода стала гэтага беднага хлапца і захацелася аблашчыць яго, заспакоіць яго раненую душу добрым словам, спагадаю; аднача сна зьдзівіўся ён і з чуласьці Андрэя і гэтым разам мігнулася ў яго ні то думка, ні то пачуцьцё:

— Аднак, якія кволыя душы ў нашых дзяцей!.. З іх усё можна зрабіць—толькі трэба выхаваньне даць, каб не калечыла яго гэтую душу, не рабіла яе каменнай, бясчулай і жорсткай. Новае трэба даць ёй, сучаснае... І ня дзіва, што цяпер такую вялікую ўвагу аддаюць выхаваньню дзіцяці...

Падазвалі к сабе Міколку. І як толькі гамонка дайшла пра сьмерць Вінкі—Міколка разьліўся ручаінай сьлёз... А калі супакоіўся трохі, пачаў расказваць настаўніку аб тых пакутах, якія даводзіцца яму цяпер пераносіць у зьвязку з забойствам Вінкі...

— У ваччу ўсё стаіць, як дзень, так і ноч, проста, як жывы ён... і баюся-ж я цяпер яго!.. І шкода яго, што аж ня вытрымаю, вазьму дый заплачу!..—і, памаўчаўшы ды падумаўшы, выціснуў ціха, як скрозь зубы:

— Хоць-бы я памёр разам з ім, а то вуліцай баюся прайсьці...

І, уцягнуўшы сваю галаву ў худыя плечы, ішоў ужо ціха Міколка і больш нічога не гаварыў...

А ў настаўніка пасьля гэтай гутаркі глыбока недзе ў душы радзілася і потым вырасла сама сабою аж у канечную патрэбнасьць думка:

— Усімі сіламі трэба дапамагчы Міколку моральна, а Андрэю—матэрыяльна!.. Усім дзецям дапамагчы трэба, а так прападуць хлопцы!..

## VII

Захліпнуўся малады гай галасамі вясёлымі дзіцячымі, расьсьмяшыўся сьмехам іх, высока падкінуў сябе вясельлем разудалым, аж сонца спудзілася і з цікавасьцю вясновага тэмпэрамэнту абняло гэты гай і дзяцей і пачало цалаваць усё так шчыра, што аж алешнік мокры заплакаў расой радасьці, а бярозы ды кляны схамянуліся ад сну ранешняга і матнулі, зьдзівіліся галовамі сваімі кучаравымі...

Клубком качаліся дзеці па траве яшчэ роснай, больш пры́ткія—на дрэва ўзьлезьці пробуюць, бегаюць бяз прычыны і патрэбы; аніяк ня могуць сьціхаміріцца. Жыцьцёвая энэргія і радасьць існаваньня прасілі заўсягдашняга руху і творчасьці...

Тыя, хто ўзімку хадзіў у школу, пачалі лавіць сетачкамі матылёў і іншых казюлек ды зьбіраць іх у маленькія скрыначкі. І тут было радасьці шмат.

— Таварыш настаўнік, дзеля чаго гэта зьбіраць матылёў?..—пацікавіўся адзін з хлапчукоў.

— Музэй будзе свой, значыцца, школьны!.. Узімку як знойдзена акажацца!..—адказаў за настаўніка адзін з старэйшых вучняў і азірнуўся на настаўніка, як-бы завучы яго гэтым у сьведкі. Настаўнік паглядзеў на зацікаўленага і на вучня з старэйшай групы і, кіўнуўшы галавою ў знак справядлівасьці выказанага, усьміхнуўся...

Хадзіў ён з усімі дзецьмі па лузе і, выцягваючы з зямлі з карэньнем якую-небудзь расьліну, растлумачваў дзецям, як яна завецца, якую дае карысьць, як завецца яна мясцовай назвай...

— Дык гэта, таварыш настаўнік, і лякарства, значыцца, з расьлін робіцца?.. Вось што!?—запыталі адразу яго некалькі вучняў, як даведаліся, што некаторыя засушаныя травы купляе аптэка на лякарствы.

І, сеўшы аддыхаць пад аднэй разложыстай ліпай на густой высокай траве, Андрэй, паляжаўшы трохі дагары і пазіраючы ўверх няморгаючымі вачыма на карава-абросшыя сукі яе, раптам сеў і, захоплены важнай думкай, нясьмела выкінуў:

— А ведаеце што, таварыш настаўнік?! Вы казалі, што за лекавыя травы плацяць грошы, нават і не маленькія... А што, каб гэта мы ўзяліся тут за гэту справу... Нас шмат... На школу... паперу было-б, і так можна на што капейку загнаць...

— А што ты думаеш?!—ухапіўся за гэту думку хлапец Ляксандар з старэйшай групы ў школе, і пры гэтым падняў свае белыя бровы на малы лоб у рудых вяснушках і зірнуў блакітнымі вачыма на настаўніка.

— Давайце будзем зьбіраць!..

— Проста ўсе чарадою, і сушыць!..

— Вось гэтак і мая баба ходзіць у лес за травой гэтай... Сушыць і сама лечыць... Усякія хваробы, як рукою...

— К чорту з бабай!.. Таварыш настаўнік, давайце, будзем... Раскажэце як...

Аж паўставалі дзеці з сваіх месц, закоўзаліся; вельмі-ж ім спадабалася думка тая, што вось будуць зьбіраць розныя травы, сушыць, а потым прададуць яе і грошы будуць мець вялікія...

— От я тады і майткі сабе набяру ў коопэратыве, а то як у сьвята, так і ў будзень ня скідаю сваіх зрэбных!..—узрадаваўся адзін з вучняў, гадоў дзевяць хлапец.

— Дурань!..—адчыкрыжыў яму Ляксандар і зноў павярнуўся тварам да настаўніка.

Настаўнік, радасны тым, што самі дзеці навялі яго на такую добрую думку, пачаў расказваць ім, якія трэба зьбіраць травы, дзе і як іх сушыць ды хаваць, каб не папсаваліся. Пры гэтым паказваў, якія меў пад рукамі, і растлумачваў.

Мусіць занятна было, што ўсе слухалі моўчкі. Нават зусім малыя, калі і ня слухалі, дык ціханька калупаліся ў траве і нешта лавілі на красках...

Зірнуў настаўнік на слухачоў і ўсьмешка здаволенасьці прабегла па яго твары, бо вочы ўсіх ляжалі на ім, відаць, што ні воднага слова не хацелі прапусьціць дзеці, так цікава было ім...

Сонца выкацілася на сярэдзіну неба. Падышоў час полудня.

Не хацелася дзецям есьці, хоць ужо і галодныя добра былі, хацелася ім ужо ісьці і зьбіраць расьліны. А потым селі ўсе ў засень і сталі даставаць з кішэні: сала, хлеб, яйкі... Нехта з чарады кінуў:

— Агонь давайце, хлопцы, навалім!..

— Давай!..—і рынуліся некалькі хлопцаў зьбіраць гальлё сухое, ламаць сучча... Не прайшло і некалькі хвілін, як задыміў корч чорны смаляны пад елкаю, заскакаў жоўта-сьветлы палахлівы агоньчык—і адразу зрабілася неяк весела і прытульна. Засквірчэла сала на ражэньчыках, расплыліся твары дзяцей у прыемныя, сытыя ўсьмешкі, зноў ажыў гай, заліўся рогатам і гамам.

Глядзеў настаўнік з боку на гэты малюнак і ў яго радасна рабілася на душы, бо ўспаміны зноў устрывожылі ўжо даўно заснуўшае... Яшчэ ў горад ня ехаў ён вучыцца, вадзіў з сваімі хлопцамі-суседзьмі на начлег, за гэты самы гай, на паплавы і гэтак сама раньняй восеньню ці вясной пёк сала і еў яго з такім смакам, як ні адну з самых лепшых страў, і спаў пад цёплым кажухом на сырой купіне... Слаўна тады было, нават і цяпер весела рабілася яму ад гэтых думак.

Седзячы, прыхінуўшыся плячмі да бярозы, думаў так настаўнік і аглядаў усю чараду такіх вясёлых дзяцей. Потым нешта заскакалі яго вочы па ўсіх дзецях і, падняўшы вышэй галаву, ён не знайшоў сярод усёй чарады Андрэя і Міколу.

Сьмяяліся дзеці, апавядалі нешта адзін другому сьмешнае, і на іх адлучку ніхто не зьвярнуў увагі. Калі падняўся настаўнік і трохі адыйшоўся ад вогнішча, ён убачыў, як у дальнім канцы палянкі сядзелі яны, абое сагнуўшыся над нечым. Зацікаўлены настаўнік ціха падышоў да іх і пачуў, ды і ўбачыў, як Андрэй нешта гаварыў павольна ціхім голасам, а Міколка, падпёршы галаву абедзьвюма рукамі, слухаў і ў тахт гаворкі калыхаўся верхнім корпусам свайго цела.

Як убачыў Андрэй настаўніка, крыху пачырванеў і змоўк. А потым у блытаных словах расказаў яму, што вось увесь час разважае ён Міколку...

— Ды сяджу тут, прызнацца, таму, каб ня быць цяпер разам з усімі...—сказаў, ня гледзячы на настаўніка, Андрэй, і відаць, як тупым болем скамячыўся яго твар.

— Чаму?..—зьдзівіўся настаўнік і пільней пачаў прыглядацца да яго.

— Яны ядуць... А ў мяне няма нічога... Я перацярплю, але не магу глядзець, як хто есьць, а я галодны...—ціха, пад цяжарам нейкага сораму, выціснуў Андрэй і ўтаропіўся ў траву.

Нічога ня кажучы, настаўнік павярнуўся і пайшоў к чарадзе палуднуючых. Яны ўжо елі, мурзаліся ў тлустасьць і, жмурачы ад здавальненьня вочы, нешта бурбалілі самі з сабою...

— Хлопцы, калі рабіць добрае дзела, дык трэба рабіць яго для ўсіх і да канца!..—пачаў настаўнік, сеўшы пасярод чарады, і ў простых словах абмаляваў вялікую беднасьць Андрэя і, гэтым часам, датыркнуўся і душэўных пакут Міколкі. Доўга ня прышлося гаварыць яму, як заразжа самі дзеці здагадаліся, куды хіліць настаўнік.

— Дапаможам!.. Дык што-ж, відана дзела!.. Па кусочку маленькім адрэжам ад кожнае скваркі сала і хлеба, досыць будзе яму!..

— Пачалавецку з Міколкам будзем!..—запэўнілі галасы, і некалькі дзяцей кінуліся туды, дзе яшчэ сядзелі двое таварышоў. Пасьля кароткай гутаркі прышлі да вогнішча Андрэй з Міколкам і, як слова сказаць, ужо абодва сядзелі сярод усіх і елі печанае сала з хлебам. Пасьля полудня ўсе дзеці падзяліліся на некалькі кучак і пайшлі шукаць расьліны.

Песьнямі гай запяяў, ды пачаў весела адгукавацца на галасы гэтыя чыстыя і звонка-шырокія...

Лета ўдалося добрае: ішоў дождж, калі ён патрэбен быў, потым зьяўлялася сонечная пагода і стаяла да таго часу, пакуль зноў зямля ў засмагласьці не прасіла вады...

Налілося жыта і пачало ўжо жаўцець патроху з карэньня, гнуліся нізка каласы і дакляравалі даць добры ўраджай. А тут вёска бяз хлеба ды па новым хлебе затужылася, пайшлі з торбачкамі адзін к другому пазычаць муку „хаця-б на зацірку якую“, шчупалі мяшкі ў коопэратыве, пыталі на млыне—нідзе яго ня было, а калі і быў дзе, дык цана такая высокая паднялася, што не дакупіцца... Заработкаў няма, а рубля ня зробіш з зямлі!..

## VIII

Сёньня ўжо цэлую гадзіну дзеці вырашаюць вельмі важнае жыцьцёвае пытаньне, у вялікай задумнасьці, не па гадох іх думку крэпкую думаюць: як-бы дапамагчы сваім бацьком у гэту часовую галадоўку, калі стары запас хлеба вышаў і яшчэ не нажалі новага.

Ужо па маленькім кавалачку хлеба бяруць яны з сабою на экскурсіі, менш яго прыходзіцца і Андрэю, сала выходзіць у гаспадынь і ўзяць няма дзе, і купіць—грошай няма...

У канцы свайго лягеру-шалашоў, зробленых з сучча і лапак, сход сабраўся дзіцячы, грамада ў 78 чалавек стараецца знайсьці выйсьце з дрэннага становішча, пастаўленага жыцьцём...

— Каб нам самім дзе зарабіць—дык і заработкаў такіх няма, і так ніхто нам капейкі ня дасьць!..—гледзячы ў вочы настаўніку, нехаця гаворыць Васіль і палачкай маленькай сьцёбае па галоўках красак.

Маўчаць усе, толькі яшчэ горш насупіліся вось так, як часамі бывае мужыкі дзе ў сельсавеце вырашаюць гэтакае-ж важнае пытаньне: каму і колькі падатку трэба заплаціць.

Міколка падаўся з чарады наперад, абвёў усіх запаленымі вачыма ў рашучасьці выказацца, зірнуў на настаўніка, на Андрэя, які сядзеў на лавачцы перад чарадою, усьміхнуўся адным ротам, потым намерыўся,— так як птушка ляцець і, махнуўшы чамусьці рукою, падаўся назад і апусьціў вочы. Заўважыў гэта досыць загарэлы настаўнік і кіўнуў галавой у бок Міколкі:

— Ну, ну, Міколка, скажы ты, што думаеш?! Мо' і талковае што?!

Зноў вінавата ўсьміхнуўся Міколка, абцёр пальцамі вуглы роту, вылез зусім з чарады і, ня гледзячы ні на кога, падаў думку:

— Пэўна, што нам ніхто грошай так ня дасьць і нідзе іх не заробім... А вось папробуем так зрабіць, каб з нас хто, ну вось хоць-бы наш настаўнік і яшчэ хто, паехалі ў горад і прадалі ў аптэку ці куды там... усё зельле, саб...

— Не гавары!.. Не гавары!.. Ведаем!..

— Во!.. Во!..

— Правільна!.. І ніхто за нас не дагадаўся дагэтуль!—перабілі галасы Міколку, паўсхватваліся з зямлі ўсе, замітусіліся, радаснымі вачыма бліснулі... Зьмялі Міколку, назад адсадзілі. Яшчэ раз паказаўся Міколка ў чарадзе з вясёлым, здаволеным тварам і зноў зацёрся недзе...

У душы ён сьвяткаваў: ён быў шчасьлівым, што хоць аднэй парадай дапамог свайму колектыву, і гэта адчуваньне выкананага абавязку было для яго найвялікшай радасьцю... Разьбегліся дзеці па мастацка-выкраеных дарожках да сваіх шалашоў, кожны даставаў з сушыльні свой сабраны матэрыял і нёс ва ўмоўленае месца, каб, адабраўшы усё, што лепшае, і спакаваўшы, заўтра раніцой завезьці ў горад на продаж...

Да вечара працавалі дзеці з настаўнікам па адборцы расьлін і іх запакоўцы, і як кончылі ўжо якраз працу і селі каля аднаго ўмоўленага шалаша пад шырокай засеньню клёна,—настаўнік радасна ўсьміхнуўся і здаволена абнадзеіў:

— Ну, хлопцы, як прадамо гэты матэрыял, дык некаторых здаволім, хаця-б самых бяднейшых, і хлебам і салам... Ды яшчэ і справім кожнаму па рубашцы!.. Толькі трэба будзе з умовай, каб бацькі вашы, як нажнуць новага хлеба,—нам некаторую частку вярнулі, гэта-ж на школу пойдзе!..

— Ну, канечна, так і будзе!..

— Вернуць, абы цяпер мы іх падтрымалі!.. Ото будуць рады!..

Сьмяяліся дзеці, і сонца з блакіту неба сьмяялася, бо так слаўна сягоньня было.

## IX

У сьвята гэта было, у той час, як мужчыны, управіўшыся каля сваіх гаспадарак, вышлі, ад няма чаго рабіць, да коопэратыву і завязалі гамонку ўжо аб адным усё, але, як відаць, любым для іх і досыць важным... Любым таму, што сёньня яны ўжо не такія, як былі два тыдні назад: галодныя, адчайныя, ад неакрэсьленага тэрміну мець свой новы хлеб на стале, і важным,—што ніколі-ж гэтага ня было, каб дзеці яшчэ малыя, бяз жыцьцёвае практыкі, якіх трэба саміх карміць,—а яны цяпер здабылі хлеба сваім бацьком...

Па змаршчаках мужыцкіх твараў праблісьнуў нейкі ясны промень, падхоплены нутраной радасьцю і выкінуты ў натоўп цэлымі няскладнымі, блытанымі прамовамі.

— І хто-б гэта сказаў, каб нашыя дзеці, вазьмі ды выручы гэтак з бяды такой?!—ціха-вінаватым голасам гаварыў усім увесь аброслы чорнымі кудлата-маладымі валасамі мужык, адзеты ў шарачковыя порткі і белую, уквэцаную і засаленую на плячах ад поту і пылу, сарочку...—Хто гэта думаў, га?! І мой Лёксік нічога не казаў усё мне... От, машэньнік, сукін сын!..

— Малайцы хлопцы!..—падаў голас хударлявы, той самы, што раней лаяў і дзяцей, і настаўніка за гэту дзіцячую організацыю. Т-кі яшчэ праўду кажуць, што цёмныя мы... самі ня ведаем, што гаворым і за што лаем каго!..

Маўчала грамада, мо' затым, каб падабраць больш важкіх слоў, ці каб разабрацца з плоймай ахінуўшай іх мазгі думак.

Усьміхнуўся Капялевіч Іван, азірнуў грамаду і паківаў галавой, як-бы дзівячыся з каго ці дакараючы мужчын за ўчынак дзіцячы... Зьмецілі гэта мужчыны і апусьцілі галовы, прыгнутыя сорамам і нейкім адчуваньнем вінаватасьці перад чымсьці...

— Ну што, я не казаў вам, га?! Заўсёды ў нас так: не разьбярэцца каторы з дзелам і плявузгае чорт ведае што!.. Цяпер, я думаю, кожнаму з вас сорамна за гэтыя лаянкі, што вы пускалі на сваіх дзяцей і настаўніка!.. Эх, вы!..

І, не нэрвуючыся, Іван перад чарадою вяскоўцаў выказаў цэлую прамову, выкалупаўшы зноў напаверх сваю сялянскую беднасьць і цемнату і што трэба знаходзіць дарогу, каб як выйсьці з гэтага ненормальнага становішча, і што гэту дарогу-шлях знайшлі *самі* дзеці без дапамогі бацькоў, і загэтым дапамагаць ім шчыра трэба, а ня лаяць...

— Паглядзеце вы на сваіх дзяцей,—ужо ўваходзячы ў азарт, ня ўнімаўся Іван.—Цяпер ходзяць чыстыя, нейкія здаровыя... Раней ледзь кароста іх не заела, а цяпер вось самі вылечыліся... Ды яшчэ за чыстатой глядзяць у цябе каторага, каб у хаце, на двары, на вуліцы ня было пасьвінску, брудна... Каб ты так ня жыў, як жыў раней!.. Настаўніку тут, памойму, век дзякаваць трэба за гэткія выдумкі... Карысьць толькі тут адна, вось што!..

— Ды яно-то так!..

— Аптомтаж!..

— Самдзеле верна!...

Загулі мужчыны з чарады. А потым нехта падаў басам:

— Так то яно так, будзем усё хваліць сваіх дзяцей, але трэба і сказаць нам сягоньня, што хлеб гэты, якім мы вось прахарчуемся да новага, трэба вярнуць ім. На школу пойдзе, казалі... Гэта-ж, бедныя, дай ты, цэлую вясну так-то зьбіралі краскі гэтыя... Гэта-ж, каб ня іх праца, дык, чорт-бы, дзе, мы грошай раздабылі на хлеб?!

— Аддамо!.. Усё іхняе вернем, а то і праўда—школа наша захудала вельмі-ж... Самі сабе паможам!..

У гэты час да чарады мужчын ішло па дарозе пыльнай некалькі чалавек дзяцей з настаўнікам, які ішоў пасярод іх і ўсё нешта расказваў ды відаць сьмешнае, бо ўсе дзеці звонка-раскацiста рагаталі і поўнілі вуліцу вясельлем...

Пакінулі гаворку мужчыны і вачыма, поўнымі бацькаўскага замілаваньня, глядзелі на гэту чародку, пыхкаючы люлькамі ды недагаранымі цыгаркамі...

## X

Засмуглела неба пагодаю яснаю сонечнаю, надышлі дні „пятровачныя“, лугі залацістыя, водырам напоеныя, касы папрасілі... Пуні на гумнах і дзе раскіданыя яны на далёкіх сенажацях занудзіліся пустатой сваёю і час-ад-часу сумуюць, сьвішчуць жалобна-тонка цераз сьцены свае дзюравыя, хочацца сытымі, здаволенымі быць сваёй паўнатою, і загэтым шчасьлівымі, што вока гаспадарнага селяніна заўсёды спыніцца на ёй і падарыць усьмешкаю радаснаю...

Не адны лугі завуць да сябе,—завуць і загоны жоўтыя, хлебныя... Нізка кланяецца жыта на загонах цяжкімі сваімі галовамі ў ногі кожнаму і гэтак сама пакорна просіцца ў такі і асеці...

І не згадаць, за што тут узяцца, каб хутчэй убраць гэтае золата сялянскае, каб ня псулася, не рассыпалася яно дарэмна?!

А як дні стаялі ўвесь час пагодныя, чыстыя, як шкло, дык гаспадары ў першую чаргу ўхапіліся за сенакосы, адправіўшы гэтым часам сваіх гаспадынь у поле нажаць які воз жыта, каб хапіла, абмалаціўшы яго, сьцягнуць касьбу з апошнім жнівам.

Раніцамі ціхімі ды вечарамі роснымі цягнуў па траве шырокі і бледны дымок з сялянскае восеці—гэта жыта падсушвалася маладое, каб хутчэй можна было змалаціць яго цапамі і павезьці ў млын...

А пасьля раньняга сьнеданьня ўсе з вёскі высыпаюць, нібы вымерла яна, уцякла ад хваробы заразнай, страшнай і там, далёка на паплавох сырых ды на загонах, змагаецца з ёю; аж стогне на вялікую шырыню абшар, прыціснуты гэтым працоўным гулам і моцнай ды грубай сілай мужыцкае рукі... Бяз сваркі і скаргаў, з вясельлем, з радасьцю, нязьведанай розумам чалавека, у паўнату грудзей тысячных ідзе вялікая і надзвычайна-важная для ўсёй жывой, разумнай істоты праца... З поля зьбіраецца раз у год тое багацьце, якому няма цаны, асабліва ў тыя часы, калі гэтае багацьце выплывае з рук чалавечых без пары.

Купаючыся ў несьцярпімай духоце, у хлебным пылу, скорчыліся карчамі нязграбнымі жнеі на загонах. Лятаюць раз-по-разу хвасты жыта над галовамі, мігцяць золатам пад сонцам і гэтакімі-ж кавалкамі ў снапох астаюцца раскіданымі па полі...

На загонах дзяўчаты і гаспадыні чарадою жнуць і весела тады ім, гамоняць, пад-час песьняй падхвацяць сваю вясёласьць і панясуць яе далёка да касцоў, і тыя, паслухаўшы іх, вострачы касу і плюнуўшы на далонь ды мякка сьвіснуўшы касой у траве макраватай, густой, ня вытрымаюць—і зазьвініць каса іначай пад разудалы сьпеў мужыцкі... Яшчэ дальш касцоў, пры рацэ, абросшай алешнікам і вербалозьзем,

ніжэй туды к лесу маўкліваму, грабуць ужо сухое сена, зноў такі з шчэбетам вясёлым, з радасьцю шырокай, як сенажаць, як прасторы гэтыя...

Мітусіцца чарада, а прыглядзецца бліжэй—колетыў дзіцячы працуе з настаўнікам. Гэта-ж ужо не адзін дзень, як яны працуюць усе: спачатку камітэту ўзаемадапамогі сенакос убіралі, а цяпер розным бедным удовам, не сем'яністым дапамагаюць...

Пастановай сходу прайшло ў іх, каб гэты сэзон летніх палявых работ не прапусьціць і дапамагчы як організацыям, так і асобным гаспадаркам з уборкаю сена і жніва, а гэтым самым і даць сабе фізычнае выхаваньне, апрача моральнага, на якое так падналяглі за ўвесь час супольнага жыцьця...

Гэтым часам мужчыны на паплавох гутарку павялі, з нейкім гонарам хваліліся:

— За шчасьце, браце, мець такія дзеці!.. Самі сабе жыцьцё будуюць!.. Людзі з іх будуць!..

— І не кажы... Самі знайшлі сьцежку сабе, праўду кажаш.

— Новыя нейкія людзі растуць...—удумчыва гаварыў, як-бы сам сабе, чорны мужык з шырокаю круглаю барадою:—не пайму я... даўней так ня было... Вясёлыя заўсёды, з сьмехам, з скокамі... Хто іх ведае!..

Заскакала мянташка па палатне касы ў руках чорна-барадатага мужчыны, і ён вочы свае мякка палажыў на колектыў дзіцячы і, як толькі ён пачаў затыкаць мянташку за пояс сваіх зрэбна-суровых, закасаных да кален, майтак, дык з таго боку грабцоў гэтых звон кос дружны здаровы сьмех зьмяніў... І сыпаўся сьмех іх гулкі па шырокім мяккім поплаве і калаціўся над жнеямі...

Усталі, разагнулі жнеі свае сьпіны і павярнуліся туды, адкуль ляцеў гэты сьмех, і самі ўсьміхнуліся; а барадаты, абвёўшы ўсіх касцоў добрымі вачыма, сур'ёзна сказаў:

— Няма глыбейшай радасьці, чымсь радасьць у жыцьці, і няма весялейшага часу, як іх...—і паказаў ён рукою на дзіцячы муравейнік.— Вось затым і сьмех іх сьмешны і аж за душу хапае... Эх, ты, новыя т'кі людзі растуць, што ні кажы!..

І зноў засьвістаў ён ў сырой траве бліскавіцай касы. А жнеі, як-бы падкрэсьліваючы думкі касцоў, пераглянуўшыся, кінулі:

— Шчасьлівыя яны!.. Жыцьцё адчуваюць сабе радаснае... вось затым і весела ім!..

Зноў загарэлася праца, зноў сьмех вясёлы сыпаўся разам з праменьнем сонца па тлустых загонах і паплавох, і слаўна было глядзець на ўсё гэта і адчуваць, што жыцьцё маладое, новае, узбагачанае ад мінулага гартам і сталёвасьцю, увайшло глыбока ў душу гэтакаму-ж сама, як і само, маладому пакаленьню, якім і пачало яно ўздымацца вышэй за сваіх бацькоў...

Сыпаліся пялёсткі сонца і мяшаліся з дзіцячай радасьцю жыцьця.

# ЖАНЧЫНЕ

**М. Грамыка**

Гадзіны ясныя адбуджаных ідылій,
Што нам з табой калісь прызначыў красавік,
Калі бязмэтныя мы раньнікі будзілі,
Калі нас ўсьлед вітаў з вады узьняты крык,—

Прайшлі... На небе дождж і на зямлі балота,
Ты—нібы тут са мной, і усё-ж цябе няма.
Ў вачох тваіх, сваіх я бачу ўзмах адлёту:
Птушыны рой ляціць у вырай не дарма!

Няхай! Ня нам з табой сьлязіна сумаваньня:
Каханьня першы сьпеў канчаецца якраз,
Як прыдзе новы час—турботы гнездаваньня,
Для новых птушанят, што дапяюць за нас!

## ДА МАЛАДЫХ

**А. Замежны**

Беларус малады, што гальчэеш, бядак,
Паўстань, выйдзі з хваль ніў залацістых;
Зварухні, скліч, зьяднай, як ты, гэткіх ваяк,
Чые рукі ў значкох мазалістых.

І нясеце моц пушч, разгул бур веснавых,
Праўд і песень нягаданых, новых.
Узарэце мяжу між сваіх і чужых,—
Знаймо вольных, працоўных, здаровых.

Юнакі-сілачы, вызваляйце зямлю
Ад паганых рук старага сьвету,—
Ўжо струхнеў гэты сьвет,—хай-жа тлусьціць ральлю;
Быць хоць раз ураджайнаму лету.

Многа ёсьць злыбяды, ліхадзеіць туга,
Дармаед сваяволіць бяскарна,
Пухнець з роскашы пан, грабіць ён як мага...
Эх, няўжо-ж гінуць нам гэтак марна?

Не! Яшчэ сонца ёсьць, руніць поле вясной,
Льдом адвечным вада не скавана,
Ёсьць яшчэ узлёт дум грамады маладой,
Што у працы цяжкой гартаваны.

Іх прызвала жыцьце, іх, працоўных сыноў,
Надзяліла змаганьне натхненьнем.
З фабрык, вёсак ідуць з усялякіх краёў,
Проціў вызыску і прыгнячэньня.

# ДЗІЎЛЮСЯ Я...

**З. Бандарына**

Дзіўлюся я бясконца, бязупынна
дзіўлюся я,
Электрыкай бліскучай—
істужкай радужнай
Бязьмежнага жыцьця...
Дзіўлюся я...
Гульлівая паводка,
Вірлісты шэпат хваль.
Братэрская магіла,
таемнасьць нябыцьця.
Ня верыцца,
ня верыцца...
Здаецца марай-сном.
Дзівоснай казкай-чарамі
агорнуты прастор.
Навісьлі хмары чмарыя,
на параходзе я.
Бялявая схілілася
бязьмежная імгла.
І хвалі вольнай плыняю
калышуць берагі.
Ледзь чую шэпты дзіўныя
Крылатых вольных мар.
І хочацца бязьмежную
Схіліць сівую даль.
Дварцы, старога спадчына,
Хрустальны б'е фантан,
Струменем ў высь празрыстую
імкнуцца кроплі чар.
Калісьці слугі верныя,
калісьці цар бываў...
„Ня верыцца, ня верыцца",
Я чую шэпты мар...

* * *

Мармары, золата,
яшма, хрусталь...
У царскіх палацах
новы
—наш баль.
Пеніцца пенаю—
сьнежнымі хлоп'ямі,
Б'ецца і песьціць
гіганцкі фантан.
Паўлаўск.
Гэроі, спавітыя славаю...
Высіцца высьсю
нязьмернаю
шпіль.
Фігнер, Нечаеў...
Магіла штодзённая...
Цынга, сухоты,
гонар, праклёны...
Лаўрамі-славаю
ўюцца вякі.
Дальлю бязьмежнай
калышуцца хвалі,
Б'юцца а бераг гранітны
Нявы.
Сэрца сьціскаецца:
Путы гранітныя
вольнасьць схавалі стыхій.
Пеніцца пенаю,
срэбнымі хлоп'ямі,
Б'еццa і песьціць
гіганцкі фантан.
Сусьвет вітаў
сонцатканымі марамі.
Ўеццa істужка
рунеючых мар.

Ленінград
6-VII—26 г.

# АГНЯВЫМ САМАЦЬВЕТАМ...

**Е. Пфляумбаум**

Агнявым самацьветам жаданьні
Паліліся ў мозаіцы слоў;
Ой, было маладое спатканьне,
Ой, цьвіла маладая любоў...

Заяскравілі пунсам даліны,
Шэпты змроку... бялявыя сны,
Каля стройна-пяшчотнай рабіны
Мы былі ў парываньнях адны...

І сьмяяліся вусны рабінай,
Слалі россыпі млявых дзён,
Залацістых палёў дзяўчына
Веснавы схіляла уклон...

І дрыжэлі цянёты змроку,
Ў блясках возера стыла жуда,
Ўзрочны волат разьмераным крокам
Вымяраў нам жыцьцёвую даль...

Вялічава і проста ў даліне
Нараджаліся сьмелыя сны;
Каля стройна-пяшчотнай рабіны
Мы былі ў парываньнях адны...

Пэрлы слоў у таемнасьці цішы
Зіхацелі улоньня красой;
Калыхалася вышай і вышай
Стройна-гордая стынь лясоў...

# ЦІ МНЕ ПЕСЬНЯЙ ЗЬВІНЕЦЬ У ТРЫСЬЦІ...

**М. Лужанін**

Ці мне песьняй зьвінець у трысьці?
ці маўчаць, забываючы словы?
Мая радасьць пахучай вясною,
быццам яблыня будзе цьвісьці.

Хай вачэй васільковых імжа
палыхне з-пад чырвонае хусткі,
хай ня сочыцца ў грудзі ім жаль
паясочкам цьвятлівіста-вузкім.

Каб мацней зазьвінець у трысьці
і сказаць невядомыя словы!
Мая радасьць прышла расьцьвісьці,
быццам яблыня пахкай вясною!

# ЛУНАЛІ БЯЛЯВЫЯ ЧАЙКІ...

**Ізраіль Плаўнік**

Луналі бялявыя чайкі,
Асыпалі пер‘е-сьняжынкі...
Бяроз шаўкавістых ручайкі
Зьвіліся пушком на галінках.

* * *

А вецер—хлапчук белабрысы—
Ахапкамі зоркі кідае...
Цалуюцца долы і высі,
Сплятаюцца блізі і далі.

* * *

Імчацца віхрастыя коні,—
Ад крыку ахрыплі палозьзі...
Сасонка галінкамі звоніць
І гімны складае марозу.

* * *

Чупрыны дуброў пасівелі,
Зьвісаюць на зорныя гоні...
Пагоняй за сьнежнай завеяй
Імчацца віхрастыя коні.

* * *

І сыплюцца звонкія песьні,—
Разносяцца радасна тоны...
А холад і раніць, і песьціць...
Мігцяцца палеткі і гоні.

12-XII—26 г.

# УВОДЗІНЫ Ў ФІЛЁЗОФІЮ ДЫЯЛЕКТЫЧНАГА МАТЭРЫЯЛІЗМУ*)

**Б. Быхоўскі**

Разьдзел VII

## Законамернасьць грамадзкага жыцьця

Об'ект грамадзкіх навук у вышэйшай ступені складаны і многагранны. Грамадзкае жыцьцё людзей—бясконца заблытаны клубок вытворчых, разьмеркавальных, палітычных, сямейных і іншых адносін. Калі гавораць аб грамадзтве—разумеюць грамадзтва розных рас, у розным геаграфічным асяродзішчы, на розных ступенях культуры, найскладнейшы комплекс іх шлюбных, экономічных, палітычных організацый, іх поглядаў рэлігійных, навуковых, мастацкай культуры, многагранную сыстэму адносін людзей, якія працуюць, змагаюцца, пакутуюць і радуюцца, мысьляць, кахаюць, ваююць і пануюць. Проблема заключаецца ў тым, ці магчыма гэтае грамадзтва зрабіць об'ектам строгай і дакладнай навукі, падобна другім зьявам прыроды, ці паддаецца яно, як і об'ект прыродазнаўчых навук, навуковаму пазнаньню, строгаму аналізу, ці магчыма выяўленьне яго законамернасьцяй, набліжэньне і падпарадкаваньне нашым інтарэсам. Ці чалавечае грамадзтва ўнікае ад навукі, і ў адносінах да яго патрэбен прынцыпова іншы падыход, чым да другіх зьяў сьвету. А калі навука аб грамадзтве магчыма, то ці прыгодныя ў ёй тыя-ж мэтодолёгічныя прынцыпы, што і ў другіх навуках, ці яна вымагае зусім іншых мэтодаў і ўстановак дасьледчыка. У прыватнасьці, ці пашыраецца на гэтую сфэру сьветабудовы прынцып дэтэрмінізму каузальнага вывучэньня. На ўсе гэтыя пытаньні сучасная навука ў розных яе напрамках дае супроцьлежныя адказы. У навуковай літаратуры прынята асноўныя плыні ў мэтодолёгіі грамадзкіх навук, супроцьлежныя адна другой у гэтым пытаньні, называць номотэтычнай і ідэографічнай. У далейшым мы разьбярэмся больш дэтальна ў абодвух напрамках і іх аргумэнтацыі.

Надзвычайная складанасьць грамадзкага жыцьця і інтарэсы пануючых кляс былі прычынай таго, што навуковы падыход да соцыяльных зьяў да апошняга часу ня меў месца. Гісторыя да нядаўняга часу, ды

---

*) Гл. „Полымя" № 4.

ў сваіх пануючых плынях і цяпер, была чым хочаце, толькі не навукай. Характарыстыка, якая даецца гісторыі, зьяўляецца ў поўнай меры правільнай прыстасоўна да да-марксыцкіх тэорый аб грамадзтве: „Што такое гісторыя? Збор навучальных баек, ці многамоўная мешаніна апавяданьня і балбатні, гледзячы па таму, ці філёзоф гісторык, ці краснабай. У ёй сустракаюцца добрыя ўзоры краснамоўства, але дарэмная праца шукаць у ёй ісьціну, бо ісьціна заключаецца ва ўстанаўленьні неабходных адносін паміж зьявамі...“ Бязумоўна, гісторыя, якая прадстаўляе сабою больш ці менш прыгожае апісаньне падзей ці падбор ілюстрацый для навучальнасьці юнацтву—не заслугоўвае назвы навукі. Але калі такою была гісторыя, то ці азначае гэта, што яна і павінна быць такою. Справа ідзе аб тым, ці можа гісторыя быць чым-небудзь больш чым хронікаю ці прапаведнікам, ці можа яна быць навукаю. У папярэдніх разьдзелах мы бачылі, што апісаньне об‘ектаў вывучэньня яшчэ ня ёсьць пазнаньне іх, а толькі першая папярэдняя ступень да яго. Выключна-эмпірычнае апісальнае абагульненьне, клясыфікацыя об‘ектаў, простае канстатаваньне некаторай агульнасьці і паўторнасьці—хоць і зьяўляецца наступнай ступеньню, аднак і яно ня ёсьць яшчэ пазнаньне, тлумачэньне. Такім зьяўляецца толькі ўстанаўленьне прычын выяўленай групы зьяў, уясьненьне іх прычыннай неабходнасьці і на аснове яе навуковае прадбачаньне і аўладаньне. Істота разгляданай проблемы заключаецца ў тым, ці можа мысьліцца, ці зьдзейсьніцца такая задача ў адносінах да грамадзтва, ці яна ня можа быць об‘ектам навуковага пазнаньня ў паказаным сэнсе.

Супраціўнікі магчымасьці прыстасаваньня дэтэрміністычнай мэтодолёгіі да грамадзкага жыцьця (ідэографы) лічаць грамадазнаўства прынцыпова, па прыродзе сваёй, розным ад прыродазнаўства. Навука падзяляецца імі на дзьве галіны, з рознымі задачамі і мэтодамі. Прыродазнаўчыя навукі, гавораць яны, маюць справу з абагульненьнямі, яны адшукваюць у многавобразнасьці прыроды агульныя прынцыпы, агульныя законы, якія маюць месца ў жыцьці ўсіх розных рэчаў. Законы мэханікі, напрыклад, прадстаўляюць сабою абагульненьні, якія аднолькава прыстасоўваюцца да якіх заўгодна цел і рэчаў. Законы біолёгічнай спадчыннасьці ў аднолькавай ступені адносяцца да ўсіх біолёгічных родаў і відаў індывідуума ў любую эпоху і ў любым геаграфічным асяродзішчы. Прыродазнаўства адшуквае агульнае, агульназначнае, яго генэралізуе (абагульняе), кожная зьява цікавіць яго не сама па сабе, а як экзэмпляр, які прадстаўляе цэлую групу зьяў; вынікі яго вывучэньня каштоўныя толькі пакольку яны значымы і для ўсякага другога экзэмпляра данага роду. Прыхільнікі ідэографічнага напрамку лічаць задачы вывучэньня грамадзкіх зьяў радыкальна рознымі ад задач прыродазнаўства. Грамадаведа цікавіць не агульнае, а адзінкавае. Дарвін ці Ленін цікавяць гісторыка ня як экзэмпляры роду—чалавек ці вялікі чалавек, яны займаюць яго самі па сабе, ува ўсёй

іх індывідуальнасьці і адзінкавасьці. Парыская комуна ці Рэнэсанс цікавяць гісторыка ня як сродак да абагульненьняў, а як мэта вывучэньня. Прыродазнаўства генэралізуе, грамадазнаўства індывідуалізуе. Першае шукае роднае, тыповае, другое—індывідуальнае, спэцыфічнае. Першае ўстанаўляе законы, грамадазнаўству-ж няма справы да іх; наадварот, тое, што ёсьць агульнага ў Наполеона з іншымі людзьмі, у Кастрычнікавай рэволюцыі з усімі іншымі этапамі грамадзкага жыцьця застаецца па-за полем разгляду гісторыка. Такім чынам, у навуцы ўмацоўваецца мэтодолёгічная падвойнасьць, навукі раскладаюцца па сваёй мэтодолёгіі на прыродазнаўчыя і гістарычныя ці грамадзкія.

Іншы падыход да грамадзкіх зьяў быццам-бы ня толькі немэтазгодны, але і немагчымы. Калі зьявы прыроды бясконца паўтараюцца, то грамадзкае жыцьцё складаецца з індывідуальных непаўторных фактаў, у ім нічога ня бывае шматразовым. З гэтай прычыны тут нямысьліма абагульненьне, адшуканьне законаў.

Разгляд гэтых аргумэнтаў аб спэцыфічнасьці навук аб грамадзтве пачнем з апошняга: ці правільна тое, што грамадзкія зьявы непаўторны, і што адсюль выходзіць. Думка, быццам непаўторнасьць адзначальная рыса грамадзкага жыцьця, быццам прыродазнаўства мае справу з бясконца паўторнымі зьявамі, зьяўляецца зусім нягрунтоўнай. Ці-ж космолёгія, геолёгія, біолёгія ўстанаўляюць законы аднастайна-паўторных зьяў, а не нясупынна зьменных непаўторных падзей? Мабыць навукі, якія вывучаюць эволюцыю плянэт, зямлі ці організмаў, адшукваюць законы зьменнасьці новаўтварэньняў, што зусім не перашкаджае ім быць строгімі і дэтэрміністычнымі навукамі. А ці-ж усе іншыя навукі, як фізыка, хэмія, фізыолёгія маюць справу з абсолютна непаўторнымі зьявамі? Мы вышэй адзначалі, што ў прыродзе няма дзьвюх зусім аднолькавых рэчаў ці процэсаў, бо гэта была-б адна рэч, а ёсьць толькі рэчы падобныя. Мэханіка не таму магчыма, як генэралізуючая навука, што толькі магчымы два абсолютна аднолькавых рухі, а таму, што пры ўсёй сваёй рознасьці рухі характарызуюцца агульнымі рысамі. Прыродазнаўчыя навукі абстрагуюцца ў такіх выпадках ад асабліва, а ня маюць справу з тожсамымі зьявамі. Законы, вынайдзеныя Дарвінам, адносяцца не да паўторнасьці відаў,—апошнія вечна абнаўляюцца,—а да таго, што ёсьць агульнага ў гэтай іх зьменнасьці. Закон захаваньня энэргіі адшукаў агульнае ў рознародных процэсах розных форм энэргіі. Такім чынам, устанаўленьне законаў не нагадвае паўторнасьці тожсамых фактаў, а толькі агульнае ў розных зьявах.

Але няправільна і тое, што прыродазнаўства вычэрпваецца разуменьнем агульнага, што яму справы няма да адзінкавых зьяў з іх асаблівасьцямі. Наадварот, канчатковым імкненьнем прыродазнаўчых навук зьяўляецца разуменьне адзінкавых рэчаў. Ці-ж біолёгія абмяжоўваецца вывучэньнем таго, што ёсьць агульнага ў адносінах да ўсіх органічных зьяў і толькі? Не, яна вывучае прыватныя формы жыцьця, усю рознастай-

насьць яго праяўленьняў. Агульныя законы патрэбны для таго, каб пры іх дапамозе зразумець конкрэтныя органічныя фэномэны. Калі-б мы толькі і ведалі, што электрычнасьць—род руху, цяплыня—род руху і г. д., мы былі-б зусім бязмоцнымі ў разуменьні фізычных зьяў; трэба ведаць асаблівасьці кожнага з гэтых родаў руху, у гэтым уся справа. Урэшце, мэтаю ўсіх агульных законаў зьяўляецца разуменьне індывідуальных падзей. Ці-ж прадраканьне зацямненьня ці зямлятрасеньня не зьяўляецца вышэйшым дасягненьнем дакладных навук, а яно ёсьць прыстасаваньне агульных законаў да адзінкавых зьяў, карыстаньне індывідуалізуючым мэтодам. Такая-ж і тэхнолёгія, і мэдыцына, і ўсякая іншая навука, якая вышла з стадыі агульных папярэдніх дасьледваньняў. Такім чынам, зусім не адкідаючы абагульненьняў, мы сьцьвярджаем, што і індывідуалізуючы мэтод не зьяўляецца монопольным мэтодам грамадзкіх навук, а таксама ўласьцівы і прыродазнаўству. Такім чынам, асаблівасьці, якія прыпісваюцца гісторыі грамадзтва, зусім не зьяўляюцца яе асаблівасьцямі.

Уясьніўшы, што непаўторнасьць і індывідуалізаваньне ўласьцівы і прыродазнаўству, пакажам, што паўторнасьць і генэралізаваньне ўласьцівы грамадазнаўству. Калі ідэографы скардзяцца на непаўторнасьць грамадзкіх зьяў, дык нярэдкія сярод мысьліцеляў і скаргі на „нуду гісторыі“, на яе аднастайнасьць. Сотні гадоў таму назад была заўважана яе паўторнасьць і цыклёвасьць. Сярод мысьленьнікаў на розныя спосабы паўтараецца думка, выказаная ў аднэй пэрсыдзкай легендзе, што ўсю гісторыю людзей можна выкласьці ў трох словах: яны радзіліся, яны пакутавалі, яны паміралі.

І сапраўды, гісторыя поўна паўторнасьці. Ці-ж ува ўсіх кутках зямнай кулі не паўтараліся адны і тыя-ж экономічныя формацыі? Расійскі, кітайскі, нямецкі фэўдалізм. Бо самае разуменьне фэўдалізм прадстаўляе сабою абагульненьне, генэралізацыю, якая характарызуе некаторы экономічны тып. А палітычныя формы? А аднатыповыя войны? А сужыцьцё „вялікаю сям'ёю“ ці многабоства? У розны час, у розных краінах паўтараюцца гэтыя тыповыя зьявы. І хоць расійскі фэўдалізм мае індывідуальную рознасьць параўнаўча з ангельскім, становіцца магчымым устанаўленьне для ўсякага фэўдалізму законамернасьцяй, генэзісу, тэндэнцый, таксама як рознастайнасьць людзей не перашкаджае ўстанаўляць абагульненьні, якія адносяцца да чалавечай анатоміі, фізыолёгіі, псыхолёгіі.

Але паўторнасьць маецца ня толькі ў розных краінах, але і ў аднэй краіне ў разьвіцьці ў працягу часу. Прамысловыя крызісы, напрыклад, рэгулярна паўтараюцца ў капіталістычным грамадзтве, даючы матэрыял для абагульненьняў тэорыі крызісаў. А клясавае змаганьне—ці не зьяўляецца яно зьявішчам, якое паўтараецца нават у розныя соцыяльныя эпохі. Ці ў мастацтве, напрыклад, наглядаецца пэрыодычная падмена рэалістычнага і романтычнага напрамку і г. д. Але пытаньне стаіць шмат шырэй. Няхай сымфоніі Бэтховэна ці мадонны Рафаэля адзіны

непаўторны. Былі і будуць другія шэдэўры мастацтва, магчыма і больш дасканалыя, але такія не паўторацца. Але, ня гледзячы на гэта, мы ўстанаўляем закон абумоўленасьці ўсякага, ува ўсёй яго індывідуальнасьці, твору мастацтва ад класавай псыхолёгіі, інтарэсу і г. д. Шубэрт адрозьніваецца ад Брамса, але той і другі продукт пэўнага соцыяльнага асяродзішча. Савецкі ўрад процілеглы раманаўскаму самаўладзтву, але абодва могуць служыць для абагульненьня таго, што дзяржава—спосаб клясавага панаваньня і г. д. Грамадзкія зьявы паўтараюцца і ў прасторы, і ў часе; дзе не паўтараюцца самі факты, паўтараюцца адносіны паміж імі. Зразумела, і тут гутарка аб адзінстве многавобразі, а не аб тожсамасьці.

Нават такія, здавалася-б, выпадковыя і індывідуальныя праяўленьні грамадзкага жыцьця, як рознага роду злачыннасьць, самагубства і іншае зьяўляюцца строга законамернымі. Соцыяльная статыстыка выяўляе дакладную сувязь паміж імі і становішчам экономікі, цэнамі на хлеб, беспрацоўем і г. д. Гэтыя зьявы выяўляюць нават спэцыфічныя законамернасьці для розных кляс грамадзтва, полу, узросту.

Такім чынам, *ува ўсіх* навуках няма абсолютнай паўторнасьці, але ёсьць паўторнасьць адносная, якая дае магчымасьць абагульненьняў. Падругое, як мы ўжо адзначалі, дэтэрмінізм зусім не абавязкова вымагае паўторнасьці зьяў, а імкнецца зразумець адзінкавыя рэчы ўва ўсёй іх прычыннай неабходнасьці. Пазнаўшы агульнае, навука дасьледуе законамернасьць асаблівага ў рэчах.

Ніякага мэтодолёгічнага разрыву па лініі абагульненьня і індывідуалізацыі паміж навукамі няма. Абодва мэтоды знаходзяць сваё месца і значэньне ва ўсіх навуках. Грамадазнаўства таксама вынаходзіць агульныя законы ўсякага грамадзтва, асобных грамадзкіх формацый, асобных сфэр грамадзкага быцьця. Пытаньне аб тым, якія дасягненьні яе ў гэтых адносінах, параўнаўча з іншымі навукамі, ня ёсьць прынцыповы аргумэнт, а толькі паказаньне на труднасьць, немалаважнай прычынай якой зьяўляецца работа ідэолёгаў эксплёатуючых кляс, якія падрываюць навуковую мэтодолёгію грамадзкіх навух. І падобна прыродазнаўству, грамадазнаўства шукае і законамернасьць асаблівага ў зьявах і імкнецца прыстасаваць агульныя законы да тлумачэньня адзінкавых падзей, у чым сэнс і прызначэньне агульных законаў.

Навукі розьняцца па свайму об'екту, але ўсе яны шукаюць законамернасьць сваіх об'ектаў і для гэтага карыстаюцца адзінай мэтодолёгіяй, прыстасоўваючы яе толькі да тэхнічных асаблівасьцяй прадмету свайго вывучэньня. Няма бяздоньня паміж навукамі аб прыродзе і грамадзтве. Грамадзтва—частка прыроды, і яго існаваньне законамерна. Спроба выгнаць (выхолостить) законамернасьць з грамадзкай навукі зьяўляецца імкненьнем зьнішчыць навуковае разуменьне грамадзкага жыцьця.

Ня больш пераканаўчы і тыя нашы супрацiўнiкi, якiя падзяляюць навукі на тыя, што вывучаюць статыку і дынаміку зьяў, г. зн. на тыя, што ўстанаўляюць законы суіснаваньня рэчаў незалежна ад часу, і на навукі, якія вывучаюць пасьлядоўную падмену рэчаў у часе. Да першых належаць, напрыклад, фізыка, да другіх—гісторыя. І сапраўды, усе навукі маюць справу з працэсамі, пасьлядоўнымі прычыннымі залежнасьцямі ў часе. Рух ці хэмічная рэакцыя таксама дынамічная зьява, як перасяленьне народаў ці ўтварэньне пляменьняў. У рачаіснасьці ёсьць толькі адна навука—гісторыя, якая рашчапляецца на гісторыю прыроды і гісторыю грамадзтва,—гаварыў Маркс. Усе законы—законы зьменнасьці, дынамікі. Дзе нічога не зьмяняецца, там нічога не адбываецца, там няма чаго рабіць навуцы. Мы яшчэ будзем больш грунтоўна спыняцца на гэтым пытаньні ў бліжэйшых разьдзелах.

Адзначым толькі тут, што паміж соцыолёгіяй і гісторыяй зусім няма таго мэтодолёгічнага бяздоньня, якое паміж імі часта бачаць. І тая і другая ўстанаўляюць законамернасьці грамадзкага разьвіцьця. Розьніца паміж імі, пераважна, колькасная. Соцыолёгія вывучае *больш агульныя* законамернасьці, уласьцівыя цэлым групам зьяў ці эпох, гісторыя—*больш прыватныя*, яна імкнецца зразумець адзінкавыя зьявы ўва ўсёй іх неабходнасьці. Соцыолёгія карыстаецца матэрыялам гісторыі, а апошняя—абагульненьнямі соцыолёгіі, якая дае ёй мэтодолёгічныя ўстаноўкі. Тая і другая накіраваны да аднэй мэты—зразумець гістарычную неабходнасьць, грамадзкае разьвіцьцё людзей. Разуменьне прычыннай абумоўленасьці як паўторнага, так і непаўторнага—аднолькава патрэбна для гэтага.

Ня будзем паўтараць сказанага ўжо аб апісальных эмпірычных „законах" і прычынных законамернасьцях. У грамадзкіх навуках, як і ў другіх,—абагульненьне ня ёсьць тлумачэньне. Мала констатаваць якую-небудзь сувязь, трэба зразумець прычынную абумоўленасьць яе. Так, даныя соцыяльнай статыстыкі, розныя схэмы грамадзкага разьвіцьця, клясыфікацыі і г. д.—толькі рыштаваньні для ўзьвядзеньня навуковай будовы. Мала, напрыклад, знайсьці, што пры капіталізьме адбываецца концэнтрацыя прамысловасьці і капіталаў, трэба зразумець няўхільнасьць гэтага процэсу і яго мэханізм, трэба зразумець ня толькі, *што* адбываецца, але і тое, *чаму* гэта адбываецца.

Уявіўшы, што няма падстаў абмяжоўваць задачы грамадазнаўства простым апісаньнем адзінкавых фактаў, але апісальнай генэралізацыяй, пяройдзем да другіх аргумэнтаў супрацiўнiкаў. Для нас грамадазнаўчыя навукі вывучаюць *прычынны* рад падзей, а для разгледжаных супрацiўнiкаў—займаюцца чыстым *апісаньнем*, але ёсьць сярод іх прыхільнікі таго, што гістарычныя зьявы трэба разглядаць, як зьвеньні *цалявога* раду. Тэлеолёгічны погляд у соцыяльных навуках мы і будзем разглядаць. Паглядзім, ці больш грунтоўна тэлеолёгія тут, чым у другіх навуках.

Абаронцы тэлеолёгізму паказваюць, што калі ў прыродазнаўчых навуках можна давесьці няпрыгоднасьць гэтага мэтоду, бо мэтазгоднае разьвіцьцё надае існаваньне мэтапалагаючага пачатку, дык у грамадзкім жыцьці па гэтаму пытаньню ня можа быць спрэчак. Гісторыю робяць людзі, істоты сьвядомыя і мэтапалагаючыя, робяць яны гісторыю кіруючыся сваімі мэтамі. Абстрагавацца ад дзейнасьці людзей азначае абстрагавацца ад гісторыі, а зразумець продукт мэтазгоднай дзейнасьці, ня прымаючы пад увагу гэтай мэтазгоднасьці,—азначае нічога не зразумець у ёй. Гэты аргумэнт другою дарогаю прыводзіць нас да вядомага ўжо падзяленьня навук. Прыродазнаўчыя навукі маюць справу з бязмэтнымі мэханічнымі зьявамі, якія належыць вувучаць каузальным мэтодам, грамадзкія—з мэтаімкнёнай творчасьцю людзей, якія вымагаюць тэлеолёгічнай мэтодолёгіі. Такое разуменьне гісторыі вар'іруецца буржуазнымі вучонымі на розныя лады, але сэнс яго ўсё той самы: выключыць грамадазнаўства з ліку об'ектаў навук аб законамернасьцях.

Грамадзкае жыцьцё не расьце навальна па ўласьцівых грамадзтву законах, яно штучна і мэтазгодна нормуецца людзьмі, ход яго з гэтай прычыны накіроўваецца па жаданаму для тых, хто нормуе яго, рэчышчы, для разуменьня яго трэба зьвярнуцца не да законаў, а да мэтаў, якія ставяцца людзьмі і інстытуцыямі, якія нормуюць яго. Калі рака прабіваецца натуральна, то, дасьледаваўшы глебу, можна прадбачыць яе напрамак і крывулькі, але калі яе людзі накіроўваюць па свайму жаданьню, дык ніякай законамернасьці тут шукаць няма чаго, а трэба разглядзець, чым кіруюцца гэтыя людзі, іх мэты. Грамадзкае жыцьцё рэгулюецца і накіроўваецца, гавораць нам, прававымі нормамі. Апошнія афармляюць яго падобна таму, як чаравічак ножку модніцы-кітайкі. І таксама, як нельга зразумець разьвіцьцё гэтай ножкі з законаў фізыолёгіі, і разьвіцьцё грамадзтва нельга зразумець, калі адцягнуцца ад прававых норм, якія мэтазгодна формуюць яго.

Разьбярэмся ў сказаным. Правільна ўва ўсім гэтым тое, што гісторыю робяць людзі, а людзі прасьледуюць мэты. Але калі гэта так, дык ці нельга паставіць пытаньне: *чаму* людзі робяць гісторыю так ці інакш, *чаму* яны робяць яе ў розныя эпохі парознаму, *чаму* адны людзі маюць адны мэты, другія—іншыя, *чаму* пры розных грамадзкіх формацыях прававыя нормы парознаму рэгулююць ход грамадзкага жыцьця, *чаму*, нарэшце, мэты, якія ставяцца аднымі грамадзкімі групамі, зьдзяйсьняюцца, а другія—не? Тэлеолёгія, апэляцыя да мэт, зусім бясьсільна адказаць на падобныя пытаньні, бо наяўнасьць мэт не вытлумачвае грамадзкага разьвіцьця, а само патрабуе тлумачэньня. Мы не адкідаем мэтазгоднай дзейнасьці людзей у грамадзтве, але сьцьвярджаем, што сама яна вымагае каузальнага тлумачэньня. Мэты і нормы не адкідаюць прычын, а самі прычынна абумоўлены. Зразумець грамадзкае жыцьцё азначае зразумець у яго законамернасьці і мэтазгодную дзейнасьць людзей, і іх інтарэсы, і вынікі гэтай дзейнасьці.

Кажучы аб свабодзе волі, мы пераканаліся, што абыходжаньне людзей, іх воля і мэты строга дэтэрмінаваны. Грамадзкія навукі павінны вывучаць гэтую абумоўленасьць, зразумець чалавека, як продукт грамадзтва. Чалавек дзейнічае ў грамадзтве так ці інакш у залежнасьці ад таго, якім яго ўтварае грамадзтва.

Нельга, аднак, сьцьвярджаць, што людзі робяць грамадзтва, якім яны хочуць. Папершае, грамадзкім асяродзішчам, да якога належыць даны чалавек, абумоўліваюцца яго погляды, абумоўліваецца тое, якім ён хоча рабіць грамадзтва. Падругое, у розных грамадзкіх кляс і груп мы наглядаем розныя, нават супроцьлеглыя імкненьні. Дзякуючы гэтаму, грамадзкае жыцьцё складаецца як-бы з перакрыжаваньня розна-накіраваных імкненьняў. Падобна таму, як цела, якое рухаецца ў двух розных напрамках, рухаецца па роўнадзейнай рухаючых яе сіл, і грамадзкія падзеі складваюцца ня так, як іх хочуць зрабіць, а па некатораму шляху, некалькі рознаму ад усіх мэтаў, але які складаецца з іх. Вось чаму здараецца, што гісторыя рухаецца па шляху, да якога ня імкнуцца ні адна з частак гэтага грамадзтва, хоць гэты шлях і складаецца ў выніку дзейнасьці людзей. Прывядзем у прыклад гібель Рымскай імпэрыі. Якая кляса рымскага грамадзтва імкнулася загубіць яе? Ніякая. І тым ня менш яна загінула ў сілу ўнутраных прычын. Перамога барбараў стала магчымай дзякуючы ўнутранаму струхленьню Рыма. Ці возьмем прамысловыя крызісы пры капіталізьме. Яны шкодны для капіталістых ня менш, чым для рабочых, а вырастаюць з нямінучасьцю з дзейнасьці капіталістых, хоць і супроць іх волі. Толькі прычыннае вывучэньне грамадзтва можа вытлумачыць яго ход і тэндэнцыі разьвіцьця.

Калі-б грамадзтва разьвівалася мэтазгодна, ня быў-бы магчымым рэгрэс у грамадзкім жыцьці. А ён заўсёды і ўсюды наглядаецца. Мінулыя цывілізацыі гінуць, і грамадзтва нанава перарабляе іх работу. Эпоха ўпадку, дэпрэсій, нават звароту назад у гісторыі, як вядома, здараецца даволі часта.

Да-рэчы ўспомніць і тое, што намі гаварылася аб суб'ектыўнасьці разуменьня мэтазгоднасьці. Можна гаварыць без канца аб немэтазгоднасьцях, супярэчнасьцях, недарэчнасьцях, якія маюць месца ў грамадзтве, якія далёка не зьмяншаюцца, а вырастаюць з экономічным прогрэсам. Руссо не без падставы даводзіў, што прогрэс мае сваім адваротным бокам рэгрэс. Мы гаварылі, што грамадзкія зьявы, падобна мэханічным, складваюцца ў выніку скрыжаваньня сіл, якія робяць на іх свой уплыў. Але разуменьне сілы, разумеецца, не адно і тое-ж у мэханіцы і соцыолёгіі.

Справа, само сабою разумеецца, ідзе не аб тым, што людзі стыкаюцца ў мэханічным сэнсе. Калі сілы дзейнічаюць у адваротных напрамках, дык цела пойдзе ў напрамку большай сілы. Што-ж зьяўляецца „большай сілай“ у гісторыі? Якія сілы накіроўваюць яе? Мабыць, перамагаюць не заўсёды тыя людзі, мэты якіх больш „шляхэтныя“, фізычная сіла—

большасьць—таксама не вытлумачвае пытаньня, бо інакш нельга-б зразумець шматвяковага панаваньня меншасьці; хто больш моцна хоча, далёка не заўсёды перамагае. Задача соцыолёгіі зразумець рухаючыя сілы гісторыі, якія незалежны ад мэтазгоднасьці і якія законамерна абумоўліваюць яе рух. Такім чынам, зноў усплывае неабходнасьць разуменьня *законаў* гісторыі.

Чаму нормы права іншы раз аказваюцца бясьсільнымі? Чаму гісторыя пакідае многія законы на тое, каб быць толькі кавалкамі паперы? Чаму гінуць адны прававыя нормы і падмяняюцца другімі? Тэлеолёгі ставяць пункт там, дзе трэба паставіць пытальнік. Яны пакідаюць проблему, калі яна пачынаецца. Яны стаяць перад зачыненымі дзьвярыма, прытрымліваюць іх, каб ня ўпусьціць у пакой; у пакоі няпрыемна, у пакоі сьляды злачынства. Для нас, марксыстых, зусім зразумела, чаму ідэолёгі пануючых кляс розна адносяцца да прыродазнаўчых і грамадзкіх навук. У веданьні-ж законаў прыроды родава (кровно) зацікаўлены капіталізм, бяз гэтага немагчыма разьвіцьцё тэхнікі. Таксама родава (кровно) зацікаўлены рэакцыйны капіталізм у захаваньні таямніц грамадзкага жыцьця. Праўда аб прыродзе яму карысна, праўда аб грамадстве—шкодна, бо яна выяўляе шкоднасьць капіталізму на пэўнай ступені грамадзкага разьвіцьця, бо яна прадракае яму гібель, бо яна вынаходзіць шляхі да прысьпяшэньня гэтай гібелі. Зацікаўленыя ў захаваньні існуючых грамадзкіх адносін клясы ахутваюць нават і законы прыроды тэлеолёгічным флёрам для пашырэньня і падмацаваньня мэтодолёгіі мысьленьня, пры дапамозе якой захоўваюцца таямніцы грамадзкага разьвіцьця.

Калі для прыхільнікаў апісальнага мэтоду існуюць толькі разрозьненыя індывідуальныя гістарычныя падзеі, а для нас—складаны прычынны рад, дык для сучасных тэлеолёгаў гістарычныя падзеі навука павінна сыстэматызаваць у мэтны рад. Ня ўсё, што адбываецца ў грамадзтве, падлягае гістарычнаму вывучэньню, ня ўсякі факт грамадзкага жыцьця зьяўляецца гістарычным фактам. Гістарычным фактам па думцы тэлеолёгаў (ці „фіналістых“, як яны сябе іншы раз называюць) зьяўляецца толькі тое, што мае адносіны да культурных цэннасьцяй. Гісторыя—ёсьць рух да некаторай мэты. Усё, што дапамагае гэтаму прасоўваньню да яе,—мае гістарычную цэннасьць, процідзейнічае—адмоўную цэннасьць. Калі прыродазнаўца не адрозьнівае об‘екты, якія ім вывучаюцца, то гісторык, наадварот, аддае перавагу вывучэньню толькі таму, што мае адносіны да грамадзкіх мэт, ён ацэньвае факты, яго меркаваньні не каузальна-дэтэрміністычныя, а ацэначныя, тэлеолёгічныя. Кравец Наполеона не вывучаецца гісторыяй паколькі ён не прадстаўляе цікавасьці з пункту погляду соцыяльнага прогрэсу. Іншая справа Наполеон. Гісторык, такім чынам, 1) адрозьнівае об‘екты вывучэньня з пункту погляду культурнай іх цэннасьці, 2) сыстэматызуе іх, як зьвеньні, як ступенькі мэтнага раду грамадзкага прогрэсу. Вывучыць у даным выпадку, азначае ацаніць,

разумець—гэта знайсьці значэньне факту ці асобы ў шэрагу культурных цэннасьцяй, у шэрагу сродкаў да зьдзяйсьненьня мэты грамадзкага разьвіцьця. Прыродазнаўства—вытлумачвае, грамадазнаўства—ацэньвае. У іх два крытэрыі пазнаньня: у першага—тлумачэньне законамернасьцяй, у другога—устанаўленьне значымасьці. Такія, у самых агульных рысах, контуры гэтага адменьніка тэлеолёгіі. Мэтод абаснаваньня тут іншы, вынік той самы,—выключэньне соцыяльных зьяў з шэрагу дакладных навук.

Ці правільнае гэта разважаньне? Ці праўда, што прыродазнаўства не адрозьнівае об'ектаў вывучэньня з пункту погляду іх значэньня? Чаму фізыолёгія расьлін вывучае ўплыў сонца на расьліны, а ня ўплыў месяца? Чаму геомэтра ніколькі ня цікавіць, ці будуць выўчаныя ім трохкутнікі драўлянымі ці мэталёвымі? Яны абстрагуюцца ад тых фактаў ці бакоў зьявы, якія ня йграюць ролі ў выўчаным імі процэсе ад таго, значэньне чаго ў гэтым процэсе роўна нулю ці блізка да нуля. Тое самае робіць і соцыолёг. Факты выбіраюцца ім не з тэлеолёгічнага пункту погляду, а з пункту погляду таго, у якой ступені яны выяўляюцца фактарамі, *прычынамі* гістарычнага руху. У кола гістарычнай навукі ўваходзіць усё тое, што абумоўлівае ход гісторыі, ён мае права абстрагавацца ад другарадных і трэцярадных фактаў, каб зразумець *асноўныя* контуры гісторыі. Ніякай здрады прычыннаму мэтоду тут няма. Месца, якое займаў Напалеон, зрабіла яго важным фактарам грамадзкага жыцьця яго часу, якім нельга грэбаваць для разуменьня ходу падзей. Магчыма, у гісторыі мод таго часу роля краўца Наполеона была больш значнай, чым роля імпэратара. „Цэннасьць“ прадстаўляе тое, што дапамагае разуменьню, што ўваходзіць у шэраг прычын, якія вызначаюць цікавячую падзею. Галоўная прычына прадстаўляе найбольшую цэннасьць.

Што такое цэннасьць? Што зьяўляецца гістарычнымі цэннасьцямі? Дзе мерка ацэнак? У чым мэта грамадзкага разьвіцьця? Ці ня столькі будзе ацэнак, колькі ў грамадзтве кляс (самае меншае)? Ці не выдае кожная кляса свае мэты за мэты грамадзтва? Соцыяльныя ацэнкі суб'ектыўны. Няма ніякіх бязумоўных і абсолютных мэт і цэннасьцяй. Стоячы на выказаным пункце погляду, немагчыма адзіная навука аб грамадзтве. Можна пабудаваць колькі заўгодна соцыолёгій у залежнасьці ад прынятай мэты і крытэрыя ацэнак. Зноў паўтараем, самі мэты і ацэнкі падлягаюць навуковаму (прычыннаму) тлумачэньню. Тэлеолёгічная „навука“ не навука, якая імкнецца зразумець рэчаіснасьць такою, якая яна ёсьць, а спосаб выхаваньня ў адпаведнасьці *з мэтамі* пануючай клясы, спосаб, якім прышчэпліваюцца пажаданыя гэтай клясе *ацэнкі*.

Мы ў праве такім чынам заключыць, што адмаўленьне законамернасьці і прычыннасьці ў гісторыі настолькі-ж нягрунтоўна, як і ў іншых навуках. У нас няма падстаў адмаўляцца ад адзінства навуковай мэтодолёгіі. Задачы і мэтоды навук аб грамадзтве такія-ж, як і навук аб прыродзе. Ды інакш і быць не магло. Грамадзтва ня з неба скінулася. Яно зьяўляецца

продуктам разьвіцьця прыроды, яно зьявілася на пэўнай ступені эволюцыі органічнага сьвету. Грамадзтва знаходзіцца ў самай шчыльнай узаемасувязі з прыродай і ня мысьліцца па-за гэтай сувязьзю. Яно, натуральна, настолькі-ж законамерна, як і ўвесь сусьвет, часткаю і зьвяном якой грамадзтва зьяўляецца.

Аб выпадковасьцях у гісторыі можна паўтарыць усё, што гаварылася аб выпадковасьцях наогул. Ніякіх бяспрычынных падзей у ёй ня бывае. Выпадковымі называюцца тыя падзеі, неабходнасьць якіх нікім не ўсьвядомлена, прычыны якіх нам незразумелы, надыход якіх для нас нечаканы. Гісторыя здаецца поўнай выпадковасьцяй з прычыны параўнальна нявысокага разьвіцьця гістарычнай навукі і дзякуючы надзвычайна складанай абумоўленасьці гістарычных падзей. Грамадзкія падзеі складаюцца ў выніку настолькі складанага злучэньня прычын, мэханізм іх настолькі заблытаны, што зразуменьне іх неабходнасьці вельмі цяжка, некаторыя прычыны выпадаюць з поля агляду дасьледчыка, у выніку чаго процэс набывае выгляд выпадковага. Гэта—не ўласьцівасьць грамадзкага жыцьця, а абмежаванасьць яго разуменьня. Другога роду выпадковасьці, якія наглядаюцца ў гісторыі, таксама не адкідаюць яе законамернасьці. Такія, напрыклад, выпадковыя, не неабходныя зьмены ў грамадзтве, што зьяўляюцца ў выніку землятрасеньня, сушы ці эпідэміі. Выпадкова прайграная бойка, гавораць, разбурае дзяржаву, якая вякамі складалася, і г. д. Што датычыць апошняга выпадку, то прычынай тут толькі па відочнасьці зьяўляецца выпадак. Калі выпадковая няўдача бойкі разбурае дзяржаву, то дзяржава мысьліцца настолькі гнілой, што можа разваліцца ў выніку аднэй (ды і ці выпадковай?) бойкі. Прычынай тут хісткасьць грамадзтва, якое рассыпаецца пры першым удары. Што датычыць іншых прыкладаў, дык мы ўжо маем магчымасьць гаварыць аб аналёгічных фактах у прыродазнаўстве, назваўшы іх „выпадковымі прычынамі", г. зн. якія ідуць не з унутраной неабходнасьці, а з знадворнай у адносінах да данай рэчы шэрагу прычын. Роля землятрасеньня ў адносінах да грамадзтва такая-ж, як і роля каменя ў адносінах да росту кораня, яна ўрываецца ва ўнутраное жыцьцё рэчаў, адхіляе іх ад уласнага шляху. Выпадковым тут называецца не бяспрычыннае, а скрыжаваньне незалежных прычынных шэрагаў. Сухазем'е настолькі-ж выпадкова для грамадзтва, як штучнае абваднеьне для глебы. Усё гэта крайне ўскладняе прадбачаньне, але ёсьць не адкіданьне прычыннасьці, а вынік таго, што няма нічога ізаляванага, незалежнага, самазалежнага (самодовлеющего) у прыродзе. Гісторыя і ў гэтых адносінах не зьяўляецца выключэньнем. Адзначым яшчэ, што станам грамадзтва абумоўліваецца, як адбіваецца гэта спэцыфічная падзея на яго лёсе, у якой ступені грамадзтва можа супроцьстаяць яму, адбіць яго, паправіцца, аднавіць роўнавагу. Разгледзім яшчэ адну зданьнёвую (кажущуюся) труднасьць, якая можа ўзьнікнуць у чытача. Ці ня цягне за сабою прызнаньне гістарычнай

законамернасьці адмаўленьня ад грамадзкай дзейнасьці і змаганьня? Нашто змагацца за ператварэньне грамадзтва, калі ўсё адбудзецца законамерна „само сабою“? Аднак, прызнаньне соцыяльнага дэтэрмінізму ні ў якім выпадку ня прыводзіць да грамадзкай бязьдзейнасьці і фаталізму. Бо ня робяць-жа на падставе законамернасьці прыроды вываду аб непатрэбнасьці апрацоўкі зямлі, культываваньня расьлін і жывёлы, тэхнолёгіі і г. д. Наадварот, пазнаньне законаў толькі і робіць магчымым плянамернае выкарыстаньне іх, плянамерны ўплыў на прыроду. Таксама разуменьне законаў грамадзкага разьвіцьця робіць магчымым сьвядомы ўплыў на ход грамадзкага разьвіцьця. Далей, ці адбывалася-б гісторыя „сама сабой“, калі-б людзі застылі ў бязьдзейнасьці? Не, ня было-б гісторыі. Бо грамадзкае жыцьцё ёсьць нішто іншае, як дзейнасьць людзей, яе законамернасьць—законамернасьць гэтай дзейнасьці, і па-за гэтай дзейнасьцю няма гісторыі. „Ці настаў-бы соцыялізм, калі-б пролетарыят не змагаўся за яго надыход?“—Настолькі-ж недарэчнае пытаньне, як „з якою хуткасьцю ўпадзе кніга на падлогу, калі яна будза нярухома ляжаць на стале?“ Соцыялізм няўхільна настане таму, што пролетары неабходна будуць змагацца за яго наступленьне,—такім павінен быць адказ. Разумець гістарычны процэс, адцягнуўшыся ад змаганьня і дзейнасьці, нямысьліма таму, што яно і складае гістарычны процэс. Задача ў тым, каб зразумець гэтае змаганьне ў яго законамернасьці і выкарыстаць для гэтага змаганьня веданьне грамадзкіх законаў. Падобна таму, як голад ня пройдзе ад таго, што я буду ведаць яго прычынную неабходнасьць, таксама ня зьнікнуць стымулі грамадзкіх рухаў ад сьвядомасьці іх удзельнікаў. Веданьне законаў грамадзтва ўвальле новую бадзёрасьць і заўзятасьць, калі гэтыя законы прадракаюць перамогу. Такім чынам, дапушчэньне бязьдзейнасьці людзей—дапушчэньне недарэчнае, бо іх інтарэсы, і імкненьні і намаганьні, уваходзяць неабходным складаным элемэнтам у гістарычную законамернасьць. Калі з складанага хэмічнага злучэньня выключыць адзін элемэнт, распадзецца і самае злучэньне.

Канчаючы наш нарыс, спынімся на пытаньні аб магчымасьці прадбачаньня і ўладаньня ў грамадзкім жыцьці.

Веданьне законамернасьці зьяўляецца ўмоваю прадбачаньня. Вучоныя, скэптычна настроеныя ў адносінах да дэтэрміністычнай соцыолёгіі, у праве вымагаць ад марксыстых ня толькі тэорэтычнага, але і практычнага апраўданьня сваёй мэтодолёгіі апраўдаўшых сябе навуковых прадбачаньняў у сфэры грамадзкага жыцьця. Пры гэтым звычайна паказваюць на недакладнасьць, недасканаласьць соцыяльных прадбачаньняў, у адрозьненьне ад строгіх прадраканьняў, напрыклад, астрономіі.

Ня трэба раўняць у гэтых адносінах прадбачаньняў фізыкаў ці хэмікаў з гістарычнымі. Бо першыя-ж заўсёды загадзя агаварваюць усе ўмовы процэсу. Пры такой вось тэмпэратуры, пры такім вось ціску і г. д.

адбудзецца тое і тое,—гаворыць фізык. Калі-б ён ня ведаў усіх умоў, прадбачаньне было-б немагчыма. Часта ўясьненьне ўсіх умоў ня менш трудна, чым устанаўленьне абстрактных законаў. Хоць мэханіку былі-б у дакладнасьці вядомы ўсе законы руху цела, якое круціцца вакол сваёй восі, ён ня мог-бы практычна, конкрэтна прадрачы, ці выпадзе пры руху монэты „арол“ ці „рэшка“, бо практычна ён ня можа ўзяць дакладна пад увагу ўмоў досьледу. Вось чаму веданьне законаў, будучы ўмоваю прадбачаньня, яшчэ практычна не забясьпечвае магчымасьць прадбачаньня ва ўсіх выпадках. Далей. Ці так дакладны прадбачаньні прыродазнаўчых навук, як прынята думаць. Ці дасканалы прадраканьні, напрыклад, у мэдыцыне ці нават мэтэоролёгіі? Зразумела, не. У большасьці прыродазнаўчых навук, на вялізарнай колькасьці зьяў, прадбачаньне, пры сучасным стане навукі, або зусім немагчыма, або ня зусім будзе пэўна і дакладна. Чым больш складаны вывучаныя данай навукай об'екты, чым больш многабаковы іх прычыны, чым практычна цяжэй іх дакладны падлік і падбор, тым менш даступным становіцца іх прадбачаньне. „Мы бачым,—піша адзін з сучасных прыродадасьледчыкаў,—воблака ў яго пэўнай, але прыцудлівай і няправільнай форме; у нас, дапусьцім, існуе пераконаньне, што яго сапраўдная форма зьяўляецца вынікам шматлікіх фізычных сіл, пэўнай велічыні, якія дзейнічаюць паводле пэўных законаў; але з тэй прычыны, што форма воблака залежыць ад тэмпэратуры, руху паветра, вылучэньня сьвятла, наяўнасьці электронаў у паветры, сілы цяжэньня і многага іншага, дык становіцца ўжо немагчымым вытлумачыць нават форму воблака, г. зн. колькасна ўстанавіць усе сілы, ужытыя на яго ўтварэньне“. Калі так стаіць справа ў прыродазнаўчых навуках, то, зразумела, прадбачаньне ў грамадзкіх навуках, дзе перапляценьне прычын, якія аформляюць падзеі ў шмат раз складней, зьяўляецца яшчэ больш цяжкім. Але труднасьць—не прынцыповы довад і не азначае немагчымасьці. І хоць проблемы гістарычнага прадбачаньня—раўнаньне з многімі невядомымі, хоць фактары грамадзкага жыцьця ўнікаюць ад дакладнай справаздачы, ня гледзячы на гэта, марксызм даў шэраг бліскучых гістарычных прадбачаньняў, якія цалкам апраўдаліся наступным ходам гісторыі. Напомнім некаторыя найбольш монумэнтальныя факты гэтага роду: прадраканьне разьвіцьця капіталістычных адносін у Расіі ў спрэчцы супроць народнікаў, якія гаварылі аб асобным шляху эволюцыі расійскай гаспадаркі; прадраканьне імпэрыялістычнай вайны, як няўхільнага падарожніка імпэрыялізму; прадбачаньне гегемоніі пролетарыяту ў расійскай рэволюцыі; павольнае, але вернае наступленьне соцыялізму, якое збываецца на нашых вачох, і г. д. Прадбачаньні больш прыватныя, якія адносяцца да палажэньня асобных кляс у розныя гістарычныя этапы і г. д., можна бяз труднасьці прывесьці ў вялікай колькасьці.

Застаецца апошняе пытаньне—аб магчымасьці аўладаньня грамадзкімі зьявамі, аб практычным прыстасаваньні ведаў соцыяльных законамернасьцяй.

Найвялікшай навуковай заслугай Маркса было ператварэньне соцыялістычнай тэорыі ў навуку. Сама навука Маркса была гістарычнай няўхільнасьцю, якая абумоўлівалася сучаснымі яму соцыяльна-экономічнымі адносінамі і ўзросшым на іх глебе навуковым прогрэсам. Цікава ў гэтай пэрспэктыве параўнаць тэорыю Маркса з тэорыяй выдатнага тэорэтыка прогрэсыўнай ангельскай буржуазіі XVII сталецьця Бэкона. Тэорыі абодвух мысьліцеляў мелі яскрава-выяўлены і сьвядомы, практычны, дзейны ўхіл. Бэкон гаварыў, што веды і магутнасьць чалавека ўва ўсім адпавядаюць адно другому. Маркс лічыў задачай філёзофіі ня толькі вытлумачваць, але і пераўтвараць сьвет. Абодва мысьліцелі выражалі вялізарныя творчыя заданьні, якія стаялі перад тымі клясамі, прадстаўнікамі якіх яны былі. Але ў той час, як дзейнасьць (действенность) філёзофіі Бэкона, у адпаведнасьці з тэхнічнымі задачамі буржуазіі, накірована на аўладаньне сьветам прыродных зьяў, імкнецца да магутнасьці чалавека ў сфэры сіл прыроды, задачай Марксавай тэорыі, у адпаведнасьці з рэволюцыйнымі імкненьнямі пролетарыяту, была перамога і пераўтварэньне існуючых грамадзкіх адносін, вызваленьне чалавецтва з-пад прыгнечаньня соцыяльнага. Тэорыя Маркса ператварыла нявыразныя мары аб соцыялізьме ў строга навуковае прадбачаньне яго і разуменьне шляху да яго. Соцыялізм з мары абярнуўся ў неабходнасьць, для зьдзяйсьненьня якога трэба ня марыць, а дзейнічаць. Марксызм абярнуў політыку ў свайго роду тэхнолёгію соцыяльнай барацьбы. Навуковая політыка—ёсьць дзейнасьць, накіраваная на пераўтварэньне грамадзтва і аснованая на разуменьні яго законамернасьцяй і прадбачаньні гістарычных шляхоў. Усё роўна, як прыродазнаўства не адкідае законаў прыроды, а прыстасоўваецца да іх, ці прыстасоўвае іх да нас, супроцьстаўляючы адным сілам прыроды другія, таксама, як наша політычная дзейнасьць не прэтэндуе на адвольны рух кола гісторыі, а выходзіць з цьвярозага падліку соцыяльнай сапраўднасьці і аналізу ўласьцівых ёй законаў, дасягаючы такім шляхам максымальнага выніку. І ў нашым экономічным будаўніцтве, і ў стратэгіі міжклясавых суадносін, і ва ўплыве на грамадзкую псыхолёгію марксыстыя кіруюцца разуменьнем грамадзкіх законамернасьцяй, дапасоўваючы іх у адпаведнасьці з інтарэсамі пролетарыяту. Зразумела, поўнасьцю разьвінуць сьвядомае і плянамернае рэгуляваньне грамадзкіх сіл, пераўтварыць грамадзкае жыцьцё з стыхіі варожай чалавецтву ў прыладу чалавечага росквіту стане магчымым толькі тады, калі руль грамадзтва пяройдзе ў рукі клясы—насіцеля соцыялізму, калі пролетарыят пераможа. Соцыялізм азначае ня толькі росквіт магутнасьці чалавека ў адносінах да прыроды, але і падпарадкаваньне свайму рэгуляваньню адносін, якія ўтвараюцца ў грамадзтве. Вось у якім сэнсе гавораць аб пераходзе ад капіталізму да організаванага бясклясавага грамадзтва, як аб скачку з царства неабходнасьці ў царства свабоды.

*(Працяг будзе).*

# НЕКАТОРЫЯ ПРОБЛЕМЫ ПСЫХОЛЁГІІ Ў АСЬВЯТЛЕНЬНІ МАРКСА І ЭНГЕЛЬСА

**П. Панкевіч**

У цяперашні час назіраецца ажыўленасьць навуковай работы па вывучэньні паводзін чалавека. У гэтай галіне ўжо сабраны вельмі багаты экспэрымэнтальны матэрыял, ужо зараз маецца некалькі самастойных навук, якія займаюцца вывучэньнем аднаго і таго самага об'екта—паводзін чалавека, ужываючы рознастайныя мэтоды пры наяўнасьці рознай прынцыповай устаноўкі. Галоўныя з гэтых навук — рэфлексолёгія, біопсыхолёгія, біо-хэвіорызм (тэорыя паводзін) і рэактолёгія. Апрача таго, існуе яшчэ эмпірычная псыхолёгія, якая, будучы адным з сколкаў буржуазнай ідэолёгіі, паступова зжывае сябе, як азначаная сыстэма, нязадольная ўсебакова карыстацца об'ектыўным мэтодам дасьледаваньня.

Кожная з вышэйпамянёных навук нярэдка адкрыта заяўляе аб сваёй солідарнасьці з марксызмам. Але ня кожная з іх зьяўляецца сапраўды паступовай да канца навукай у адносінах правільнага карыстаньня марксыцкім мэтодам. Вядомы рэфлексолёг акадэмік В. М. Бехтерев сумесна з д-рам Дуброўскім піша: „Рэфлексолёгія, якая заваявала для сябе асаблівае палажэньне ў вывучэньні асобы чалавека і якая ідзе на зьмену старой псыхолёгіі, выходзіць з матэрыялістычных прадпасылак і таму павінна солідарызавацца ў сваіх пабудовах з марксыцкім вучэньнем, тады як суб'ектыўная псыхолёгія, якая абапіраецца на ідэалістычную філёзофію, зьяўляецца ідэалістычным разьвіцьцём апошняе"[1]).

Рэфлексолёгія досыць адкрыта спрабуе стать на шлях дыялектычнага матэрыялізму, але гэта ёй не заўсёды ўдаецца.

Таксама і рэактолёгія, на чале якое ў нас стаіць проф. Корнілов, абвяшчае сябе адзіна марсыцкай навуковай псыхолёгіяй, але ў той-жа час яна дапушчае цэлы шэраг спрэчных пытаньняў з пункту гледжаньня марксызму (напр., у ацэнцы тэорыі домінанты, у азначэньні рэактолёгіі, як часткі фізыкі, і інш.[2]).

Але што асабліва дзіўна, дык гэта тое, што ў апошнія часы маскай марксызму пакрываецца нават эмпірычная псыхолёгія, якая па істоце зьяўляецца буржуазнай суб'ектыўнай псыхолёгіяй. У асобе Челпанова

---

[1]) „Под знаменем марксизма" за 1926 г., № 7-8, стар. 69-70.

[2]) Нясумненна, што рэактолёгія зьяўляецца ўсё-ткі такою навукаю, якая блізка стаіць да марксызму.

гэта школа заяўляе: „Маркс у сваіх філёзофскіх пабудовах стаяў на пункце гледжаньня *эмпірычным*. Ён быў *эмпірычны дуалісты*. Для яго, з эмпірычнага пункту гледжаньня, зьявы псыхічныя і зьявы матэрыяльныя прэдстаўляюць *два* рознастайныя сьветы зьяў"[1]). Далей Челпанов паказвае, што псыхолёгія ёсьць навука эмпірычная і, як такая, „па прадпасылках тожсамая з псыхолёгіяй Маркса". Няма чаго і гаварыць, што гэта заява Челпанова ані трошкі не адпавядае сапраўднасьці. *Маркс ня быў і ня мог быць эмпірычным дуалістым*. Але выступленьне Челпанова характэрна ў тым сэнсе, што яно паказвае, як нават буржуазныя ідэолёгі, пазбаўленыя сваіх прывілеяў і унівэрсытэтцкіх катэдраў у Савецкім Саюзе, спрабуюць афарбавацца ў колер марксызму, каб набыць магчымасьць пашыраць свае ранейшыя погляды ва ўмовах новай абстаноўкі. А ў нас популярней марксызму, зразумела, нічога ня знойдзецца. Лжэ-марксыстыя павінны быць выкрыты. Для правільнай ацэнкі сучасных кірункаў у псыхолёгіі канечна патрэбна пільна вывучыць псыхолёгічныя погляды Маркса і Энгельса.

## Псыхолёгія, як навука

Струмінскі ў сваім артыкуле: „Марксызм у сучаснай псыхолёгіі"[2]), пярэчачы проф. Корнілову, даводзіць, што псыхолёгія, як самастойная навука, існаваць ня можа. Яна павінна займацца вывучэньнем такога прадмету, які ня мае ўласьцівасьцяй рэчаіснасьці. Псыхіка, як такая, не рэальна. „Якаснасьць псыхікі,—кажа Струмінскі,—ня ёсьць асаблівага роду рэальнасьць, а толькі сваеасаблівае выражэньне адзінай і асноўнай рэальнасьці прыроды, да асноўных форм якой і павінна быць зьведзена псыхіка"[3]). Выражэньнем сапраўднай рэальнасьці ў даным выпадку зьяўляюцца паводзіны жывое істоты.

Далей Струмінскі паказвае, што ніхто з матэрыялістых не разглядае псыхіку, як асаблівую рознастайнасьць рэальнасьці. Каб пацьвердзіць свае мысьлі, ён спасылаецца на Энгельса, які, аналізуючы „розныя формы рухаў, рэальна даных у сьвеце і вывучаемых паасобнымі навукамі, ні аб псыхіцы, як асобнай форме рэальнасьці, ні аб псыхолёгіі, як навуцы, якае вывучае гэту асобную рэальнасьць, не ўспамінае"[4]). Гэта зусім зразумела! Калі, па думцы Струмінскага, псыхіка, як рэальнасьць, ня існуе, то ня можа існаваць і псыхолёгія, як навука, бо для яе няма прадмету для вывучэньня.

Няма чаго і гаварыць, што пункт гледжаньня Струмінскага няправільны. Ён зрабіў няверныя вывады, скажаючы вучэньне Маркса і Энгельса. Сапраўды-ж, псыхіка, як асаблівая якасьць, адменная ад

[1]) Г. Челпанов. „Психология и марксизм". Выд. „Русский книжн.". Масква, 1924 г., стар. 9.
[2]) Гл. „Под знаменем марксизма" №№ 3 і 4-5, за 1926 г.
[3]) Там-жа, стар. 171.
[4]) Там-жа, стар. 172.

фізыолёгічных процэсаў, існуе, але яна існуе не самастойна, ня ў форме асаблівай паасобнай субстанцыі, а ў форме суб'ектыўнага выражэньня об'ектыўных фізыолёгічных процэсаў жывога організму. На гэтым пытаньні мы падрабязна спынімся ніжэй. Цяпер-жа трэба адзначыць, што гэты факт рэальнасьці псыхікі прызнавалі Маркс і Энгельс. Яны даволі часта ў сваіх творах успамінаюць навуку аб мысьленьні ці, як мы кажам, псыхолёгію. Гэта навука аб мысьленьні разглядалася імі як мэтодычная навука. „Тэорытычнае мысьленьне кожнае эпохі, а стала быць, і нашай эпохі,—піша Энгельс,—гэта—гістарычны продукт, які ў розныя часы прымае вельмі розныя формы і таму атрымлівае вельмі розны зьмест. Стала быць, *навука аб мысьленьні, як і ўсякая іншая навука, ёсьць гістарычная навука, навука аб гістарычным разьвіцьці чалавечага мысьленьня* [1]). І гэта мае значэньне і для практычнага дапасаваньня мысьленьня ў эмпірычных галінах, бо, папершае, тэорыя законаў мысьленьня зусім ня ёсьць якаясьці раз назаўсёды ўстаноўленая „вечная ісьціна“, як гэта зьвязвае са словам „лёгіка“ філістэрская мысьль“[2]). Такім чынам, Энгельс азначана сьцьвярджае, што навука аб мысьленьні існуе як рэальнасьць і што яна займаецца вывучэньнем гістарычнага разьвіцьця чалавечага мысьленьня.

У якім сэнсе навука аб мысьленьні зьяўляецца гістарычнай? Тут высоўваецца пытаньне аб мэтодолёгіі. Гэта навука павінна карыстацца гістарычным мэтодам вывучэньня. Кожная зьява павінна разглядацца ўсебакова, з пункту гледжаньня яе разьвіцьця і конкрэтнай сувязі з другімі зьявамі. Таму-та пры вывучэньні паводзін чалавека ня можа быць абсолютных супроцьпастаўленьняў прыродазнаўства грамадзкім навукам. „Мы ведаем толькі адну адзінаю навуку, навуку гісторыі,—пішуць Маркс і Энгельс.—Гісторыю можна разглядаць з двух бакоў і дзяліць на гісторыю прыроды і гісторыю людзей. Але нельга аддзяліць адзін ад другога гэтыя два бакі: пакуль існуюць людзі, гісторыя прыроды і гісторыя людзей абумоўліваюць адна другую“[3]). Чалавека трэба вывучаць у процэсе яго разьвіцьця з двух бакоў: папершае, з пункту гледжаньня яго прыроды, біолёгічнай існасьці, і падругое, з пункту гледжаньня на яго зьменлівых грамадзкіх адносін. Немагчыма вытлумачыць істоту чалавечага мысьленьня, калі-б дасьледца падышоў да пытаньня аднабока і стаў займацца вывучэньнем толькі біолёгічнай існасьці чалавека ці толькі ўплываў грамадзкіх адносін. Асноўнай прадпасылкай нашага тэорытычнага мысьленьня зьяўляецца адзінства законаў прыроды, законаў грамадзтва і законаў мысьленьня. Аб гэтым Энгельс кажа так: „Над усім нашым тэорытычным мысьленьнем пануе з абсолютнай сілай той факт, што наша суб'ектыўнае мысьленьне і об'ектыўны сьвет падлягаюць

[1]) Курсіў наш. П. П.

[2]) Архив Маркса и Энгельса, под ред. Рязанова, кн. 2 ая, стар. 125.

[3]) Там-жа, стар. 214.

адным і тым самым законам і што таму абодва яны ня могуць супярэчыць адзін другому ў сваіх канчатковых выніках, а павінны ўзгадняцца паміж сабою. Факт гэты зьяўляецца бесьсьвядомай і бязумоўнай прадпасылкай нашага тэорытычнага мысьленьня“ [1]). Адзінства гэтых законаў выражаецца ў тым, што яно, гэта адзінства, прадстаўляе сабою азначаную законамернасьць дыялектычнага працэсу разьвіцьця адзінай субстанцыі—матэрыі ў рознастайных яе формах існаваньня. Гэта мысьль тлумачыцца Энгельсам больш конкрэтна ў другім месцы, дзе ён разглядае дыялектыку, як навуку аб найбольш агульных законах усякага руху. Ён паказвае, што законы дыялектыкі *„павінны мець сілу для руху як у галіне фізычнай прыроды і чалавечай гісторыі, так і для руху мысьленьня“*[2]). Далей Энгельс гаворыць так: „...пад хаосам безьлічных зьмен у прыродзе пануюць тыя-ж дыялектычныя законы руху, што і пад зданьлівай выпадковасьцю гістарычных падзей; законы, якія праходзяць чырвонаю пасмаю цераз гісторыю разьвіцьця чалавечай мысьлі і паступова прасякаюць у сьвядомасьць мысьлячых людзей“ [3]). Цяпер ясна, у чым іменна месьціцца адзінства законаў суб'ектыўнага мысьленьня і об'ектыўнага сьвету: гэтыя законы зьяўляюцца дыялектычнымі законамі руху матэрыі.

Аднак, разам з адзінствам законаў прыроды, грамадзтва і мысьленьня існуе паміж імі і глыбокая розьніца. Прырода разьвіваецца ня так, як разьвіваецца грамадзтва, а гэта апошняе разьвіваецца ня так, як разьвіваецца мысьленьне, законы якога ў сваю чаргу адзначаюцца ад законаў разьвіцьця прыроды. Суб'ектыўнае мысьленьне мае асобныя законы разьвіцьця, якія, аднак, абумоўліваюцца перш за ўсё ўплывам грамадзкіх адносін. Адсюль вывад: навука аб паводзінах чалавека (і ня толькі чалавека, але і жывёл) павінна абапірацца на дыялектычны мэтод дасьледаваньня. Псыхолёгію чалавека трэба вывучаць у сувязі з законамі прыроды і грамадзтва, разглядаючы іх у асьвятленьні адзінства процілегласьцяй.

Чалавек ёсьць продукт грамадзкіх адносін. Яго паводзіны азначаюцца акалічнасьцямі соцыяльнага асяродзьдзя. Адсюль выплывае, якім іменна спосабам пры экспэрымэнтальных дасьледваньнях павінна карыстацца навуковая псыхолёгія. Апошняя павінна вывучаць чалавека не ў абстаноўцы яго штучнай ізоляцыі ад звычайных умоў жыцьця, а ў натуральнай атмосфэры соцыяльнага асяродзьдзя: „Калі прырода прызначыла чалавека да грамадзкага жыцьця,—кажа Маркс,—то, стала быць, толькі ў грамадзтве выяўляе ён сваюісьцінную прыроду. Сілу яго прыроды трэба вывучаць не на асобных асобах, а на цэлым грамадзтве“ [4]).

---

1) Архив Маркса и Энгельса, под ред. Рязанова, кн. 1-ая, стар. 135.

2) Там-жа, стар. 135. Курсіў наш. П. П.

3) Там-жа, стар. 371.

4) К. Маркс аб францускім матэрыялізьме XVIII ст. Гл. кнігу Фр. Энгельса: „Людвиг Фейербах“. Выд. Наркамасьветы, 1919 г., стар. 54.

Тут ясна выяўлены дзьве мысьлі. Папершае, Маркс, нясумненна, кажа аб канечнай патрэбе вывучаць паводзіны чалавека ня столькі ў лябораторнай абстаноўцы, колькі ў натуральных умовах яго грамадзкага жыцьця. Падругое, экспэрымэнтальнае дасьледаваньне павінна быць абстаўлена так, каб вывучэньне індывідуальных паводзін чалавека пачыналася з вывучэньня колектыўных паводзін, бо толькі ў колектыўных паводзінах людзей выказваецца сіла чалавечай прыроды. Само па сабе зразумела, што калі будуць вывучаны колектыўныя паводзіны, гэтым самым раскрыецца асаблівасьць індывідуальных паводзін кожнага члена данага грамадзтва.

Маркс і Энгельс настойліва падкрэсьліваюць прынцып: „не сьвядомасьць азначае жыцьцё, а жыцьцё азначае сьвядомасьць“. Яны паказваюць, што „пры першым спосабе разгляданьня выходзяць з сьвядомасьці, як з жывога індывіда,—пры другім, адпавядальным рэальнаму жыцьцю, выходзяць з самых рэальных, жывых індывідаў і разглядаюць сьвядомасьць, толькі як іх сьвядомасьць“. „Гэты спосаб разгляданьня не пазбаўлены прадпасылак...—далей кажуць Маркс і Энгельс.—Прадпасылкамі яго зьяўляюцца людзі, узятыя не ў якой-небудзь фантастычнай замкнёнасьці і ўстаноўленасьці, а ў сваім рэальным, эмпірычна наглядным процэсе разьвіцьця, пры пэўных умовах. Калі толькі выяўлены гэты дзейны процэс жыцьця, гісторыя перастае быць колекцыяй мёртвых фактаў, як мы гэта бачым у ўсё-ж яшчэ абстрактных (органічных) эмпірыкаў, або выабражаемай чыннасьцю выабражаемых суб'ектаў, як у ідэалістых“ [1]). З прычыны-ж таго, што жыцьцё азначае сьвядомасьць, патрэбна спачатку вывучыць конкрэтныя ўмовы жыцьця для таго, каб потым азначыць існасьць мысьленьня. Для чалавека такімі ўмовамі зьяўляецца соцыяльнае асяродзьдзе. Толькі ва ўмовах гэтага асяродзьдзя, як паказана вышэй, ён выяўляе сілу сваёй прыроды, істотным выражэньнем якой зьяўляецца яго *актыўная чыннасьць*. Маркс і Энгэльс крытыкуюць прыродадасьледцаў і філёзофаў за тое, што яны не звярачалі ўвагі на дасьледваньне ўплыву дзейнасьці чалавека на яго мысьленьне. Процістаўячы мысьль прыродзе, буржуазныя вучоныя ня ўлічвалі таго, што „істотнейшай і першай асновай чалавечага мысьленьня зьяўляецца якраз зьмена прыроды чалавекам, а не адна прырода, як такая, і розум чалавека разьвіваўся пропорцыянальна таму, як ён навучаўся зьмяняць прыроду“ [2]). На жаль, дасьледцы і да гэтага часу ня ўлічаюць гэтага факту. Нярэдка экспэрымэнты над чалавекам робяцца ў лябораторнай абстаноўцы, у якой ён ня можа цалкам выявіць сілу сваёй прыроды, замест таго, каб вывучаць чалавека ў стане яго актыўнай чыннасьці, якая выяўляецца толькі ў грамадзтве.

---

[1]) Архив Маркса и Энгельса, под ред. Рязанова, кн. 1-ая, стар. 216.

[2]) Там-жа, кн. 2-ая, стар. 25.

Зразумела, адмовіцца зусім ад лябораторнага мэтоду пры вывучэньні чалавечых паводзін нельга і немэтазгодна. Але гэты мэтод можа быць толькі дадаткам да натуральнага экспэрымэнту, пад якім трэба разумець вывучэньне чалавека ў натуральнай, звычайнай абстаноўцы яго грамадзкай і вытворчай чыннасьці. Маркс і Энгельс глыбока пераконаны ў тым, што „толькі людзі, якія разьвіваюць сваю матэрыяльную вытворчасьць і свае матэрыяльныя зносіны, зьменьваюць у гэтай сваёй чыннасьці таксама сваё мысьленьне і продукты свайго мысьленьня“ [1]). Каб вывучыць існасьць мысьленьня і процэс яго зьмены, трэба зьвязваць экспэрымэнт з процэсам грамадзкае працы, у якім заняты экспэрымэнтуемы. „Адно эмпірычнае назіраньне ніколі ня можа давесьці ў выстарчальнай ступені канечнасьці“—кажуць Маркс і Энгельс... „Але *давесьці канечнасьць месьціцца ў чалавечай чыннасьці, у экспэрымэнце, у працы*“... [2]) Абумоўленасьць зьяў, іх законамернасьць можа быць праверана з дапамогаю чыннасьці чалавека. „Чыннасьць чалавека дае магчымасьць праверкі прычыннасьці...—піша Энгельс.—Дзякуючы гэтаму, дзякуючы чыннасьці чалавека і ствараецца прадстаўленьне аб *прычыннасьці*, прадстаўленьне аб тым, што адзін рух ёсьць *прычына* другога“ [3]).

Такім чынам, экспэрымэнт, накіраваны на вывучэньне паводзін чалавека ў процэсе працы, зьяўляецца найлепшым мэтодам навуковага дасьледаваньня. Выходзячы з гэтых меркаваньняў, Маркс і Энгельс катэгорычна заяўляюць: „...мы будзем выходзіць з рэальна дзейных людзей, спрабуючы вывесьці з іх рэальнага жыцьцёвага процэсу таксама і разьвіцьцё ідэолёгічных рэфлексаў і адбіваньняў гэтага жыцьцёвага процэсу“ [4]).

Такім чынам, навуковая псыхолёгія, якая карыстаецца марксыцкім мэтодам дасьледаваньня, павінна будавацца на наступных прынцыпах: паводзіны чалавека вывучаюцца з пункту гледжаньня дыялектычнага процэсу разьвіцьця ў сувязі з біолёгічнымі і соцыяльнымі фактарамі ўплыву; об'ектам вывучэньня павінны быць, галоўным чынам, колектыўныя паводзіны людзей, у процэсе якіх выяўляецца ісьцінная прырода індывіда, выходным пунктам навуковай псыхолёгіі зьяўляецца не абстрактны адцягнены чалавек, а рэальна дзейныя людзі; чалавек разглядаецца ў конкрэтнай абстаноўцы яго грамадзкага жыцьця; экспэрымэнт праводзіцца, галоўным чынам, над *дзейным* чалавекам, якім ён бывае ў процэсе працы.

У сваёй брошуры: „Психология или рефлексология“ Челпанов паказвае, што ён зьяўляецца ідэалістым у філёзофіі, але матэрыялістым

---

[1]) Архив Маркса и Энгельса, под ред. Рязанова, кн. 1-ая, стар. 216.

[2]) Курсіў наш. П. П.

[3]) Архив Маркса и Энгельса, под ред. Рязанова, кн. 2-ая, стар. 25.

[4]) Там-жа, кн. 1-ая, стар. 216.

у псыхолёгіі [1]). Тут выразна працістаўіцца філёзофія псыхолёгіі і выказваецца думка, быццам-бы псыхолёгія можа абмежавацца толькі зьбіраньнем матэрыялу бяз сыстэмы тыпізацыі яго пад вуглом погляду азначанай філёзофскай сыстэмы. Такі погляд асабліва часта сустракаецца сярод прыродадасьледцаў, пераконаных ідэалістых ці віталістых, якія тым ня менш здабываюць масу карыснага матэрыялу дзякуючы сваім матэрыяльным адшуканьням. Але сыстэматызаваць і абагуліць гэты матэрыял у духу навуковых вывадаў яны ня могуць, бо не прызнаюць дыялектычнага матэрыялізму, без якога немагчымы ніякія навуковыя абагульненьні. Таму Маркс і Энгельс рашуча выступалі супроць эмпірыкаў, крытыкуючы іх няправільны падыход да вывучэньня рэчаіснасьці. „Эмпірычнае прыродазнаўства,—піша Энгэльс,—назьбірала такую бязьмерную масу станоўчага матэрыялу, што канечная патрэба сыстэматызаваць яго ў кожнай паасобнай галіне дасьледаваньня і разьмясьціць з пункту гледжаньня ўнутраное сувязі стала неадхільнай. Так-жа сама стала няўхільным прывесьці паміж сабою ў правільную сувязь паасобыя галіны пазнаньня. Але, заняўшыся гэтым, прыродазнаўства пападае ў тэорытычную галіну, а тут мэтоды эмпірызму аказваюцца бясьсільнымі, тут можа дапамагчы толькі тэорытычнае мысьленьне. Але тэорытычнае мысьленьне зьяўляецца прыраджонаю ўласьцівасьцю толькі ў відзе здольнасьці. Яна павінна быць разьвіта, удасканалена, а для падобнае распрацоўкі ня існуе да гэтага часу аніякага іншага сродку, апрача вывучэньня гісторыі філёзофіі“[2]). Энгельс заклікае прыродадасьледцаў адмовіцца ад эмпірычнага мэтоду і перайсьці да такога экспэрымэнтальнага дасьледаваньня, пры якім шырака скарыстоўвалася-б гісторыя філёзофіі. Зразумела, гэта гісторыя філёзофіі павінна быць усвоена так, каб можна было дасканала аўладаць дыялектычным мэтодам дасьледаваньня. „Нельга цяпер узяць у рукі амаль ніводнай тэорытычнай кніжкі па прыродазнаўству,—далей кажа Энгельс,—каб не пераканацца, што самі прыродадасьледцы разумеюць, што яны пакутуюць ад гэтай блытаніны і няўвязнасьці, з якой ім не дае абсолютна аніякага выхаду модная, за пазваленьнем сказаць, філёзофія. І тут няма сапраўды іншага выхаду, няма ніякай магчымасьці дамагчыся яснасьці, калі не вярнуцца ў тэй ці іншай форме ад мэтафізычнага мысьленьня да дыялектычнага“[3]).

Калі асновапаложнікі марксызму кажуць аб тым, што трэба пры навуковым экспэрымэнце кіравацца прынцыпамі азначанай філёзофскай сыстэмы, маецца на ўвазе не мэтафізычная філёзофія, а дыялектычны матэрыялізм, „бо дыалектыка,—як кажа Энгельс,—гэта адзіны прыгодны

[1]) Г. Челпанов. „Психология или рефлексология“. В-ва „Русский Книжник“. Масква, 1926 г., стар. 30.

[2]) Архив Маркса и Энгельса, под. ред. Рязанова, кн. 2-ая, стр. 125.

[3]) Там-жа, стар. 129.

на вышэйшай ступені разьвіцьця мэтод мысьленьня“[1]). Тое, што сказана тут адносна прыродазнаўства, у роўнай ступені датычыцца і псыхолёгіі.

Патрабаваньне Маркса і Энгельса ўжываць дыялектычны мэтод у процэсе навуковага дасьледаваньня вырашае таксама проблему адносна індуктыўнага і дэдуктыўнага мэтоду ў псыхолёгіі. Эмпірызм іменна і характэрны тым, што ён карыстаецца толькі індуктыўным мэтодам, ганьбуючы дэдукцыяй. Маркс і Энгельс паказваюць, што навуковае дасьледаваньне ня можа супроцьстаўляць адзін з паказаных мэтодаў другому і опэраваць толькі індукцыяй. „Індукцыя і дэдукцыя,—піша Энгельс,— зьвязаны паміж сабою так-жа канечна, як сынтэз і аналіз. Замест таго, каб выхваляць адзін з іх да неба за кошт другога, лепей старацца ўжываць кожную на сваім месцы, а гэтага можна дамагчыся толькі ў тым выпадку, калі мець на ўвазе іх сувязь паміж сабою, іх узаемнае дапаўненьне аднае другою“[2]).

Марксыцкая навуковая псыхолёгія карыстаецца не індуктыўным і не дэдуктыўным мэтодам: яна карыстаецца мэтодам індуктыўна-дэдуктыўным. Іменна з гэтага і складаецца адна з асноўных адменнасьцяй яе ад эмпірычнай псыхолёгіі.

## Организм, як насіцель жыцьця

Не ўясьніўшы біолёгічнай існасьці чалавека, немагчыма зразумець асаблівасьць яго паводзін. Маркс і Энгельс не займаліся пытаньнямі біолёгіі, і таму цікавіліся імі, галоўным чынам, з пункту гледжаньня дапасаваньня дыялектычнага мэтоду ў прыродазнаўстве,—яны не даюць нам поўнай карціны вывучэньня прыроды чалавека. Затое мы знаходзім у іх вельмі цэнныя паасобныя заўвагі, якія дазваляюць уясьніць агульны погляд Маркса і Энгельса па пытаньні аб існасьці органічнага сьвету, а ў тым ліку і аб біолёгічнай існасьці чалавека.

Што прадстаўляе з сябе організм наогул? Гэта ёсьць вышэйшае адзінства руху і роўнавагі, формы і зьместу. Організм—гэта азначанае формаўтварэньне матэрыі. У імназіраецца бязупынны рух найдрабнейшых яе частак. У процэсе нормальнага пэрыоду жыцьця гэты рух частак мае сваім вынікам пастаянную роўнавагу організму, які знаходзіцца заўсёды ў руху. Аднак, роўнавага організму, як і наогул усякі стан пакою, зьяўляецца адносным і часовым. Без роўнавагі ня можа быць разьвіцьця жыцьця. „Без адноснага пакою,—кажа Энгельс,—няма разьвіцьця. Магчымасьць адноснага пакою цел, магчымасьць часовых станаў роўнавагі зьяўляецца істотнаю ўмоваю дыфэрэнцыяцыі матэрыі, а стала быць, і жыцьця“[3]). Будучы ў роўнавазе, організм знаходіцца ў стане

---

[1]) Архив Маркса и Энгельса, под ред. Рязанова, кн. 2-ая, стар. 6.
[2]) Там-жа, стар. 59.
[3]) Там-жа, стар. 23.

бязупыннага руху. Энгельс піша, што „расьліна, жывёла, кожная каморка ў кожны міг свайго жыцьця тожсамыя самі з сабою і ў той-жа час адменны ад саміх сябе“[1]). Гэта адбываецца дзякуючы ўсваеньню і выдзяленьню матэрый, дзякуючы крывязвароту, дыханьню, утварэньню і адміраньню каморак, дзякуючы таму, што ў організьме адбываецца бязупынны процэс молекулярных зьмен, якія ў сваёй злучнасьці „складаюць жыцьцё і ў падрахунку якіх выступае наглядна ў розных фазах жыцьця—эмбрыональнае жыцьцё, маладосьць, палавая сьпеласьць, процэс размножваньня, старасьці, сьмерці“[2]). Організм падлягае ўсякага роду ўплывам—мэханічным, фізычным і хэмічным, дзякуючы чаму і ў ім адбываюцца бязупынныя зьмены, якія модыфікуюць яго тожсамасьць.

Энгельс паказвае, што ва ўсёй органічнай прыродзе існуе тожсамасьць ці непарыўнасьць формы і зьместу. Было-б няправільна вывучаць ці толькі морфолёгічныя, ці толькі фізыолёгічныя асаблівасьці організму, бо і тыя і другія ўзаемна абумоўліваюць адны другіх. „Дыфэрэнцыяваньне формы (каморкі),—тлумачыць Энгельс,—абумоўлівае, дыфэрэнцыяваньне матэрыі ў мускуле, скуры, касьцёх, эпітэліі і г. далей., а дыфэрэнцыяваньне матэрыі абумоўлівае, у сваю чаргу, дыфэрэнцыяваньне формы“[3]). Вось чаму пры вывучэньні псыхолёгіі чалавека канечна патрэбна прымаць пад увагу адначасова яго і анатомічныя і фізыолёгічныя асаблівасьці, разглядаць яго ва ўсёй злучнасьці біолёгічных уласьцівасьцяй.

Організм прадстаўляе з сябе вышэйшае адзінства мэханічных, фізычных і хэмічных процэсаў, якія ня могуць быць падзелены, каб не парушыць гэтага адзінства. Мэханістычны матэрыялізм у сучасным прыродазнаўстве, паміж іншым, і робіць гэтую буйную памылку, што ён падыходзіць да вывучэньня жывога організму аднабока, бачачы ў ім пераважнасьць мэханічных процэсаў. Якраз Энгельс заяўляе наступнае: „Ні мэханічнае складаньне касьцей, крыві, храсткоў, мускулаў, тканак і г. д., ні хэмічнае—элемэнтаў не складае яшчэ жывёлы (з Гегеля). Організм ні просты, ні складаны, як-бы ён ні быў зложаны[4]). А ў другім месцы Энгельс піша: „...організм ёсьць, зразумела, вышэйшае адзінства, якое зьвязвае ў сабе ў адно цэлае мэханіку, фізыку і хэмію, так што гэтую тройцу нельга больш падзяліць. У організьме мэханічны рух выклікаецца проста фізычнаю і хэмічнаю зьменаю, і пры тым жыўленьне, дыханьне, выдзяленьне і г. д., так-жа сама, як і мускульны рух“[5]).

Для таго, каб вывучыць існасць сьвядомасьці, канечна патрэбна вывучыць разьвіцьцё організмаў ад нешматлікіх простых форм да больш

[1]) Архив Маркса и Энгельса, под ред. Рязанова, кн. 2-ая, стар 13.
[2]) Там-жа, стар. 13.
[3]) Там-жа, стар. 15.
[4]) Там-жа, стар. 35.
[5]) Там-жа, стар. 213.

рознастайных і складаных, канчаючы чалавекам. Гэта проблема была правільна разьвязана ў эволюцыйнай тэорыі Дарвіна. Энгельс паказвае, што тэорыя Дарвіна ня толькі растлумачыла эволюцыю органічнага сьвету, але і залажыла аснову для прадгісторыі чалавечага духу. Дзякуючы гэтай тэорыі цяпер раскрыта, як разьвівалася жыцьцё, пачынаючы простай бясструктурнай протоплязмай, здольнай адчуваць раздражненьне, і канчаючы мысьлячым чалавекам. „Бяз гэтае прадгісторыі,—кажа Энгельс,—існаваньне мысьлячых чалавечых мазгоў застаецца цудам“[1]).

Адменнасьць організму ад зьяў неорганічнага сьвету ў тым, што ён жыве. Але што такое жыцьцё? Жыцьцё ёсьць форма існаваньня бялковых цел. Важнейшым момантам яго зьяўляецца пастаянны абмен матэрый паміж організмаў і акаляючай знадворнай прыродай. Жыцьцё спыняецца, калі спыняецца гэты абмен матэрый, і гэта цягне за сабою расклад бялка. Жыцьцё бялковых цел выяўляецца ў пастаянным самааднаўленьні хэмічных складаных частак гэтых цел.

Аднак, і ў неорганічным сьвеце адбываецца абмен матэрый у форме тых ці іншых хэмічных дзеяньняў. Але тут абмен матэрый разбурае целы, тады як у органічным сьвеце абмен матэрый зьяўляецца канечнаю ўмоваю існаваньня гэтага сьвету. Энгельс тлумачыць, што „абмен матэрый складаецца з спажываньня матэрый, хэмічны склад якіх зьмяняецца, якія асыміляюцца організмам і рэшта якіх выдзяляецца разам з пароджаным процэсам жыцьця продуктамі раскладу самога організму“[2]). Да другіх адзнак організму Энгельс адносіць раздражальнасьць, якая абумоўліваецца процэсам узаемадзеяньня паміж бялковым целам і харчаваньнем, сьціскаемасьць цела пры паглынаньні спажывы, здольнасьць расьці з адначасовым процэсам множаньня і ўнутраны рух, які зьяўляецца ўмоваю паглынаньня і асыміляваньня спажывы. Гэтымі адзнакамі, зразумела, ня вычэрпваецца жыцьцё, але тут паказаны яго асноўныя рысы.

Такім чынам, важнейшаю адзнакаю жыцьця зьяўляецца раздражальнасьць організму, а гэта ўжо мае адносіны да паводзін жывое істоты, да яго рэакцый на раздражненьне знадворнага асяродзьдзя. Здольнасьць рэагаваньня ўласьціва ўсім без выключэньня бялковым целам, нават самым простым з іх—бясструктурным каморкам.

Характарызуючы розныя віды рэакцый, Энгельс паказвае, што „мэханічная і фізычныя рэакцыя вычэрпваюцца сумесна з кожным актам, рэакцыі“. Хэмічная рэакцыя выклікае зьмену складу цела і аднаўляецца толькі пры тэй умове, калі дадаецца новая колькасьць матэрыі. „Толькі органічнае цела,—далей гаворыць Энгельс,—рэагуе *самастойным чынам*,— зразумела, у межах яго сіл (сон) і пры допушчэньні жыўленьня,—

[1]) Архив Маркса и Энгельса, под ред. Рязанова, кн. 2-ая, стар. 379.

[2]) Там-жа, стар. 51.

але гэта паглынаемая ізноў спажыва дзейнічае толькі пасьля таго, асымілявана, а не непасрэдным чынам, як на ніжэйшых ступенях, так што органічнае цела мае *самастойную* сілу рэакцыі: новая рэакцыя павінна адбывацца цераз пасярэдніцтва яго"[1]). Гэта адменнасьць органічнай рэакцыі ад неорганічнай мае істотнае значэньне, каб азначыць якасныя асаблівасьці організму. Апошняму ўласьціва самастойная сіла рэакцыі ў тым сэнсе, што гэта рэакцыя ўтвараецца бяз зьмены складу цела і можа паўтарацца цераз пасярэдніцтва таго-ж самага організму.

Энгельс досыць часта варочаецца да пытаньня аб характары рухаў бясструктурнай протоплязмы, якая зьяўляецца першай ступеньню жыцьця на зямлі. Такую протоплязму можна цяпер стварыць ляборатарным шляхам. Але навука пакуль што не дайшла да такога ўзроўню, каб ужо цяпер можна было стварыць штучную каморку. Бясструктурная протоплязма, уяўляючы з сябе „неорганізаваны, бясформены недыфэрэнцыяваны бялковы камячок, па-істоце зьяўляецца організмам". Як кажа Энгельс, ужо ў гэтым камячку зьмяшчаецца ў зародку, „у сабе", увесь бясконцы рад вышэйшых організмаў. Стала быць, ужо тут мы адкрываем элемэнты рэакцыі, якія ў больш дасканалым стане характарызуюць паводзіны жывёл і чалавека. Зразумела, рух бясструктурнай протоплязмы вельмі прымітыўны. Ён вельмі глыбока адзначаецца ад рухаў складаных організмаў. Калі ўзяць, напрыклад, асноўную адзнаку організма—жыўленьне, то гэта апошняе выказвалася ў першых узьнікшых організмаў паглынаньнем тлену, вуглятлену, аманяку і некаторых соляй, рашчыненых у вадзе, якая іх акаляла. Органічныя сродкі жыўленьня адсутнічалі, бо гэтыя камячкі не маглі паядаць адзін аднаго. „Гэта паказвае,—піша Энгельс,—як высака стаяць над імі (над бясструктурнымі бялкамі. П. П.) сучасныя, нават пазбаўленыя ядра, монэры, якія жывяцца дыятомеямі і г. д., г. зн. дапушчаюць існаваньне цэлага раду дыфэрэнцыяваных організмаў"[2]). Гэтым камячком, што жывуць, уласьціва здольнасьць рэакцый або адчуваньняў. Гэта канечна патрэбна падкрэсьліць, бо існуе думка, што адчуваць могуць толькі організмы з нэрвовай сыстэмай. Паміж іншым, такое думкі прытрымліваўся і Дзюрынг. Супярэчачы яму, Энгельс ставіў такое пытаньне: „Хіба чулыя расьліны, якія зварочваюць свае лісты або свае кветкі, калі да іх дакрануцца вельмі памаленьку, хіба расьліны, што пажыраюць мошак, хіба ўсе яны не выяўляюць хоць-бы самага падабенства адчуваньня ці хоць схільнасьці да яго? Гэтага ня можа адмаўляць нават п. Дзюрынг, не зварачаючыся да ненавуковай поўпоэзіі"[3]). Энгельс катэгорычна сьцьвярджае, што „адчуваньне ня зьвязана канечна з нэрвамі, але толькі з вядомымі, да гэтага часу не ўстаноўленымі больш дакладна,

---

[1]) Архив Маркса и Энгельса, под ред. Рязанова, кн. 2-ая, 51.

[2]) Там-жа.

[3]) Анти-Дюринг. Выд. 1918 г., стар. 70.

бялковымі целамі“ [1]). У другім месцы ён піша наступнае: „...плянамернасьць дзеяньняў існуе ў зародку ўсюды, дзе ёсьць протоплязма, дзе жывы бялок існуе і рэагуе, г. зн. робіць хоць-бы самыя простыя рухі, як вынік азначаных раздражненьняў звонку. Такая рэакцыя мае месца ўжо там, дзе яшчэ няма ніякае каморкі, не гаворачы ўжо аб нэрвовай каморцы“ [2]). Такім чынам, *увесь органічны сьвет без выключэньня мае здольнасьць рэагаваць і адчуваць у тэй ці іншай ступені.*

У сувязі з гэтым пытаньнем паўстае адна сур'ёзная проблема. Калі органічны сьвет мае здольнасьць адчуваньняў, то ці не пашыраецца гэта здольнасьць і на неорганічную прыроду? Шмат філёзофаў падымалі гэта пытаньне і вельмі часта давалі станоўчы адказ. Напрыклад, Сьпіноза даў найбольш абгрунтаванае абаснаваньне тэорыі аб усеагульнай ажыўленасьці матэрыі. Француськія матэрыялістыя XVIII в. таксама паказвалі, што матэрыя мае адчувальнасьць (Дзідро і інш.). Падымалася гэта пытаньне і ў наш час. Франкфурт у сваім артыкуле: „Г. В. Плеханов о психофизической проблеме“ [3]) вінаваціць Плеханова ў тым, што па пытаньні аб ажыўленасьці матэрыі ён апынуўся ў путах мэтафізыкі, бо прызнаваў „*наяўнасьць мікроскопічна* малое, няпрыкметнае, няўлоўнае ступені мысьленьня ў неорганічнае прыроды, дапушчаючы, стала быць, толькі рост *колькасьці* тае-ж якасьці, а не зьяўленьне *новае* якасьці“ [4]).

Прыкладна тое-ж самае сьцьвярджае і Дэборын аб памылцы Плеханова. Ён піша, што „Плеханов упадае ў крайнасьць, калі пераход ад неорганізаванай да організаванай матэрыі разглядае толькі як колькасную зьмену“. „Не,—падкрэсьлівае Дэборын,—тут адбываецца *якасная* зьмена, скачок“ [5]). Тым ня менш матэрыяльная субстанцыя зьяўляецца адзінай. „Псыхіка ня ўзьнікае з нічога, а прадстаўляе з сябе новую якасьць, якая ўзьнікае на азначанай ступені разьвіцьця адзінай матэрыяльнай субстанцыі“. „Для таго, каб матэрыя абярнулася ў адчувальную матэрыю,—тлумачыць Дэборын,—яна павінна потэнцыяльна, ці, гаворычы гегелеўскаю моваю, „у сабе“, быць адчувальнай. У процэсе разьвіцьця матэрыі выяўляецца тое, што ў ёй дана ў *потэнцыяльнай* форме. Таму ня трэба дапушчаць адчувальнасьць у так званай мёртвай матэрыі, як штосьці застыглае, нязьменнае існаваньне, а як *становячаеся*, якое знаходзіцца ў стане *пераўтварэньня* існаваньня“ [6]). Такім шляхам вырашаецца проблема адзінства матэрыі. „Няма двух субстанцыяльна розных відаў матэрыі,—далей гаворыць Дэборын,—а калі гэта так, то прыходзіцца дапусьціць, што адзіная матэрыя разьвівае з самой сябе ўсю

---

1) Анти-Дюринг. Выд. 1918 г., стар. 71.

2) Архив Маркса и Энгельса, под ред. Рязанова, кн. 2-ая, стар. 101.

3) „Под знаменем марксизма“, за 1926 г. № 6, стар. 38—46.

4) Там-жа, стар. 46.

5) Дени Дидро. Избр. соч., т. I. Предисловие редактора, стар. XXVI.

6) Там-жа, стар. XXI.

рознастайнасьць зьяў, стала быць, і жыцьцё, сьвядомасьць, мысьль“ [1]). Гэта ёсьць самае правільнае вырашэньне пытаньня. У даным выпадку Дэборын толькі тлумачыць пункт гледжаньня Маркса, Энгельса і Леніна. Напрыклад, Энгельс піша, што „матэрыя разьвівае з сябе мысьлячыя чалавечыя мазгі“, што ў „прыродзе матэрыі месьціцца тое, што яна прыходзіць да разьвіцьця мысьлячых істот, і таму такое разьвіцьцё адбываецца канечным чынам заўсёды, калі маюцца ў наяўнасьці адпаведныя ўмовы (таму не канечна ўсюды і заўсёды)“ [2]).

Кажучы аб формах руху матэрыі, Энгельс падкрэсьлівае, што рух матэрыі ня зводзіцца толькі да аднаго мэханічнага руху, што сюды трэба залічыць таксама цяплыню і сьвет, электрычную і магнітную энэргію, хэмічнае злучэньне і расклад, жыцьцё і, урэшце, сьвядомасьць. Такім чынам, сьвядомасьць зьяўляецца аднэй з уласьцівасьцяй рухаючайся матэрыі. Далей Энгельс адзначае наступнае: „...мы ўсё-ж упэўнены, што матэрыя ва ўсіх сваіх ператварэньнях застаецца вечна аднэю і тою-ж, што ні адзін з яе атрыбутаў ня можа згінуць і што таму з тэю-ж жалезнаю канечнасьцю, з якою яна некалі зьнішчыць на зямлі свой знадворны колер—мысьлячы дух, яна павінна будзе яго зноў нарадзіць дзе-небудзь у другім месцы і ў другі час“ [3]). Тут Энгельс кажа аб тым, што калі ў выніку якіх-небудзь косьмічных пераваротаў жыцьцё на зямлі будзе зьнішчана, яно зноў узьнікне дзе-небудзь у другім месцы сусьветнае прасторы пры пэўных умовах разьвіцьця матэрыі. Прызнаючы ўзьнікненьне органічнай прыроды з неорганічнага сьвету, Энгельс у той-жа час падкрэсьлівае, што гэты процэс узьнікненьня ня можа быць прыняты за сьвядомы акт матэрыі. Ён рашуча выступае супроць спроб Дзюрынга „навязваць прыродзе сьвядомую і намераную дзейнасьць“, называючы гэтыя спробы бязглуздымі.

На той ступені разьвіцьця організмаў, калі зьяўляецца нэрвовая сыстэма, апошняя пачынае іграць вялікую ролю ў паводзінах жывёл. Лічачы істотнаю адзнакаю Vertebrata групоўку ўсяго цела навакол нэрвовай сыстэмы, Энгельс піша: „Нэрвовая сыстэма, разьвіўшыся да вядомай ступені—дзякуючы падоўжаньню назад галаўнога вузла чарвей,—завалодвае ўсім целам і накіроўвае яго згодна сваім патрэбам“ [4]). Яшчэ больш важную ролю выконвае нэрвовая сыстэма ў вышэйшых жывёл і ў чалавека.

Асабліва вялікая зьмена організму адбылася тады, калі вышэйшая жывёла ў сувязі з своеасаблівымі ўмовамі жыцьця перастала карыстацца рукамі ў часе руху па паверхні зямлі і ўсвоіла простую хаду. Гэтым быў зроблены, як піша Энгельс, рашучы крок для пераходу ад малпы да

[1]) Дени-Дидро. Избр. соч., т. I. Предисловие редактора, стар. XXV.

[2]) Архив Маркса и Энгельса, под ред. Рязанова, кн. 2-ая, стар. 81.

[3]) Там-жа, стар. 177.

[4]) Там-жа, стар. 57.

чалавека [1]). Ужо ў малпы назіраецца падзел функцый паміж рукамі і нагамі. Рукі служаць, галоўным чынам, для зьбіраньня і трыманьня спажывы, для пабудовы гнёздаў на дрэвах, для самаабароны. Аднак, агульнае разьвіцьцё рук у малпаў адзначаецца ад разьвіцьця чалавечай рукі ў тым сэнсе, што нават чалавекападобныя малпы ня могуць рабіць сваімі рукамі таго, што можа зрабіць нават першабытны дзікун, які ўдасканаліў канцовасьці свайго організму ў процэсе працы. У Энгельса мы чытаем: „Рука, такім чынам, зьяўляецца ня толькі органам працы, *яна таксама яе продукт*. Толькі дзякуючы працы, дзякуючы дапасаваньню да ўсё новых опэрацый, дзякуючы перадачы па спадчыннасьці дасягнутага такім шляхам асаблівага разьвіцьця мускулаў, зьвязак і за больш доўгія прамежкі часу таксама і касьцей, таксама як дзякуючы ўсё новаму ўжываньню гэтых перадаваных па спадчыннасьці ўдасканальваньняў да новых, усё больш складаных опэрацый,—толькі дзякуючы ўсяму гэтаму чалавечая рука дасягла тэй высокай ступені дасканаласьці, на якой яна змагла, як-бы сілаю чараўніцтва, выклікаць да жыцьця карціны Рафаэля, статуі Торвальдсэна, музыку Паганіні“ [2]).

Зьяўленьне рукі не магло не адбіцца на стане таго складанага організму, часткаю якога яна зьяўляецца. Спасылаючыся на Дарвіна, Энгельс успамінае асобны закон суадносін росту, паводле якога „вядомыя формы органічнае істоты заўсёды зьвязаны з пэўнымі формамі другіх часьцей, якія, як відаць, ні ў якай сувязі з першымі не стаяць“. Напрыклад, жывёлы, якія кормяць дзяцей малаком і з разьдзеленымі капытамі, абавязкова маюць складаны страўнік для ўтвараньня жуйкі, белыя кошкі з блакітнымі вачамі заўсёды або амаль заўсёды аказваюцца глухімі і г. д.

Зьмена адных форм часьцей організму цягне за сабою зьмену форм другіх часьцей. На падставе гэтага закону, паступовае ўдасканальваньне чалавечай рукі і разьвіцьцё дапасаваных да простай хады ног зрабіла ўплыў і на іншыя часьці організму. Разьвіцьцё працы, якое справодзілася разьвіцьцём рукі, спрыяла больш цеснаму згуртаваньню членаў грамадзтва і выклікала ў іх патрэбу зносін пры дапамозе слова. На працягу доўгага пэрыоду часу ў першабытных людзей выпрацаваўся асаблівы орган вымаўляць членападзельныя гукі. Гэта зрабіла ўплыў на зьмену мазгоў і на ўдасканаленьне органаў пачуцьцяў. Мазгі малпы сталі чалавечымі мазгамі. Ня гледзячы на сваё падабенства па структуры, гэтыя апошнія маюць перавагу велічынёю і дасканаласьцю. „З разьвіцьцём-жа мазгоў,—кажа Энгельс,—ішло паралельна разьвіцьцё іх больш блізкіх прылад—органаў пачуцьцяў. Як паступоваму разьвіцьцю языка няўзьменна спадарожнічае адпаведная ўдакладненасьць органу слуху, так-жа

1) Архив Маркса и Энгельса, под ред. Рязанова, кн. 2-ая, стар. 89.

2) Там-жа, кн. 1-ая, стар. 91.

сама разьвіцьцю мазгоў спадарожнічае ўдасканаленьне ўсіх пачуцьцяў наогул. Арлінае вока бачыць значна далей чалавечага вока, але чалавечае вока заўважае ў рэчах значна больш, як вока арла. Сабака мае значна больш тонкі нюх, як чалавек, але яна не адрозьнівае і сотае долі тых пахаў, якія для чалавека зьяўляюцца пэўнымі адзнакамі розных рэчаў. І пачуцьцё дотыку, якое мае малпа ў грубай, неразьвітай форме, разьвілося ў чалавека поруч з разьвіцьцём самае рукі, цераз пасярэдніцтва працы. Адваротны ўплыў разьвіцьця мазгоў і падлеглых ім пачуцьцяў, усе больш і больш выказваемае сьвядомасьці, здольнасьці да абстракцыі і да ўмазаключэньня на працу і мову даваў абодвум усё новы штыршок да далейшага разьвіцьця"[1]). Далей Энгельс гаворыць, якім чынам разьвіцьцё працы спрыяла зьмене грамадзкіх адносін і стварала прадпасылкі для featureнастайнага харчаваньня чалавека, вынікам чаго было пранікненьне ў організм самых featureнастайных хэмічных элемэнтаў, якія спрыялі ачалавечваньню нашых продкаў. У гэтых адносінах асабліва буйную ролю адыграла мясная яда, якая зрабіла пэўны ўплыў на мазгі, бо давала апошнім патрэбныя матэрыі для іх жыўленьня і разьвіцьця. Мазгі набылі магчымасьць больш хутка і паўней удасканальвацца з пакаленьня ў пакаленьне.

Такім чынам, разьвіцьцё рукі ў чалавека выклікала зьмену мазгоў, а гэта апошняе абумовіла ўдасканальваньне органаў пачуцьцяў. Зьмена адных часьцей організму няўхільна справаджалася зьменаю другіх часьцей, бо ўсе часьці органічнага цела знаходзяцца у строгай сувязі. Маркс, паміж іншым, у сваіх лістох аб Англіі піша: „Сучасная фізыолёгія ўстанавіла, што сярод вышэйшых жывёл плоднасьць зьмяншаецца ў адваротным стасунку к разьвіцьцю нэрвовай сыстэмы, у прыватнасьці к павялічэньню мазговай масы" [2]). І тут зноў такі падкрэсьліваецца гэта ўзаемасувязь паміж рознымі часткамі і функцыямі організму. Таму вывучэньне паводзін чалавека ня можа абмяжоўвацца вывучэньнем аднэй якойнебудзь сфэры організму, напрыклад, дзейнасьці мазгоў, а трэба ахапляць гэты організм ва ўсёй злучнасьці яго часьцей і функцый. Гэта мысьль не адзін раз выказвалася і Энгельсам. Кажучы аб спосабах мераць фізыолёгічную працу, ён піша: „З фізыолёгічнага пункту гледжаньня чалавечае цела мае ў сабе органы, якія можна разглядаць у іх злучнасьці—*з аднаго боку*—як тэрмодынамічную машыну, якая атрымлівае цяплыню і прыводзіць яе ў рух. Але—калі дапусьціць нязьменныя ўмовы для рэшты органаў цела—спытаемся, ці можна вычэрпна выразіць зробленую фізыолёгічную працу—нават працу падыманьня—проста ў кілёграмамэтрах? У целе-ж адначасова адбываецца *ўнутраная* праца, якая не выяўляецца ў знадворным выніку, цела-ж ня проста паравая машына, якая адчувае толькі шараваньне і знашваньне. Фізыолёгічная праца

[1]) К. Маркс и Фр. Энгельс. Сочин. т. X, стар. 98.

[2]) Там-жа, стар. 98.

магчыма толькі пры наяўнасьці пастаянных хэмічных ператварэньняў у самім целе і яна залежыць таксама ад процэсу дыханьня і ад працы сэрца. Пры кожным скарачэньні і паслабленьні мускула адбываюцца хэмічныя ператварэньні, якіх нельга ўтоесамліваць з ператварэньнямі вугалю ў машыне. Зразумела, можна раўнаць паміж сабою дзьве фізыолёгічныя працы, якія адбываюцца пры іншых роўных умовах, але нельга мераць фізычную працу чалавека працаю якой-небудзь паравое машыны і г. д., можна раўнаць іх знадворныя вынікі, але ня самыя процэсы, калі не рабіць пры гэтым сур'ёзных агаворак"[1]).

Адзначаючы непарыўную сувязь паміж рознымі фізыолёгічнымі функцыямі організму, Энгельс паказвае і той спосаб, якім трэба карыстацца пры вывучэньні фізыолёгічнай працы. Апошнюю нельга мераць толькі ў кілёграмамэтрах, бо ў такім выпадку мы ахапілі-б процэс ня цалкам, а толькі з знадворнага яго боку. Трэба зварачаць увагу і на ўнутраную працу організма, якая складаецца з пастаянных хэмічных ператварэньняў, процэсу дыханьня і працы сэрца. Такім спосабам усеахапляючага падыходу да зьяў трэба карыстацца ня толькі пры вывучэньні фізыолёгічнай дзейнасьці організма, але і наогул пры вывучэньні ўсякага роду яго выяўленьняў, сярод каторых адно з важнейшых месц займаюць і псыхічныя процэсы.

*(Працяг будзе).*

[1]) Архив Маркса и Энгельса, под ред. Рязанова, кн. 2-ая, стар. 67—69.

# ГЕРМАНСКАЯ СОЦЫЯЛ-ДЭМОКРАТЫЯ І РЭЛІГІЯ

І. Герчыкаў

Сапраўды меў рацыю Лясаль, калі на зары соцыялістычнага рабочага руху гаварыў, што служкі рэакцыі не краснабаі, а людзі практычныя, якія разумеюць у чым сутнасьць. І з якой праўдзіва дзіўнай працавітасьцю, настойлівасьцю і ўменьнем увесь буржуазны сьвет у сучасны момант выкарыстоўвае ўсе рэшткі рэлігійнага і царкоўнага ўплыву на масы для ўзмацненьня свайго панаваньня і зацьвярджэньня сваёй эксплёатацыі рабочае клясы. Якраз у цяперашні час, калі пад лютымі ўдарамі гістарычнага разьвіцьця чалавецтва, буржуазная экономіка і політыка перажывае крызіс нісходзячага грамадзкага ладу, буржуазія выкарыстоўвае вялікую тайну ўсечалавечай маны—рэлігію ў якасьці найпэўнейшай сваёй прылады. А сапраўды, тайнай рэлігіі уладаем мы, вучні Маркса, каторы пачаў сваю літаратурную і грамадзкую дзейнасьць маніфэстам супроць рэлігіі ў 1843 г. ў сваім невычарпальным па багацьці думкі, дзіўным па сакавітасьці мовы артыкуле „К крытыцы гегелевай філёзофіі права". Жадаючы каротка вызначыць заслугі Маркса перад сучасным рухам, Р. Люксэмбург гаворыць, што „ён адкрыў сучасную рабочую клясу, як гістарычную катэгорыю, г. зн. як клясу з пэўнымі гістарычнымі ўмовамі існаваньня і пэўнымі законамі гістарычнага разьвіцьця". І ў гэтыя пэўныя законы гістарычнага разьвіцьця рабочай клясы,—пісаў Маркс у 1843 г.,—уваходзіць зьніштажэньне рэлігіі, як неабходная ўмова яе вызваленьня,—„зьніштажэньне рэлігіі, як зданьнёвага шчасьця народу, ёсьць запатрабаваньне яго праўдзівага шчасьця". Ён у некалькіх выразах вызначыў істоту рэлігіі з вычарпальнай поўнасьцю: „Чалавек утварае рэлігію, рэлігія-ж не ўтварае чалавека". Рэлігія ёсьць самасьвядомасьць і самапачуцьцё чалавека, які яшчэ не адшукаў сябе, або зноў ужо страціў сябе. Але чалавек—не абстрактная па-за сьветам вітаючая істота. Чалавек—гэта сьвет чалавека, дзяржава, грамадзтва. Гэта дзяржава, гэта грамадзтва ўтварае рэлігію, несапраўднае сьветапрызнаньне, бо самі яны—несапраўдны сьвет... Рэлігія—фантастычнае ажыцьцяўленьне чалавечае істоты, бо чалавечая істота не ўладае сапраўднай рэчаіснасьцю".

З 1843 г. Маркс бліскуча разгарнуў асновы матэрыялістычнай дыялектыкі, утварыўшы асноўную прадпасылку сьвядомай барацьбы рабочае

клясы за сваё вызваленьне, замяніўшы сьвет нерэальных, зданьнёвых адносін у сьвядомасьці рабочае клясы і ўсяго чалавецтва сьветам рэальных рэчаісных об'ектыўных адносін, адносін, што знаходзяцца ў простай супярэчнасьці са старым сьветам ілюзій. Можна толькі дзівіцца таму, як у процэсе свайго гістарычнага разьвіцьця рабочая кляса ва ўсёй сваёй масе і нават у лепшых прадстаўнікох сваёй ідэолёгіі грэбавала барацьбой з рэлігіяй, гэтай неабходнай умовай яе вызваленьня і з організаваным выражэньнем панаваньня рэлігіі—царквою. Калі тэорэтычная сьвядомасьць неабходнасьці змаганьня з рэлігіяй і была больш разьвіта, то крытыка гэтага змаганьня надзвычайна бедная, і ня дзіўна, што рабочая кляса Расіі, стаўшы непасрэдна перад практычнай задачай змаганьня з рэлігіяй і з царквою, пасьля кастрычнікавага перавароту, стала як быццам-бы перад зусім новай задачай, ня маючы ў мінулым практыкі, на падставе якой яна магла-б будаваць тэорыю і практыку змаганьня за атэізм.

Ва ўсёй гісторыі змаганьня рабочае клясы вырашальную ролю, пачынаючы з 70-х гадоў XIX сталецьця аж да кастрычнікавага перавароту, іграла германская СД-РП, і практычная пастаноўка пытаньня антырэлігійнага змаганьня ў яе гісторыі мае надзвычайную цікавасьць.

Франц Мэрынг у сваёй гісторыі германскай соцыял-дэмократыі з выстарчальнай яснасьцю ўстанавіў агульнапрызнанае цяпер у гістарычнай літаратуры палажэньне, што першыя нямецкія пасьлядоўнікі Маркса, соц.-дэмократы 60-х—70-х г. г., як лясальянцы, так і эйзэнахоўцы, яшчэ ня скінулі з сябе старога Адама і не перамаглі ў сваім асяродзішчы ідэалізму, так што Маркс у лісьце да Брака ад 5-га мая 1875 г. з поваду проекту гоцкай програмы пісаў, што пашыраная думка аб тым, што ён і Энгельс кіруюць эйзэнахоўцамі, не адпавядае сапраўднасьці і што ён не нясе адказнасьці „за ўсе програмы і іншае гэтае партыі“. Ня дзіўна дзеля гэтага, што пытаньні філёзофскага атэізму і практычнага змаганьня з царквою і рэлігіяй у гэтых „програмах і іншым“ не займаюць ніякага месца, і пастолькі, паколькі датыкаюцца царквы, ня ідуць далей агульна-дэмократычных пажаданьняў аддзяленьня царквы ад дзяржавы і школы, без пастаноўкі пытаньня аб самым існаваньні царквы і ўваходзе соц.-дэмократаў у царкву. У першай „эйзэнахоўскай програме“ „Соцыял.-Дэм. Раб. Партыі“ ў 1869 г. пытаньня: рэлігіі датычыць толькі 5-ты пункт 3-га разьдзелу, які гаворыць—„аддзяленьне царквы ад дзяржавы і аддзяленьне школы ад царквы“. У 6-м пункце 1-га разьдзелу гоцкай програмы 1875 г. гэтае-ж палажэньне толькі некалькі інакш выказваецца: „Абвяшчэньне рэлігіі прыватнай справай“. У крытыцы гоцкай програмы Маркс у тым-жа 1875 г. пісаў аб недахватнасьці гэтай формулы: „рабочая партыя павінна была пры гэтым выявіць сваё перакананьне, што буржуазная „свабода сумленьня“ ёсьць ня больш, як цярплівасьць адносна да ўсякага роду *рэлігійнай свабоды сумленьня*, рабочая-ж партыя імкнецца вызваліць сумленьне ад рэлігійнай адрыжкі“.

Выключэньне сярод усіх соц.-дэмократаў складае Іосіф Дыцген, які ўжо ў 1869 г., стаўшы на пункт погляду дыялектычнага матэрыялізму, абвясьціў змаганьне з рэлігійнымі вераваньнямі і царквою няўхільным вывадам з матэрыялістычнае сьвядомасьці рабочае клясы і змаганьне яе за сваё вызваленьне.

Сапраўды, памарксыцку пытаньне аб адносінах соц.-дэмократаў да царквы першы раз было пастаўлена на трэцім Дрэзьдзенскім у 1871 г. эйзэнахоўскім конгрэсе „Соц.-Дэм. Раб. Партыі“ дэлегатам Бідэрманам з Готы, які з пункту програмы аб аддзяленьні царквы ад дзяржавы рабіў вывад аб неабходнай партыйнай агітацыі за выхад з царквы, але па прапанове Моста, ранейшага соц.-дэм., а потым з 1878 г. анархістага, таго самага Моста, які потым у 1878 г. вёў узмоцненую агітацыю за выхад з царквы, была прынята формула пераходу да чарговых спраў на тэй падставе, што пажаданьне Бідэрмана ўжо заключаецца ў програме, і партыі застаецца толькі „агітаваць за сваю програму, ня ўнікаючы ў такія дробязі“, аб якіх гаворыць Бідэрман. Ня гледзячы на такі абыход прапановы Бідэрмана, пытаньне аб разрыве соц.-дэмократаў з рэлігіяй і выхадзе іх з царквы зноў было пастаўлена на чарговым конгрэсе эйзэнахоўцаў у Майнцы ў 1872 г., дзе стыкнуліся два процілеглыя пункты погляду і прынята была компромісная пастанова.

Першая прапанова гаварыла:

„Конгрэс павінен абвясьціць, што члены партыі абавязаны парваць з існуючымі рэлігійнымі забабонамі, што можа быць фактычна констатавана толькі шляхам выхаду з існуючых рэлігійных аб‘яднаньняў“.

Другая: „Конгрэс павінен вынесьці пастанову, што якія-б то ні было прапановы, паколькі яны датычаць пытаньня аб выхадзе з пануючай, несвоечасовы, і перайсьці да чарговых пытаньняў дня“.

Адхіліўшы абедзьве прапановы, конгрэс прыняў трэцюю прапанову Мэмінгера (Нюрэнбург), якая гаварыла:

„Членам партыі рэкомэндуецца пасьля таго, як прыняцьцем партыйнай програмы яны, фактычна, парвалі з усялякім рэлігійным вызнаньнем, таксама і формальна выступіць з усіх царкоўных саюзаў“ [1]).

Ня гледзячы на тое, што такое вырашэньне компромісна і мае факультацыйны характар, яно прадстаўляе сабою найвялікшае дасягненьне ў галіне антырэлігійнай практыкі, якое толькі ведае гісторыя германскага соц.-дэмократычнага руху. Выдатна ў гэтай пастанове прызнаньне таго, што прыняцьцем соцыял-дэмократычнай програмы член партыі фактычна парывае з царквою. Калі-б гэта зусім вернае катэгорычнае цьверджаньне прадаўжала жыць у сьвядомасьці і практыцы германскай соцыял-дэмократыі, то ўся гісторыя адносін ГС-ДРП да рэлігіі і царквы зложылася-б зусім інакш, чым яна складзена ад таго часу да апошніх дзён, ва ўсякім

[1]) Усе пастановы зьездаў ГСДРП як гэтыя, так і далейшыя, узяты мною з „Handbuch der sozialdemokratischen Partei tage von 1863 bis 1909. München 1910.

выпадку, папом напэўна ня было-б месца ў партыі, і партыя знаходзілася-б у відавочна варожых адносінах да царквы і ўсялякіх праяў клерыкалізму. Якое-б то ні было спалучэньне марксыцкай практыкі з цярпімымі і нават прыхільнымі адносінамі да царквы было-б немажліва, таксама як было-б немажліва фактычна, што сталася надалей узгадненьне мэт, імкненьняў і фактычнай дзейнасьці іезуітаў ад хрысьціянскага соцыялізму лізму і іезуітаў ад соц.-дэмократ. рэформізму.

Уся далейшая гісторыя германскай соц.-дэмократычнай тэорыі і практыкі ў адносінах рэлігіі і царквы ёсьць адбой ад гэтай компромісная пастановы, а часам зусім відавочныя спробы прымірэньня соцыялізму з хрысьціянствам у процілегласьць таму, што І. Дыцген яшчэ ў 70-х гадох пісаў: „Кажуць: Хрыстос быў першым соцыялістым. Соцыялізм і хрысьціянства розны, як дзень і ноч. Пэўна ў іх ёсьць пункты датычнасьці. А ў каго іх няма? Што непадобна між сабой? Дзень і ноч падобны ў тым, што і дзень і ноч зьяўляюцца часткаю часу. Чорт і архангел, хаця ў аднаго з іх белая, а ў другога чорная скура, зноў такі падобны, бо і ў аднаго і ў другога наогул маецца скураная пакрыўка... Ці шмат агульнага ў хрысьціянстве з соцыялізмам, ці не—ва ўсякім выпадку той, хто пераварачае Хрыста ў соцыялістага, заслугоўвае назву грамадзка-шкоднага падарожніка“. А. Бэбэль у вядомай сваёй брошуры „Хрысьціянства і соцыялізм“ у 1874 г., у брошуры, на якую ня раз спасылаліся ўносіўшыя свае антырэлігійныя прапановы дэлегаты на зьездах ГС-ДРП, пісаў: „Хрысьціянства і соцыялізм процістаяць адзін другому, як агонь і вада. Так званае добрае зерня, якое Вы, а ня я, знаходзіце ў хрысьціянстве (брошура пісалася ў адказ на ліст пастара Гогофа), ня ёсьць хрысьціянскае, а агульначалавечае. Тое-ж, што належыць уласна хрысьціянству—яго вучэньне і догмы—варожы чалавецтву“. „А мораль хрысьціянства!—ускліцаеце Вы.—Мораль ня мае роўна ніякіх адносін ні да хрысьціянства, ні да рэлігіі наогул“. Усе выступленьні на партэйтагах ГС-ДРП, галоўным чынам Фольмара, Бэбэля, В. Лібкнэхта, знаходзяцца ў відавочнай супярэчнасьці з гэтымі палажэньнямі.

На зьезьдзе ў 1902 г. Бэбэль проста ў супярэчнасьць да прыведзенага намі вышэй палажэньня зьезду 1792 г., якое сьцьвярджала, што адно толькі прыняцьце соцыял.-дэмокр. програмы азначае фактычны разрыў з рэлігіяй, гаворыць: „Кожны (член партыі) можа верыць, як ён хоча; ён можа, як соцыял-дэмократ, быць каталіком, хрысьціянінам або матэрыялістым і атэістым, нікому ў партыі да гэтага няма ніякай справы“. А В. Лібкнэхт на зьезьдзе ў Гальле ў 1890 г. расцэньваў прад'яўленьне члену партыі патрабаваньня аб разрыве з рэлігіяй і выхадзе з царквы, як парушэньне прынцыпаў свабоды, пераконаньня і асобы. І ў тэйжа прамове, надаючы сваяцтва соцыялізму з рэлігіяй і забываючы палажэньне Бэбэля, што істота рэлігіі не ў моралі, а ў яе вучэньні і догмах, з патосам заявіў: „І яшчэ адно: ці не ўладаем мы тым-жа,

што складае сілу рэлігій, верай у найвышэйшыя ідэалы? Ці не ў соцыялізьме найвышэйшая *моральнасьць*: бескарыснасьць, самаахвяраваньне, чалавекалюбасьць?" А ў рэфэраце, прачытаным на гэтым-жа зьезьдзе, В. Лібкхнэт піша: „Наша партыя ёсьць партыя навукі (eine Partei der Wissenschaft). Навука варожа рэлігіі—(aber sie konn und will sie nicht neiderschlagen). Але яна можа, але ня хоча яе зьніштожыць... Навука клапоціцца аб *добрых школах,* гэта *лепшы спосаб супроць рэлігіі*". Іменна такі погляд Ленін у 1909 г. назваў—„павярхоўнае *буржуазна-абмежаванае* культурніцтва". „Чаму трымаецца рэлігія ў адсталых пластох гарадзкога пролетарыяту?.. Па неасьвечанасьці народу,—адказвае буржуазны прогрэсысты, радыкал або буржуазны матэрыялісты... Марксысты гаворыць на гэта—няпраўда... У сучасных капіталістычных краінах гэтыя карані, галоўным чынам, соцыяльныя... Атэістычная пропаведзь павінна быць падпарадкавана яе асноўнай задачы—разьвіцьцю клясавай барацьбы эксплёатаваных мас супроць эксплёататараў". Няўжо гэта ня ёсьць больш зразумелы пераказ прыведзеных вышэй слоў Маркса: „Змаганьне супроць рэлігіі (для рабочае клясы. І. Г.) ёсьць ускосна змаганьне супроць таго сьвету, духоўным ароматам якога зьяўляецца рэлігія".

На ўсіх амаль зьездах соц.-дэм. партыі найменшая спроба рэдыкалізаваць формулу програмы аб адносінах партыі да рэлігіі і царквы сустракала катэгорычны адпор. У сваім пярэчаньні апогэю дасягнула пані Штайнбах на зьезьдзе 1897 г.: „Рэлігія,—заявіла гэта „марксыстка",—сьвятое пачуцьцё, усмоктанае з малаком маткі; пазбаўляць гэтага пачуцьця тых, каму мы ня можам даць новай рэлігіі, мы лічым дзікасьцю (Roheit). Мы прадстаўляем сабою партыю экономічнага і палітычнага змаганьня, таму мы абвяшчаем рэлігію прыватнай справай".

Так нязьменна заставаўся ў эрфурцкай програме соц.-дэм. партыі, прынятай у 1891 г., пункт аб тым, што рэлігія „прыватная справа", прыняты яшчэ ў эйзэнахоўскай програме ў 1869 г.

Нязвычайна глыбока і грунтоўна такія антымарксыцкія адносіны да рэлігіі запоўнілі ўсю герм. С-ДП, так што ня толькі такія яе вэтэраны, як А. Бэбэль і В. Лібкнэхт, але нават такія маладыя яе члены, што потым кіравалі эволюцыённым левым крылом соц.-дэмократ. руху, якое эволюцыянавала нарэшце да ленінізму, як Роза Люксэмбург, не маглі адыйсьці ад гэтага ўплыву. Лепшым довадам гэтаму служыць брошура Р. Люксэмбург—„Царква і соцыялізм" („Kościół i socjalizm"), напісаная ў 1905 г.[1]).

Што датычыць К. Каўцкага, то якраз у 1902 г., калі на Мюнхэнскім зьезьдзе партыі дэпутат Вэлькер падняў пытаньне аб узмоцненай агітацыі партыі супроць царквы, ён даў найбольш поўнае тэорытычнае абаснаваньне тым пярэчаньням, якія рабілі Фольмар і А. Бэбэль, у артыкуле:—„Соцыял-дэмократыя і каталіцкая царква". „Царква,—піша ён у гэтым артыкуле,—зьяўляецца непрымірымым ворагам усякага рэволюцыйнага

1) Рускага і беларускага перакладу няма.

руху... Гэта процілегласьць між царквою і соц.-дэмократыяй ні ў якім разе не гаворыць, каб немажліва было быць у адзін і той-жа час веруючым хрысьціянінам і соцыял-дэмократам". Паказваючы на прыклады некаторых папоў у Злучаных Штатах, ён гаворыць аб тым, што яны могуць быць адлучаны ад царквы, але, застаючыся рэлігійнымі людзьмі, могуць быць соцыялістымі (падразумяваецца марксыстымі).

Формулу „рэлігія ёсьць прыватная справа" Ленін аналізаваў яшчэ ў 1905 г. „Рэлігія павінна быць абвешчана прыватнай справай... Мы патрабуем, каб рэлігія была прыватнай справай у адносінах да дзяржавы, але мы *ніяк ня можам лічыць рэлігію прыватнай справай у адносінах да нашай уласнай партыі...* У адносінах да партыі соцыялістычнага пролетарыяту рэлігія ня ёсьць прыватная справа... Наша програма пабудавана ўся на навуковым і пры тым, іменна, матэрыялістычным сьветапоглядзе. Растлумачваньне нашай програмы неабходна ўключае дзеля гэтага і растлумачваньне праўдзівых гістарычных і экономічных каранёў рэлігійнага туману. *Наша пропаганда неабходна ўключае* і пропаганду атэізму". Замацаваньне розьніцы ва ўжываньні формулы „рэлігія--прыватная справа" ў адносінах да грамадзтва і дзяржавы і ў адносінах да партыі складае істоту антымарксыцкай пастаноўкі пытаньня, антымарксыцкай тэорыі і практыкі ў адносінах да царквы і рэлігіі ГС-ДРП. Гэта ёсьць тая ўмысная або нявольная памылка, якая ў далейшым дала вельмі вялікія антымарксыцкія, антыпролетарскія, контр-рэволюцыйныя ўсходы, якія зусім заглушылі марксызм у ГС-ДРП і нарадзілі тыя кветкі тэізму, якія поруч з нэокантыянствам і нэолясальянствам прыгожа расьцьвілі ў сучасным соц.-дэмократычным руху Германіі.

# КОМУНАР ФЛЮРАНС

## С. Ляскоўскі

Мэта артыкулу—не высьвятленьне якога-небудзь агульнага пытаньня, якое мае сувязь з гісторыяй ці істотаю комуны. Папершае, агульныя пытаньні даволі добра высьветлены, паколькі гэта магчыма ў Расіі, далёка ад францускіх архіваў. Падругое, спэцыяльныя дасьледзіны сустракаюць спэцыфічныя труднасьці нават ва Францыі. Напрыклад, лепшы знаўца комуны ў наш час, францускі гісторык Буржэн, ня быў дапушчаны да заняткаў у архіве францускага вайсковага міністэрства. З гэтай прычыны нашы вывады і меркаваньні аб комуне да гэтага часу няўхільна грунтуюцца не недахватным матэрыяле і, як відаць, у будучыне будуць падлягаць некатораму перагляду.

У гэтым годзе мы сьвяткавалі ўжо 56 гадавіну парыскай комуны. Нямнога старых у Парыжы памятаюць гэту крывавую эпопэю, якая такім многазначным сьвятлом азарыла зараджэньне буржуазнай рэспублікі. Комуна сапраўды пачынае адыходзіць у мінулае і мімаволі зьяўляецца патрэба ня толькі лёгічна яе зразумець, але як-бы і перaадчуць, ці, калі хочаце, самім стаць як-бы яе ўдзельнікамі. Толькі пры такім падыходзе можна дасягнуць таго, што і самае разуменьне комуны намі будзе ня толькі знадворным, фармальным, а значыцца—нямінуча і няпоўным.

Нішто ня можа быць больш зразумелым таго, што наўкола комуны і цяпер яшчэ ідуць спрэчкі, тым больш заўзятыя, што ў форме ацэнкі яе справы іншы раз ставіцца на абмеркаваньне асноўнае для нашай рэволюцыі пытаньне аб шляхох дыктатуры пролетарыяту. Комуна ўпала: па думцы адных праз тое, што яна сама па сабе была шкоднай хімэрай. Але для нас, якія бачаць у комунарах нашых прадцечаў і, да некаторай ступені, нашых настаўнікаў, гэты разгром комуны, зразумела, не выпадковы (бо што можа вытлумачыць само слова „выпадак"?), азначае патрэбнасьць больш уважліва прыглядзецца да яе работы. Прыходзіцца браць пад увагу і знадворныя перашкоды, якіх было больш, чым даволі, і так званыя „памылкі", хоць магчымасьць апошніх зноў-такі вымагае далейшага тлумачэньня. Практыка нашай уласнай рэволюцыі навучыла нас аднолькава цаніць і рэволюцыйную самадзейнасьць рабочай клясы, і правільную пастаноўку організацыі і тактыкі рэволюцыі яе т. зв. „правадырамі". Толькі яна, гэта наша рэволюцыя, навучыла нас цаніць гэтых правадыроў, як лепшых выяўнікоў не якой-небудзь адцягнутай ідэі, а

рэволюцыйнай сьвядомасьці самой рабочай клясы, што не выключае, зразумела, патрэбнасьці і тактычнага і нават, да пэўнай ступені, ідэёвага кіраўніцтва рэволюцыйным змаганьнем. І вось мне здаецца, што пры вывучэньні комуны гэтае пытаньне, даволі такі асноўнае,—ці на аднэй мове гаварылі правадыры руху і сама рабочая кляса,—параўнаўча мала яшчэ закраналася.

Некаторы час, прызнацца, я хістаўся, які прыклад узяць. Мне здаецца, будзе карысным прыцягнуць увагу чытачоў да фігуры комунара Флюранса [1]). Цалкам адданы сваёй справе рэволюцыянэр, ён захапляе сваім энтузіязмам рабочых, ён—прызнаны правадыр рабочых кварталаў Парыжу. У той-жа час гэта—інтэлігент ад галавы да ног з усімі моцнымі і слабымі бакамі тыповага інтэлігента. Можна сумнявацца, ці заўсёды Флюранс, вядучы за сабою рабочую масу, паказваў ёй правільны шлях, ці ня зьбіваўся ён у даслужнасьць рэволюцыйным традыцыям і кніжным ідэям. Аднак ня будзем забягаць уперад. Некаторых з чытачоў, можа, асабліва зацікавіць тая акалічнасьць, што гэта быў вучоны, які пераканаўся на ўласнай практыцы, што пры монархічным рэжыме ані аб якой свабодзе навукі ня можа быць і гутаркі і прышоў да рэволюцыйнай трыбуны і барыкады з цішы навуковага габінэту.

Флюранс вырас і склаўся пры другой імпэрыі. Будзе да рэчы ўспомніць злосьмешную характарыстыку ніякаватага становішча, у якім тады апынулася буржуазія. „Буржуазія,—гаворыць Маркс у сваім „18 брюмэра“—справядліва разважала, што ўся зброя, якую яна рыхтавала супроць фэўдалізму, можа накіравацца супроць яе самое... што ўсе так званыя буржуазныя свабоды... нападаючы на яе клясавае панаваньне, пагражаюць адначасна і соцыяльнай падваліне, і політычнай верхавіне і становяцца ў выніку соцыялістычнымі. Буржуазія прызнала, што ўласная зацікаўленасьць прымушае яе вызваліцца ад небясьпекі самакіраўніцтва, што для аднаўленьня спакою ў краіне трэба раней за ўсё адасланць на адпачын свой буржуазны парлямант, што для захаваньня ў цэласьці яе соцыяльнай магутнасьці павінна быць зламана яе політычная магутнасьць, што буржуа можа займацца сваімі прыватнымі справамі, эксплёатаваць другія клясы і спакойна з асалодаю карыстацца ўласнасьцю, сям'ёю, рэлігіяй і парадкам толькі пад умоваю, што яго кляса, разам з другімі клясамі, будзе ўкінута на аднолькавую політычную нікчэмнасьць, што для ратунку свайго партманэта трэба адмовіцца ад сваёй кароны і павесіць над уласнай галавой меч, які павінен абараняць яе і быць разам з тым дамоклевым мячом для яе“.

48-ы год надоўга адбіў у францускай буржуазіі ахвоту да рэволюцыйных выступленьняў і яна стала ўзгадоўваць навычкі вернападданьніцтва.

---

[1]) Дапамогамі пры складаньні артыкулу былі, апрача агульных работ па комуне Буржэна. Ле-Пеллетье і другіх, кніга Prolès, „Gustawe Flourens“, кніга самога Флюранса, „Paris liorè“, і ўрэшце зборнік дакумэнтаў „Enguète parlementaire sur le 18 mars“.

Гэта ў значнай ступені вызначыла і становішча інтэлігенцыі. Прадаючы сваю працу буржуазіі, яна не магла ісьці наперакор яе інтарэсам і новым навыкам. Зразумела, часамі прыходзілася вельмі цяжка. Адзін раз усім профэсаром было загадана згаліць вусы, каб „зьнішчыць у гарнітуры і звычаях апошнія сьляды анархіі“. У сярэдняй школе і ў унівэрсытэтах панавала клясычная сыстэма. Асаблівае прасьледаваньне было абвешчана на філёзофію і гісторыю—на першую—за стракатасьць і рознастайнасьць яе кірункаў і зьвязаную з гэтым шырокую магчымасьць прынцыповых спрэчак і крытыкі, на другую—наадварот, неспагадны да казённай апрацоўкі матэрыял. Замест гэтых злошкадлівых дысцыплін гатовы былі аддаць перавагу прыродазнаўчым навукам, бо ў першую палову другой імпэрыі яшчэ не існавала тэорыі Дарвіна. Зьявіўся і пашырыўся тып профэсароў-чыноўнікаў, наогул ва Францыі вельмі выразна пацягнула прускім пахам. Магло здавацца, што, ідучы па гэтаму шляху, Францыя сапраўды абернецца ў Прусію, што грамада будзе занята дзяржаваю, што не застанецца больш грамадзян і кожны француз у першую чаргу будзе адчуваць сябе служачым. І гэта небясьпека была зусім рэальная для Францыі, якая, у супроцьлегласьць хоць-бы Англіі, захавала і ўзмоцніла пасьля сваёй вялікай рэволюцыі рысы цэнтралізацыі і ўрадовай апекі. Трэба адзначыць, што Наполеон III ішоў па гэтаму шляху ў поўнай меры сьвядома. Ён сыстэматычна разьвіваў, прускія па істоце, ідэі так званай „дэмократычнай імпэрыі“, шукаў для свайго рэжыму і тэорытычнага і гістарычнага апраўданьня, усьлед свайму вялікаму дзядзьку, зварочваючыся да вобраза Юлія Цэзара, імпэратара міласьцю народу. Нездарма з яго імем зьвязана гістарычная праца аб вялікім рымляніне, напісаная, праўда, пры залішне вялікай дапамозе спэцыялістых. Новы Цэзар адзін час нават марыў аб тым, каб абвясьціць прамысловую працу дзяржаўнай службай, гаспадароў „патронаў“ абярнуць у кіраўнікоў дзяржаўнымі прадпрыемствамі. Няма чаго і гаварыць, што аб гэтым ён мог толькі марыць, бо ў такога роду „дзяржаўным соцыялізьме“ буржуазія ня была зацікаўлена, усякія спробы ў гэтым напрамку ставілі-б пад надзвычайнае апрабаваньне сілу яе нядаўна заваяванага вернападданьніцтва.

І ўсё-ж гэта ідылія „дэмократычнай імпэрыі“ цягнулася вельмі нядоўга. Меч, які павінен быў бараніць буржуазію, аказаўся вельмі тупым. Яму было лягчэй, і то пакуль што, бараніць францускую буржуазію ад францускіх-жа рабочых, чым ад конкурэнцыі буржуазіі ангельскай і нямецкай. Падтрымліваючы сяк-так парадак унутры краіны, урад Наполеона ў сваёй замежнай політыцы цярпеў шэраг няўдач, і няўдач цяжкіх, якраз ува ўсіх тых выпадках, калі ён стаяў на абароне інтарэсаў сваёй буржуазіі. Даволі ўспомніць фрытрэдарскую гандлёвую ўмову з Англіяй, выгодную, зразумела, для больш моцнага боку, г. зн. Англіі, няўдачу мэксыканскай экспэдыцыі, якая пахавала буйныя капіталы францускіх

банкаў, няпэўную і нявыразную італьянскую палітыку, якая ні то расьцярэблівала глебу для наступнай конкурэнткі, італьянскай буржуазіі, ні то аддавала ўсе позыцыі каталіцкай царкве і крайняй рэакцыі. Нясупынна растучая Прусія ўтварыла саюз з Расіяй, і ізоляцыя Францыі стала фактам. З другога боку, у самой Францыі хутка рос прамысловы капіталізм, а з ім і яго грозная цень—прамысловы пролетарыят. Глеба пад нагамі буржуазіі пачынала здрыгацца. Шэраг забастовак і рэволюцыйных выступленьняў паставілі на чаргу рабочае пытаньне. Спробы ўраду накіраваць рабочы рух у казённае рэчышча, нешта на манер зубатаўшчыны—рабочых таварыстваў узаемадапамогі, зразумела, не маглі карыстацца доўга посьпехам і толькі прымусілі нават буржуазію з небясьпекаю настарожвацца. Урэшце, рост капіталізму пашырыў прорву паміж рознымі пластамі самой буржуазіі. Дробная буржуазія, яшчэ злучаная цэлым шэрагам няпрыкметных пераходаў з пролетарыятам, рабіла ўплыў на яго псыхолёгію і сама набіралася яго рэволюцыйнага духу, усё далей адыходзячы з-пад фэрулы буйнай буржуазіі. Закіпела змаганьне ідэй, цэлыя кадры інтэлігенцыі непарыўнымі шэрагамі адыходзілі ад ранейшых буржуазных позыцый; іншы раз перад намі ажываюць ідэі 48-га году, і старыя журналістыя ўспамінаюць сваё баявое мінулае, іншы раз перад намі стары і вечна юны малюнак змаганьня бацькоў і дзяцей.

У атмосфэры гэтага змаганьня і рос Флюранс. Яго бацька, Жан П'ер Мары Флюранс, профэсар Collège de France, заўсёдны сакратар Акадэміі навук і член Францускай Акадэміі, славуты фізыолёг, які адзначыў сваімі працамі значны этап у разьвіцьці сваёй навукі. Ня будучы ў поўнай меры пасьлядоўным матэрыялістым у тым сэнсе, каб пакласьці матэрыялізм у аснову ўсяго свайго сьветапагляду, ён усё-ж прытрымліваўся ў навуцы матэрыялізму, як мэтоду досьледаў, і ў гэтым-жа напрамку выхоўваў і сваіх вучняў. Ён ня цураўся і грамадзкай дзейнасьці: у 28 годзе быў дэпутатам левай, але з гадамі яго лявізна значна палiняла, у 47 годзе ён быў пахаваны, як палітычны дзеяч, атрымаўшы годнасьць пэра Францыі, і пры другой імпэрыі быў ужо вернападданым профэсарам-чыноўнікам.

У гэтай спакойнай профэсарскай сям'і прайшло ціхае юнацтва будучага рэволюцыянэра. Магло здавацца, што шчырага і заахвочанага да працы хлопчыка, усяго адданага кнігам, лёгка будзе ўберагчы ад новых „тлетворных" ідэй, лёгка будзе ізоляваць ад жыцьцёвай блытаніны і клясавага змаганьня. Але Флюранс ня спраўдзіў чаканьняў. Ён з прагавітасьцю ўбіраў навуку, не задавальняючыся сярэднім выкладаньнем сваіх настаўнікаў у коледжы Людовіка Сьвятога, выкарыстоўваючы даволі вялікую бацькаўскую бібліотэку. Пры надзвычайных здольнасьцях яму было няцяжка ўжо ў 20 год вытрымаць выпыты „licence es-lettres" і „licence es-sciences". Бацька думаў, што сын пойдзе па яго дарозе. Якімі

шляхамі пранікла зараза ў спакойны дом Флюранса-бацькі? Ці можна ў дакладнасьці даведацца, з якога часу і з якіх крыніц убіраў Флюранссын атруту рэволюцыйнай гэрасі? Цяжка бацьком у пераходны час усьцерагаць сваіх дзяцей ад шкодных, па іх думцы, уплываў. У многім, мне здаецца, былі вінаваты і самі бацькі. Якімі-б закарэлымі чыноўнікамі ў сваёй рабоце і заплясьнелымі філістэрамі ў сваім жыцьці яны ні былі, усё-ж яны нават мімаволі загараліся, заводзячы гутарку аб вялікай рэволюцыі. Для некаторых з іх, самых старых, яна была дарагім успамінам іх уласнага юнацтва, другія ведалі аб ёй па апавяданьнях іх бацькоў,—і чым больш гэта рэволюцыя адыходзіла ў мінулае, тым больш траціла яна многія рэальныя рысы жорсткага клясавага змаганьньня, набывала ідэалізываны і нявыразны воблік далікатнага змаганьня за правы чалавека і грамадзяніна супроць прыгнечаньня дэспотызму. Некаторыя нават пашыраліся аб вялікіх прынцыпах 93-га, а не 89 ці 91-га году, як быццам не прыкмячаючы, як супярэчаць іх словам іх справы, увесь уклад іх быту, іх схіленьне перад усякім мундырам і паліцэйскім вучасткам.

Што-ж дзіўнага ў тым, што сыны лёгка знаходзілі мост паміж бацькаўскімі ўспамінамі і бягучай рэволюцыйнай публіцыстыкай, таксама цьмянай і ідэалістычнай, таксама часта прыхільнай да прынцыпаў 93-га году; а з цытаты, узятай намі ў Маркса, мы маглі ўгледзець, што дэмократычныя вольнасьці, як паказаў прыклад 48-га году, пагражалі адначасна і соцыяльнай падваліне, і політычнай верхавіне і рабіліся, значыцца, соцыялістычнымі. Узьнята-захоплены і нявыразны, многавобразны і ідэалістычны, дробна-буржуазны соцыялізм, свайго роду французскае народніцтва—вось што стала тым паветрам, якім дыхала французская моладзь 60-х гадоў. З усім запалам юнацтва яна ненавідзела добра ёй знаёмы паліцэйскі рэжым і кахала французскі „народ“, якога зусім ня ведала і ў якім ня ўмела адрозьніваць асобныя соцыяльныя групоўкі і змаганьне рэальных інтарэсаў паміж імі. У гэты-ж час вялікая рэволюцыя вучыла не замыкацца ў вузкіх нацыянальных рамках і нездарма на яе сьцягу было напісана—змаганьне за вызваленьне ўсіх народаў. Французская моладзь не забывалася і не магла забыцца гэтай місіі сваёй бацькаўшчыны, што, зразумела, рабіла яе ідэалы яшчэ больш нявыразнымі і утопічнымі.

Юнак Флюранс к 25 гадом быў ужо вучоным, які канчаткова сформаваўся і спэцыялізаваўся на навуцы свайго бацькі, фізыолёгіі, але ў той-жа час гэта быў энтузіясты-рэволюцыянэр, які жыў марай аб скорым зламаньні дэспотызму і аб вольным саюзе вызваленых народаў Эўропы. Вось чаму, калі выбухнула польскае паўстаньне, ён, к жудаснасьці бацькі, паляцеў вызваляць палякоў. Першая стычка ідэалу з сапраўднасьцю аказалася вельмі балючай. Прышлося пераканацца ў вялікай ролі польскіх памешчыкаў і іх інтарэсаў ува ўсім руху, у поўным адкіданьні інтарэсаў польскага сялянства, і расчараваны энтузіясты

вярнуўся ў Парыж. Яго бацька быў ужо вельмі стары, і самавольны ад'езд сына амаль не ўвагнаў яго ў магілу. Ён быў даволі разумным, каб шанаваць самалюбства сына і не падкрэсьліваць яго першага паражэньня. Лічачы сына даволі падрыхтаваным да работы выкладчыка ў вышэйшай школе і думаючы, што акадэмічная кар'ера зьяўляецца лепшай процівагай супроць захапленьня рэволюцыяй, ён падаў у адстаўку і перадаў свой курс, з дазволу міністра, свайму 25-гадоваму сыну. Гэта было адказнае для такога маладога чалавека даручэньне і, даючы на яго згоду, міністэрства народнай асьветы выходзіла, зразумела, з заслуг бацькі, а ня сына, які ў навуцы нічым яшчэ сябе ня выявіў. Флюранс узяў тэму „Гісторыю чалавечых рас“ і прачытаў вялікі курс у 50 лекцый. Знадворны посьпех быў надзвычайным. На лекцыі маладога чалавека зыходзіліся студэнты ўсіх факультэтаў, і ня толькі студэнты: прыходзілі рабочыя, журналістыя і пісьменьнікі, заходзіла многа дам, прывабленых дыкцыяй і прыгожасьцю маладога профэсара. Цягнула, зразумела, і сама тэма, пры апрацоўцы якой Флюранс не задаваляўся данымі прыродазнаўства, але рабіў экскурсіі і ў галіну лінгвістыкі. Зразумела, у курсе было шмат промахаў і неабаснаваных абагульненьняў, хоць-бы з тэй прычыны, што лінгвістычныя веды Флюранса былі ня вельмі вялікія. Важна было другое: слухачоў захапляў прасякаўшы курс дух навуковага матэрыялізму, шмат больш вытрыманы і баявы, чым у яго заслужанага бацькі. Начытанасьць Флюранса была, наогул кажучы, даволі вялікая, і асабліва шчыра ў гэты час ён вывучаў нямецкіх вучоных, лічачы іх непараўнальнымі настаўнікамі ў сэнсе грунтоўнасьці эрудыцыі і мэтодыкі дасьледваньня. Самая тэма курсу, як мост паміж прыродазнаўствам і грамадазнаўствам, была выбрана не выпадкова і давала повад заявам, якія ішлі далёка, а іншы раз пылкі Флюранс пераходзіў да шырокіх абагульненьняў, якія наўрад ці апраўдваліся яго навуковым матэрыялам. Вось, напрыклад, характэрная па рытарычнаму, хоць і шчыраму патосу, цытата з яго курсу: „Існуе толькі два спосабы кіраваць людзьмі: меч і слова. Меч—спосаб тэократый, слова—спосаб дэмакратый. За мячом хаваюцца жрэц і судзьдзя, якія патрабуюць яго абароны, бо яны не паляпшаюць і ня любяць народаў, яны іх застрашаюць і караюць, адзін—карамі ў будучыне, другі—карамі ў сучаснасьці. Слова—сьвет душы, вярхоўная сіла добрага і мудрага чалавека, якой няма ў чэсталюбнага эгоістага; яно дае рух усім узьнёслым чэсным і лепшым нашым пачуцьцям“. Гэта зусім ня пытлівая дэкламацыя, гэта—наіўнае выяўленьне веры Флюранса ў моц магутнага вызваляючага слова. І гэта слова ў яго вуснах умела пападаць у мэту. Вось, напрыклад, просты напад на Наполеона III пад відам портрэту Цэзара. „Цэзар стаў дэмакратам і разьлічыў добра. Ён прымушаў усіх прадстаўляць сябе ў нетрах Гальліі, сярод лясоў і балот, з непакрытай галавой, падстаўляючым свой лысы чэрап пад бурныя дажджы, пяшком на чале арміі ці конна сярод

чатырох сакратароў, дыктуючым адначасна абяцаньні аднаму, пагрозы другому, лісты сваім італьянскім прыхільнікам, а таксама і гальскім; яго, гэтага бледнага рымскага распусьніка, жудасьць мужоў, паграэлага ў даўгох, страціўшага дзесяць мільёнаў на куплю рымскай грамадзкай думкі. Восем гадоў такога суровага жыцьця ў Галыіі далі яму адданую армію і вялізарную популярнасьць. Імпэратарская ўлада гэтага была варта. Рэспубліканцы яго забілі. Злачынства і глупства! Ці-ж лёс нацыі залежыць ад існаваньня аднаго чалавека? Ці-ж не заўсёды яны маюць іменна той урад, якога яны заслугоўваюць сваім абыходжаньнем? Будучы раней усяго спрытным фальшыўцам, Цэзар і надалей вядзе гэтую своеасаблівую фікцыю, якая казытае самалюбства рымлян, звыклых пагарджаць монархіі і ўсходні сэрвілізм. Ён, які зусім не заваяваў Галыіі, называе сябе імпэратарам, г. зн. пераможным генэралам. Гэты генэрал даруе мір сваім грамадзянам, адбіраючы ў іх усе магістратуры, усю ўладу і забіраючы ўсё гэта сабе". Такая меткая характарыстыка, якая ў эпоху Мамлезена папераджала Ніча, у той-жа час проста біла па рэжыме Наполеона III. Ня дзіва, што пасыпаліся даносы, асабліва стараўся „Contemporain". Флюранс сам выявіў карты, разьвінуўшы некаторыя са сваіх вольналюбных ідэй у філёзофскім дыалёгу „Отфрыд". Усё-ж Флюрансу дазволілі дачытаць свой курс і нават яго надрукаваць. Ён спакойна рыхтаваўся да наступнага навуковага году, але ў пачатку яго, у лістападзе 1864 году, міністар народнай асьветы, вядомы гісторык Дзюрюі, палажыў забарону на яго акадэмічную кар'еру. На профэсуры Флюранса быў пастаўлены крыж. Імпэрыя сама адкінула яго на барыкаду.

Флюранс выяжджае ў Лёндон, пасьля перабіраецца ў Бэльгію, выдае першы і адзіны том сваёй „Навукі аб чалавеку", вялікага сынтэзу, пабудаванага на даных прыродазнаўства і этнографіі. У гэтай цяпер, зразумела, зусім застарэлай працы зварочвае ўвагу прогрэсыўна-матэрыялістычны пункт погляду, і іншы раз Флюранс даволі блізка падыходзіць да марксыцкіх спосабаў тлумачэньня грамадзкіх зьяў. Яму ў гэтыя гады выгнаньня прыходзіцца жыць літаратурнаю і лектарскаю працаю, ён супрацоўнічае ў левых органах друку, займаецца прыватным навучаньнем і чытае публічныя лекцыі на палітычныя і навуковыя тэмы, асабліва ахвотна выступаючы перад рабочай аўдыторыяй у Брусэлі, Антвэрпэне, Льежы. Магчыма, што гэтыя зносіны з рабочай клясай прывялі-б Флюранса да перагляду яго народніцкага сьветагляду: у яго была для гэтага некаторая навуковая падрыхтоўка, хоць у адзнаку ад Маркса ён не прайшоў школы гегельянскай дыялектыкі. Можна думаць, што ў эміграцкіх колах Англіі і Бэльгіі Флюранс рана ці позна паражыў-бы на сабе непасрэдны ўплыў марксызму. Але хворы бацька выклікаў яго да сябе. Флюранс баяўся, што ўжо не застане яго жывым. Бацька ачуняў, але гэта быў ужо вельмі стары чалавек, які жыў выключна ўспамінамі. Ён нічога не разумеў у імкненьнях свайго гарачага сына; у той-жа

час ён не хацеў даць ямуісьці яго ўласнай дарогай, стараўся ўсякі раз пераканаць яго ў правільнасьці іменна свайго пункту погляду, злаваўся і абураўся. Цяжкія сямейныя сцэны скора зрабілі жыцьцё дома нязносным. Вечная трагэдыя бацькоў і дзяцей!

Вось чаму паўстаньне на Крыце ў 1866 годзе прагучэла для Флюранса вызваленчым заклікам. З двума сотнямі франкаў у кішэні ён зьяўляецца ў Константынопалі, ня ведаючы турэцкай мовы і ня маючы знаёмых. Крыцкае паўстаньне было ўжо задушаным, але варочацца ў Парыж Флюрансу не хацелася. Выпадкова, вандруючы па горадзе, ён сустракае таварыша па коледжу. Гэтага даволі. Ён прыстасоўваецца да мясцовай радыкальнай францускай газэткі „Courrier d' Orient". У ёй ён прапагандуе еднасьць рас, зьнішчэньне дэспотызму рэлігійнага і палітычнага. Для яго ўжо даўно, як мы бачылі, была зразумелай роля рэлігіі, як саюзьніцы дзяржавы ў справе прыняволеньня народу. Але важна адзначыць, што Флюранс на Ўсходзе адразу зразумеў, што духоўнае і палітычнае вызваленьне ўсходніх народаў будзе ўдарам па эўропэйскаму дэспотызму наогул. Аднак, гэта было ясным ня толькі для яго аднаго. На абвешчаны ім антырэлігійны курс была накладзена забарона францускім паслом. Ён ня быў дапушчаны і да выкладаньня ў нацыянальнай грэцкай школе ў Фанарыофарсале. Праўда, было вельмі цяжка зламаць энэргію Флюранса. Пераяжджаючы з Константынопаля ў Атэны і назад, ён засноўвае ўласныя органы друку, якія, зразумела, хутка закрываліся, супрацоўнічае ў радыкальных грэцкіх і армянскіх газэтах, чытае ў Атэнах пад адкрытым небам лекцыі супроць палітыкі грэцкага міністэрства Руфоса. Урэшце, пры новым выбуху паўстаньня на Крыце накіроўваецца туды ў складзе цэлай экспэдыцыі добраахвотнікаў. Вельмі скора Флюранс стаў адным з галоўных правадыроў паўстаньня. Ня гледзячы на гэроізм паўстанцаў, якія гатовы пераносіць голад і ўсякія пазбаўленьні, справы ішлі дрэнна. Не хапала сродкаў, харчоў, зброі, не хапала і людзей. Флюранс рэдагуе адозву за дапамогаю да эльлінскага народу, але грэцкая буржуазія ня выявіла асаблівага спачуваньня. Афіцыяльныя перамаўленьні аб падтрыманьні, якія Флюранс распачаў з этэнскім урадам, скончыліся няўдачай. Крах прадпрыемства супаў з паведамленьнем аб сьмяртэльнай на гэты раз хваробе бацькі. Флюранс пасьпяшыўся ў Парыж і застаў бацьку ўжо на сьмяротнай пасьцелі (сьнежань 1867 г.).

Ува ўсёй Эўропе панавала рэакцыя. Гарыбальдзійцы ў Італіі толькі што былі раздушаны войскам папы і Напалеона III. Флюранс перажывае некаторае расчараваньне ці, лепш кажучы, стомленасьць. Сьмерць бацькі ажывіла ў ім успаміны аб яго навуковай рабоце, якую ён так любіў. Ён робіць апошнюю спробу, піша зваротак да імпэратара наступнага зьместу: „калі-б я атрымаў гэта высокае даручэньне (заняць катэдру бацькі), адважваюся думаць, што мая шчырасьць і мая адданасьць абавязкам профэсуры дакажуць, што я яго варты". Імпэратар наклаў

рэзолюцыю ў тым сэнсе, што ён ня мае замеру ўмешвацца ва ўнутраныя справы унівэрсытэту. У лютым 1868 году Флюранс зноў у Грэцыі. Зноў публічныя запальваючыя прамовы, заўзятыя газэтныя кампаніі, на гэты раз ужо і арышты. Мы бачым Флюранса членам нацыянальнага крыцкага сходу, пазьней старшынёй крыцкай дэпутацыі да эльлінскага парляманту. Француская паліцыя чула абараняе парадак нават за межамі Францыі, садзіць гвалтоўна непакойнага рэволюцыянэра на марсэльскі пакетбот, і толькі ўмешваньне францускай прэсы прымусіла скасаваць незаконны загад аб арышце. Усётакі Флюранса прывезьлі ў Марсэль, і тут паўторна арыштавалі, зразумела, „па памылцы". Вярнуўшыся ў Атэны, ледзь унікнуўшы спрытна расстаўленай пасткі, Флюранс прымушаны хавацца ў прыяцеляў. Паўстаньне канчаткова задушана і газэтная кампанія супроць грэцкага ўраду Булгарыса не дае ніякіх вынікаў. Нясупынны Флюранс пераносіць сваю дзейнасьць у Нэаполь, вядучы ў „Popolo d'Jtalia" змаганьне супроць міністэрства Манабрэі. Прышлося некаторы час правесьці ў вастрогах Vicara і San Francesco. І вось, урэшце, Флюранс зноў у Парыжы. Узбагачаны рэволюцыйнай практыкай, ён з галавою акунаецца ў справу організацыі ўжо ня грэцкай ці італьянскай, а сваёй, францускай рэволюцыі.

У гэтым, 1869 годзе, ужо відочна адчуваўся пачатак агоніі імпэрыі. Забастовачны рух к гэтаму часу падняўся хваляй нябывалай яшчэ сілы. Іншы раз ён прымаў выразны палітычны характар, напрыклад, забастоўка капальнікаў Луарскага вадазбору. На фоне гэтага рабочага руху пашыраюцца і паглыбляюцца хваляваньні дробнай буржуазіі, нават сярэднія клясы выяўляюць незадаваленьне слабасьцю імпэрыі на міжнародным экономічным фронце. Зноў ажыўляецца змаганьне партыйных і проста газэтных думак, стыкаюцца абдуманыя програмы і дробныя супярэчнасьці, ставяцца на абгаварэньне карэнныя соцыяльныя і палітычныя пытаньні. „Дэмократычная імпэрыя" робіць уступку за ўступкай, гэтым самым выяўляючы сваю слабасьць і робячы спробу сумясьціць нясумяшчальнае— інтарэсы буржуазіі і рабочай клясы. У гэтым гармідары Флюранс заняў сваё месца ў радыкальнай дробнабуржуазнай прэсе ў якасьці аднаго з найбольш яскравых публіцыстых эпохі. Вельмі часта яму прыходзілася займаць больш левую позыцыю, чым бліжэйшыя саратнікі, як, напрыклад, Ролефор ці Дэлеклюз. Яму было мала газэтнага змаганьня, ён гатоў быў, забягаючы ўперад, заклікаць да паўстаньня, выкарыстоўваючы дзеля гэтага самае невялікае абурэньне. Сваю тактыку ён сам вызначае наступным чынам: „У рэволюцыі самае важнае гэта—трываласьць і вытрыманасьць. Нясупынна падымаць абурэньні. Калі пераможаны ў адным месцы—пачынаць у другім. Калі-ж пачынаць змаганьне толькі пры роўных сілах, заўсёды астанешся ні пры чым і правядзеш усё сваё жыцьцё, ні разу не знайшоўшы добрага выпадку для змаганьня. Народ, інстынкт якога, бязумоўна больш правільны і больш здаровы, чым яго

правадыроў, у поўнай меры разумее гэтыя ісьціны. Калі ён зможа абыйсьціся без правадыроў, калі ён будзе выпрабаваны, у патрэбнай ступені гаспадаром самога сябе, каб самому сабою кіраваць, ён правядзе гэтыя ісьціны ў жыцьцё і хутка возьме перавагу над усякай тыраніяй". У гэтай тырадзе дзівіць адсутнасьць разуменьня важнасьці вучоту рэальных абставін. З другога боку, высокая ацэнка рэволюцыйнай мудрасьці мас, хоць і можа паказацца пераўвялічанай для Францыі канца імпэрыі, рэзка адзначае Флюранса ад блянкістых, да якіх без выстарчаючых падстаў яго звычайна далучаюць. Яшчэ менш тыповая для блянкістага тая рэальная сувязь, якую Флюранс стаў падтрымоўваць з насельніцтвам рабочых кварталаў Парыжу.

У маі 1869 году на выбарчым сходзе Флюранс заклікаў да супраціўленьня паліцыі, за што быў арыштаваны і засуджаны да трохмесячнай астрожнай адсідкі і 200 франкаў штрафу. На судзе мела месца забаўная размова паміж Флюрансам і судзьдзёй. Як вас завуць?—Густаў Флюранс.—Вам ніколі ня выносілі судовага прыгавору?—Вінават, адзін раз, п. прэзыдэнт.—Гэта дзіўна, у справе няма ані намёку! Да чаго-ж вас прысудзілі?—Да сьмерці!—?!—Праўда, гэта было ў Константынопалі ...—А! вельмі добра! Што вы можаце сказаць з прычыны фактаў, якія кладуцца вам у віну?

Нясупынная энэргія Флюранса выклікала шалёную злосьць рэакцыянэраў. Паль дэ Кассаньяк у газэце „Pays" абурыўся грубымі лаянкамі, і справа дайшла да дуэлі, у якой Флюранс быў сур'ёзна паранены. Асаблівае абурэньне ў рэакцыйным лягеры выклікала зусім правільная думка Флюранса, што для перамогі рэволюцыі трэба растлумачыць салдатам імпэрыі іх абавязкі перад народам. Гэта яны называлі дзяржаўнай здрадай, спробамі разбурэньня гэроічнай арміі і г. д. Артыкулы Флюранса „Армія і Народ" у „Rappel" і „Ваенная трыбуна" ў „Marseillaise" робяць вялікі гонар яго рэволюцыйнаму пачуцьцю. Адзін раз ён зьмясьціў артыкул наступнага зьместу: „Адзін імпэрыяліцкі [1]) генэрал палічыў зручным сабраць унтэр-афіцэраў і сказаць такую прамову. Гэтыя рэспубліканскія паскуднікі ладзяць цяпер з Вамі гулі, каб пасьля больш грунтоўна абрабаваць, калі яны стануць панамі. Пры рэспубліцы вас прымусяць здохнуць з голаду, тады як пры імпэрыі... Добра! Мы адкажам гэтаму генэралу. Вы вельмі злоўжываеце давер'ем унтэр-афіцэраў, якія, на шчасьце, не настолькі дурныя. У лепшым выпадку, у грамадзтве, арганізованым справядліва, у якім больш ня будзе заўсёднай арміі, унтэрафіцэры, стаўшы зноў грамадзянамі, людзьмі, а не нявольнікамі лютых афіцэраў, не пазбавяцца аніводнага са сваіх праў. Такое грамадзтва ня будзе мець патрэбы ў тым, каб кожны з яго сяброў мог абараняць свае правы. І тады, каб навучыць вайсковай справе ўсіх грамадзян, патрэбны

[1]) „Імпэрыялістымі" тады называлі прыхільнікаў імпэратарскага рэжыму.

будуць інструктары... Мы вядзем змаганьне толькі з афіцэрам-прэторыянцам, убраным прыдворным лёкаем, якога таксама ня любяць салдаты, як і мы".

Пазьней, у часе аблогі Парыжу, у сваёй кнізе „Paris liore" Флюранс да некаторой ступені сыстэматызаваў свае погляды на ролю арміі ў рэволюцыі і рэакцыі (глядзі разьдзел VIII, стар. 34—39). Гаворачы адносна эпохі вялікай рэволюцыі, ён адзначае: „гэтыя горныя цясьніны, гэтыя лясныя абшары, якія так лёгка абараняць, але якія цяпер аддалі Парыж прусакам, тады нас адратавалі. Генэральны штаб і ў тую эпоху цалкам здраджваў, як ён здраджвае. Але рэспубліканцы 1789 году, якімі кіравалі далёка не Ж. Фаўры ўзялі ў генэралы Гошэй і Марсо, унтэр-афіцэраў, якіх стары парадак пакінуў-бы ў іх годнасьці, і з гэтымі найлепшымі правадырамі яны заўсёды мелі перамогу". Рэспубліканская партыя наогул лічыла заўсёдную армію апірышчам мілітарызму і рэакцыі і выстаўляла вымаганьне аб замене яе народнай міліцыяй. Флюранс верыць у ваенную перавагу апошняй і ўспамінае гістарычныя прыклады Швайцарыі, галяндцаў і Вашынгтону. Гэтыя пераконаньні Флюранса зрабілі яго імя популярным сярод унтэр-афіцэраў і салдат, сям-там у арміі пачалі ўтварацца рэволюцыйныя ячэйкі.

Забойства радыкальнага публіцыстага В. Нуара прынцам П'ерам Наполеонам 10-І—1870 году ўсхвалявала ня толькі рэволюцыйныя колы. З гэтай прычыны Флюранс пазьней пісаў: „Пасьля таго, як удалося забясьпечыць тыл з боку арміі, калі-б мы мелі адвагу ўсёісьці ўперад, нясучы на руках нашага мярцьвяка, яна пабраталася-б з намі. Адпомсьціць за В. Нуара, гэта азначала—адпомсьціць за ўсю Францыю, вызваліць яе ад самага ганебнага нявольніцтва, назаўсёды зрабіць немагчымым чужаземны напад, якім скончыў першы Бонапарт і павінен быў няўхільна скончыць другі, калі-б выявілася, што мы можам самі вызваліцца".

Ня гледзячы на протэсты Дэлеклюза, Рошфор у „Марсэльезе" заклікаў да зброі. Але ён ня быў чалавекам дзейнасьці. У самы рашучы момант ён страціў прытомнасьць. Вальлёс і Флюранс рабілі спробу папхнуць натоўп на выступленьне, але спроба была сарвана братам забітага, Люі Нуарам. Выпадак, і вельмі добры, бо 200-тысячны натоўп меў настрой надзвычайна рашучы, быў страшны. Флюранс у абурэньні вышаў са складу рэдакцыі „Марсэльезы". Надыйшоўшы ў пачатку лютага арышт Рошфора павёў да новай спробы Флюранса падняць паўстаньне. Калі на сходзе, скліканым для заслуханьня прамовы дэпутата Рошфора, гэта значыць, сходзе зусім законным, было атрымана паведамленьне аб яго арышце ў часе дарогі да яго выбаршчыкаў, Флюранс абвясьціў скінутым урад і пэрманэнтную рэволюцыю, арыштаваў поліцэйскага камісара і павёў бяззбройны натоўп чалавек у 60 па вуліцах Парыжу з пяяньнем рэволюцыйных песень. Ён сам наступным чынам формуляваў свае пляны. „У прадбачнасьці гэтага змаганьня Флюранс прасіў некаторых са сваіх

адважных і дарагіх прыяцеляў, *рабочых* Бельвілю, папярэдзіць групы. Трэба было быць напагатове і чакаць яго, каб пасьля таго, як ён вернецца, пакрыць усё прадмесьце барыкадамі. Надзея Флюранса складалася з таго, каб усю ноч рабіць у гэтым прадмесьці супраціўленьне, мець там на дапамозе зброю, дзякуючы шчасьлівай дапамозе некаторых рэспубліканскіх унтэр-афіцэраў з казармаў Прынца Яўгеньня і Куртыль, якіх ён зрабіў сваімі прыяцелямі, абараняючы ў „Марсэльезе" іх інтарэсы адважных людзей, якія сказалі „Не" на бонапартаўскім плебісьце і якіх пасьля імпэрыя пакарала за гэта праступства, падстаўляючы іх першым пад абстрэл прусакоў. Калі-б Бельвіль мог трымацца ўсю ноч, раніцою, бязумоўна, падняліся-б і другія прадмесьці". Але было ўжо позна папераджаць групы. У Бельвілі Флюранса чакала толькі сто чалавек, амаль што ўсе бяз зброі. Казарма Куртыль была зачыненай. Прыяцеляў унтэр-афіцэраў у наяўнасьці ня было. Была збудавана барыкада ад вуліцы Пуэбло да каналу. Пашлі для гэтай справы омнібусы і карэты, зломкі разбураных мастоў і дамоў. Але паліцэйскую атаку прышлося адбіваць палкамі. З прычыны адсутнасьці зброі многія пашлі дадому. У дзьве гадзіны ночы з фронту зрабіў атаку моцны аддзел паліцыі з шаблямі нагола, а з тылу—эскадрон конных жандараў. Барыкада была ўзята. У гэты час Флюранс умацаваў другую вялікую барыкаду каля самага каналу. Пасьля таго, як была адбіта атака на гэтай барыкадзе, з Флюрансам засталося толькі двое параненых, пасьля адзін, урэшце, застаўся адзін Флюранс, які пашоў да прыяцеля начаваць, і барыкада засталася без абаронцаў.

Флюрансу прышлося схавацца і выехаць у Голяндыю, а адтуль у Лёндон. Завочна яго абвінавачвалі ў цэлым шэрагу злачынстваў, але не ў апошнім паўстаньні з тэй прычыны, што яго ўдзел у ім застаўся невядомым парыскай паліцыі. Ён ускладае цяпер усе надзеі на ваенную змову, якая насьпявала ў арміі. Але змова была выяўлена фальшывым прыяцелем за рэнту ў 15.000 франкаў. Вінаватыя былі засуджаны да 25-30 гадоў сасланьня. Межы—да катаржных работ, Флюранса-ж спасьціг дзіўны прыгавор: па супольнасьці ўсіх злачынстваў—да высылкі пажыцьцёвай і *звыш гэтага* яшчэ на шэсьць год. З прычыны гэтага прадажніцтва трэба запамятаць наступную ўвагу Флюранса: „Ня будзьце так недаверлівы да тых, хто прыходзіць прапанаваць свае паслугі для дзейнасьці... Будзьце даверлівы і ідзеце ўперад. Нават шпік, провокатар можа зрабіць добрай справе вельмі вялікія паслугі. Бо паліцыя вельмі няспрытна. Чэсныя людзі, бязумоўна, да ўсяго падыходзяць заўсёды больш тонка; найвышэйшы спрыт гэта—чэснасьць, простасьць у замерах, гарачая і непераможная адданасьць сьвятой справе чалавецтва... І калі шпікам удасца выадшукаць адну з нашых змоў, яны самае большае могуць прысудзіць нас да сьмерці. З тэй-жа прычыны, што нашы вышэйшыя прынцыпы па сутнасьці справядлівыя, то яны запануюць нават у выпадку

нашай сьмерці". Як характэрна гэтая цытата для Флюранса, палкага рэволюцыянэра і зоркага мысьліцеля, але ў той-жа час і наіўнага правадыра!

Няма сэнсу спыняцца на пытаньні аб узьніканьні Франка-прускай вайны, дасьледаваным і агульнавядомым. Францускі буржуазія, разумеючы ўсё значэньне вайны для сваёй будучыны, марачы аб агульнаэўропэйскай гегемоніі, адклала ў бок сваё мармытаньне і аддалася патрыотычным захапленьням. Тым цяжэй было абуджэньне, тым больш нечаканы разгром, які прадчуваўся Флюрансам. Апошні, засумаваўшы па рэволюцыйным Парыжы, патаемна прабраўся на бацькаўшчыну, але ў Льежы з газэт даведаўся аб абвяшчэньні вайны і праехаў у Грэцыю. Але, атрымаўшы ў скорасьці весткі аб рашучых паражэньнях, накіраваўся цераз Швайцарыю зноў ва Францыю. У Же (Gex) яго палічылі за прускага шпіка і пасадзілі ў вастрог, але падыйшоў верасьнеўскі пераварот і ўжо цераз 10 дзён па адмысловаму загаду Крэм'е Флюранс быў вызвалены.

8 верасьня ён ужо быў у Парыжы і запрапанаваў Рошфору, гэтаму закладчыку рэволюцыі ў шэрагах буржуазнага ўраду, свой плян нацыянальнай абароны. Гэты плян быў вельмі шырокі. Прапанавалася заклікаць да рэволюцыі народныя масы ў сярэдняй Эўропе, пакрыць Бэрлін і Вену барыкадамі. У Гішпаніі абвясьціць рэспубліку. Ажывіць рэволюцыйны рух у Італіі. Цераз асобных агэнтаў падняць рабочых у Лёндоне. Ва Францыі безадкладна зьмясьціць з пасад і арыштаваць усіх служачых Бонапарта, як вайсковых, так і грамадзянскіх. Пазбавіць чыноў усіх афіцэраў і зрабіць выбары новых салдатамі. Расстраляць усіх прадажнікаў, у тым ліку і генэралаў. Вывесьці з Парыжу і Мецы ўсе рэгулярныя сілы, пакінуўшы ў Мецы толькі гарнізон, патрэбны для таго, каб затрымаць каля гэтай крэпасьці буйныя нямецкія сілы. Дапаможную армію з Мецы накіраваць на Страсбур, каб прымусіць прусакоў зьняць аблогу. Войскам, выведзеным з Парыжу, узмоцніць Вэрсаль, пабудаваць шэраг лягераў, асабліва ўзмоцненых з усходняга боку. Умацаваць ваколіцы Парыжу, высечы ўсе лясы і прырыхтаваць дровы на зіму. Конфіскаваць усе мэталі ў Парыжы для вырабу зброі. Захаваць сувязь з провінцыяй, заказаць у Англіі і Амэрыцы 800 тысяч стрэльбаў, амэрыканскія мітральезы, ангельскія гарматы. У провінцыі абвясьціць пагалоўнае апалчэньне з расстрэлам тых, што адмаўляюцца. У кожным дэпартаманце ўтварыць вучэбны лягер для навабранцаў пад кіраўніцтвам адстаўных унтэр-афіцэраў. Прымусіць усіх жанчын вырабляць цёплую адзежу для арміі. У Парыжы падзяліць нацыянальную гвардыю не на батальёны, а на палкі, аб'яднаючы некалькі палкоў у дывізіі пад камандаю маладых энэргічных рэспубліканцаў, хоць-бы салдат альбо унтэр-афіцэраў. Усе гэтыя дывізіі павінны складаць асобную армію пад камандай выбранага начальніка. Перамяніць усю тактыку, дабівацца таго, каб на

кожнага прусака прыходзілася па тры французы. Да скончэньня ўсіх гэтых пераўтварэньняў весьці партызанскую вайну, наладзіць добры шпіёнаж. У Парыжы безадкладна ўтварыць муніцыпальныя выбары, ускласьці на будучы муніцыпалітэт клопат аб забясьпечаньні насельніцтва сталіцы ўсім патрэбным, даючы яму права рэквізыцый, увядзеньня сыстэмы пайкоў і г. д.

Такім чынам, гэта праграма, натхнёная ўспамінамі аб вялікай рэвалюцыі, была ўсебаковай і, калі хочаце, прадракальніцкай. Флюранс прадбачыў і небясьпеку аддачы Парыжу буржуазіяй, якая баялася ўзброенага народу і народнай вайны, і бядоты пролетарыяту ў часе аблогі, і выключную ролю нацыянальнай гвардыі. Але і на гэты раз дакладнасьць аналізу становішча злучаецца з наіўнасьцю тактычнага падыходу да проблемы. Як быццам Флюранс думае, што даволі толькі ведаць, што трэба рабіць! Рошфор быў прымушаны абдаць яго цэбрам халоднай вады. „Мой дарагі прыяцель, дарэмна цягнуць гэтую гутарку. Вы нічога гэтага дабіцца ня зможаце. Трошю толькі што заявіў у Савеце, што прусакі, калі ім гэта захочацца, могуць у працягу двух гадзін узяць любы з нашых фартоў і ўвайсьці ў Парыж у працягу сутак. А Трошю—найлепшы з нашых генэралаў“.

Становішча справы было зусім ясным. Зьбянтэжаная разгромам буржуазія жадала толькі аднаго: чым скарэй і як найтаней разьвязацца з вайною раней, чым яна стане народнаю. Прусакі з свайго боку, дабіваючы рэгулярную французскую армію і зацягваючы вайну, імкнуліся толькі да больш выгадных умоў міру. Флюранс быў бясьсільны і мог весьці толькі газэтную палеміку. Дробна-буржуазны характар яго народніцкага сьветагляду, ня гледзячы на яго зносіны з рабочымі Бельвілю, не дазваляў яму рэзка супрацьпаставіць інтарэсы пролетарыяту інтарэсам шырокіх пластоў дробнай буржуазіі. Вось яго думка аб буржуазіі, запісаная тады, калі ўсе ілюзіі ўжо павінны былі быць зжыты (Paris liore, стар. 70): „даверлівая буржуазія, у якой па прыкладу Напалеона III-га можна браць мільярды за мільярдамі, прымусіўшы яе баяцца народу, роўнасьць з якім каштавала-б ёй бязьмерна менш і дала-б ёй шмат больш шчасьця, бо сама па сабе буржуазія зусім не зласьлівая. Яна робіцца зласьлівай толькі ў тым выпадку, калі падманьнік, што стараецца падзяляць, каб уладнічаць, паказвае ёй чырвоную здань. Тады, стаўшы лютай, як бык, яна кідаецца на сваіх братоў і зьнішчае іх у чэрвеньскія дні“.

Політыка вайсковай улады Парыжу надала самыя сур'ёзныя падазрэньні. Пры першым зьяўленьні невялікіх прускіх атрадаў палічылі сябе ўсур'ёз блёкаванымі, сталі для зносін з провінцыяй карыстацца пачтовымі галубамі і паветранымі балёнамі, палохаць насельніцтва злавеснымі вайсковымі рэляцыямі. Нацыянальную гвардыю не хацелі ўзбройваць і вучыць ваеннай справе, з гэтай прычыны энэргічныя рэволюцыянэры

як Флюранс, самі ўзяліся за работу. У батальёны Флюранса масамі запісваліся жыхары рабочых прадмесьцяў, і скора пад яго камандаю было ўжо пяць батальёнаў. Але калі ён стаў дабівацца афармленьня гэтай організацыі, то атрымаў афіцыяльна насьмешлівы тытул „major de rempart". Спробы дагаварыцца з Трошю да нічога ня прыводзілі і пасьля аднэй такой бескарыснай размовы (29-IX) Флюранс вырашыў дзейнічаць. Яму было ясна, што „Бонапарт I палічыў-бы за лепшае, каб яго сталіца была ўзята казакамі, чым узброіць Антуанскае прадмесьце". 4 кастрычніка адбыўся ў Бельвілі сход афіцэраў нацыянальнай гвардыі. 5 кастрычніка адбылася даволі значная дэманстрацыя, якая выставіла дамаганьні: 1) раздачы нацыянальнай гвардыі лепшых стрэльбаў, так зв. „maeno", 2) пагалоўнага апалчэньня, 3) вылазкі пры выстарчаючай колькасьці ўдзельнікаў, 4) выбараў муніцыпалітэту, 5) рэквізыцыі харчоў і ўвядзеньня сыстэмы пайкоў, 6) закліку да рэволюцыйнай Эўропы і, урэшце, 7) звальненьня падазроных чыноўнікаў. Трошю даў адказ у тым сэнсе, што ўсё патрэбнае і так робіцца, бяз гэтых няпрошаных дарад. Зьнявbooжаны Флюранс падаў у адстаўку, і большасьць парыскага насельніцтва яго не падтрымала. Адносна гэтага ён сам піша ў сваёй кнізе: „Яшчэ-ж ніхто не ратаваў народ супроць яго волі. Калі-б Флюранс гэта зрабіў (г. зн. скінуў-бы ўрад Трошю), ён застаўся-б на наступны дзень у поўным адзіноцтве і бяз усякай моральнай сілы. Тады Парыж яшчэ верыў у Трошю". Спробы Гамбэты зацягнуць вайну таксама здаваліся Флюрансу безнадзейнымі. Галоўная памылка Гамбэты заключалася ў тым, што ён „ад самага пачатку не адмежаваўся ад Трошю і Фаўра і не аб'яднаўся шчыльна з рэспубліканцамі". Але ня толькі Гамбэта, але і апостал дробнабуржуазнай рэволюцыі Рошфор, заставаўся яшчэ ў шэрагах здрадніцкага ўраду. Флюранс піша ліст да Рошфора: „Не заставайцеся больш разам са здраднікамі, не станавецеся супольнікам Трошю, самага няздольнага і подлага з марудні каў". Рошфор даў кароткі адмоўны адказ. „Я спусьціўся ў найбольш схованую глыб свайго сумленьня, я выйшаў з гэтага выпрабаваньня пераконаным у тым, што павінен і надалей удзельнічаць ва ўрадзе". Паліцыя таксама разумела, што адкрытае паўстаньне супроць буржуазнага ўраду па неабходнасьці прыме характар ня дробнабуржуазнага, а пролетарскага руху. З гэтай прычыны начальнік паліцыі, Кератры, палічыў сваім абавязкам прапанаваць арыштаваць Флюранса і закрыць усе рэволюцыйныя клюбы. Але ўрад палічыў немагчымым стаць на адкрыты шлях рэакцыі, і кар'ера Кератры ўпала. Флюранс ня быў арыштаваны і яму нават зноў удалося стаць на чале аднаго з батальёнаў нацыянальнай гвардыі.

Ваенныя справы ішлі ўсё горш і горш. 26-га кастрычніка Флюранс і капітан Дэ Кроэц прышлі да Рошфора на агляд нацыянальных гвардзейцаў 20-ай акругі. Рошфор сказаў ім: „Мала надзеі. Мы ня зможам нават разьлічаць на дапамогу провінцыі, прыдзецца пакладацца толькі

на саміх сябе. Асабліва, Базэн прычыняе нам непакой. З часу абвяшчэньня рэспублікі ён не адказаў ні на адну з нашых тэлеграм. Мабыць, нават у гэты самы момант ён паслаў у Вэрсаль генэрала дагаварыцца аб аддачы Мецы імем імпэратара Напалеона III-га... Нічога не гаварэце аб гэтым“. Аднак Флюранс ня лічыў сябе ўправе хаваць ад народу настолькі важнае паведамленьне, якое адразу паказвае на тое бяздоньне, у якое пхалі Францыю генэралы-здраднікі. У якобінскай газэце „Le Gombat“ зьявілася на гэту тэму кароткае паведамленьне. Рэдакцыя газэты амаль што ня была падлеглай разгрому за „паклёп“. Journal officiel зьмясьціў па адрасу рэдактара Піа зьневажальную нататку. У № 4 ад 29/X Піа адказаў: „Аб пляне Базэна мне паведаміў для ратунку народу грамадзянін Флюранс, па словах якога гэтыя весткі ідуць непасрэдна ад грамадзяніна Рошфора, члена часовага ўраду нацыянальнай абароны“. Рошфор быў занепакоены выяўленьнем патаемнасьці і прасіў Флюранса ня ўблытваць яго ў гэтую справу. Флюранс з гэтай прычыны прымушаны быў зьмясьціць у „Le Gombat“ „папраўку“ ў тым сэнсе, што ён бярэ поўнасьцю на сябе адказнасьць за правільнасьць паведамленьня, але што ён атрымаў гэтае паведамленьне не ад Рошфора.

Праз два дні ўрад сам ня мог ужо хаваць праўды, і насельніцтва Парыжу даведалася аб капітуляцыі Мецы. У адказ выбухнула паўстаньне 31-X, якое ледзь ня скінула часовы ўрад. Я на ім спынюся больш падрабязна як з прычыны таго, што яно мала высьветлена ў работах, якія ёсьць на расійскай мове, а таксама і з прычыны таго, што ў ім кіраўнічую ролю граў Флюранс, і на гэтым прыкладзе мы маем поўную магчымасьць зрабіць яму ацэнку ў якасьці не тэорэтыка, а, што для нас асабліва важна, правадыра ўзброенага паўстаньня пролетарыяту.

Зразумела, гэтае паўстаньне мае некаторую падрыхтавальную гісторыю. 28 кастрычніка адбыўся сход так званай „рэспубліканскай лігі“. Старык Ледрю-Рольлен сказаў прамову, у якой заявіў: „Іменна толькі вялікая комуна адратавала бацькаўшчыну (падр.: у часе вялікай рэволюцыі. С. Л.)... *У Ліоне яна ўжо стала фактам*, ці застаніцёся ззаду вы, парыжане, якія заўсёды ішлі на чале рэволюцыі? Назначце комуну. Настойвайце, дзейнічайце, галасуйце, будзьце варты нашых бацькоў; уваскрасеце тую вялікую комуну, якая ў 1792 годзе адратавала Францыю і падрыхтавала глебу для рэспублікі“. Так падымаецца яшчэ адна зачэпка да паўстаньня, апрача капітуляцыі Мецы і другіх ваенных няўдач, як, напрыклад, страта форта Буржэ: прыклад паданы Бакуніным у Ліёне. 30 кастрычніка ў 11½ гадзін вечара перад адным з тэатраў заклікаў да паўстаньня Мільлер. Ён адкрыта гаварыў аб патрэбнасьці скінуць урад і выбраць комуну. Ён быў арыштаваны, але ўскорасьці вызвалены нацыянальнымі гвардзейцамі свайго батальёну. 31-га а 8 гадзіне раніцою адбыўся агульны сход дэлегатаў 20 акруг. Мільлер сказаў програмную прамову. Лефрансэ стаў вымагаць не галасаваньня, а дзейнасьці. Трэба

ісьці на Hotel de Ville, пранікнуць туды сілаю, абвясьціць скінутым урад і ўстанавіць часовы камітэт Комуны. Яго прапанова была прынята.

Мяркуючы па ўспамінак удзельнікаў і данясеньнях паліцыі, на чале руху стаялі якобінцы і блянкістыя. Ён быў падрыхтаваны патаемна і захапіў урад зьнянацку, і тым больш ясна яго няўдача. Мэры штосьці адчулі і папярэдзілі члена ўраду, Араго, які зараз-жа (вечарам 30-га) напісаў новаму прэфэкту паліцыі, Адану, аб маніфэстацыі, якая наладжвалася на наступны дзень, і аб канечнай патрэбнасьці прысла́ць два батальёны нацыянальнай гвардыі для аховы Hotel de Ville, у якім зьмяшчаўся часовы ўрад. Але Адан адказаў: „Мой дарагі прыяцель, вы вельмі непакоіце нацыянальных гвардзейцаў. Супакойцеся, усё будзе ў парадку“. Яшчэ ў 10 гадзін раніцы Адан ня верыў у магчымасьць паўстаньня.

Між тым, ужо з паловы дзесятай на пляцы перад Hotel de Ville сталі зьбірацца натоўпы народу. У 10 гадзін раніцы зьявілася дэпутацыя афіцэраў аднаго батальёну нацыянальнай гвардыі, і Ж. Фэрры каля гадзіны гаварыў з ім аб сэнсе і значэньні перамір‘я. У 12 гадзін прышло многа бяззбройных нацыянальных гвардзейцаў. Пачуліся крыкі: „Далоў перамір‘е! Пагалоўнае апалчэньне! Вайна да канца!“ Унутры Hotel de Ville памяшканьне ахоўвалася толькі пікетам мобілей, а знадворку 2-ма батальёнамі нацыянальнай гвардыі. Патроху атмосфэра пачала ўздымацца, прамовы і жэсты рабіліся ўсё больш рэзкімі. З боку вуліцы Рыволі была выламана драцяная загарадка, цераз яе частка натоўпу пранікла ў сад, а адтуль на двор Hotel de Ville. Фэрры паведаміў аб небясьпецы моманту ўсім членам ураду і прапанаваў ім безадкладна зьявіцца ў готэль. У чаканьні іх Араго стараўся зрабіць уплыў на натоўп угаворамі і абяцаньнямі. Ён абяцаў правесьці ў жыцьцё пагалоўнае апалчэньне, падаў надзею на хуткія муніцыпальныя выбары. Нясупынна падыходзяць усё новыя бяззбройныя роты нацыянальных гвардзейцаў са сваімі афіцэрамі. Яны паведамляюць, што набліжаюцца батальёны Бельвіля.

Члены ўраду зьяўляюцца ў готэль паміж першай і другой гадзінамі. Трошю і Пельтан вядуць перамаўленьні з дэпутацыямі. Тымчасам паўстанцы ауладалі ўжо сходамі, хоць галоўныя залі готэлю ў 2 гадзіны яшчэ былі вольныя. Палкоўнік Даверньь, які камандаваў мобілямі, што ахоўвалі готэль, хацеў вызваліць сходы. Ён загадаў прасунуцца ўперад і выняў шаблю. Але яго схапілі за каўнер—і калатня. Трошю баяўся праліцьця крыві і сказаў Даверню: „Трымайцеся мацней, мой дарагі Даверньь, але не дапушчайце гвалтоўніцтва“. Палкоўнік быў зьбіты, яго прыгожая барада прышла ў самае нікчэмнае становішча. Трошю яшчэ раз пробуе заспакоіць натоўп, але яго перабіваюць крыкамі: „У нас больш няма часу. Даволі прамоў, нам іх больш непатрэбна. Комуна! Далоў няздольных!“ Трошю загадвае Даверню адвесьці сваіх людзей у казармы Напалеона, бо іх дапамога аказалася бясьсільнай, а іх прысутнасьць толькі ўзбурала народ. Натоўп пачынае займаць асобныя пакоі готэлю.

У палавіне трэцяй гадзіны завулкам Victoire падыходзяць батальёны 118-ы (акругі Пантэону) і 186-ы (з Бельвілю) з вялізарным трохкалёрным сьцягам і з буйнымі надпісамі: „Далоў перамір'е! Пагалоўнае апалчэньне! Няхай жыве комуна!“ Скора за імі падыходзяць батальёны 249-ы, 83-і і 178-ы. Выпадковы стрэл амаль ня выклікаў перапалоху. Пачуліся крыкі: „Нас прадалі, страляюць у народ, рэжуць нашых братоў! Да зброі! Будзем будаваць барыкады!“ Але трывога была дарэмнаю. Нясупынна падыходзяць усё новыя батальёны. Пайшоў дробны дождж, і прамоклым нацыянальным гвардзейцам надакучыла стаяць на пляцы. Адзін струмень пад камандаю Пла, Дэлеклюза і Блянкі накіраваўся ў залю, у якой сабраліся мэры, другі на чалé з Шассэнам, Лефрансэ і інш.—у залю паседжаньняў ураду.

Мэры стараліся адыграць ролю пасярэднікаў і пераканаць урад згадзіцца на муніцыпальныя выбары, але калі народныя натоўпы затапілі залю іх паседжаньняў, яны патроху разыйшліся. У гэты час падыходзяць усе батальёны Флюранса. На пляцы ідзе ажыўлены абмен думак аб далейшай тактыцы і пашыраюцца розныя сьпісы членаў новага ўраду. Тымчасам Арагo ўхапіўся за прапанову мэраў. Пікар стаіць на больш радыкальнай позыцыі: ён вымагае перавыбараў ня толькі мэраў і іх памоцнікаў, але і ўраду, і прапануе ўзяць за прынцып, што ніякая пастанова, якая датычыць пытаньня аб перамір'і ці міру, ня можа атрымаць сілы без народнай ухвалы. Але большасьць ураду не хацела расстацца з уладаю, хоць нават 4 верасьня ён, уласна кажучы, ня быў зацьверджаны народным галасаваньнем. У гэтым выпадку дзейнічаў правільны клясавы інстынкт, бо было зусім ясна, што новы ўрад, які зьявіцца ў выніку рэволюцыі, ня будзе стаяць на баку інтарэсаў буйнай буржуазіі. Абмежаваліся згодаю на тое, што будуць зроблены муніцыпальныя выбары ў скорым часе, але без паказаньня тэрміну, але і то гэтая пастанова была вынесена 5 галасамі супроць 3, у тым ліку супроць Трошю. Арагo, які выйшаў з гэтай навіною да народу, быў спатканы варожа, з яго рук вырвалі дэкрэт і разарвалі яго шалік. Выявілася патрэбнасьць ісьці на большыя ўступкі, і муніцыпальныя выбары былі назначаны на *пайдня наступнага дня*.

Пролетарскую масу ня мог супакоіць нават улюбёны дробнай буржуазіяй Рошфор. Ён пачаў з заявы: „Я з народу, як і вы!“, але атрымаў адказ: „Ты! убірайся! ты—граф!“—„Я, як і вы, дзіця Парыжу“—„Ты! ты—арысто (г. зн. арыстократ). Далоў Рошфора!“—„Як і вы, я хачу комуны, і сёньня-ж вечарам урадовая абвестка паведаміць аб дні выбараў“—„Далоў выбары!“—„Чатыры дзяржавы прапанавалі Францыі весьці перамаўленьні аб перамір'і“.—„Ня трэба перамір'я! Пагалоўнае апалчэньне! Усе на ворага! Далоў Т'ера!“—„Я ня ведаю грамадзяніна Т'ера і не хачу ведаць яго; я ня ведаю, ці даў урад яму даручэньне, ці ён сам рашыў умяшацца, але...“—„Далоў Т'ера! Яго трэба арыштаваць! Трэба яго павесіць!“

Разгалосьсе заключалася ў тым, што Рошфор думаў і гаварыў аб новым муніцыпалітэце, аб комуне, як аб гарадзкім савеце, а паўстаўшы пролетарыят вымагаў *ураду-комуны*. На жаль ён ня быў у патрэбнай ступені організаваны і дзякуючы таму, што ня меў сваіх чыста пролетарскіх правадыроў, ішоў усё-такі на павадку ў дробнай буржуазіі. Гэта зараз-жа выявілася, як толькі справа дайшла да галасаваньня сьпісу членаў новага ўраду. Быў прыняты сьпіс 12 членаў: Дорыян, Блянкі, Дэлеклюз, Лю-Блян, Фелікс Піа, Бонвале, Ледрю Рольлен, Вэрдюр, Шэлькер, Жакмар, Грэппо, Мартэн-Бэрнар. Некаторыя, праўда, горача протэставалі і крычалі: „Гэта—арысто! Трэба прадстаўнікоў з народу! Мы жадаем сваіх з народу!“.

У 4 гадзіны дня натоўп уварваўся ў залю паседжаньня ўраду з крыкамі: „Яны не ўцякуць; трэба іх пільнаваць да абвяшчэньня комуны“. К гэтаму часу Пікар, Пельтан і Рофшор пасьпелі ўцячы, іншыя члены ўраду сядзелі за сталом. Жолі і Верморэль прад'явілі ім ад імя народу вымаганьне выйсьці ў адстаўку, але атрымалі адмоўны адказ. Тады часовы ўрад быў абвешчаны кінутым і ўстаноўлены Камітэт Грамадзянскага Ратунку. Фаўр дарэмна заяўляў, што ён і яго таварышы ня думаюць паддавацца сіле. У часе гэтых спрэчак выйшаў Флюранс у мундзіры палкоўніка з шабляй на баку і ў ботах са шпорамі. Узабраўшыся на стол, ён прачытаў новы сьпіс Камітэту Грамадзянскага Ратунку: Флюранс, Дэлеклюз, Піа, Блянкі, Моттю, Аврыаль, Рачвье, Мільлер, Распайль, Рошфор. Супроць некаторых кандыдатаў раздаліся протэсты.

Адносна кандыдатур Гюго, Ледрю-Рольлена і Люі Бляна моцна спрачаліся, уставілі ў сьпіс імя Дорыяна. Пасьля галасаваньня сьпісу Флюранс у сваю чаргу вымагае добразгоднай адстаўкі ўраду. У адказ на рашучае адмаўленьне ён абвяшчае членаў ураду заложнікамі. Апіраючыся на сваю популярнасьць, Флюранс меў поўную магчымасьць быць фактычным правадыром гэтага пролетарскага паўстаньня. На жаль, праведзены ім сьпіс Камітэту Грамадзянскага Ратунку ўвесь складаўся з прадстаўнікоў дробнай буржуазіі і блянкістых, а сваю ролю правадыра ён дабравольна ўступіў Блянкі. Паслаўшы за Блянкі і Дэлеклюзам, ён не палічыў нават патрэбным зрабіць загад, каб заняць Hotel de Ville надзейнымі батальёнамі нацыянальнай гвардыі і перашкодзіць выкліку батальёнаў буржуазнага складу. Увесь дзень уваход і выхад з готэлю заставаліся вольнымі. Батальённы камандзір Вабр, які прышоў вечарам, дарэмна некалькі раз дабіваўся ад Флюранса, чаго, уласна, ён хоча, паказваў, што пара прымаць рашучыя захады. Флюранс адказаў, што трэба чакаць Блянкі.

Блянкі, які, урэшце, зьявіўся, першаю справаю загадаў зачыніць вароты і забараніў выпушчаць каго-б там ні было без падпісанага ім ордэра. Флюранс піша дэкрэт: 1) аб адстаўцы ўраду, 2) аб назначэньні Дорыана часовым прэзыдэнтам аж да часу выбараў комуны, 3) аб выба-

рах комуны ў 8 гадзін раніцы 1-га лістапада, 4) аб галасаваньні па сьпісах з разьліку: 4 прадстаўнікі на кожны з дваццаці акруг Парыжу. Пад дыктоўку Блянкі Флюранс піша загад аб зборы батальёнаў для перадачы іх пад загад новага ўраду. Такім чынам, Камітэт Грамадзянскага Ратунку мысьліўся часоваю ўстановаю на адзін-два дні, а наступная комуна павінна была замяніць сабой урад нацыянальнай абароны. Вабр заявіў, што ён павінен вярнуцца на свой пост і атрымаў пропуск з подпісамі Блянкі і Флюранса.

Пікар, які знаходзіўся на волі, не бязьдзейнічаў. Ён ня мог адразу павесьці адданыя ўраду батальёны на Hotel de Ville з тэй прычыны, што начальнікі нацыянальнай гвардыі Тамізье і Монтагю былі ў палоне, а генэрал Шміц не адважваўся парушыць загад Трошю, які забараніў выступаць са зброяй супроць нягрознай, як яму здавалася раніцаю, маніфэстацыі. Усяго адным батальёнам Пікар заняў нацыянальную друкарню. Палкоўнік Ібо, ледзь выбраўшыся з готэлю, далучыўся да свайго 106 батальёну і выклікаў добраахвотнікаў, якіх набралася до 400. Рознымі пабочнымі шляхамі, прабраўшыся да Hotel de Ville, яны прайшлі цераз вялікія вароты з боку Набережнай, якія нікім не ахоўваліся. Узламалі дзьверы ў залю паседжаньняў ураду, прыкладамі праклалі дарогу скрозь гурток стралкоў Флюранса. Ібо падышоў да Флюранса і крыкнуў: „Далоў Флюранса, няхай жыве ўрад нацыянальнай абароны!“ Падняўся няўяўны гармідар. Здаровы гвардзеец падхапіў на плечы маленькага Трошю і сярод усёй гэтай завірухі пацягнуў яго са сходаў уніз. Блянкі здалёк пазнаў кепку Трошю і закрычаў: „Ня выпушчаць нікога, зачынеце вароты!“. Тымчасам кепка з галавы Трошю была кімсьці сарвана і ён зьнік з віду. Унізе варта Флюранса, ня ведаючы аб тым, што здарылася, усіх прапусьціла. Трошю сеў у Фіакр і паехаў у Луўр. Сярод гэтага гармідару зьніклі таксама Фэрры і Араго. Але Фаўру і Ж. Сімону не ўдалося скарыстацца замяшаньнем і яны засталіся ў палоне. Было ўжо 8 гадзін вечара. Тых, што засталіся, членаў ураду загналі ў амбразуру і прыставілі да іх узмоцненую варту.

Флюранс і Блянкі прадаўжаюць пісаць дэкрэты, устанаўляюць сьпіс Камітэту Грамадзянскага Ратунку з 5 членаў (Блянкі, Флюранс, Дэлеклюз, Мільлер, Раньвье), назначаюць часовыя муніцыпальныя камісіі, разьмяркоўваюць пасады. Нехта стаў вымагаць пасады прэфэкта. „Добра, ты будзеш прэфэктам Меца.—О, не, не, я не хачу прэфэктуры Меца. Дайце мне хоць-бы прэфэктуру Бордо“. Вабр аказаўся шпікам. Ён накіраваўся ў Луўр да Трошю. Ён просіць 2 тысячы чалавек і абяцае пакарыстацца сваім пропускам, арыштаваць усіх членаў камітэту. Трошю быў згадзіўся ўжо, але прышоўшы ў гэты час Пікар парадзіў унікаць адкрытай барацьбы. Тады Вабр і генэрал Дюкро прапанавалі правесьці настроеных рэакцыйна брэтонскіх мобілей з казармаў Наполеона ў Hotel de Ville падземным ходам.

Ледзь улеглася завіруха, выкліканая нападам Ібо, як зьявіўся 17 батальён пад камандай Крызэнуа. Узламаўшы запёртыя на гэты раз вароты, яны падняліся па сходах і, зламаўшы яшчэ адны дзьверы, аказаліся ў адным з пакояў готэлю. Тут яны прабылі калі 2 гадзін. Калі зьявіліся, выкліканыя шумам, Блянкі і Тыбальдзі, яны былі схвачаны і вынесены на двор, дзе іх вызвалілі гвардзейцы рэволюцыйнага 138-га батальёну, якія пазналі Блянкі. 17-ы батальён быў прагнаны, але Крызэнуа пасьпеў па памылцы атрымаць пропуск для 135-га батальёну і, зразумела, гэтым скарыстаўся.

Пікар усклаў на штаб нацыянальнай гвардыі адказнасьць за збор верных ураду батальёнаў. Небясьпека была вялікая, і буржуазія прыклала ўсе стараньні. Да 10 гадзіны вечара на Вандомскім пляцы сабралася ўжо 25 батальёнаў, к 12 гадзінам ночы амаль што 40. Фавр і Сімон баяліся, што іх заб'юць пры першай спробе іх вызваленьня. Флюранс і Дэлеклюз, не паклапаціўшыся сваячасова аб тым, каб заняць больш важныя пункты Парыжу рэволюцыйным войскам, дазволілі ім к вечару разыйсьціся дамоў, зразумелі, што рэволюцыя не ўдалася. Яны думаюць самі вызваліць Фаўра і Сімона з умоваю без перашкод прапусьціць правадыроў паўстаньня. Раптам убягае бледны чалавек з крыкам: „Грамадзяне, нам здрадзілі, батальён мобілей увайшоў цераз падземны ход і займае частку готэлю; гэты батальён падымаецца па галоўных сходах“. Арыштаванаму рэволюцыянэрамі генэралу Ле Фіо, брэтонцу родам, ледзь удалося пераканаць сваіх землякоў пачакаць далейшых загадаў начальства і ўстрымацца ад бойкі. Сам ён спакойна пайшоў у Луўр. Мобілі за поўгадзіны набралі 280 палоньнікаў і па памылцы амаль ня зьбілі прыйшоўшага ў готэль Араго.

Мяркуючы па паказаньнях Дорыяна і другіх навочных сьведак, гэтай ноччу ў готэлі абудва бакі вялі паміж сабою перамаўленьні і прыйшлі да компромісу. Было абяцана на наступны-ж дзень ня толькі зрабіць муніцыпальныя выбары, але і паставіць на народнае галасаваньне пытаньне аб далейшым існаваньні часовага ўраду. З другога боку, урад узяў на сябе абавязак не прыцягваць нікога да суду за падзеі апошніх сутак. Аб гэтай згодзе давялі да ведама батальёнаў, якія стаялі перад готэлем. Зразумела, што гэта згода была ў адных адносінах адступленьнем рэволюцыйных правадыроў: яны цяпер ужо падзялялі пытаньні аб комуне і ўрадзе, мабыць, згадзіўшыся лічыць першую толькі муніцыпальным саветам. І, утвараючы згоду, правадыры разыходзіліся з пажаданьнямі пролетарыяту, нязгоднага ані на якія компромісы. Калі Фавр, Сімон і Гарнье-Пажэ хацелі выйсьці, то варта Флюранса заявіла, што ня выпусьціць аніводнага палоньніка. Дарэмна Дорыян, Флюранс і Мільлер па чарзе ўзлазілі на стол і гаварылі прамовы. Блянкі таксама не далучыўся да згоды і пераконваў рэволюцыйную гвардыю трымацца, пакуль урад ці, прынамсі, Трошю не падасьць у адстаўку. У гэты час да готэлю

падасьпеў Фэрры з новымі батальёнамі буржуазнага складу. Ён ухваліў згоду, якая толькі адбылася. Дзьве гадзіны цягнуліся новыя перамаўленьні на гэты раз ужо з рэакцыйнай гвардыяй. Урэшце, вароты былі адчынены і праз іх уварваліся новыя атрады белагвардзейцаў. Фэрры з натугаю ўтрымліваў іх ад праліцьця крыві. Ён заявіў рэволюцыянэрам: „Вы—мае палоньнікі, за мною ідуць 50 тысяч чалавек, калі вы зробіце хоць адзін рух, вы ўсе будзеце расстрэлены. Ідзеце, я хачу ўнікнуць праліцьця крыві; заўтра вы будзеце несьці адказнасьць перад судом“. Усе выйшлі. Тамізье выйшаў разам з Флюрансам і Блянкі і правёў апошняга да вуліцы Перамогі.

Я знарок падрабязна апавядаў падзеі гэтага выдатнага дня з тэй прычыны, што ў іх яскрава адбілася няздольнасьць правадыроў падрыхтаваць выкліканае імі выступленьне (было выстаўлена толькі некалькі батальёнаў гвардыі і зусім ня было зроблена спробы мобілізаваць усе сілы пролетарыяту), надаць яму пэўны клясавы характар (згода з якобінцамі), урэшце, няздольнасьць і кіраваць самім рухам, чаму і прышлося скончыць згодаю са старым урадам. Асабліва абураўся на няздольную тактыку Флюранса Мільлер, які справядліва паказваў, што першаю справаю трэба было адвесьці арыштаваных членаў у якое-небудзь другое месца пад надзейную варту, прасьцей усяго ў вастрог, а пасьля паклапаціцца забясьпечыць спакойную працу Камітэту Грамадзянскага Ратунку, для чаго трэба было ўстанавіць на пляцы дзяжурства рэволюцыйных батальёнаў і трымаць з рабочымі кварталамі нясупынную сувязь. Трэба было таксама адабраць зброю ад рэакцыйных батальёнаў (напрыклад, 106 батальён па словах Мільлера складаўся выключна з панамароў). Між тым з пяці батальёнаў Бельвілю адзін вельмі нядоўга прабыў на Грэўскім пляцы, а другія, не атрымаўшы ясных загадаў і памылкова думаючы, што перамога пролетарыяту ўжо забясьпечана, у скорасьці таксама разыйшліся па хатах.

Нарэшце, увесь рух быў у аснове справаю Флюранса і яго бэльвільскіх батальёнаў. Масы пролетарыяту ня былі падрыхтаваны і, можна сказаць, нават захоплены зьнянацку. Бесталковае кіраўніцтва і правал руху ўзмоцнілі позыцыю буржуазіі. Плебісцыт 3 лістапада паказаў, што большасьць парыскіх выбіральнікаў яшчэ ідзе за часовым урадам. Абяцанка Фэрры прыцягнуць рэволюцыянэраў да суду азначала разрыў тэй згоды, да якой ён сам далучыўся. Адчуўшы за сабою падтрыманьне дробнай буржуазіі, урад энэргічна ўзяўся за клясавую помсту. Многія камандзіры батальёнаў нацыянальнай гвардыі зволены. Зроблена было шэраг арыштаў (да 40). Калі ў часе перавыбараў мэраў і іх памоцнікаў у рэволюцыйным Бельвілі аказаліся выбранымі Ранвье, Мільлер, Флюранс і Лефрансэ, амаль што ўсе члены Камітэту Грамадзянскага Ратунку, які не адбыўся, гэтыя выбары былі скасованы і назначаны ў адміністрацыйным парадку асобныя муніцыпальныя камісіі.

Флюранс прымушаны быў пайсьці ў падпольле. Ен зноў рваўся ў барацьбу, але прыяцелі стрымлівалі яго тымі меркаваньнямі, што новае заўчаснае выступленьне толькі пагоршыць удзел арыштаваных. Але калі ён даведаўся аб тым, што яго бэльвільскія стралкі прымалі ўдзел у бойцы з непрыяцелем, яго цярпеньне ня вытрымала. Ён, адзеты простым стралком, разам з пяцьма таварышамі прайшоў цераз вароты Доменіль. Праўда, капітана абложнай гвардыі зьдзівіла падабенства стралка са славутым рэволюцыянэрам, але капрал, што ішоў поплеч з Флюрансам, здолеў яго пераканаць у супраціўным. 2 сьнежня Флюранс ужо быў на аванпостах гвардзейцаў. Даведаўшыся аб гэтым, Кл. Тома загадаў арыштаваць яго за тое, што ён самавольна прысвоіў ужо раз адабраную ад яго годнасьць. Флюранс быў арыштаваны і пасаджаны ў вастрог Мозас 7 сьнежня. Але ўжо 21 колёна яго прыхільнікаў у 300 чалавек з расхінутым чырвоным сьцягам і з барабанным грукатам вызваліла Флюранса, пераканаўшы беднага комэнданта ў тым, што яны—гэта толькі авангард 6-тысячнай арміі, якая ідзе на прыступ Мозаса. Флюранс думаў разьдзьмуць гэтую іскру ў новую рэволюцыю. Удалося аўладаць мэрыяй 20 акругі. Але калі быў адданы загад камандзіру 25-га батальёну заняць позыцыю на бульвары Пуэбло, туды зьявіўся толькі адзін камандзір без салдат. Прышлося зноў пайсьці ў падпольле. Іменна ў гэты час Флюранс піша свой „Paris libre“ („Прадажнікі Парыжу“), вельмі добры памфлет, у якім да ганебнага слупа прыбіты палахлівы і здрадніцкі буржуазны ўрад. Завочна 10 сакавіка 1871 году Флюранс 3-ім ваенным саветам быў прыгавораны да кары сьмерцю за падбухторваньне на грамадзянскую вайну і арышт членаў ураду 31 кастрычніка.

Толькі абвяшчэньне параможнай на гэты раз комуны 18 сакавіка вырвала Флюранса з падпольля. У самым рэволюцыйным пераварoце ён ня прымаў удзелу. Зразумела, ён увайшоў у склад комуны і многія чакалі ад яго самай шырокай рэволюцыйнай работы. Дюпон, сакратар Генэральнага Савету Інтэрнацыяналу ад Францыі, вёў з Флюрансам ажыўленую перапіску і, паміж іншым, ускладаў на яго ганаровую задачу дабіцца згоды паміж фракцыямі комуны. Але пасьля перамогі Флюранс стаў як быццам больш асьцярожным. 25 сакавіка ён бярэ на сябе скромныя абавязкі памоцніка мэра Ранвье ў сваёй акрузе. 26 сакавіка ён быў назначаны членам ваеннай камісіі і камандзірам 20 легіёну. Яму належыць справа выданьня дэкрэту ад 27 сакавіка аб выбарах вайсковых казначэяў самой гвардыяй. 2 красавіка ён атрымаў разам з генэралам Бэржэрэ адказнае даручэньне прасунуцца як можна далей у напрамку Вэрсалю. Пры добрай падрыхтоўцы і здольным кіраўніцтве гэтая разьведка мела вялізарнае значэньне для лёсу рэволюцыйнага Парыжу.

Флюранс часта і многа гаварыў і пісаў аб перавазе стратэгіі вышаўшых з народу Гошэй над габінэтнай стратэгіяй заслужаных генэралаў. На жаль ні Бэржэрэ, ні ён гэніем Гоша не ўладалі. Але ў даным

выпадку галоўную ролю адыграла вядомая ўжо нам рыса характару Флюранса, яго непамерная і, можна сказаць, прынцыповая даверлівасьць. Атрымаўшы тэлеграму: „Не праходзьце каля Mont-Valerien, нам здрадзілі“, ён палічыў за абавязак не зьвярнуць на яе ўвагі. 20-ы легіён пайшоў у дарогу на злучэньне з колёнай Бэржэрэ 3 красавіка ў 4 гадзіны раніцы. Злучэньне абодвух атрадаў прайшло зусім добра, але калі яны павінны былі зьвярнуць на дарогу ў Нантэр, форт Валер'ен стаў іх абстрэльваць з флянгу, і ўсё войска рассыпалася. Флюранс і яго верны памоцнік Чыпрыяні сабраў вельмі мала людзей. Толькі з 4 тысячамі яны прыйшлі ў Рюэйль, пабудавалі там барыкаду і загарадзілі дарогу. У гарачай бойцы Флюранс быў адкінуты з часткаю колёны ў Шату. Туды-ж адступіў і Бэржэрэ. Абодва разам маглі сабраць ня больш 300 чалавек. Прыходзілася адступаць. Флюранс і Чыпрыяні ідуць па палёх. Яны хаваюцца ў харчэўні на набережнай Шату, недалёка ад мосту. Жонка гаспадара правяла іх у невялікі пакойчык. Флюранс палажыў на стол шаблю і кепку, кінуўся на ложак і, вельмі стомлены падзеямі трывожнага дня, моцна заснуў. Чыпрыяні палічыў абавязкам разбудзіць яго і парадзіць даведацца, ці далёка ворагі. Флюранс папрасіў гаспадара прайсьці да Нантэра і паглядзець, ці няма там яшчэ нацыянальных гвардзейцаў і ці далёка вэрсальцы. Той узяў 20 франкаў, пайшоў і не вярнуўся.

Раптам Чэпрыяні ўбачыў штабнога вэрсальскага афіцэра, які хутка набліжаўся конна. Праз некаторы кароткі час да харчэўні падыходзяць некалькі жандараў са стрэльбамі ў руках. Яны трасуць дзьверы, Чэпрыяні хутка іх адчыняе. Жандар скаціўся са сходаў з крыкам „да зброі!“ Чэпрыяні кінуўся за ім, але быў акружаны 20 жандарамі, якія сталі біць яго прыкладамі і абяззброілі. Бяззбройны Флюранс сам зыйшоў да іх. Яго абшукалі і знайшлі ў аднэй кішэні тэлеграму, аб якой успаміналася вышэй. У другой кішэні аказаўся адрас ліста ад маткі. „А, гэта—Флюранс, на гэты раз ён наш, ён не ўцячэ. Сьмерць! Сьмерць!“ Флюранс стаіць спакойна, злажыўшы накрыж рукі на грудзях. Зьяўляецца капітан верхам, нехта Дэмарэ. „Гэта вы, Флюранс?“—„Так“.—„Гэта вы забіваеце маіх жандараў?“—„Не, гэта ня я“.—„Як, ня вы?“—„Не!“—„Лгун!“ І капітан ударам шаблі разьбіў Флюрансу галаву і разрэзаў плячо. Флюранс паваліўся ў няпрытомнасьці. Жандар прыставіў да яго вуха рулю стрэльбы, выстраліў, і чэрап разьляцеўся ў кускі.

Так загінуў гэрой Комуны. З прычыны гэтага варта ўспомніць яго ліст да мастака Пікло 2 студзеня 1870 году, выкліканы напісанай мастаком карцінай на сюжэт гібелі рэволюцыянэра Бодэна: „Добра памерці, як Бодэн,—вышэйшы гонар для рэспубліканца“. Аддаючы належнае яго гэроізму, яго адданасьці справе рэволюцыі, яго чуласьці да мук парыскага пролетарыяту і яго талентам, мы ўсё-ж павінны адзначыць і яго недахваты ў якасьці правадыра пролетарыяту. Ня будучы вульгарным

блянкістым, верачы ў рэволюцыйны інстынкт пролетарыяту, ён не заўсёды ўмеў паказваць яму правільны шлях, вельмі часта яму было па дарозе з дробна-буржуазнымі элемэнтамі, не даволі востра ўспрыймаў ён усю супярэчнасьць інтарэсаў буржуазіі і пролетарыяту. Дарэмна было-б шукаць у яго пісанінах яскравай соцыяльнай програмы і ў гэтых адносінах ён вельмі ўступае свайму прыяцелю Мільлеру. Гэта перш за ўсё рэволюцыянэр-змоўнік, барацьбіт за політычную волю, ён больш гадзіцца для разбурэньня старога, чым для будаўніцтва новага. Гэтыя недахваты, клясавая несьвядомасьць сваёй позыцыі, інтэлігенцкае захапленьне вобразамі вялікай рэволюцыі робіць Флюранса тыповай фігурай у шэрагу правадыроў Комуны. І калі гэта Комуна па сутнасьці была першай спробаю дыктатуры пролетарыяту, то гэтым яна залежала ад пролетарскага характару руху, а не сьвядомага кіраўніцтва правадыроў тыпу Флюранса. Лёгіка соцыяльнага разьвіцьця намнога мацней захапленьняў інтэлігенцыі. Толькі марксызм вывеў свае асноўныя ідэі з лёгікі клясавай барацьбы і гэтым самым зрабіў політыку навукай. Для Флюранса політыка была яшчэ мастацтвам, адсюль і расчараваньні былі няўхільны.

# ДА ПЫТАНЬНЯ АБ ЧОРНАМОРСКА-БАЛЬТЫЦКАЙ ВОДНАЙ МАГІСТРАЛІ

Е. Руткоўскі

У свой час, апісваючы ролю рэк у гаспадарчым і соцыяльным жыцьці краін і народаў, Л. Мечнікоў *) вызначаў, што краіны, якія абвадняюцца вялікімі рэкамі, „могут стать, смотря по обстоятельствам, житницами, из которых люди трудом нескольких дней могут черпать средства к существованию в течение целого года, или общинными кладбищами, усеянными бесчисленными трупами, жертвами наводнений, голода и заразы“.

Наша краіна—Беларусь—хаця і ня мае на сваёй тэрыторыі вельмі значных рэк, як, напрыклад, Ніл, Місісіпі, Янцзэкіанг і г. д., але ўсё-ж такі тыя рэкі, якія абвадняюць яе тэрыторыю як у мінулым, так і ў сучаснасьці ў гаспадарчым жыцьці краіны адыгрывалі і адыгрываюць вялізарнае значэньне. Мы добра ведаем, якое вялікае значэньне ў жыцьці нашай краіны меў у свой час вялікі водны шлях „з Варагаў у Грэкі“, таксама ведаем значэньне Дзьвінскага шляху ў жыцьці „Полацкай Русі“. У сваю чаргу, пракапаньне каналаў на злучэньні рэк вадазбору Дняпра з рэкамі Бальтыцкага мора—Заходняй Дзьвіной, Нёмнам і Віслай—адчыніла нам дзьверы к беспасрэднаму выхаду на заходнія рынкі. З таго часу ўзвышаецца тэмп вывазу нашага багацьця—лесу ў прыморскія парты—Рыгу, Данцыг і інш. Павялічваюцца лясныя промыслы, а ў зьвязку з гэтым прыцягваецца да працы ў лясох і на рэках шмат рабочых рук і т. далей.

Па гэтаму пытаньню ў сваёй працы „Россия в дорожном отношении“ Мэйн пісаў: „Вывоз и сплав лесных материалов, особенно в уездах Пинском, Мозырском, Борисовском и Игуменском, занимает все рабочие руки губернии (Минской) и вызывает приход рабочих из других губерний“. Довады Мэйна сьцьвярджаюцца данымі праф. М. В. Доўнар-Запольскага ў яго характарыстыцы саматужных промыслаў Менскай губэрні ў 90-х гадох XIX ст.

Л. Мечнікоў у характарыстыцы значэньня рэк паказаў таксама і адмоўныя бакі мэдалі, ён яскрава вызначыў і тыя выпадкі, калі ўзбярэжжы рэк становяцца „жертвамі наводнений, голода и заразы“.

У такім разе, каб унікнуць ад усіх гэтых бед і каб зрабіць берагі рэк „жытніцамі“, а ня могілкамі,—„необходим коллективный труд,

*) Л. Мечников. „Цивилизация и великие исторические реки“. Москва, „Голос Труда“ 1924 год.

необходимы совокупные усилия строго дисциплинированных масс населения“ [1]). Якраз у „турме народаў“, у царскай Расіі, ня было вось гэтых патрэбных умоў для скарыстаньня магутных сіл вады на эканомічны і культурны ўзрост краіны, таму і ўзьбярэжжы нашых рэк не зрабіліся тымі „жытніцамі“, аб якіх думаў Л. Мечніков.

Вялікія абшары „Палесься“ і іншых месц Беларусі на працягу ўсяго часу жыцьця Беларусі ў „турме народаў“ заставаліся ва ўладаньні прыроднай стыхіі, а ня культурнага „ўплыву“ чалавека на прыроду. На дзесяткі і сотні кілёмэтраў залітыя вадою абшары з чахлымі бярозкамі і невялічкімі хвойкамі па пясчаных бугрох—вось звычайны малюнак „Палесься“.

„Хата-„курніца“, „мякінны хлеб, „сухоты“, а ў іншых выпадках—„каўтун“ і „трасца“,—усё гэта самыя звычайныя і сапраўдныя атрыбуты „турэмнага жыцьця“ народаў на ўзьбярэжжы Прыпяці, Пцічы, Арэсы і Гарыні, Дняпра, Нёмна, Віліі, Заходняй Дзьвіны, Бярэзіны, Друцы і іншых рэк Беларусі. Гэта значыць, што ў „ланцужных“ умовах жыцьця тут стыхія прыроды, у тым ліку стыхія вады, адолела чалавека, і ён сярод мора балот чах і марнеў і „пад вадою-ж на дне сваё гора хаваў“ [2]).

Як спадчыну ад мінулага, сучасная БССР, вышаўшы, дзякуючы Вялікаму Кастрычніку, да вольнага жыцьця і працы, атрымала: з аднаго боку—скаргу сялянства на тое, што ў яго карыстаньні „зямлі няма“, „зямлі мала“ (разумеецца аграрная перанаселенасьць), а з другога—вялізарныя плошчы балот з „багуном“, мохам і звычайнымі балотнымі насельнікамі—камарамі.

У сапраўднасьці балоты БССР (з Гомельшчынай) складаюць ня менш як 2.082.400 гэктараў, што пры зямельнай плошчы рэспублікі ў 12.134 тысяч гэктараў [3]) складае да 16,8 проц. ад усёй яе зямельнай плошчы. У межах БССР, да далучэньня да яе Гомельшчыны, па падліку Кірмеліозему НКЗ-ему, балоты займалі 16,4 проц. [4]) ад усёй зямельнай плошчы. Вызначаныя проценты, як паказальнікі ўдзелу балотнай плошчы ў агульнай зямельнай плошчы па БССР, некалькі менш паказаньняў І. І. Віляева („Торфяные залежи России“), які дае на балотную плошчу па Магілеўскай, Менскай і Віцебскай губэрнях 18 проц. ад усёй зямельнай плошчы гэтых губэрань.

Аднак, трэба лічыць, што паказаная розьніца параўнаўча невялічкая, тым больш, што яна павінна меркавацца за кошт узвышанага процанту балот па Піншчыне, якая цяпер знаходзіцца за межамі БССР.

---

1) Л. Мечников. „Цивилизация и великие исторические реки“. Москва, 1924 г., ст. 14.

2) Цішка Гартны. „Песьня грабара“. Выпісы беларускай літаратуры, ч. II, выдан. БДВ, 1923 г.

3) Даклад т. Прышчэпава на IV Сэсіі ЦВК БССР. „Савецкая Беларусь“ ад 2-І-27 г. № 20.

4) П. Макрыцкі. „Торфяные рэссурсы БССР“. Жур „Савецк. будаўніцтва“ 1926 г., № 5.

Калі прыкінуць к насельніцтву, дык мы маем у агульных лічбах па рэспубліцы на 1 жыхара—2,4 гэктара зямельнай плошчы, у тым ліку балот да 0,4 гэктара. Пры норме сям'і ў 4-5 чалавек,—што ў значнай частцы ў сельскіх мясцовасьцях БССР адпавядае „двару", як асобнай гаспадарчай адзінцы,—можна лічыць, што ў сярэднім кожны „двор" альбо гаспадарка абцяжарваецца больш як 1—2 гэктарамі балот.

Відавочна, што дарэволюцыйнай Расіі бяз праў жыхарства на вольную працу, пры такім ліку па плошчы балот яны былі цяжарамі ў народнай гаспадарцы наогул, а не багацьцем яе. Другая справа ў гэтыя часы, калі „і сям'я працоўных стала жыцьцём краю кіраваць" [1]).

Вышаўшы з „турмы народаў", жыхар БССР зараз-жа бярэцца за вельмі цяжкую, але ўдзячную працу: ён пастунова вядзе ўпартае змаганьне з прыроднай стыхіяй.

Даволі шпарка ідзе організацыя мэліорацыйных таварыстваў у мэтах асушэньня балот. У сучасны момант на тэрыторыі БССР організавана больш 716 такіх таварыстваў, якія вядуць даволі значную працу па мэліораваньні балот і па закультываваньню ўжо мэліораваных плошчаў.

Колектыўная думка, колектыўная праца дае моц і пасьпех у змаганьні з прыродай: асушаюцца балоты, здабываецца багацьце балот—торф, пашыраецца карысная зямельная плошча. Так, па даным НКЗему ў бягучым пяцігодзьдзі мае быць мэліоравана балот больш як 110 тысяч гэктараў; значную частку мэліораванай плошчы мяркуецца закультываваць. Што датычыцца торфараспрацовак, дык трэба сказаць, што апошнія хаця яшчэ і не дасягнулі значных разьмераў, але ўсё-ж такі ў сваім разьвіцьці паказваюць значны рост. Так, здабыча торфу па БССР складала ў 1924 г. 9,8 тыс. тон, у 1925 г.—18,0 тыс. тон і ў 1926 г. да 29,8 тыс. тон [2]).

У параўнаньні з 1925 годам здабыча торфу ў 1926 годзе дасягае 163,6 проц. і за трохгодзьдзе—304,0 проц. Гэтыя даныя ўзяты па старой тэрыторыі БССР, бяз Гомельшчыны, прычым яны паказваюць карыстаньне торфу толькі для патрэб прамысловасьці. Зразумела, што здабыча торфу для ўласных патрэб насельніцтва таксама значная: яна на 1926 г. мяркуецца па БССР да 20 тыс. тон і па Гомельшчыне—да 61,5 тыс. тон.

Калі ўзяць маштаб торфараспрацовак Саюзу ССР,—дык мы ўбачым, што ў іх удзельнічала БССР толькі на 0,9 проц, і Гомельская губ.—на 1.3 проц. А між іншым удзел Маскоўскай губ. вызначаецца за той-жа 1926 г. у 47,5 проц. [3])

Зразумела, што пры даволі значным ліку ў БССР балот наогул і тарфянікаў у прыватнасьці, ёсьць мажлівасьць меркаваць аб павялічэньні

---

[1]) Цішка Гартны. „Годзе". Выпісы беларускае літаратуры, ч. II, выд. БДВ Менск, 1923 г., стар. 157.

[2]) Часопісь „Торфяное дело" за 1927. г.

[3]) Таксама.

як карыснай сельска-гаспадарчай плошчы шляхам мэліераваньня і культываваньня гэтых балот, так і асабліва аб узросьце торфараспрацовак. І калі мы мяркуем, што па ўсёй БССР у пэрспэктыве шляхам разбалочваньня можна будзе пусьціць у інтэнсыўную апрацоўку больш як 1 мл. гэктараў [1]) зямлі, дык трэба лічыць, што гэта мажлівасьць знаходзіцца, між іншым, у залежнасьці і ад таго, у якім становішчы будзе знаходзіцца сувязь сельска-гаспадарчых раёнаў з рынкамі збыту. Вось тут і паўстае пытаньне аб шляхох зносін. Пакуль што ў гэтых адносінах нам хваліцца няма чым. Аднак, для будучыны ў пэрспэктыве мажлівасьці ёсьць. У сапраўднасьці, калі проф. Рыбнікоў кажа [2]), што ў Паўночна-Амэрыканскіх краёх „преодоление огромных сухопутных расстояний сильно облегчается тем, что великие озера далеко врезываются в страну“, дык для нашай наяўнасьці, у нашым маленькім маштабе, такой магчымасьцю зьяўляецца тая густая сетка рачных ліній, якая абвадняе ўсю БССР. А каб гэта было так, нам здаецца, што недахватна ў сучаснасьці толькі клапаціцца аб падтрыманьні існуючага суднаходзтва, аб падтрыманьні існуючых суднаходных шляхоў,—трэба зараз-жа ставіць у пэрспэктыве пытаньне аб зашляхаваньні новых водных ліній. У гэтым напрамку прад нашай тэхнікай стаіць вялікая задача. Трэба дасканальна вывучыць, якім спосабам можна нашы сплаўныя рэкі перарабіць у суднаходныя і які патрэбен на іх тып суднаў, каб ажыцьцявіць на значнай частцы воднай сеткі рэспублікі суднаходзтва.

Пры такім падыходзе да вырашэньня нашай балотнай і рачной проблемы, трэба спадзявацца, што на ўзьбярэжжы нашых рэк і асабліва ў прыпрыпяцьці, у прывульлі і ў іншых дасюль балотных мясцох, рана або позна „из тьмы лесов, из топи блат“ узрастуць „пышно, горделиво“ квітнеючыя сенажаці з тучнымі стадамі жывёлы, „нивы золотые“ з „лазурью васильков“, гароды і сады.

І тут ня казка і не фантазія, а сапраўдная, рэальная пэрспэктыва, шляхам скарыстаньня ўсіх вытворчых сіл краю „Устрой вольны, устрой новы пад фундамант залажыць“ соцыялістычнага будаўніцтва. Парукай пасьпяховасьці ў гэтым могуць служыць: воля працоўных і іх праца. Зарніцамі будучага росквіту народнай гаспадаркі ў БССР, мне здаецца, зьяўляюцца: з аднаго боку, мерапрыемствы па магістралізацыі Дняпра і Заходняй Дзьвіны ў зьвязку з „Днепростроем“ і пабудова „Асінстрою“, а з другога боку, інтэнсыфікацыя сельскай гаспадаркі, прыкладам чаго могуць быць:

а) практычная праца 716 мэліорацыйных таварыстваў у розных кутках БССР;

---

[1]) В. Д. Архангельский. „Укрупненная БССР“. Выд. Дзяржпляну БССР за 1927 г.

[2]) Проф. А. Рыбнікоў. „Транспорт і сельская гаспадарка“. Часопіс „Пути сельского хозяйства“ за 1927 г. № 1.

б) вынікі досьледаў Менскай балотнай станцыі і іншых апорных дасьледчых пунктаў рэспублікі і, нарэшце,

в) практычныя дасягненьні па культуры ў сельскай гаспадарцы і садоўніцтву такіх выдатных і, разам з тым, простых, звычайных сялян, як *Хмялеўскі* з „Вастравоў“ [1]) і *Мароз* з Фатыні.

Аднак, гэта ня ўсё. Калі мы прымем пад увагу, што на тэрыторыі БССР з усёй забалочанай плошчы каля 11% складаюць тарфянікі з запасам торфу, паводле падлікаў інжынэра Марыцкага, у 1.214.087 міл. куб. мэтраў, дык становіцца відавочным, што наша сельская гаспадарка, таксама і прамысловасьць, могуць быць забясьпечаны тарфяным апалам на даволі доўгія гады. Паступовае павялічэньне здабычы торфу яскрава вызначае, што тарфяны апал усё больш і больш уваходзіць у гаспадарчы зварот як сельскай гаспадаркі, так і прамысловасьці. Апошняе пацьвярджаецца і данымі ВСНГ. БССР аб пераводзе шэрагу прадпрыемстваў на тарфяны апал. Такая гаспадарчая кон'юнктура вядзе да вызваленьня ад скарыстоўваньня для апалу драўніны і замены яе торфам.

У зьвязку з гэтым ёсьць пэрспэктыва вызваленую драўніну накіраваць у прамысловасьць і гэтым самым узмацніць у некаторай частцы нашы сырцовыя рэсурсы ў дрэваапрацоўчай прамысловасьці. Тут асабліва важна, што распыленыя па тэрыторыі ў сельскай мясцовасьці спажыўцы-сяляне пераходзяць ад дрэва-апалу да торфа-апалу. І чым больш будзе пераход у сельскіх мясцовасьцях на тарфяны апал, тым больш будзе нарастаньне рэсурсаў драўніны для спажываньня яе ў прамысловасьці. А разам з гэтым нямінуча будуць пераменяцца і напрамкі грузавога руху драўніны: тое, што дасюль разыходзілася на апал па вёсках, у пэрспэктыве пераходу апошніх на тарфяны апал—у далейшым можа пайсьці як сырэц па воднаму і чыгуначнаму транспорту к пунктам прамысловага разьвіцьця. У даным выпадку, бязумоўна, павялічыцца грузавы рух драўніны на тых шляхох, якія найлепш зьвязваюць лясныя масывы з пунктамі спажываньня драўніны. Ва ўмовах БССР такімі выходнымі шляхамі для драўніны і зьяўляюцца водныя шляхі.

Наша думка зусім выразна сьцьвярджаецца данымі вядомага ў Беларусі лесаэканоміста т. Рагінскага, які, між іншым, піша, што „асаблівасьць лясоў Беларусі—гэта іх вельмі спрыяючае географічнае разьмеркаваньне ў адносінах да абслугоўваючых іх транспартных шляхоў“ [2]). Прычым, маючы на ўвазе пэрспэктыву разьвіцьця дрэваапрацоўчай прамысловасьці, т. Рагінскі конкрэтна ўказвае і месцы магчымага разьвіцьця гэтай прамысловасьці. Па гэтаму пытаньню ён выказвае такую думку, што „географічнае разьмеркаваньне лясоў Беларусі і шырока рас-

1) „Изв. ЦИК'а СССР“ от 8/V—27 г. № 101.

2) Рагінскі. „Становішча і пэрспэктывы лясной прамысловасьці Беларусі“. „Савецкая Беларусь“, № 7-8, ад 6/IV—1927 г.

кіданая сыстэма водных транспортных шляхоў даюць магчымасьць сконцэнтраваць амаль усю дрэваапрацоўчую прамысловасьць Беларусі ў двух пунктах—на Бярэзіне і Прыпяці, у мясцох іх перасячэньня з чыгункамі". У сучасны момант ужо вядзецца пабудова комбінату па лесаапрацоўцы ў Бабруйску. Такім парадкам, прад намі ўзрастае сапраўдная рэальнасьць у напрамку вызначэньня пункту прамысловага спажываньня драўніны, а ў зьвязку з гэтым і напрамак тых шляхоў, па якіх будзе разьвівацца рух драўніны.

Гэты выбар месц для пабудовы прамысловых прадпрыемстваў мяркуецца з разьлікам на тое, што, з аднаго боку, пайменныя рэкі з іх прытокамі праходзяць, мабыць, па галоўных лясных масывах рэспублікі, што дае добрыя абставіны для падвозу к мясцом апрацоўкі і пераробкі лесасырцу, а здругога боку, дзякуючы перасячэньню чыгунак з воднымі шляхамі, атрымліваецца магчымасьць даволі лёгкай і скорай перакідкі фабрыкатаў і поўфабрыкатаў як зноў па вадзе, так і па чыгунках к мясцом іх збыту. Пры такіх абставінах лесакарыстаньня ёсьць, напрыклад, поўная магчымасьць з прыбярэжжа Бярэзіны альбо Прыпяці адпраўляць у Пэрсію асіну ў выглядзе сярнічак, у прыгожых каробачках і г. далей. Вось з гэтага пункту пагляду мае рацыю т. Рагінскі, калі ён разглядае нашу лесаэкономіку ў сувязі з пэрспэктывай нашага воднага транспорту. І калі ў сучасны момант наш водны транспорт яшчэ і ня зусім прыстасованы да належнага абслугоўваньня ўсёй лясной гаспадаркі ў рэспубліцы, дык прычыны гэтаму карэняцца ў мінулым і галоўным чынам у тым, што ўся наша сетка водных шляхоў ня мела і ня мае вялікай магістралі з канчатковымі выхадамі ў адкрытае мора. Быўшыя транспортныя сувязі нашай лясной гаспадаркі з рынкамі Зах. Эўропы праз штучныя злучэньні рэк вадазбору Дняпра з рэкамі Бальтыцкага мора (Бярэзінская сыстэма, Дняпра-Бугскі і Агінскі каналы) у мэтах сплаву лесу ў абставінах разьвіцьця капіталістычнай гаспадаркі ўжо ў пачатку XX стагодзьдзя не маглі поўнасьцю задаволіць гэтую галіну народнай гаспадаркі. Таму лесаэкспартныя опэрацыі высоўвалі шэраг пытаньняў аб замене выхадных сплаўных шляхоў—шляхамі з разьлікам пад вялікі таварны рух на адпаведных суднах.

Вядома, што ўсялякае запытаньне мае сабе адказ—прапанову. Запытаньні лясной гаспадаркі тэрыторыі Беларусі знайшлі сабе адказ у варыянтных проектах магістралізацыі рэк: Вісла—Прыпяць—Дняпро і Дняпро—Заходняя Дзьвіна. Але-ж гэтым проектам, мабыць, ня суджана было ажыцьцявіцца ва ўмовах гаспадаркі капіталістычнага ладу. Соцыялістычнае будаўніцтва, ставячы перад сабою вялікія задачы, мае ў сабе і даволі моцы, каб ажыцьцявіць у сучасных абставінах тое, што не магло быць зроблена ва ўмовах „турэмнага жыцьця" працоўных—у царскай Расіі.

Вось цяпер і паўстаюць пытаньні аб нашых водных шляхох зносін. Вырашэньне гэтых пытаньняў, panaшаму, павінна ісьці на падставе

даных пэрспэктывы разьвіцьця: лясной, сельскай гаспадаркі, прамысловасьці і наогул культурнага ўзросту краю.

У першым разе, каб сказаць, што для лясной гаспадаркі патрэбны добрыя транспортныя сувязі, трэба мець даныя, а колькі ўся лясная гаспадарка можа даць у год грузаў транспорту і ў даным выпадку—воднаму транспорту. Для адказу на гэтае запытаньне пакарыстаемся некаторымі данымі таго-ж т. Рагінскага аб лесакарыстаньні па БССР. Паводле яго падлікаў па ўсіх відах лесакарыстаньня ў рэспубліцы здабываецца штогод, прыкладна, каля 4,5 млн. куб. мэтраў драўніны, у тым ліку будаўнічай—40% і драўніны для апалу 60%. Па катэгорыях спажыўцоў уся зазначаная расходавая драўніна разьмяркоўваецца, прыблізна, так: 40% забірае мясцовае насельніцтва, 9%—транспорт, 7%—мясцовая прамысловасьць, 3%—кватэрная копэрацыя і 41%—цэнзавая прамысловасьць ВСНГ БССР. З гэтага разьмеркаваньня відаць, што водны і чыгуначны транспорты павінны быць гатовы к перавозцы ня менш як 60% ад штогодняй здабычы драўніны па рэспубліцы, што складае ў мерных адзінках каля 2,7 млн. куб. мэтраў.

Дадзеныя аб фактычным сплаве лесу па рэках БССР за апошнія тры гады па вестках начсплаваў (Беларускага і Заходня-Дзьвінскага) вызначаюцца наступнымі лічбамі: сплаўлена лесу ў 1924 г.—1.225 тыс. куб. мэтраў (100 проц.), у 1925 г.—1.149 тыс. куб. мэтраў (93,8 проц.) і ў 1926 г.—1.687 тыс. куб. мэтраў (137,7 проц.)[1]).

Ня маючы вестак аб разьмеркаваньні па родах перавозак лесагрузаў па водных шляхох БССР, мы, па папярэдніх даных аб перавозках драўніны па рэках В. Дняпра, у межах БССР, устанаўліваем, што з усяго руху драўніны на гэтых рэках займаюць: перавозкі драўніны ў суднах 15,8 проц. і плытавы сплаў—84,8 проц. Пры такіх даных мы ўлічваем, што ўвесь рух драўніны (x) па вадашляхох БССР у 1926 г. павінен быць $\left(x = \frac{1687 \cdot 100}{84,8}\right)$ у круглых памерніках каля 2.000 тыс. куб. мэтраў і ў тым ліку перавозкі драўніны ў суднах—313,0 тыс. куб. мэтраў.

Цікава адзначыць, што па даных ЦСУБ за 1924-25 год[2]) рух драўніны па вадашляхох і чыгунках разьмяркоўваецца (па іх адпраўках) так: драўніна для апалу—25 проц. па вадашляхох і 75 проц. па чыгунках, іншы лесаматэрыял: па вадашляхох—58 проц. і па чыгунках 42 проц., а разам па вадашляхох—48 проц. і па чыгунках—52 проц. З паказаных даных відаць, што наша лясная гаспадарка ў сучаснасьці абслугоўваецца больш чыгуначным транспартам, чымся водным, ня гледзячы на тое, што воднымі шляхамі Беларусь забясьпечана вельмі добра і што на гэтых шляхох ляжыць, мабыць, пераважная частка нашых прамысловых цэнтраў і вялікіх гарадоў: (Бабруйск, Гомель, Віцебск, Барысаў і г. далей).

---

[1]) Е. Руткоўскі. Сожскі водны шлях. Часопіс „Савецкае Будаўніцтва“ за 1927 г. № 5.
[2]) „Штогоднік ЦСУБ“ за 1925-26 г. Выд. ЦСУ за 1927 г., Менск.

У гэтым малюнку асаблівую ўвагу заслугоўваюць паказальнікі руху драўніны для апалу. Справа ў тым, што транспартаваная драўніна для апалу мае больш мясцовы зварот: яна ідзе ў нашы гарады для прыватнага спажываньня, а таксама і для апалу некаторых прамысловых прадпрыемстваў. А мы ўсе ведаем, што „дровы" ў нашых гарадох дарагія, што дарагі апал на прадпрыемствах узвышае цану на тавар. Усё гэта адчувае кожны жыхар гораду, адбіваецца гэта і ў бюджэце селяніна. Вось тут і паўстае пытаньне зусім жыцьцёвае аб тым, чаму-ж гэта лесагрузы (у тым ліку дровы) накіраваліся на чыгуначны транспорт і адышлі з воднага. Прычына самая звычайная: нам здаецца, што нашы водныя шляхі і водны транспорт у сучасных абставінах ня зусім прыспасоблены для шырокай на іх транспортнай дзейнасьці. Ды гэта зразумела. Ад капіталістычнага ладу Беларусь не атрымала добрай спадчыны. Яшчэ ў 1912 г. параходаўласьнік Грошыков скардзіўся на тое, што „прытокі Дняпра (разумеюцца прытокі на сучаснай тэрыторыі БССР) застаюцца ў першабытным становішчы і зусім нікуды ня гожы"[1]). Вядома, што за час імпэрыялістычнай, а потым і грамадзянскай войнаў становішча „нікуды ня гожых" рэк не палепшылася, а, мабыць, значна пагоршылася. І ня дзіва таму, што ў нас па ліку рэк многа, а добрых водных шляхоў зносін мала, калі не сказаць больш, што зусім няма.

Ня можа быць дзіва і таму, што такія вялікія грузы, як дровы, у нас падвозяцца к мясцом спажываньня па чыгунках, а не па вадзе. Ведама, што не ўсялякі гатунак драўніны можа быць пушчаны сплавам бяз страты ў ім якасьці. Апрача таго, наогул кажучы, для перавозкі дроў патрэбен суднавы рух. Вось у гэтым і ўся справа. Для поўнага абслугоўваньня лясной гаспадаркі наш водны транспарт зусім не гатоў як у адносінах саміх шляхоў, так і асабліва ў адносінах транспортных сродкаў.

Каб дакладна меркаваць аб тым, што нам патрэбен водны транспорт, трэба толькі на хвілінку зьвярнуцца да пытаньняў кошту перавозак па кожнаму з відаў транспорту, і мы ўбачым, што ад кепскага становішча нашага воднага транспорту наш масавы спажывец драўніны, а таксама і спажывец іншых тавараў[2]) (хлеба, солі і г. д.) нясе значныя страты. Гэта зусім выразна сьцьвярджаецца довадамі проф. К. Я. Загорскага, які з практыкі мінулага Францыі прыкладна дае параўнаўчы кошт перавозак па ўнутраных водных шляхох і па чыгунках. З гэтых даных мы бачым, што перавозкі па ўнутраных водных шляхох у сярэднім каштавалі $^{1}/_{115}$ кап. з пуда і вярсты (пуда-вярста=0,0175 тона-клм.[3]) і па чыгунках—$^{1}/_{34}$ клм. з пуда-вярсты, або ў мэтравых лічбах: у першым разе кошт тонны-клм.—4,08 кап., у другім—0,4 кап., розьніца на

[1]) Працы нарады Кіеўскай Акругі Шляхоў Зносін. Кіеў, 1912 г.
[2]) Проф. К. Я. Загорскі. „Экономіка транспарту". Выд. НКШЗ за 1923 г.
[3]) В. В. Звонков. „Эксплёатацыя водных шляхоў". Выд. Трансдруку за 1927 г.

3,68 кап. Вось гэтая розьніца і зьяўляецца ў прыкладзе з францускіх норм тымі дадатковымі транспортнымі выдаткамі, якія ўздаражаюць, ужо ў нашых умовах, спажывецкую цану на дрываны апал для гораду і прадпрыемстваў, калі ён будзе падвозіцца к месцу спажываньня па чыгунках, а не па воднаму транспорту. Прыклад даволі выразны і ёсьць над чым задумацца.

Можа і ў сапраўднасьці, скарыстаўшы як сьлед нашы магчымасьці ў водным транспорце, можна будзе скараціць некалькі транспортныя выдаткі (у даным выпадку выдаткі на дрэва-апал) і тым самым зьнізіць і спажывецкую цану, у першую чаргу, на апал нашага масавага карыстаньня—на дровы, а потым і на лесаматэрыял прамысловага карыстаньня.

У гэтым выпадку, нам здаецца, перад намі ёсьць вялікая задача вывучэньня нашых водных шляхоў у іх сучасным становішчы, каб дакладна можна было даць адказ аб магчымасьці іх належнага скарыстаньня ў мэтах разьвіцьця ня толькі нашай лясной гаспадаркі, але і наогул гаспадаркі краю. У процілеглым выпадку ўсе нашы довады на карысьць воднаму транспорту ня будуць мець практычнага значэньня для гаспадарчага жыцьця краю, а тым больш страцяць усялякае значэньне довады т. Рагінскага аб вялікай ролі нашых водных шляхоў у нашай лясной гаспадарцы.

Разьвязваньне агульных пытаньняў аб індустрыялізацыі краіны ў цэлым і асабліва—пытаньняў па інтэнсыфікацыі сельскай гаспадаркі ня можа ісьці без належнага вырашэньня пытаньняў аб „нашых народнагаспадарчых сувязях“, гэта значыць—шляхох зносін. Проф. А. Рыбнікоў лічыць, бяручы маштаб Саюзу ССР, што на базе аздараўленьня сувязяй магчыма будзе скарыстаць „лежащие втуне окраины“ і тым самым зьмякчыць у некаторых раёнах Саюзу аграрную перанаселенасьць.

Для нашай беларускай наяўнасьці аздараўленьне і разьвіцьцё водных шляхоў зносін дасьць таксама магчымасьць скарыстаць „лежащие втуне“ землі. Такімі землямі мы лічым наш балотны фонд, каторы рана або позна павінен быць колёнізаваны. У сучасных абставінах, як гэта ёсьць у Мазыршчыне, вялікай перашкодай у закультываваньні быўшых забалочаных плошчаў зьяўляецца адсутнасьць к гэтым плошчам дарог.

Вялікая наяўнасьць у краі рэк і мэліорацыйных каналаў даюць пры адпаведным тэхнічным падыходзе магчымасьць скарыстаць гэтыя водныя лініі для патрэб транспорту, зрабіўшы іх пад‘язднымі подступамі к адзінай галоўнай воднай магістралі, якая павінна быць утворана на тэрыторыі БССР у зьвязку з пабудовай „Днепростроя“. Пры гэтым, названая водная магістраль павінна шчыльна зьвязаць усе тры вадазборы рэк Беларусі ў адзіную водную сыстэму шляхоў зносін, якія па сваіх транспортных шчупальцах далі-б найлепшую сувязь для прамысловых цэнтраў з сельскагаспадарчымі асобнымі раёнамі, а апошнім—паміж сабою. Вырашэньне

іменна гэтай проблемы ва ўмовах соцыялістычнага будаўніцтва народнай гаспадаркі тым больш патрэбна, што па пасьведчаньню В. Вікторова[1]) „водные пути сообщения, как найболее дешевые, способны найлучшим способом стимулировать сельско-хозяйственное производство“. Адначасна з гэтым, разбалочваньне значных плошчаў зямлі па ўзьбярэжжы нашых рэк з іх колёнізацыяй зьяўляецца добрай глебай і для форсаваньня спэцыялізацыі асобных раёнаў[2]) як у мясцох адыходу жыхарства, так асабліва ў мясцох яго новага селішча, і дзе, як паказвае практыка, заўсёды адсутнічае коснасьць і традыцыя і пануе павышаная вытворчая праца на падставе сучасных дасягненьняў навукі і тэхнікі. Прыкладам гэтага можа быць селянін Хмялеўскі з Вастравоў, які, раз адарваўшыся ад традыцыйнага „трохпольля“, перайшоў к культурнаму вядзеньню сваёй гаспадаркі на 3-х дзесяцінным вучастку (3,2 гэктараў).

Прыняўшы пад увагу характар краю ў сельска-гаспадарчых адносінах наогул і, што намецілася, некаторую спэцыялізацыю сельска-гаспадарчых раёнаў, у прыватнасьці, трэба лічыць, што ў наступным будзе пастутова ўзрастаць таварнасьць сельскай гаспадаркі, а ў зьвязку з гэтым і грузавы рух тавараў сельска-гаспадарчага прызначэньня па шляхох зносін краю. Сельска-гаспадарчы сырэц, як больш цяжкі і грамоздкі груз, патрабуе найбольш таннага транспорту. Нашы водныя шляхі ў іх будучым разьвіцьці якраз і змогуць задаволіць сваёй службай сельска-гаспадарчую вытворчасьць. Трэба мець на ўвазе і тое, што ўся БССР зьяўляецца спажывецкай краінай, якая патрабуе хлебнага імпорту. І чым больш будзе ісьці інтэнсыфікацыя і спэцыялізацыя сельска-гаспадарчых раёнаў, тым больш будзе ўзрастаць попыт на прывазны хлеб. Практыка мінулага паказвае, што ў Беларусь хлеб прывозіцца галоўным чынам з Украіны, прычым большая частка прывазнога хлеба атрымоўвалася праз водны транспорт. У сучасных абставінах брацкага суседзтва з Украінай таксама можна разьлічаць на атрыманьне хлебных грузаў у найвялікшай масе іменна з Украіны. Завоз хлебных грузаў у БССР за мінулы год дасягнуў орыентыровачна да 131—163 тыс. тон. На 1926-27 г. гэты завоз павысіцца прыкладна ўдвойчы, або да 262—326 тыс. тон. Па фактычных даных, што відно з папярэдніх вестак ЦСУ,—завоз хлеба ў БССР па рэках вадазбору Дняпра (В. Дняпро, Прыпяць, Сож, Бярэзіна) у навігацыі 1926 г. дасягнуў ледзь 16.596 тон; у 1913 г. хлебны завоз па тых-жа рэках быў у 24.560 тон.[3]). Такім парадкам, хлебны завоз з Украіны ў БССР за 1926 г. складае 67% ад завозу 1913 г. і 12% ад агульнага ўвозу хлеба ў БССР за той-жа апошні год. Зразумела, што ў далейшым у мэтах рацыяналізацыі хлеба-экспорту патрэбна, каб большая частка экспартаванага хлеба, дзе гэта

---

[1]) В. Вікторов. „Днепрострой“. Выд. Дзяржпляну УССР, Харкаў 1926 г.

[2]) Проф. А. Рыбнікоў. „Транспорт и сельское хозяйство“ за 1927 г. № 1.

[3]) Ст. збор. М. Шл. Зносін. Выд. 139—1916 г.

магчыма, была накіравана па вадашляхох, а не па чыгунках, к мясцом яго спажываньня.

Мы ведаем, што да гэтага часу прыкмячаўся вельмі значны разрыў паміж загатавіцельнымі і прадажнымі, у мясцох спажываньня, цэнамі на хлеб. Гэты разрыў адчуваў на сваёй кішэні кожны спажывец прывознага хлеба ў БССР. Па падліках т. Вэйцэра[1]) ў сучасных абставінах хлебных перавозак па чыгунках і гужом „вся совокупность транспортных расходов составляет в общей накидке по ржи примерно 57%, а в общей накладке по пшенице около 43%“. І вось, каб пазбавіцца ад паказаных пераплат на нашым хлебаімпорце, патрэбна як мага імкнуцца да перадачы імпартаванага к нам хлеба з чыгунак на ваду. Мы думаем, што кепскае становішча нашага воднага транспорту не дазволіць нам поўнасьцю абслужыць вызначаны вышэй хлебны імпорт. Разрыў для суднаходзтва паміж рэкамі вадазбору Дняпра і Заходняй Дзьвіны зусім не дае магчымасьці больш танным спосабам накіроўваць хлебныя грузы ў месцы найбольшага спажываньня прывазнога хлеба—у Віцебшчыну і Полаччыну. А мы ведаем, што Віцебшчына мае даволі разьвітую прамысловасьць і даволі выразную спэцыфікацыю сельскай гаспадаркі ў бок вытворчасьці тэхнічных культур.

Вось тут і патрэбен бесьперапынны водны шлях з суднавым рухам з Дняпра ў Дзьвіну, каб, з аднаго боку, імпульсаваць існуючую прамысловасьць у Віцебшчыне, шляхам прывозу вугалю, жалеза і нафты, а з другога—падтрымаць спэцыялізацыю сельска-гаспадарчай вытворчасьці шляхам прывозу таннага хлеба.

З другога боку, пабудова буйнай дрэваапрацоўчай прамысловасьці на Бярэзіне—у Барысаве і Бабруйску—скора выкліча патрэбнасьць падвозу лесасырцу з верхняй часткі Бярэзіны, а потым і з узьбярэжжаў Заходняй Дзьвіны. У такім выпадку патрэбен таксама водны шлях, які-б даў магчымасьць Бельскім лясом Смаленшчыны накіроўваць свой лесасырэц на Дзьвіну, а потым далей на поўдзень—к Бабруйску, а можа і далей, к Кіеву.

„Днепрострой“ адкрывае Беларусі добры выхад к узьбярэжжу Чорнага мора. Пэрспэктывы вялікія. Пры такім становішчы наша гаспадарка атрымоўвае магчымасьць устанаўленьня найшчыльнейшай сувязі з гаспадаркай Украіны. Але гэта ня ўсё. Пабудова „Днепростроя“ з мэтай магістралізацыі Ніжняга Дняпра, зьяўляецца аднэй з грунтоўных работ па ажыцьцяўленьню вялікай Бальтыцка-Чорнаморскай магістралі. Вырашэньне ў тэй ці іншай меры гэтай проблемы ў жыцьці БССР мае вялізарнае значэньне. Гэта і ёсьць падыход к утварэньню адзінай воднай сыстэмы з вялікім галоўным шляхам і шматлікім ад яго галінаваньнем пад'ездаў і подступаў, які праходзіць уздоўж па ўсёй краіне і мае

[1]) Вэйцэр. „Предварительные итоги хлебной компании 1926-27 г. и принципы организации компании 1927-28 г.“. „Экон. Жизнь“ от 12-13 мая 1927 г. № 105 и 106.

хады к морам—Чорнаму і Бальтыцкаму. Як будзе праходзіць адзначаны магістральны водны шлях—праз пракапаньне Лучоса-Аршанскага каналу або праз Бярэзінскую сыстэму і далей, па Дзьвіне к Рызе, або праз Ловаць на поўнач—з выхадам к Ленінграду, пакуль што, без дасканальных тэхнічных і экономічных досьледаў абодвух варыянтаў, сказаць нельга. У сучасны момант вядуцца належныя досьледы, з аднаго боку „Днепростроем" па дасьледваньню вадазбору Дняпра з мэтай яго магістралізацыі, а з другога боку—„Центрорека" распачала досьледы па Бярэзінскай сыстэме ў мэтах пабудовы праз гэту сыстэму злучэньня двух вадазбораў рэк з такім разьлікам, каб забясьпечыць належную экономічную сувязь праз водны шлях Паўночна-Заходняй часткі Саюзу з Украінай праз БССР.

Па вестках начальніка партыі досьледу Бярэзінскай сыстэмы інжынэра Воўгушэўскага, кошт перабудовы Бярэзінскай сыстэмы орыентыровачна ацэньваецца каля 35 мл. руб., а пракапаньне Лучоса-Аршанскага каналу—50-55 мл. руб. з дадатковымі выдаткамі на магістральныя работы па Дняпру ў 35—40 мл. руб. Цікава адзначыць, што ў вызначаных варыянтах ёсьць свае дастаткі і недахопы: Лучоса-Аршанскі варыянт скарочвае працяг шляху і дапушчае значна большыя глыбіні, што відавочна дае больш эфэкту гэтаму варыянту; Бярэзінскі варыянт, хаця ня можа даць вялікіх глыбінь, затое ён па кошту больш танны; апрача таго, пры яго ажыцьцяўленьні ёсьць магчымасьць на аднэй з мяркуемых штучных пабудоў скарыстаць сілы вады для пабудовы даволі значнай гідроэлектрастанцыі. Апошняя акалічнасьць дае магчымасьць пабудаваць у „прывульлі" тыя ці іншыя прамысловыя прадпрыемствы. І ў гэтым выпадку трэба лічыць зусім правільнай адзнаку, зробленую проф. Скворцовым[1]) аб тым, што „водные пути вообще дали возможность развиться крупной промышленности". А раз так, дык будзем спадзявацца, што, дзякуючы сваім водным шляхом, Беларусь стаіць на грані пераходу к прамысловаму разьвіцьцю. І кажучы словамі Л. Мечнікова, Беларусь з правядзеньнем праз яе Бальтыцка-Чорнаморскай магістралі зможа выйсьці з стадыі „балотнай цывілізацыі" (царскі пэрыод), перажыць „рачную цывілізацыю" (пераходны пэрыод да індустрыялізацыі краіны) і ў паступовым сваім разьвіцьці ўвайсьці ў склад „больш шырокай морскай цывілізацыі". Іначай кажучы, БССР зможа праз водны шлях названай Чорнаморска-Бальтыцкай магістралі мець непасрэдны выхад у Чорнае мора, з аднаго боку, і ў Бальтыцкае—з другога.

[1]) Проф. Э. Скворцов. „Основы экономики земледелия". Ленинград. 1926. г.

# ДА СПРЭЧКІ ПРА ЕСЕНІНА *)

С. Вольфсон

Пра Есеніна ішла спрэчка, калі поэта яшчэ жыў і тварыў,—спрэчка часамі станавілася гарачай і палкай. Есенін ведаў і сьвісткі і овацыі, да яго далятаалі водзывы і пра „обнаглевшую бездарь“ і пра вялікага поэту. За час, што мінуўся ад сьмерці Есеніна, аб ім напісана столькі, колькі не напісалі за першы год сьмерці Пушкіна, Лермонтова, Шэўчэнка, Міцкевіча. Ідзе суд Савецкай грамадзкасьці над Сяргеем Есеніным,— Есеніна судзяць, аб ім спрачаюцца да хрыпаты. З выказваньнямі аб Есеніне выступаюць палітычныя дзеячы, як Н. І. Бухарын, Л. Д. Троцкі, А. Луначарскі, Караль Радэк, пра яго пішуць кіруючыя партыйныя публіцыстыя, як Сасноўскі, навокал дыскусіі пра Есеніна скрыжавалі пёркі крытыкі ўсіх кірункаў савецкай журналістыкі: Воронскі, Коган, Палонскі, Авэрбах, Лелевіч, поэты ўсіх школ і плыняў, пачынаючы комуністымі, як Сяргей Гарадзецкі і Маякоўскі, комсамольскімі поэтамі— Бязыменскім, Жаровым, канчаючы ех-імажыністымі Марыенгофам, Шаршаневічам, Орэшыным, што мужыкуе, футурыстым Кручэныхам, падарожніцай Інбэрг...

Пра Есеніна сказана ўжо многае,—частка гэтага многага памагае ўразумець яго, лепей разабрацца ў яго поэтычнай спадчыне, лягчэй улавіць соцыяльную абстаноўку яго творчасьці, глыбей выявіць грамадзкія карані Есенінскай поэзіі, прамацаць яе пульс. Такава адна частка. Другая толькі зацямняе, перакручвае ды скажае есенінскае аблічча, абмяжоўваецца шаблённымі нічога ня вартымі фразамі, дыміць фіміамам, наклейвае цэтлічкі, усхваляе, аддае анафэме, пашырае чад абывательскай плёткі, займаецца інстытуцкім абажаньнем, вохамі ды ўздохамі.

---

У Есеніне былі моцна закладзены два пачаткі—замілаваньне да прыроды і замілаваньне да колектыву. Ён умеў зьлівацца з прыродаю, умеў захоплена і адначасна пяшчотна перажываць гэтае зьліваньне, умеў адчуваць сябе часткай прыроды, умеў у малым лавіць яе вялікую магутнасьць, умеў натхняцца яе хараством. Ён быў пантэістым ня ў містычным, надпачуцьцёва-боскім, а ў здаровым матэрыялістычным сэнсе гэтага слова. І таму яго радавала чаромха, што сыпле сьнегам, і „зелень

*) Рэдакцыя не падзяляе поўнасьцю некаторых вывадаў аўтара.

**Рэдакцыя.**

в цвету и росе", і таму яго сэрцу сьніліся стагі сонца ў водах лонных, і таму ён кахаў „до радости и боли" малінавае поле і сінь, што ўпала на рэчку, і таму ён пасылаў свае поэтычныя прывітаньні „осінам, что раскинув ветви, загляделись в розовую водь", і таму ён быў „почти березке каждой ножку рад поцеловать"...

Все встречаю. все приемлю,—

Гэта ня было пахвальствам, гэта ня было пустазвонствам, у гэтым была адна з самых асноўных, самых унутраных рыс есенінскага „я". І таму С. А. Есеніну прыемны былі нават „...Свиней испачканные морды". „И в тишине ночной звенящий голос жаб". У адносінах да жывёльнага сьвету Есенін не адчуваў сябе панам і ўладаром, яму чужым было ганарыцца тытулам „Homo sapiens". Наадварот, ён быў родным братам усякай зьвярыны і таму ўмеў адчуваць гэту зьвярыну так, мабыць, што быў у гэтых адносінах не далёка ад Толстога. І калі поэта думае аб нямінучым канцы, ён у ліку лепшага, што можа паставіць у свой жыцьцёвы актыў, успамінае: „счастлив тем, что...

. . . . . . . . .

и зьверье, как братьев наших менших,
никогда не бил по голове".

У хвіліны парваньня грамадзкіх сувязяй, разладу з людзьмі, нуды асеньняй, Есеніну добра толькі з жывёламі—

Средь людей я дружбы не имею,
Я иному покорился царству.

Што-ж гэта за царства?

По всему тверскому околодку
В переулках каждая собака
Знает мою легкую походку,
Каждая задрипаная лошадь
Головой кивает мне навстречу—
Для зверей приятель я хороший,
Каждый стих мой душу зверя лечит.

Сяргей Есенін добры прыяцель для зьвяроў, і зьвяры добрыя прыяцелі для Сяргея Есеніна. Як пра лепшых сяброў юнацтва, поэта ўспамінае пра сабак, пра кацянят. Ён умеў учытвацца ў задумленна-сумныя каровіныя вочы. Хуліган, свавольны гуляка, буян, Есенін умеў так пяшчотна гутарыць з жывёламі, як ніхто да яго. Як ніхто да яго ён перажываў і адчуваў так гвалтаўніцтва чалавека над жывёламі, калі коцяцца „Глаза собачьи—золотыми звездами в снег" або калі „лиса на раздробленной ноге ковыляет"... Чалавечае гвалтаўніцтва над згоднай і супакойнай жывёлай балюча адчувалася Есеніным, і гэта балючасьць час-ад-часу прымушала поэту ўспрыймаць вялікую і шляхотную чалавечую працу: падпарадкаваньне сабе чалавекам прыроды, як нейкі організаваны разбой. У гэтых адносінах асабліва характэрна яго вядомая песьня пра хлеб,—крык аб тым,

„...Что режет серп колосья,
Как под горло режут лебедей“.

Прырода была найвялікшай і невычарпальнай крыніцай яго натхненьня і творчасьці. Яна давала Есеніну той бадзёры оптымізм, тое радаснае адчуваньне быцьця, пра якое поэта казаў.

Калі Есенін не рабіўся ахвярай містычна-брэдавых прыліваў крыві ў мазгі, ён умеў бадзёра і здорава адчуваць жыцьцё, цаніць яго вялікія і малыя радасьці, поўнымі прыгаршчамі чэрпаць з гэтай і адзінай крыніцы жыцьця. Калі поўшалёны пісьменьнік Чэкрыгін у прысутнасьці Есеніна складаў гімны самазабойцам, Есенін пярэчыў: „Няма нічога, апрача гэтага залатога дня; люблю жыцьцё, якое дано мне; ведаю толькі тое, што бачу; веру толькі ў гэта жыцьцё“. І ад усіх, хто хацеў мёртвым кланяцца, поэта вымагаў „живых тем сном не отравлять“. Есеніна цягнула ў сьвет жывёл, таму што ён быў грамадзянінам сусьвету, сынам прыроды, але яго цяга да гэтага сьвету мела яшчэ адну, можа больш глыбокую, прычыну. Да сабак, кошак, кароў Есенін ішоў тады, калі яму рабілася цесна між людзей. Есенін ня мог знайсьці свайго месца на соцыяльнай орбіце. Ён бездапаможна і неўпарадкавана кідаўся па ёй і ў шуканьнях паратунку пасылаў сваю думку да жывёл, да сьвету, дзе ўсё так проста і ясна, дзе няма кляс і клясавай барацьбы, дзе вёска ня сьпіраецца з горадам і бэтон не перамагае дрэва, дзе няма ні шынкоў ні цэркваў, дзе няма ганьбы і плётак, дзе няма поэтаў і крамнікаў, дзе няма ні лаўравых, ні цярновых вянкоў...

Есенін тым больш балюча перажываў грамадзкі разлад, што ён належаў да ліку натур, якіх Герцэн называў „соцыябельнымі“,—тых, якія павінны мець контакт з грамадзтвам, якія чахнуць і гінуць, калі рвуцца навокал іх грамадзкія сувязі, якія павінны ўсімі лёгкімі дыхаць грамадзкасьцю. Лёгкія-ж Сяргея Есеніна зусім ня былі дапасаваны да таго, каб дыхаць паветрам краю, што тварыў найвялікшую сусьветную рэволюцыю, і ён задыхнуўся.

„Тянусь я к людям..., так люблю людей“...

А людзі—гэта грамадзтва, а ў грамадзтве кіпіць-віхурыць барацьба, а барацьба заплюсквае есенінскі сьвецік, аржаны, сярмяжны, дзеравячны з васільковымі словамі і разанскімі хустачкамі...

Есенін кідаецца. Ён спрабуе закружыць сябе ў шынку-пахмельлі. Ён уцякае да прыроды—дарма. Ён спрабуе ісьці ў нагу з эпохай—дарма—мат. Ён спрабуе адратавацца каханьнем—мана...

І ад чорнага чалавека, безнадзейнасьці і бязвыходнасьці Есенін ратуецца самасудам у гасьцініцы „Англетэ“.

Чаша была выпита до дна:
В этой жизни умирать не ново,
Но и жить, конечно... не новей.

Адкуль і кім прышоў Есенін на вялікую і поэтычную дарогу? Ён прышоў на яе з грэцкіх палёў і ад белых бярэзін,—сьпеваком і вястуном

драўлянай былiннай i царкоўнай Русi, з вясковым часасловам у руках i з дрындушкай на вуснах. Ён прышоў невядомым хлапчуком у лiтаратурныя салёны ў Пецярбургу—кандыдат у Кольцовы XX веку. Есенiн быў увесь вясковы, ён быў разанскiм селянiнам, ня толькi па крыві i пашпарту. Ён быў iм па сваiм сьветаўспрыйманьнi, мiраадчуваньнi, сьветапагляду, сьветапачуцьцi. Усе каранi яго „я" былi ў вёсцы, у яе побыце, у яе звычаях, у яе чорназёмных пластох. Таму яго поэтычным iдэалам было:

...Ивняком при дороге
Сторожить задремавшую Русь.

Гэты яго iдэал знайшоў водгук у тых мiстычна-накiраваных лiтаратурна-iнтэлiгенцкiх групоўках iмпэратарскай сталiцы, у якiя з разанскай вёскi трапiў Сяргей Есенiн. Тут у Есенiне ўбачылi пасланца тэй сусальнай Русi, пра якую млосна зюзюкалi пецярбурскiя дэкадэнты. Тут зацiкавiлiся яго „лапоточками берестяными", яго пакорным багамольствам, i тут-жа Есенiна ахуталi першыя лёгкiя хмаркi поэтычнай славы...

Але Есенiн быў вялiкiм i сапраўдным поэтай,—з благаславенства сваiх хрышчоных айцоў, ён яшчэ стылiзаваў пад пэйзана свае вельмi ўдалыя мастацкiя вобразы, ён яшчэ завiнаў у паперкi сусальнага срэбра продукты сваёй творчасьцi... Але ён хутка ўжо адчуў, што горад перарэзаў яго соцыяльныя каранi, што ён, Сяргей Есенiн, зьбег з вёскi для таго, каб, быць можа, успамiнаць пра яе, вохкаць аб ёй, цягнуцца да яе, але каб болей у яе... не варочацца.

Лёс Есенiна быў пастаўлен на карту ў залежнасьцi ад таго, цi здолее поэта пусьцiць новыя каранi там, дзе вулiцы ўзяты ў кашулю бэтону i асфальту, цi здолее горад зрабiцца яго другой радзiмай. Але Есенiн аказаўся у гарадох роднага краю чужаземцам, што заблытаўся. Ён да канца свайго жыцьця так i не пазнаў сапраўднага гораду з яго рабочымi i кварталамi, з яго фабрыкамi i заводамi, з яго лябораторыямi ды iнстытутамi, музэямi i бiблiотэкамi i жорсткiмi клясавымi антагонiзмамi...

Iндустрыяльна-гарадзкая магутнасьць задушыла хлапчука з блакiтнымi вачыма i залатымi валасамi. Ён боязна згорбiўся перад ёй, i яго думка ўсё часьцей i больш наможлiва iмчалася ды iмчалася ў далёкую разанскую вёску.

„Я на веки покинул село", з горнасьцю i болем пiша Есенiн сястры. I адгэтуль, з каменнага гораду, дзе поэты i шынкi, дзе слава i жанчыны, дзе Акадэмiя i Саўнарком,—адгэтуль пасылае Есенiнскае радыё свае запытаньнi:

Как живет тепер наша корова,
Грусть соломенную теребя?
. . . . . . . . . .
Отгорела ли наша рябина,
Осыпаясь под белым окном?

Бэрлін, Парыж, Рым, Нью-Іорк нічога не сказалі сэрцу поэты і, вярнуўшыся ў Расію, ён толкам ня мог нават расказаць, дзе ён быў і што ён бачыў... Ды ці ня дзіўна, калі ў парыскім отэлі пасьля аэроплян-нага рэйсу па Эўропе:

...как глаза закрою,  
Вижу только родительский дом".

Але наша эпоха, што ўклінавала машыну ў штодзенны побыт, што звузіла прастор і час, жорстка рве романтычна-народніцкія мары. Яна ўзяла за каўнер далікатнага лятуценьніка, сьцепанула яго, і кандыдат у Кольцовы зрабіўся Есеніным...

Сяргей Есенін зразумеў, што ў яго няма сілы супраціўляцца гораду і яго культуры, і ён пасаваў перад няўхільным. Есенін капітуляваў разумна і тонка. Ён зразумеў, што чырвонагрываму жарабяці не абмінуць поезду, што сапе жалезнаю ноздрай:

Милый, милый, смешной дуралей,  
Ну, куда он, куда он гонится.  
Неужели он не знает, что живых коней  
Победила стальная конница.

А ў пісьме да аднае знаёмае Есенін казаў: „Конь стальны перамог каня жывога, і гэтае маленькае жарабя было для мяне навочным дарагім вобразам вёскі, што вымірае, і аблічча Махно. Яна і ён у рэволюцыі нашай дзіўна падобны да гэтага жарабяці змаганьнем жывой сілы з жалезнай".

Есенін адчуў, што „бревенчатый живот трясет стальная лихорадка".

З гэтага моманту былі падкошаны соцыяльныя карані яго творчасьці, поэта дэклясаваўся, споўз з соцыяльнае орбіты, адкінуты ад аднаго берагу, ня здолеў прыстаць да другога, і з тупой пакорнасьцю пайшоў насустрач няўхільнасьці:

Здравствуй, ты моя черная гибель,  
Я навстречу тебе выхожу...

Чытачу здавалася, і Есеніну самому думалася часамі, што ён выплыў на другі бераг, што прыняў горад і яго культуру. І калі ў „Стране негодяев" Рассветов гаворыць пра Расію, што

Здесь одно лишь нужно лекарство:  
Сеть шоссе и железных дорог.  
Вместо дерева нужен камень,  
Черепица, бетон и жесть.  
Города создаются руками,  
Как поступками слава и честь,—

то нам здаецца часамі, што гэту славу і гонар абвяшчае сам поэта. І, сапраўды, вы знаходзіце ў Есеніна словы аб тым, што ён

...полон дум об индустрийной мощи.  
Я слышу голос человечьих сил:  
Довольно с нас небесных всех светил.  
Нам на земле  
Устроить это проще.

Але думкі аб індустрыйнай магутнасьці ня былі сапраўднымі і асноўнымі думкамі Есеніна, гэта было штучнае, наноснае, проціарганічнае, надуманае апраўданьне „чорной гибели“. Пераход на бок гораду ўспрымаўся Есеніным як здрада вёсцы, як забываньне яе інтарэсаў, аб гэтай здрадзе ён ціха і пакутна сумаваў, пакорна каяўся ў сваім рэнэгацтве, у сваім капітулянстве перад „мёртвым, мэханічным“ ды цешыў сябе тым, што

И теперь, когда вот новым светом,
И моей коснулась жизнь судьбы,
Все равно—остался я поэтом
Золотой бревенчатой избы...

Але гэта была толькі мана самапацехі, гэта былі толькі вышукі самаапраўданьня...

Апошні поэта вёскі быў беззваротна палонены горадам. Яму хацелася яшчэ верыць, што ён стаіць за разьвітальнай абедняй, што кадзяць лісьцём бярэзін, але з пярка яго зрываліся сапраўдныя, насьмешкай горкай прасякнутыя радкі самакатаваньня:

Да, богат я, богат с излишком,
Был цилиндр, а теперь его нет.
Лишь осталась одна манишка
С модной парой избитых штиблет.
И известнось моя не хуже—
От Москвы по парижскую рвань
Мое имя наводит ужас,
Как заборная громкая брань...

Есенін капітуляваў перад горадам, але ён ніколі не прасьціў яму гвалтаўніцтва над вёскай:

Город, город, ты в схватке жестокой
Окрестил нас, как падаль и мразь.
Стонет поле в тоске волоокой,
Телеграфными столбами давясь.

Есенін адчуваў на сваім уласным карку каменныя рукі шашы, што здушылі за шыю вёску.

І тут—першая шчыліна, якую прычыніў яго моноліту творчасьці нялітасны молат соцыяльнасьці. Соцыяльнасьць прыціснула Есеніна тым, што вырвала Есеніна з вёскі і кінула яго ў горад. Разанскі мужычок зрабіўся пецярбурскім і ўсерасійскім поэтай, але ўсерасійскі і пецярбурскі поэта хацеў застацца разанскім мужычком. Конфлікт паміж горадам і вёскай не Есеніну было вырашаць, але, палонены горадам, Есенін з упартасьцю вясковага прайдзісьветы вырашыў помсьціць яму. Першай і адзінай ахвярай гэтай помсты зрабіўся сам Есенін.

Горад замкнуў Есеніна ў вузенькае кола богэмы. Тут Есенін асаббіва балюча адчуў свой соцыяльны надлом. Старая народніцкая вера ў вёску была зьнішчана, месца яе ня было нічым запоўнена. Есенін прышоў у горад са злабою, дрэнна ўтоенай, з утоенай прагай помсты

тым, хто ў яго вачох стаяў на чале і ўвасабляў гарадзкую культуру. З своеасаблівым маладзецтвам, ведаючы цану сваім здольнасьцям, знашоўшы прызнаньне, гэты буян вясковы кідаў выклік тым, каго ён у „Пугачеве“ ахрысьціў сволачным вяльмоствам.

Мечтатель сельский—
Я в столице стал первокласснейший поэт.
. . . . . . . . . . . . . . . .
Россия... Царщина...
Тоска...
И снисходительность дворянства.
Ну, что же...
Так принимай, Москва,
Отчаянное хулиганство.
Посмотрим—...
Кто кого возьмет.
И вот в стихах моих
Забила...
В салонный вылощенный
Сброд...
Мочей рязанская кобыла...

Буянства Есеніна адлівалася ў самыя нечаканыя формы: калі яго вершаў не друкавалі часопісі, ён пісаў імі на плоце Страстного манастыра; калі яго не прызнавалі крытыкі, ён даваў Пятроўцы назву вуліцы Сяргея Есеніна і прыбіваў аб гэтым адпаведныя дошчачкі на рагох; калі яму здавалася, што яго мала чытаюць, у сталоўцы, дзе ён карыстаўся ўплывам, пачалі падаваць біфштэксфы á la Есенін.

Хуліганства Есеніна было своеасаблівай, соцыяльна бяссэнснай, індывідуальна загубнай спробаю дэклясаванага адзіночкі, бясьсільнага зразумець сэнс вакол гістарычных падзей, што зьдзяйсьняюцца, протэставаць супроць іх, протэставаць супроць усякага наагул уціску і ўмешваньня ў яго жыцьцё з боку грамадзтва. Грамадзкасьць-жа ўладна ўзяла Есеніна за каўнер, ён кроку ня мог зрабіць без дачыненьня да яе. „Поэтом можешь ты и не быть, но гражданином быть обязан“...

Стопроцэнтны поэта, Есенін ня мог быць грамадзянінам рэволюцыйнага гораду, і анархічным выкрутам ён прабаваў санкцыянаваць гэту немагчымасьць. Але люмпэн-нігілізм буяна, што бунтуе, ня мог даць задавальненьне поэту, які дэклясаваўся, поэту, пазбытаму ідэолёгічных падпорак. Вір шынка паглынуў тонкага лірыка, якім нязьменна заставаўся Есенін, але яго шынкарскія пахаджэньні носяць на сабе відочную пячатку напускнога, надуманага, галаўнога, а не органічнага, унутранога, сапраўднага. Буйства шынкарскае ня было стыхіяй Есеніна, а фокусамі страціўшага жыцьцёвую ўстаноўку поэты.

Я нарочно иду нечесаным,
С головой, как керосиновая лампа, на плечах
. . . . . . . . . . . . . . . . . .
Мне нравится, когда каменья брани
Летят в меня, как град рыгающей грозы...

Гэрой „Москвы кабацкой“ так і ня зросься з шынком, ён уцякаў у шынок ад шматскладанага, суровага і вымагальнага жыцьця, але шынок быў чужым для Есеніна. Есенін быў вельмі лірычнай і адначасна „соцыябельнай“ натураю для таго, каб яму „не претил кабацкий угар“. І ён абманваў сябе і другіх, калі сьцьвярджаў, што яму весела ад таго, што навокал „самогонного спирта река“. Так, гэта было:

... всю ночь напролет до зари
Я читаю стихи проституткам
И с бандитами жарю спирт...—

але тут-жа Есенін кажа, што гэта адбывалася ў „логове жутком“. „Логовом жутким“ быў для Есеніна шынок, з яго п'янствам, гульнёй, прастытуткамі, бандытамі. Есенін, праўда, стараўся пры гэтым падбадзёрыць самога сябе, стараўся надаць сабе, што хуліганства неадымная частка яго натуры, стараўся ўзьвесьці хуліганства ў пэрл стварэньня, вынайсьці яму амаль не косьмічнае апраўданьне, але ўсё гэта было добраю мінай пры дрэннай гульні, гэта была напускная удаль, гэта было знарочнае брававаньне:

Плюйся ветер охапками листьев,
Я такой-же, как ты, хулиган.
Сам я разбойник и хам
И по крови степной конокрад.

Так палохаў Есенін сябе і другіх, але, як гаварыў Толстой пра Андреева, „ён палохае, а мне ня страшна“. Не разбойнік, ня хам, ня стэпавы канакрад, а мастак, заблытаны сын богэмы, чалавек трагічнага надрыву. Як-бы моцна ні круцілася яго галава ў п'яным чадзе шынку, як-бы ні выстаўляўся Есенін сваім хуліганствам, ён ні на хвіліну не знаходзіў у ім задавальненьня. Ад складаных і неўсьвядомленых ім соцыяльных абставін Есенін спрабаваў выратавацца гуляцкім буянствам, але ён быў ня гэроем, а ахвярай п'яных пагулянак, і найвялікшы ўнутраны трагізм быў вынікам яго хуліганства:

Я обманывать себя не стану,
Залегла забота в сердце мглистом,
Отчего прослыл я шарлатаном,
Отчего прослыл я скандалистом?..

Нязьменным падарожнікам есенінскага хуліганства была пакутная рэфлексія. Есенін, круцячыся ў п'яным чадзе шынка, вельмі добра разумее, як няплодна і губліва траціць ён свае сілы, ён разумее, што за сьценамі шынка нараджаецца ў самых вялікіх пакутах новае прыгожае жыцьцё; што там ствараюцца новыя формы соцыяльнага побыту, што там ствараюцца новыя каштоўнасьці, і перад тварам гэтага гістарычнага процэсу Есенін яшчэ больш востра і балюча адчувае сваю соцыяльную бязглебавасьць, сваю палітычную загубленасьць, сваё асабістае адзіноцтва, банкруцтва свайго сьветапагляду. І поэта марыць аб тым, каб хоць як-небудзь і куды-небуздь уцякаць з шынкарскага віру:

Нет любви ни к деревне, ни к городу,
Как-же смог я ее донести?
Брошу все. Отпущу себе бороду
И бродягой пойду по Руси...

Але гэты талстоўскі ідэал нясур'ёзна быў ідэалам Есеніна. Есенін працягваў заставацца на шынкарскім дне, падваяючыся паміж бязвыходнасьцю і ахвяраванасьцю—з аднаго боку, надзеяй на новае грамадзкакарыснае ўсьвядомленае жыцьцё—з другога.

Трапляючы ў тупік бязвыходнасьці, ён крычаў проституткам:

Я такой-же, как вы, пропащий,
Мне теперь не уйти назад.

Сумны быў вынік, які Есенін рабіў у часы пахмельля:

Годы молодые с забубенной славой
Отравил я вас горькою отравой.
. . . . . . . . . . . . . . .
Синие твои глаза в кабаках промокли.

Абагульняючы такія вынікі, фаталістычна пакорна схіляўся Есенін перад няўхільным:

На московских изогнутых улицах
Умереть знать судил мне бог...

Ахвяраванасьць, безнадзейнасьць, бязвыходнасьць укліняюць у сьвядомасьць поэты ракавую думку, што трэба парваць жыцьцё, што заблыталася ў цянётах супярэчнасьцяй жыцьця:

В зеленый вечер под окном
На рукаве своем повешусь...

Але разам з тым у яго мазгу пачынаюць выбухаць іскры надзеі на абнаўленьне, на выздараўленьне, на перелом, які дасьць яму сілы змагацца і жыць. Палонены богэмай, Есенін марыць аб тым,

Чтоб—воротясь опять в Москву,
Я мог прекраснейшей поэмой
Забыть ненужную тоску
И не дружить во век с богемой.

У такія хвіліны Есенін верыць у сваю будучыну—будучыну поэты і грамадзяніна, хуліганства будзе толькі выпадковым, хай сабе цяжкім эпізодам яго жыцьця. Дзіцём, варочаючыся да хаты з пабітым носам, ён цешыў сябе і матку тым, што паваліўся на камень:

Если раньше мне били в морду,
То теперь вся в крови душа...
И уже говорю я не маме,
А в чужой и хохочущий сброд:
Ничего! Я споткнулся о камень,
Это к завтраму все заживет...

І Есенін робіць гэроічныя намаганьні, каб вырвацца з ліпкіх абдымкаў „чужого и хохочущего сброда“, які акружаў яго ў „Стойле Пегаса“, каб працягнуць ніткі да тых, хто зьнядолены, бяспрытульны:

Я только им пою.
Ночующим в котлах,
Пою для них,
Кто спит порой в сортире.
О, пусть они прочтут в стихах,
Что есть за них обиженные в мире.

Есенін убачыў грымасы гораду, ён быў прыдушаны і зломлены гарадзкою культураю, чые інтэлігенцка-богэмскія гурткі захапілі поэту, страціўшага пад нагамі соцыяльную глебу, і, адчуўшы катастрофу, што навісла, Есенін пачаў усё зварачаць сваю думку да вёскі, якая яму прадстаўлялася яшчэ ў лірычных фарбах эпохі „Радуницы“-„Голубеня“. Вёска—выратавальніца ад сапсаванага і, што псуе, гарадзкога жыцьця вісіць над „промокшими в кабаках“ сінімі „есенінскімі вачыма“:

Может завтра совсем по другому
Я уйду исцеленный навек
Слушать песни дождей и черемух,
Чем здоровый живет человек.

Есенін спрабаваў уцякаць ад гарадзкога шынка на вясковыя палі і пахані, дзе жыве здаровы чалавек.

Тое, што Есенін убачыў у вёсцы, ашаламіла яго. Старой патрыархальнай, пакорнай, нявольніцкай, што нарадзіла і выхавала Есеніна, вёскі ўжо няма. Вёска абернута рэволюцыяй, Кастрычнікавы трактар прайшоў па знаёмых палёх, горад уцягнуў вёску ў лагво сваіх інтарэсаў і свае барацьбы... Тысячагодні побыт захістаўся, старыя падпоркі падаліся, пачалі прабівацца новыя, буйныя, незнаёмыя і незразумелыя паросткі.

Есенін заўсёды адчуваў сябе чужым гораду, ён быў чужаземцам на гарадзкіх вуліцах, але вёску ён нязьменна лічыў сваёю роднаю, блізкай—ён яе апошні поэта. А вёска ашаламіла Есеніна,—ён не пазнаў яе і яна не пазнала яго. Есенін аказаўся такім самым чужаземцам у рэволюцыйнай вёсцы, якім ён быў у рэволюцыйным горадзе. Есенін вярнуўся на радзіму і вынайдзеньне ідзе за вынайдзеньнем. Ужо першы сустрэчны дзед паведамляе яго, што

... сестры стали комсомолки
. . . . . . . . . .
Вчера иконы выбросили с полки,
На церкви комиссар снял крест...

Богабоязная, каленасхіленая вёска пачала выраўноўваць сьпіну і разбураць векавыя аўтары. У вёсцы зьявіўся новы жыцьцёвы фон, яна жыве новымі клопатамі дня, у яе ўкліняецца новы побыт, ад якога ніткі цягнуцца да далёкага гораду, што зламаў поэту: вось яно, разьвінутае рэволюцыяй мужыцкае царства; Есенін убачыў, як нехта

Играл по дворам на роялях
Коровам тамбовский фокстрот.
За хлеб, за овес, за картошку
Мужик залучил граммофон.
Слюнявя козлиную ножку,
Танго себе слушает он...

У хаце, на сьцяне айцоўскага дому каляндарны Ленін.

Воскресные сельчане
У волости, как в церковь собрались.
Корявыми, немытыми речами
Они свою обсуживают „жись".
. . . . . . . . . . . .
Хромой красноармеец с ликом сонным,
В воспоминаниях морщиня лоб,
Рассказывает важно о Буденом,
О том, как красные отбили Перекоп.
. . . . . . . . . . . . .
С горы идет крестьянский комсомол,
И под гармонику, наяривая рьяно,
Поет агитки Бедного Демьяна,
Веселым криком оглашая дол.

Як усё гэта нечакана, як усё гэта было бесканцова, далёка ад тэй вёскі, якую ведаў, якую любіў і ўсхваляў Есенін. Перад поэтам было дзьве магчымасьці,—адна складалася з політыкі страуса. Есенін мог сказаць сабе, што ўсё гэта—і каляндарны Ленін, і кульгавы чырвонаармеец, і крыкун комсамолец, і пузаты „капітал"—усё гэта наноснае, штучнае, часовае, а сапраўдная, ісьціная, вясковая Русь, яна непарушна і нязьменна, яна толькі зарылася ў глыбіню, і раней ці пазьней паўстане да ранейшага жыцьця... На шчасьце Есенін зразумеў, што заплюшчваць вочы на найвялікшыя гістарычныя падзеі, сьведкай якіх ён зрабіўся,—падзеі бадай геолёгічнага парадку, значыла займацца ўбогім утопізмам. Есенін адчуваў „вёску, як яна ёсьць", і разам з тым адчуў усю сілу свайго адрыву ад гэтай новай вёскі:

Язык сограждан стал мне как чужой,
В своей стране я словно иностранец.

Поэта паставіў перад сабою, што аказалася сапраўды трагічным, пытаньне:

Какого-ж ж рожна
Орал в стихах, что я с народом дружен.

А адгэтуль ужо вынікаў цьвярозы і балючы вынік:

Моя поэзия здесь больше не нужна,
Да, и, пожалуй, сам я тоже здесь не нужен.

І вось, Есенін спрабуе пайсьці ў нагу з эпохай, ён хоча ўсьвядоміць найвялікшыя гістарычныя падзеі, што адбыліся на яго вачох, хоча зрабіцца іх вартым сучасьнікам, гледачом і дзейсным удзельнікам. Калі ён прыехаў на вёску, калі сястра комсамолка загаварыла з ім пра Маркса-Энгельса, ён гіронічна, са скэптычным сьмехам паглядаў на порсткасьць свае сястры:

Ни при какой погоде
Я этих книг, конечно, не читал.
И мне смешно,
Как шустрая девчонка
Меня во всем за шиворот берет.

Але хутка, што здавалася сьмешным, перастала сьмяшыць, і поэта з найвялікшай шчырасьцю сказаў сабе:

Настал наш срок.
Давай, Сергей, за Маркса тихо сядем,
Чтоб разгадать
Премудрость скучных строк.

Момант, калі Есенін сказаў сабе гэта, быў крытычным у яго жыцьці: калі-б Есеніну ўдалося адгадаць прамудрасьць радкоў, што здаваліся нуднымі, калі-б ён навучыўся сэрцам слухаць рэволюцыю, калі-б ён зразумеў сэнс вялікай клясавай бітвы сучаснасьці, тады-б ён пачаў новую паласу свайго жыцьця,—але гэтага ня здарылася.

Есенін дэкляраваў прызнаньне рэволюцыі, ён абвясьціў аб сваёй гатоўнасьці стаць у яе шэрагі. Есеніну паказалася, што ён знайшоў у рэволюцыі тую самую выратавальніцу ад чаду шынка, якую ён хацеў шукаць на вёсцы.

Сказать приятно мне:
Я избежал паденья с кручи.
Теперь в советской стороне
Я самый яростный попутчик.

Але роля *падарожніка* рэволюцыі нядоўга шчасьціла поэту, ён хацеў зрабіцца актыўным *удзельнікам* вялікай рэволюцыйнай справы, ён хацеў быць будаўніком савецкае будовы:

Хочу я быть певцом
И гражданином,
Чтоб каждому,
Как гордость и пример,
Быть настоящим,
А не сводным сыном
В великих штатах СССР.

Так хацеў Есенін, але ажыцьцявіць гэтага жаданьня не дало яму жыцьцё. Сялянафільскі анархізм Есеніна, его інтэлігентнае асобніцтва, яго люмпэн-дэклясаванасьць адыгралі сваю ракавую ролю. Есенін шчыра хацеў прыняць рэволюцыю, але наіўна думаў, што можна сваё поэтычнае натхненьне ізоляваць ад рэволюцыі:

Отдам всю душу октябрю и маю,
Но только лиры милой не отдам.

Ён хацеў зразумець у чым магутнасьць натхненца і правадыра рэволюцыі, але гэтага не зразумеў:

Он вроде сфинкса предо мной, (пісаў поэта пра Леніна)
Я не пойму, какою силой
Сумел потрясть он мир земной.

Сіла рабочых мільёнаў, сіла пролетарскіх кадраў, сіла клясы, якая вызваляе сябе і разам з сабой чалавецтва, былі незразумелымі Есеніну, ён іх ня ўгледзеў. У лепшым сэнсе ён мог зразумець толькі сілу сялянскай стыхіі, што паўстала, і аб гэтым сьведчыць яго „Пугачев“.

Рэволюцыя, дыханьне якой Есенін адчуў у бацькавай хаце, якая закранула яго ў роднай вёсцы,—рэволюцыя амаладзіла Есеніна. Змардаваны і зламаны маскоўскім шынком, поэта выпрастаўся, аздаравеў і, пасьля комэдыянцкага цыліндра, стаў гатовы „задрав штаны, бежать за комсомолам“... Але задача ўсьведамленьня і прыманьня рэволюцыі аказалася не пад сілу Есеніну. Ён прыстаў на палавіне дарогі.

Остался в прошлом я одной ногой.
Стремясь догнать стальную рать,
Скольжу и падаю другой...

Коўзаючыся і падаючы, цаною вялізных намаганьняў, стараўся Есенін зжыцца з рэволюцыяй, стараўся накіраваць сваю поэтычную думку, сваю творчасьць па рэчышчы Кастрычніка. Часамі гэта ўдавалася яму, і тады ён ствараў рэчы такога вялізнага поэтычнага размаху і такой вялікай ідэолёгічнай каштоўнасьці, як „Песнь о великом походе“; часамі гэта яму не ўдавалася, ён трапляў у „ходульность“ і патэтычны шаблён... І лепей сваіх крытыкаў поэта адчуваў сваю падвоенасьць, сваю рашчэпленасьць паміж старым і новым, сваё бясьсільле вырашыць задачу, вырашэньне якой ён лічыў катэгорычным вымаганьнем жыцьця, вырашальным пытаньнем яго творчасьці, крытычным момантам яго асабістага лёсу:

Мы многое еще не сознаем,
Питомцы Ленинской победы,
И песни новые
По старому поем,
Как нас учили бабушки и деды...

Сьпяваць пра новае—нябывалае па старым—бывалым значыла зрабіцца ахвярай банкруцтва. Гэтае банкруцтва Есенін відочна намацаў:

Какой скандал!
Какой большой скандал!
Я очутился в узком промежутке.

Ня шырокія і прасторныя палі, не вялікая плошча рэволюцыі, а вузенькі і крывы тупік ракавой падвоенасьці і асабовага бясьсільля. Поэта адчуў, як перад ім зноў замігцелася здань катастрофы. Ён працягваў коўзацца і падаць, робячы гэроічныя намаганьні, каб ухіліцца кпінаў эпохі, якая скажа пра яго:

Вот чудак.
Он в жизни
Буйствовал не мало,
Но одолеть не мог никак
Пяти страниц из „Капитала“...

Есенін ня мог асіліць сэнсу таго, што адбывалася навокал яго, але ён ня мог варыцца і ў сваім уласным саку. Адгэтуль катастрофа...

Адзіноцтва, жорсткая і злая хвароба, з новаю сілаю хапае Есеніна ў свае абдымкі. Што провокавала гэты новы надыход індывідуалістычнай ліхаманкі? Хвароба, здаецца мне, зьявілася непасрэдным вынікам грамадзкага банкруцтва Есеніна, яго няўменьня дагнаць „Стальную рать“,

яго бясьсільле прыняць рэволюцыю і галавой і сэрцам, цаніць яе романтычныя ўзьлёты і шэрыя будні. Яна была падрыхтавана тэй душэўнай і фізычнай змарнаванасьцю, якую абумовіў трагічны надлом Есеніна ў эпоху „Москвы кабацкой". Яна была ўзмоцнена тымі халодна-раўнадушнымі, бязудельна-тупымі, часамі пакеплівымі адносінамі, якія спаткала з боку так званых сяброў Есеніна, з боку яго прыяцельскага акружэньня спроба поэты „Скользя и падая" дагнаць стальную раць.

Быў у жыцьці Есеніна яшчэ момант, калі ён спадзяваўся глыбокім інтымным пачуцьцём компэнсаваць сябе за разлад з грамадзкасьцю, за адзіноцтва, за богэму і шынок, за кляймо хулігана. Тады ён абяцаў каханай жанчыне давесьці:

Как умеет любить хулиган,
Как умеет он быть покорным...

Ён выракаўся мінулага, разьвітваўся з хуліганствам:

В первый раз я запел про любовь.
В первый раз отрекаюсь скандалить.

Але каханьне аказалася маной—ставил я на пиковую даму, и сыграл бубнового туза—тады Есенін паслаў жудасны праклён:

Я не знал, что любовь—зараза.
Я не знал что любовь—чума.
Подошла и прищуренным глазом
Хулигана свела с ума.

Каханьне павярнулася да Есеніна сваім жывёльным бокам. І над каханьнем, ахутаным романтычным орэолам, Есеніну заставалася толькі злозьдзеквацца. І ён зьдзекваўся над забаўным поэтай, які чытае „ёй" сваю дохлую томную лірыку. Ён зьдзекаваўся над тым, як

Прищавой курсистке
Длинноволосый урод
Говорит о мирах,
Половой истекая истомой.

Каханьне глыбокае і ачышчаючае было для Есеніна атручана ў сваіх крыніцах, п'яны разгул спустошыў душу, неўсьвядомленая соцыяльная сапраўднасьць прыдушыла Есеніна. Поэта адчуў сябе ў бязвыходным тупіку. Ён спрабаваў яшчэ пад вэлюмам філёзофскага скэпсысу таіць бачны супакой:

И потому, что я постиг
Всю жизнь, пройдя с улыбкой мимо,
Я говорю на каждый миг,
Что все на свете повторимо...

Але пад рэлятывістычным вэлюмам віхурыла бурнае пачуцьцё трагічнай бязвыходнасьці і бясьсільля перад суровым тварам жыцьця, пад ім трапяталіся асыпаныя алькоголем мазгі, пад ім хавалася рана, што аказалася нявылечанай. І ўвесь гэты вузел ракавых прадпасылак з мёртвай пятлёю сьцягнуўся навокал шыі поэты. Есенін у здрыгах стараўся

парваць злавесную пятлю, але ён аказаўся бясьсільным гэта зрабіць. Есенін апынуўся ва ўладзе галюцынацыі:

Чорный человек
Чорный, чорный,
Чорный человек
На кровать ко мне садится.
Спать не дает мне всю ноч.
Чорный человек
Водит пальцем по мерзкой книге
И, гнусавя надо мной,
Как над усопшим монах,
Читает мне жизнь
Какого-то прохвоста и забулдыги,
Нагоняя на душу тоску и страх...

Есенін распачаў барацьбу з „чорным чалавекам". Адзін раз перамог Есенін, і ў выніку—разьбітае люстэрка, у другі раз перамог чорны чалавек, і ў выніку—акрываўлены труп поэты ў вяровачнай пятлі...

У сваіх пэрсыдзкіх мотывах Есенін сьпяваў пра цудоўныя дзьверы, „где осыпан розами порог":

В Херасане есть такие двери,
Но открыть те двери я не мог.

Есенін ня здолеў адамкнуць Херасану, ён ня здолеў адамкнуць дзьверы жыцьця складанага і цяжкога, суровага і вымагальнага. Ахвярай гэтага бясьсільля ён і зрабіўся...

---

Гібель Есеніна выклікала выключны водгук ва ўсім Савецкім Саюзе. Дыскусія пра загінутага і яго поэтычную спадчыну вялася з неаслабнай сілай і напружнасьцю ўвесь мінулы год. Можна сказаць, што ўвесь год адбываўся самы шырокі суд савецкае грамадзкае думкі пра Сяргея Есеніна.

Што-ж паказаў гэты суд?

Раней за ўсё, што творчасьць Есеніна знайшла рэха ва ўсім нашым краі. Няма ніводнага значнага савецкага крытыка, які ня выказаўся-б наконт творчасьці С. Есеніна, ніводнага бадай поэты, які не адгукнуўся-б на яго пагібель. Але самым важным, зразумела, зьяўляецца той рэзонанс, які творчасьць Есеніна знайшла ў шырокіх народных масах. А. К. Варонскі мае рацыю, кажучы, што „вершы і песьні Есеніна былі добра вядомы чытачом Саюзу. Нават тыя, каму найбольш чужымі здаваліся яго асноўныя поэтычныя настроі, не маглі раўнадушна аднесьціся да яго творчасьці: яго вершы даходзілі, кранаді сэрца, і знаходзілі водгук у кожнага пасвойму. Селянін і рабочы-самавучка, што цанілі поэзію, рабфакавец і рабкор—літаратары, спрактыкаваныя пісьменьнікі і маладыя поэты чыталі і ведалі Есеніна і чакалі яго чарговых вершаў"...

Якія-ж факты заслугоўваюць нашай увагі, як вынік тэй шырокай дыскусіі, якая адбывалася вакол Есеніна мінулы год?

Момант, што перажываецца нашым краем, той этап, які робіць цяпер наша рэволюцыя, стварылі ў некаторых грамадзкіх пластох прадпасылкі асабліва спрыяльныя для культываваньня тэй часткі есенінскай спадчыны, якая дэмонструе анарха-індывідуалістычнае бясьсільле нябожчыка поэты перад тварам соцыяльнай стыхіі сучаснасьці, яго ракавую дысгармонію з эпохай, яго асобніцкі эго-цэнтрызм, яго містычныя правалы, яго душэўную парванасьць, валявую размагнэсаванасьць, уцяканьне ад жыцьця.

У Есеніна такім чынам знаходзяць выгодную формулу для свайго ўласнага дэкадану. У яго бяруць на-пракат мастацкае слова, што адбівае ўпадніцкія настроі, у яго знаходзяць поэтычную санкцыю свайму банкруцтву і капітулююць перад жыцьцём, мэлядэклямуючы есенінскія строфы.

Так вялікай мастацкай каштоўнасьці спадчыну Есеніна ператвараюць у ядавітую есенішчыну, гоняць з прыгожых есенінскіх слоў дэнатурат скажанага міраадчуваньня.

Прыкладаў шмат.

Вось якія словы пачуліся над магілай Есеніна з вуснаў яго братоў па пяру:

Распятья путь тебе и мне;
Но сердце радостью согрето,
Что в голубеющей стране
Два повстречаются поэта

(*Ник. Аренс*).

...всем незнакомым и разным
Нам равно заприметился вдруг
Соблазнительный смертным соблазном
Над могилой березовый сук.

(*Вал. Дынник*).

Все мы, все мы в этом мире тленны,
Кто-нибудь из нас повиснет тоже,
Как и ты, в веревочной петле.

(*Кор. Бисен*).

Тесно в нашем неуютном теле,
И душа рванулася из пут,
Чтоб найти в космической метели
И успокоенье, и уют.

(*Ник. Минаев*).

Так, пераклікаючыся з загінуўшым поэтай, трапляючы нібыта ў тон яго настрояў, працягваючы нібыта яго поэтычную традыцыю, плакальнікі і ныцікі, містычна томныя дзяўчыны і трансцэндэнтна накіраваныя юнакі, заблудзіўшыся ў віхурах косьмічнай мяцеліцы, спакушаюцца сьмяротнай спакусай бярозавых сукоў і, абяцаючы завіснуць у вяровачнай пятлі, назначаюць адзін аднаму спатканьні ў няіснуючым блакітным краі... Містычны брэд, патолёгічная поэзія самагоншчыкаў есенішчыны...

Шмат з напісанага пра Есеніна стварае нейкі своеасаблівы культ навокал яго п'янай роспачы і яго душэўных правалаў. Тое здаровае, глыбока лірычнае, прыгожае, што было ў Есеніна, пакідаецца ў цені, а выстаўляецца тое, што ў ім было слабым, хваравітым, патолёгічным, соцыяльнашкодным і рэакцыйным. Я ўжо не кажу аб тым чадзе абывательскай плёткі, якая ўзьнялася навокал Есеніна. Гэта няўхільна, што заскарузлы абываталь са сьмехам падлічвае жонак Есеніна; ён тое самае рабіў і сто год назад, падлічваючы каханак Пушкіна. Абываталь верны сабе. Пушкін тонка заўважыў гэтую абывательскую прыроду. У пісьме да Вяземскага ён пісаў, што абывательшчына „радуецца пагардзе высокага, слабасьцям магутнага. Пры вынайдзеньні ўсякай гідкасьці яна ў захапленьні: „Он мал, как мы, он мерзок, как мы!“ Хлусіце подлыя. Ён і малы і гідкі—ня так, як вы—інакш“. Гэты пушкінскі крык так і хочацца сказаць зноў па адрасу тых чысьценькіх, акуратненькіх, добрадзейненькіх абывателяў, якія з апэтытам перабіраюць брудную бялізну Есеніна.

Але ня гэты чад абывательскіх плётак цікавіць нас.

Заслугоўвае пільнай грамадзкай увагі тая акалічнасьць, пра якую я казаў вышэй: у Есеніна знаходзяцца формулы апоэтызаваньня ўпадніцкіх настрояў, яго асабістая драма акружаецца своеасаблівым романтычным орэолам, яго пагібельлю аргумэнтуюць перад самымі сабою кандыдаты ў самазабойцы...

Тая частка вучнёўскай, студэнцкай, рабфакаўскай, комсамольскай моладзі, у якой нэпаўскі этап рэволюцыі выклікае непаразуменьне, упадніцтва, якая часамі даходзіць да расчараваньня і безнадзейнасьці, гэты новы тып „лішняга чалавека“, чый романтычны імпэт штурмаваць, сутыкацца з жалезнай канечнасьцю штодзеннага будаўніцтва, гамлетыкі ды няўдачнікі, што заблыталіся ў жорсткіх і складаных супярэчнасьцях эпохі,— усе яны ліпнуць да тае часткі есенінскай творчасьці, якая была вынікам трагічнай і балючай бязвыходнасьці, што абумовіла гібель вялікага поэты.

Яны бяруць непаўтаральныя, мэдалёвыя есенінскія вобразы і перакройваюць іх ў дробную монэту. Яны выбіраюць з тысяч праўдзівых і мастацкіх радкоў Есеніна дзесяткі прасякнутых пэсымізмам, змардаванасьцю, квіэтызмам, ахутаных чадам шынка, напісаных няроўнай рукою самазабойцы, і з гэтых дзесяткаў адліваюць стэрэотыпы. Калі ў Есеніна ёсьць радкі аб патрэбе схіліцца над шклянкай,

Чтоб, не страдая ни о ком,
Себя згубить в угаре пьяном,—

то, пераймаючы ў яго, комсамолец Ковынев марыць аб тым, што

Хорошо бы за столиком
В заведеньи, где винные полочки,
Задыхаясь махоркою,
Одному просидеть до утра...

І сотні маладых поэтаў, што пачынаюць пісаць, думаючы, што яны працягваюць есенінскую традыцыю, гатовы траціць сябе ў п'яным чадзе.

Богэма, дрыгва, якая засасала Есеніна, якая давяла яго ад „Стойла Пегаса“ да готэля Англетэр, выступае перад поэтычным маладняком у орэоле есенінскай творчасьці, яны ліпнуць да яе, дыхаюць яе ядавітымі газамі, трацяць свае фізычныя ды інтэлектуальныя сілы. У выніку тое, аб чым казаў у адным сваім вершы М. Галодны:

> В стране Советов в кабаках
> Живут рабочие поэты...

Гэта грознае грамадзкае зьявішча, той злавесны факт, наконт якога трэба біць трывогу...

І таксама злавесны факт таго, хто хваля самазабойстваў, якая пракацілася ў 1926 годзе па нашым краі, якая абарвала дзесяткі таленавітых, многаабяцальных жыцьцяў, прамяніла фарбамі есеніншчыны... Дзесяткі самазабойцаў пакінулі запіскі, у якіх цытавалі вершы Есеніна, дзесяткі самі пісалі вершы падобныя да есенінскіх, дзесяткі перад сьмерцю зачытваліся Есеніным.

Вядома і гісторыя, што нашумела, з організацыяй на літаратурным факультэце маскоўскага Вхутэмасу так званай „Вольніцы“—групы студэнтаў, якая ўключала беспартыйных, комсамольцаў і комуністых, што культывавала есенінскія настроі і наважыла паквітацца з жыцьцём па прыкладу Есеніна... Вядома і організацыя гурткоў так званых „есенінскіх удоў“. Натуральна, што такога роду пагражальная зьява патрабавала суровага адпору з боку савецкай грамадзкасьці, і савецкая грамадзкасьць гэты адпор дала. Яна ў асобе нашых лепшых крытыкаў і найбольш адказных літаратараў узьняла свой голас супроць есеніншчыны, як культу ўпадніцкіх настрояў, якія часамі апаноўвалі загінутага поэту і зьмяняліся ў нейкае самаважкае ды скажанае сьветаразуменьне.

Ужо цераз некалькі дзён пасьля сьмерці Есеніна Л. Д. Троцкі заклікаў: „Хай-жа ва ўшанаваньні памяці поэты ня будзе нічога ўпадніцкага і расслабленага... Памёр поэта, няхай жыве поэзія! Зваліласся ў роў неабароненае чалавечае дзіця. Няхай жыве творчае жыцьцё, у якое да апошняй хвіліны заплятаў каштоўныя ніткі Сяргей Есенін!“

Аб тым-жа вельмі добра гаварыў у прамове, прысьвечанай Есеніну, і Сяргей Гарадзецкі, які заклікаў хвалю спачуцьця, выкліканую сьмерцю Есеніна, організаваць у тым кірунку, каб яна не зьмянялася ў шопэнаўскі хаўтурны марш пагаджэньня і суму, а зьмяніць яе ў актыўную справу, каб моладзь цяперашняя любіла не такія радкі, што вось, „На рукаве своем повешусь“, а тыя радкі, дзе Есенін надзвычайна адважна і з радасьцю кідаецца ў жыцьцё, поўніцца ім і выкоўвае з жыцьця свае чароўныя песьні... Узяць ад Есеніна яго радасьць жыцьця, яго пераможнасьць, яго ўрачыстасьць над жыцьцём' і ўнесьці ўсё гэта ў жыцьцё, з якога ён вышаў... Апошнюю, найбольш энэргічную перасьцярогу тым, хто чапляецца за гніль, што ёсьць у Есеніна, зрабіў Н. І. Бухарын яго „Злыми заметками“, і „Комсомольская Правда“, якая вуснамі Бэрмана заявіла: „ня ў

тым задача, каб агульна зьняславіць Есеніна. Задача ў тым, каб моладзь навучылася адносіцца да гэтага Есеніна крытычна, біручы добрае і патрэбнае, адкідаючы гніль, ня блытаючы Есеніна з „есеніншчынай“, ды і ў самой поэзіі яго адлучаючы здаровую лірыку ад ўсяго ўпадніцкага“.

Аднак, трэба прызнаць, што грамадзка-карысная і патрэбная барацьба з есеніншчынай прыводзіла часамі да перагінаньня палкі. Пачалося тое самае „агульнае зьняслаўленьне“ Есеніна, проці якога выступала „Комсомольская Правда“. Есенін быў абвешчаны сьцягам упадніцкіх настрояў, жывым нябожчыкам, кадзільнікам, ныцікам, басяком, што сьпіўся, няўдачнікам, што задушыўся; яго поэзію абвяшчалі кулацкай, контррэволюцыйнай, яго творчасьць называлі сямяротным ядам, балотнай плесеньню і г. д., і г. д.

Пры гэтым найбольш заўзятыя абвінянальнікі Есеніна дакаціліся ў сваіх выступаньнях да чыстакроўнага ідэалізму. Маладыя поэты п'юць, вось, бо захапляюцца Есеніным; моладзь трапляе пад уладу ўпадніцкіх настрояў, бо на яе ўплывае Есенін; комсамольцы канчаюць самазабойствам, бо пераймаюць Есеніна. Тыя, якія змагаліся з Есеніным да няпрытомнасьці, падмянілі неабходны марксыцкі аналіз сучасных настрояў сярод моладзі, яе агаркавасьці і хуліганства, зьмены яе нясталых элемэнтаў у шпану і самазабойцаў,—гэтыя абвінянальнікі да „няпрытомнасьці“ падмянілі марксыцкі аналіз тым, што зьмянілі Есеніна ў нейкага каміфэрштана ад упадніцтва: п'юць з-за Есеніна, ныюць з-за Есеніна, у карты лупяць з-за Есеніна, гвалтуюць з-за Есеніна, нажамі колюць з-за Есеніна, вешаюцца з-за Есеніна,—ад яго і ўсе якасьці.

І калі мы сустракаемся са спробамі падмяніць марксыцкія дасьледзіны пытаньня каміфэрштанцка-ідэалістычнымі, то проці гэтых спроб прыходзіцца протэставаць, як гэта і зрабіў, напр., артыкулам „Не термометр виноват“ Караль Радэк. Радэк правільна пісаў у „Комсомольской Правде“: „Вельмі карысна даць аналіз есенінскага сьветапагляду, наколькі наогул можна характарызаваць гэтым словам адчуваньні, выражаныя ў яго вершах. Але не ў барацьбе з Есеніным шлях барацьбы проці нездаровага сярод нашай моладзі... Ня трэба таіцца ад вялікай грамадзкай зьявы разглядам яго (есенінскіх) літаратурных твораў, а трэба паставіць ясна і адкрыта пытаньне аб прычынах хваравітых зьяў сярод нашай моладзі. Як ні крыўдна гэта, але факты самазабойства моладзі маюць такія самыя глыбокія карані ў нашым пераходным ладзе, як факты дзіцячай бяспрытульнасьці, як хваля пролетарызаванага вясковага насяленьня, якое прэцца ў горад і жабрацтвуе на нашых вуліцах, як проституцыя. З гэтых фактаў трэба адыходзіць. Аб чым трэба гаварыць, думаць, гэта—аб пытаньні, паколькі мы нашымі дзеяньнямі або нашымі памылкамі ўзмацняем упадніцкія тэндэцыі, якія дзейнічаюць сярод моладзі, або невыстарчальна ім супроцьдзейнічаем“...

Як я ўжо адзначаў, патрэбная і грамадзка-карысная кампанія проці есенішчыны пачала часамі выліваццa ў недапусьцімыя формы.

У якасьці яскравага ўзору такога роду выступаньняў можна падаць анты-есенінскую „продукцыю“ Кручэных. Бадай кожны месяц мінулага году прыносіў нам новыя анты-есенінскія творы Кручэных—мізэрную бульварварную брошурку—„сам аўтар з уласьцівай яму саромлівасьцю нязьменна называе такую брошуру кнігаю“,—насычаную бяззубымі і бязьзьмеснымі кпінамі наконт нябожчыка поэта: Драма Есеніна, Гібель Есеніна, Есенін і Масква кабацкая, Чорная таямніца Есеніна, Аблічча Есеніна—ад хэрувіма да хуліганства. Хуліган Есенін, штукі есеністых,—такія маюць назвы пэрлы кручэныхаўскай продукцыі. Што-ж трэба Кручэных? Яму трэба надаць чытацкай масе наступнае—буду карыстацца яго ўласным рэзюме:

1. Поэта сабачай старасьці, поэта ўсемагчымай старызны і рызьзя, С. Есенін зьявіўся якраз тады, калі ўсю гэтую дрэнь пачалі выкідаць.

2. Спажыўцы Есеніна—патомственыя паважаныя курнікі неба і плакуны над „Московскими Русями“, а таксама: а) каханцы „Мужичка“, што займаюцца народніцтвам, і шансон русс, б) сьлюнявая інтэлігенцыя, аглушаная рэволюцыйнай дубінай, в) наогул клапы, тараканы і паукі.

3. Есенінскае корпаньне ў гнаі і порканьне ў памыйных ямах нязьменна вырошчваюць цынізм і густ да ўсяго асабліва сьмярдзючага і бясчыннага, адгэтуль есенінскае хуліганства, разгільдзяйства, п‘янства, буянства, бяссэнсны стыхійны анархізм.

Таму Есенін у запыце і фаворы ў: а) бандытаў і простытутак б) трымальнікаў фігі ў кішэні.

У выніку сваіх „дасьледзін“ Кручэных прышоў ні больш ні менш, як да вымаганьня забараніць выданьне ядавітай поэзіі Есеніна“.

Пра буянства, якое Кручэных наладзіў над магілай Есеніна, можна было-б, мусіць, сур‘ёзна не гаварыць, адносячыся да яго, як да чарговага нумару, які выкінуў вядомы аўтар „дыр-бул-шчыр“ і творца поэмы пра Ваньку-Каіна і Сеньку-манікюршчыцу.

Так можна было-б зрабіць, калі-б думкі Кручэных не знайшлі-б водгуку там, дзе здавалася ім менш за ўсё месца. На жаль, кручэныхаўская ацэнка вялікага поэты была ў больш корэктнай форме падана такім таленавітым і ўплывовым савецкім журналістым, як Сасноўскі. Артыкул Сасноўскага „Развенчайте хулиганство“ па істоце аднаўляе аргумэнтацыю Кручэных, пасылае па адрасу Есеніну тыя самыя закіды, якія яму кінуў Кручэных. І не дарма Кручэных крыўдна абвінавацііў Сасноўскага бадай што не ў плягіяце ды ў ігнараваньні яго, Кручэныха, заслуг перад соцыялістычнай айчынай у справе скіданьня есенінізму...

Есенін для Сасноўскага гэта—„Свихнувшийся талантливый неудачнік“, у яго творчасьці ён бачыць „лирику взбесившихся кобелей“... Сасноўскі зьмяняе Есеніна ў ідэёвага натхненца Чубарава завулку, у ідэолёгаў харкаўскіх, растоўскіх, нова-сібірскіх і ўсякіх іншых гвалтаўнікоў,

нягоднікаў, прахвостаў, забойцаў Сасноўскі. асабліва рэзка формуляваў тыя абвінавачаньні, якія часьцей за ўсё прад'яўляюцца Есеніну.

1. Есенінская поэзія—порнографічная, нахабная; гэта „лирика взбесившихся кобелей".

2. Есенін—хуліган; братан бандытаў і гэрояў панажоўшчыны; спакойны і разважлівы буян.

3. Есенінская творчасьць падазрэнна пахне політычным; яна рэакцыйна і контр-рэволюцыйна.

Ці сапраўды гэта так.

Наконт элемэнту порнографіі, нахабнасьці, ганебных і чыста жывёльных адносін да жанчыны, што ёсьць у Есеніна. Але, у Есеніна ёсьць два-тры непрызваітных вершы. Яны антыэстэтычныя па форме, яны зьмяшчаюць нецэнзурныя выразы, яны ўключаюць у сябе грубую лаянку, яны могуць быць зразуметыя, як дыфірамбы палавой разбэшчанасьці.

Раней за ўсё дазвольце заўважыць наконт гэтага наступнае. Такіх непрызваітых вершаў у Есеніна ёсьць 2-3. 50 радкоў на 10.000 ім напісаных. І вось запытаньне, ці дапусьціма іменна гэтыя 50 радкоў выставіць, як радкі, што характарызуюць Есеніна, што азначаюць яго поэзію. Зразумела, гэтага рабіць нельга. Есеніна трэба браць усяго—такім, як ён ёсьць, на працягу ўсяе яго творчасьці, а не абмяжоўвацца 3-ма старонкамі чатырох томаў... Дапусьцім, што гэта так, што ў Есеніна ёсьць 50 радкоў, якія прадстаўляюць чыстую порнографію, а колькі такіх радкоў напісаў Пушкін? І што-б мы сказалі наконт таго крытыка, які на падставе даволі вялікай колькасьці порнографічных радкоў, што ёсьць у Пушкіна, абвясьціў-бы яго поэзію „апоэтызаваньнем хуліганскага мацаньня" і поэтычным благаславенствам гвалтаўнікоў. Але і ня толькі ў Пушкіна, нават-жа ў Толстога ёсьць такія радкі, за якія царскія прокуроры, што стаялі на варце моралі, вымагалі прыцягненьня Льва Мікалаевіча па 1001 арт. „за зьневажаньне саромлівасьці і ўзбуджэньне „сладострастия". Наконт нецэнзурных выразаў, што сустракаюцца ў Есеніна, я хачу падаць яго словы, сказаныя ім профэсару Розанаву: „Мяне пытаюць, навошта я ў вершах сваіх ужываю часамі непрызваітыя ў грамадзтве словы,—так нудна часамі бывае, так нудна, што раптам і захочацца што-небудзь гэткае зрабіць. А між іншым, што такое „непрызваітыя словы". Іх ужывае ўся Расія, чаму ня даць ім права грамадзянства і ў літаратуры". Зразумела, гэта ня так, і забаўляць сябе лаянкай, бо нудна і хочацца што-небудзь зрабіць,—прымета дзікасьці, някультурнасьці, убоства, і з гэтым усім трэба змагацца. Але, з другога боку, калі мастак часамі і дапушчае ў сваім творы непрызваітае слоўка, то такое дапушчэньне нічога агульнага з хуліганствам ня мае. Колькі раз такія дапушчэньні дазвалялі сабе Гейнэ, Золя, Толстой, дзесяткі найвялікшых мастакоў і, наколькі мне вядома, ніхто, апрача класных дам з інстытуту шляхэтных дзяўчын гэтым спосабам не абураўся.

Я вышэй зрабіў дапушчэньне, што непрызваітых 2-3 вершы Есеніна сапраўды наскрозь порнографічныя. Цяпер я хачу праверыць правільнасьць гэтага дапушчэньня і запытаць, ці сапраўды гэтыя рэчы „сыпь гармоника“, „пой же пой“—порнографія.

Даволі прачытаць, але, зразумела, цалком і да канца, першы і спачатку другі з іх, каб пераканацца, што са старонак, на якіх яны друкаваны, ня капае нахабнае сала. Так, у іх ёсьць недазволеная грубасьць, бравcomponeньне палавой разбэшчанасьцю, маладзецтва самца, але ў іх няма скабрэзнасьці, няма агіднага „сладострастия“, няма наўмыснага ўзбуджэньня эротызму. І таму Есенін—нават аўтар гэтых радкоў—чысьцей добраморальнага мешчаніна, які з агіднымі кпінамі расказвае сальныя анэкдотыкі і гідка рагоча наконт іх у сямейным абкружэньні... Тут нахабшчына, якая зарасла абывательскім мохам, а ў Есеніна „исступление“, прыпадак спакутаванага і азлобленага чалавека.

Я пакідаю мужным капуцынам дабрадзейнасьці абурацца есенінскай порнографіяй. Для мяне ясна, што тыя яго радкі, за якія на твар поэты ставяць часамі кляймо ідэолёга гвалтаўніцтва і чубараўшчыны, гэтыя радкі належаць да ліку тых, пра якія Л. Д. Троцкі правільна сказаў, што яны напісаны крывёй параненых жыл... Цынікі і гвалтаўнікі гэтага роду атрамантам ня пішуць. Цяпер яшчэ два словы пра хуліганства Есеніна. Я ўжо спрабаваў азначыць карані гэтае зьявы, адзначыўшы, што хуліганства Есеніна было сваеасаблівай, соцыяльна-бяссэнснай, індывідуальна-шкоднай спробай дэклясаванага самотніка, які ня мае сілы зразумець сэнс гістарычных падзей, што зьдзяйсьняюцца вакол, протэставаць проці ўсякага наагул ціску і ўмешваньня ў яго жыцьцё з боку грамадзтва. Есенін ухапіўся за хуліганства, як хапаецца за паратавальнае кола пасажыр лодкі, што перакулілася, якога хвалі адкідаюць ад аднаго берагу, не даючы прыстаць да другога...

Хвалі ўскаламучанага соцыяльнага мора жорстка кідалі Есеніна з боку ў бок:

> Стыдно мне, что я в бога верил,
> Горько мне, что не верю теперь...

Есенін умеў ставіць самавар на трэсках з абразоў і ўмеў наказаць, каб яго палажылі паміраць пад абразамі; умеў аддавацца містычным настроям і паўтараць, што адзін сапраўдны сьвет—гэта пачуцьцёвы, земны, умеў шчыра і захоплена ўспрыймаць новы соцыяльны лад і дзіўна глядзеў, як ствараецца і расьце Савецкі Саюз. Увесь падвоены, увесь рашчэплены з соцыяльнай стыхіяй, які думаў, што можна павянчаць „Розу белую с черной жабой“.

> ... В сплошном дыму,
> В развороченном бурей быте
> С того и мучаюсь,
> Что не пойму,
> Куда несет нас рок событий...

У гэтых пакутах неразуменьня і бярэ крыніца есенінскага хуліганства. Чаго ўцякаў Есенін у шынок.

Земля—корабль.
. . . . . . .
Но кто-ж из нас на палубе большой
Не плакал, не блевал и не ругался,
Тогда и я
. . . . . . . . .
Спустился в корабельный трюм,
Чтоб не смотреть людскую рвоту.
Тот трюм был—
Русским кабаком...

Дурная слава бяжыць шпарка... Пагалоска пра Есеніна прапойцу і „забулдыгу“ пачала прасьледаваць яго, ён вырашыў, што масты для адступленьня спалены і з рашучасьцю сказаў сабе:

Мне осталась одна забава:
Пальцы в рот—и веселый свист,
Прокатилась дурная слава,
Что похабник я и скандалист...

Я ўжо закранаў раней есенінскія адносіны да рэволюцыі. Прыпамятаўшы сказанае, угледзім, як мала ў нас ёсьць падстаў для таго, каб думаць, што хуліганства Есеніна было ахварбована ў контр-рэволюцыйны колер, што ад яго дрэннапалітычна пахне. У сьцьвярджэньне гэтае свае думкі т. Сасноўскі спаслаўся на верш Есеніна, у якім ён кажа пра сваіх таварышоў па чарцы, якія „проклинают свои неудачи, вспоминают московскую Русь“.

Жалко им, что октябрь суровый
Обманул их в своей пурге,
И уж удалью точится новой
Крепко спрятанный нож в сапоге.

Тав. Сасноўскі робіць вынік: „якія няўдачы праклінаюць асобы каторых абмануў Кастрычнік, і чаму яны памінаюць іменна маскоўскую царскую Русь,—лёгка дагадацца“... Але-ж пытаньне ў тым, *як Есенін аднёсься да сваіх* таварышоў па чарцы, да іх праклёнаў Кастрычніка і ўспамінаў маскоўскай Русі. Пра гэта зусім нядвухсэнсна сьведчаць словы Есеніна, які даў імя гэтым паном „пропащей гульбой, над которой чадит мертвячиной“. Нешта далёкае ад солідарнасьці і братаньня...

Поэтычны жыцьцяпіс Есеніна, выключны па сваёй дакладнасьці, сьведчыць аб процілеглым таму, што кажа Сасноўскі. Ён дае ўсе падставы далучыцца да слоў тав. Лелевіча.

— Рэволюцыя ня ўсыновіць Есеніна—містычнага поэту старой Русі, ня ўсыновіць яна і протэстанта проці гарадзкой культуры ды тэхнікі. Але яна пяшчотна ўсыновіць таго Есеніна, які шляхэтна, шчыра, напружана спрабаваў зразумець эпоху, „догнать стальную рать“, узгодніць сваю творчасьць з рэволюцыйнай сучаснасьцю і зламаўся пад цяжарам узятае на сябе цяжкое і ганаровае ношкі.

А тое, што гэта напружанае і балючае імкненьне зьліцца з Рэволюцыяй кіравала Есеніным—таму даволі довадаў. (Я пакідаю ў баку факт падаваньня Есеніным анкеты для ўступленьня ў партыю). Абмяжуюся толькі тым, што напомню некаторыя агульна-вядомыя месцы з поэтычнага жыцьцяпісу Есеніна.

Советскую власть я виню
И потому я на нее в обиде.
Что юность светлую мою
В борьбе других я не увидел...

Есенін сумаваў, што ён ня быў удзельнікам вялікіх падзей.

Я тем завидую, кто жизнь провел в бою,
Кто защищал великую идею...

Але ён быў шчасьлівы тым, што лічыў сябе сучасьнікам гэтых падзей і з найвялікшай агідай кажа пра тых, хто знарок заплюшчваў вочы на тое, што адбывалася навакол:

Они, как отрубь, в решете
Средь непонятных им событий?
. . . . . . . .
Кто бросит камень в этот пруд.
Не троньте!
Будет запах смрада.
Они в самих себе умрут.
Истлеют падью листопада.

Урэшце, апошні, вырашальны вынятак.

. .Но ту весну,
Которую люблю,
Я революцией великой
Называю!
И лишь о ней
Страдаю и скорблю.
Ее одну
Я жду и призываю!
Но эта пакость—
Хладная планета!
Ее и Солнцем-Лениным
Пока не растопить!
Вот потому
С больной душой поэта
Пошел скандалить я,
Озорничать и пить.

У гэтым вынятку ўвесь Есенін з яго романтычным імкненьнем да рэволюцыі, з яго трагічнымі намаганьнямі наблізіцца да яе і ракавым неразуменьнем яе. У адным лепшым з надрукаваных пасьля гібелі поэты артыкулаў—Мік. Асеева „Плач по Есенину", аўтар адзін з найбольш выдатных сучасных расійскіх поэтаў, расказвае пра сваё апошняе спатканьне з Есеніным незадоўга да яго самазабойства.

Есенін, апухлы і скалечаны сваім жыцьцяпісам, спалоханы і ўзрушаны яго неасільнай згубнасьцю, хроп, перагнуўшыся да мяне, страшэнным шопатам, зьзяючы сінімі вачыма...

З памятага твару яго выступалі рысы ўпартай і цяжкой волі... Перада мною паўставала другое аблічча Есеніна, ня тое грамадзкае, з аднолькавым для ўсіх ласкавым сьмехам, ня той твар з русымі кудрамі, а жывы, праўдзівы творчы твар поэты, твар, памыты холадам роспачы, які раптам пасьвяжэў ад болю і страху перад стаўшым сваім адбіткам.

Апалі сусальныя румяны нацыяналізму. Спынілася сударжнае балянсаваньне на канаце двухсэнснага посьпеху. Перада мной быў чалавек, таварыш, поэта, які бачыць сваю згубу, які хапіўся за маю руку толькі для таго, каб адчуваць чалавечую цяплыню. Аб такім Есеніне я плачу.

Для таго, каб зразумець Есеніна, мне здаецца, трэба здолець паглядзець на яго так, як гэта зрабіў Асеев. Так, каб з-за зьмятага богэмай, шынком, суровым і бессэнсным жыцьцём твару няўдачніка і занянадніка блісьнуў жывы творчы твар чалавека, які ўмеў моцным і прыгожым каханьнем кахаць жыцьцё ва ўсёй яго шматграннасьці, які трагічна змагаўся за права жыць і ў гэтай барацьбе загінуў, пакінуўшы нам непаўтаральныя мастацкія багацьці сваіх поэтычных запісаў.

І калі так падыйсьці да Есеніна, то зьнікнуць тыя радкі бязьвер'я і ўпадніцтва, на якія ў моц паказаных вышэй соцыяльных прычын аказалася ласай частка нашай моладзі. Наадварот, тады выступяць наперад тыя радкі бадзёрасьці ды оптымізму, якіх шмат у Есеніна і якімі ён крычаў:

Я хочу жить, жить, жить,
Жить до страха и до боли,
Хоть карманником, хоть золотородцем,
Лишь бы видеть, как мыши от радости
прыгают в поле,
Лишь бы слышать, как лягушки от восторга поют в колодце.

Тады мы зразумеем, што сапраўдны Есенін не азлоблены пэсымісты, ня ўбогі мізантроп, што ён не зьняважліва адносіцца да чалавецтва, індывідуалістычны надчалавечак, што ён умеў чэсна і мужна схіляцца перад веліччу тых соцыяльных сіл, якія ня былі яму зразумелымі.

Опомнись, чем же ты обижен.
Ведь это только новый свет горит
Другого поколения у хижин.

Тады моладзь, што зачытвалася Есеніным, зразумее і ацэніць яго заклік:

Цветите, юные, и здоровейте телом.

І тады, у хвіліны выпрабаваньняў і трывог, у часы раздарожжа і замяшанасьці яна ня будзе цьвярдзіць аб „гробовой дрожи“ і назначаць спатканьні ў няіснуючым сьвеце, а будзе паўтараць:

Пусть на окошках гнилая сырость,
Я не жалею, и я не печален,

Мне все равно. Эта жизнь полюбилась,
Так полюбилась, как будто вначале.

Ці ёсьць у Есеніна гніль? На гэты конт ня можа быць дзьвёх думак. Мы знаходзім у яго тую своеасаблівую сумесь з „кобелей“, абразоў „сисястых баб“, „жаркіх свечей“, бярэзінак, месяца, сукаў, пана бога, мноства п‘яных сьлёз і ўсяго таго іншага, па чым даў стрэл т. Бухарын. Але ня гэтай гнільлю, а нечым іншым каштоўны Есенін. І для таго, каб ня блытаць гнілога са здаровым, трэба не цалком прымаць Есеніна і не цалком зьнеслаўляць яго. Трэба цьвяроза і крытычна падыйсьці да яго поэтычнай спадчыны.

# АСНОЎНЫЯ МОМАНТЫ ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАГА ДОЙЛІДЗТВА

## М. Касьпяровіч

Беларусь дасьледавана ня менш за іншыя краіны былой Расіі, калі ня браць пад увагу некаторыя рэдкія выключэньні. Яна, як былая колёнія, прыцягвала асаблівую ўвагу як расійскіх, так і польскіх дарэволюцыйных дасьледчыкаў. Нават зараз яшчэ часамі чуюцца адгалоскі гэтага ўпартага змаганьня дваран і паноў за Беларусь [1]). З гэтае прычыны літаратуры аб Беларусі наогул і аб беларускім дойлідзтве [2]) паасобку ёсьць нямала. Каштоўнасьць-жа яе невялікая і вызначаецца колькасьцю фактычных матэрыялаў. Правільныя вывады і абагульненьні ў гэтай літаратуры спатыкаюцца як нешта выпадковае, часамі незалежнае ад мэтаімкнёнасьці аўтара. Прычына гэтага зразумелая. Салдат, дваранін, вучоны—вось схэма шляху царату на Беларусь. Апошняя доўгі час была толькі об'ектам дасьледваньня. І толькі пасьля Кастрычнікавай рэволюцыі самі беларусы атрымалі магчымасьць вывучэньня і дасьледваньня сябе і свае краіны, якое і выяўляецца ў працы навуковых інстытуцый і краязнаўчых організацый з удзелам шырокіх мас працоўных. Да гэтага далучаецца сумленная праца суседніх пролетарскіх рэспублік у агульным культурна-гаспадарчым будаваньні СССР. Ува ўсёй гэтай працы ў першую чаргу трэба скарыстаць фактычны матэрыял ранейшай літаратуры і зрабіць некаторыя важнейшыя досьледы. Прыходзіцца згадзіцца з компіляцыйнасьцю працы ў першым выпадку, таму што правесьці ўсе новыя досьледы ў пажаданым маштабе немагчыма. Вось гэту першую працу ў галіне беларускага мастацтва робіць М. М. Шчакаціхін, „Нарысы па беларускаму мастацтву“ [3]) якога былі мной перакладзены на беларускую мову ў 1923 годзе, але яшчэ не апублікаваны. Адначасна з ім працуе шэраг іншых дасьледчыкаў беларускага мастацтва: Зямкевіч, Фурман і г. д. У зачэпленым намі пытаньні прыдзецца спыніцца на самых галоўных момантах.

---

[1]) „Отчет о командировке с научной целью за границу на летние месяцы академика Е. Ф. Карского“, 1926 г.; W. Kalinowski. „Kwestija wschodnia a Białoruś, 1920 г. Ł. Wasilewski. „Litwa i Białoruś“, 1925 г. і інш.

[2]) Тэрмін дойлідзтва прыняты намі як агульнавядомы, і нават у песьнях пяюць „А тры дойліды палац будавалі“... „Будаўніцтва“ і „архітэктура“ зусім не адпавядалі-б у даным выпадку зьместу.

[3]) Курганнае мастацтва, архітэктура XII веку, замкавае дойлідзтва і беларуская готыка.

Займаючы цэнтральнае палажэньне ў Эўропе, на вялікіх вадзяных шляхох з захаду на ўсход і з поўначы на поўдзень, Беларусь на ўсім працягу гісторыі была ва ўзаемадзеяньні і ўзаемаўплыве з суседнімі народамі. Нават ня гледзячы на доўгае панаваньне польскай і расійскай дакастрычнікавых культур на Беларусі, апошняя здолела захаваць сваю самабытнасьць, бо гэтага вымагала своеасаблівае становішча і прырода Беларусі, якая выпрацавала свой этнографічны тып насельніка, а значыць, і мову, культуру і гісторыю яе. Беларускае дойлідзтва, як частка гэтае культуры, мае тую ўласьцівасьць, што больш, чым якое другое, адбівае сучасную яму эпоху.

Беларускія славяне, прышоўшы сюды з даволі высокай культурай, расьсяліліся па найбольш выгодных шляхох-рэках і ў мясцох, дзе гэтаму асабліва спрыялі ўмовы, пабудавалі моцныя гарады: Полацак, Тураў, Смаленск, Горадню і інш. Гарады гэтыя концэнтравалі наўкол сябе насельніцтва паасобных краёў, якое таксама імкнулася да іх, як да сваіх гандлёвых цэнтраў. У гэтых гарадох была даволі разьвітая па таму часу тэхніка і культура. Дзякуючы ўсім гэтым прычынам уласна ў гарадох і пачалося монумэнтальнае дойлідзтва. З самага першапачатку яно падзялялася на грамадзкае і культавое. Грамадзкае дойлідзтва, як менш монумэнтальнае, не захавала нам помнікаў пачатку беларускае гісторыі. Нават культавое дойлідзтва, якое, каб зрабіць больш моцнае ўражаньне і больш моцна трымаць у сваіх руках свой статак, мела магутныя будынкі,—таксама не захавала нам сваіх помнікаў X—XI веку. Толькі ад часоў росквіту першага кругабегу беларускае гісторыі захаваліся Сьмядынская, Петрапаўлаўская і Багаслоўская Смаленскія цэркві, а таксама Благавешчанская Віцебская, Ефрасіньнеўская Полацкая цэркві і рэшткі Калоскае Горадзенскае.

Ідучы з Бізантыі па вадзяному шляху з поўдня на поўнач, хрысьціянства несла з сабою і ўласьцівыя яму формы культавога, г. зн. царкоўнага дойлідзтва. Папаўшы на славянскія землі, апошнія пачалі відазьмяняцца, набываючы пэўную своеасаблівасьць. Першыя такія зьмены ў дэталях былі зроблены ў Кіеве. У Чарнігаве яны выявіліся троху больш. Канчатковая-ж зьмена атрыманага з Бізантыі Кубічнага храму з трыма абсідамі была зроблена ў Беларусі. Зьмена гэта выявілася ў спрошчваньні яго. Спрошчваньне гэта пачалося ў Смаленску. У Сьвірскай царкве 1194 году ўжо ёсьць відавочнае паніжэньне бакавых аўтарных абсід. Такое паніжэньне крыху пазьней было паўторана ў Наўгародзкай царкве Параскевы Пятніцы. Наогул прыходзіцца адзначыць, што Ўсходняя Беларусь зьяўлялася месцам, праз якое бізантыцкія формы прасочваліся ў Наўгародзка-Пскоўскую зямлю і на захад Баларусі. Усё-ж беларускія будовы гэтага часу, г. зн. пачатку XII і канца XI стагодзьдзя, яшчэ кубічныя і трохабсідныя, а значыць мала адрозьніваюцца ад бізантыцкага кубічнага тыпу. Орыгінальнасьць спрошчваньня гэтага тыпу канчаткова

выявілася ў першай чвэрці XII стагодзьдзя ў Віцебску ў Благавешчанскай царкве і ў Полацку ў Ефрасіньнеўскай царкве. Бакавых аўтарных абсід тутака зусім няма. Усходняя сьцяна мае толькі адну аўтарную абсіду. У тоўстай усходняй сьцяне з нутранога боку зьмешчаны ахвярнік і дзьяканьнік. Гэтыя адзнакі можна наглядаць і зараз, хоць паказаныя помнікі ў пазьнейшыя часы значна зьменены. У Віцебскай Благавешчанскай царкве, напр., уся пярэдняя частка з званіцаю, паўднёвая прыбудоўка і купал зьяўляюцца пазьнейшымі зьменамі. Вузкія даўгаватыя вокны, быць можа і не першапачатковыя, а часоў Аляксея Міхайлавіча, закладзены, а замеж іх прабіты новыя. Засталося толькі адно з паўночна-ўсходняга боку аўтарнае абсіды. Значыць, старадаўняя частка будынку мае выгляд некалькі даўгаватага простакутніка з аднэю поўкруглаю абсідаю. Яна некалі была накрыта па закомарах і мела купал. Лапаткі падзяляюць паўночны і паўднёвы фасады на 4 часткі кожны. Нутраная плошча падзелена трыма парамі чатырохкантовых слупоў. Частка хораў захавалася да цяперашняга часу і апіраецца на першую пару слупоў і заходнюю сьцяну. У вышэй адзначаным зьнішчэньні бакавых абсід, а таксама ў кантовасьці Полацкай Сафіі, пэўна, можна бачыць сувязь нашай краіны з Сірыяю праз Каўказ, Касьпійскае мора, Волгу, верхавіны Акі і Дняпра. З другога боку, сыстэма галасьнікоў Калоскае Горадзенскае царквы гэтага часу нагадвае сувязь Беларусі з захадам. Разам з тым, пры ўспрыйманьні ўсіх гэтых уплываў беларускае дойлідзтва гэтага часу зьяўлялася найбольш самабытным сярод адменьнікаў бізантыцкага стылю суседніх краёў і ў сваю чаргу рабіла прыметны ўплыў на апошнія. Так, конструкцыйныя асаблівасьці шэрагу беларускіх культавых будынкаў Міхайлаўскае і Петрапаўлаўскае Смаленскіх цэркваў, Ефрасіньнеўскае Полацкае і Благавешчанскае Віцебскае былі пераняты к канцу XII стагодзьдзя Наўгародзка-Пскоўскай краінай, якая і разьвіла ў гэтым кірунку сваё культавое дойлідзтва ў XII і XIII стагодзьдзі. Беларускае-ж культавое дойлідзтва, дзякуючы цэламу шэрагу прычын, прыпынілася.

Кіеўшчына пацярпела няўдачу ў сваім упартым змаганьні з вандроўнымі народамі, і вадзяны шлях з паўдня на поўнач быў перарваны. Ад гэтага павялічылася значэньне шляху з захаду на ўсход, а значыць, і сувязі з захадам. Беларускае баярства пасоўвалася на захад, шукаючы прыбыткаў, а часам і ратунку ад хатняга соцыяльнага змаганьня ў Полаччыне і паўднёва-ўсходніх суседзяў, якія, бывала, перамагалі. Тутака жылі літвіны, якім у гэты час прыходзілася бараніцца ад крыжакоў. Пры гэткіх умовах і ўтварылася фэўдальнае Беларуска-Літоўскае Гаспадарства, якое прызвана было зламаць моц крыжацкіх ордэнаў. Апошнія, пачаўшы сваю колёнізацыю з утокаў Дзьвіны, стараліся пашырыць яе за кошт беларуска-літоўскіх зямель. У сваім наступовым руху яны будавалі на межах беларуска-літоўскіх земляў магутныя высокія замкі, што панавалі над ваколічнай тэрыторыяй. У Беларусі-ж абарончыя ўмацаваньні скла-

даліся з гарадзішчаў, пабудаваных у відзе валаў з напалову драўлянай, напалову каменнай сьцяной на іх, якаяканчалася частаколам. Унутраныя драўляныя будовы служылі жылымі памяшканьнямі. І вось тагочасная вайсковая тэхніка паклала канец такім умацаваньням. Патрэбны былі новыя, якія-б змаглі супроцьстаяць крыжацкай навале з яе замкамі. Прышлося ужыць сродак праціўніка, і ў Беларуска-Літоўскім Гаспадарстве пачаўся новы кругабег дойлідзтва замкава-ваенных умацаваньняў. Ён амаль што нічым ня быў зьвязаны з першым кругабегам беларуска-бізантыцкага царкоўнага дойлідзтва. Апошняе калі і не прыпынілася, дык было драўляным і помнікаў нам не захавала. Ня было патрэбы, часу і магчымасьцяй думаць аб душы і цэрквах, а прыходзілася ратаваць цела. Крыжацкія замкі ў Волькенбургу, Рэжыцы, Люцыне і інш. мясцох ужо насілі тэрыторыяльныя адзнакі нашае краіны. Першаю такою адзнакаю было ўжываньне вапняку і булыжніку як будаўнічага матэрыялу пры ўжываньні цэглы на абліцоўку. Пры сьпешцы ў будаваньні замкаў часамі, як, напр., у Вяліжу, прыходзілася скарыстоўваць ранейшыя ўмацаваньні, ад чаго мяняўся плян прынесенага нямецкага тыпу замку адпаведна скарыстаньню берагу, узвышша, гэтых ранейшых умацаваньняў і г. д. Часта, як і раней, тутака ўжывалася адначасна і дрэва і камень. У выніку гэтага нямецкі тып замку, як чатырохкутнік моцных сьценаў, умацаваных вежамі, які меў правільнае злучэньне частак і цэлага, быў значна відазьменены. Уласна такія ўласьцівасьці—мураваньне з булыжніку і г. д.—меў адзін з першых беларускіх замкаў—Навагрaдзкі. Але простакутнік, відаць, больш адпавядаў,—і Крэўскі і Лідзкі замкі першае чвэрткі XIV сталецьця ўжо маюць від простакутніка, уласьцівы беларускаму дойлідзтву наогул, хоць змаганьне мясцовых традыцый з прынесенымі часта мела перамогу на карысьць першых. Так, адзін з беларускіх замкаў канца XIV сталецьця—Троцкі быў чатырохкутным з вежамі па кутох і часткова драўляны. За тое другі Троцкі замак—на востраве, які быў пабудаваны пазьней, меў няправільнасьць у пляне адпаведна лініі берагу. Гэта быў палац з старажоваю вежаю і ўмацаваньнямі з чатырма круглымі вежамі па кутох. Ім канчалася разьвіцьцё ранейшых замкаў романскага і раньня-готычнага характару. Ён меў цалкам готычны характар і, пры сваёй моцы ў ваенных адносінах, зьяўляўся дасканалым узорам беларускіх ваенных замкаў. Але на гэтым ня было скончана разьвіцьцё беларускага ваеннага дойлідзтва. Новы час выклікаў новыя ўласьцівасьці яго. У пару паказаных посьпехаў у замкавым дойлідзтве Беларуска-Літоўскае Гаспадарства мацнела і часта перамагала крыжакоў, а пасьля Грунвальдзкага разгрому апошніх для Беларусі наступіў больш спакойны і мірны час, які і знайшоў свой адбітак у Горадзенскім замку. Насяленьне гарадоў расло і ў часе небясьпекі ўжо не магло зьмяшчацца ў сьценах замку. Прыходзілася рабіць умацаваньні наўкол гораду, у выніку чаго атрымліваліся Верхні і Ніжні замкі, як у Вільні, а то яшчэ і трэці, як, напр., Узгорскі ў

Віцебску. Ад гэтага замак траціў свае ўмацаваньні, бо быў у межах гарадзкіх умацаваньняў і станавіўся палацам. Найлепшым узорам гарадзкіх умацаваньняў гэтага часу лічыцца брама Субач у Вільні. Вылучэньне ваеннага элемэнту ад грамадзянскага магло адбыцца толькі ў дзяржаўным дойлідзтве. Паасобныя-ж фэўдалы мусілі мураваць такія будынкі, якія мелі-б у сабе і ваенныя ўмацаваньні, і жылыя памяшканьні. Пара гэтага прыватнага замкавага дойлідзтва прыпадае на XV, XVI і XVII сталецьці. Такім чынам эволюцыя сапраўды замкавага дойлідзтва яшчэ не прыпынілася і дала свой найвыдатнейшы ўзор гэтага тыпу—Мірскі замак у Наваградчыне. Ён змураваны амаль што правільным квадратам сьцен з чатырма вежамі па кутох, чым і канчае развой Крэўскага, Троцкага і Лідзкага тыпу. У гэтым замку раньняя нямецкая готыка цікава злучалася з раньнімі-ж романскімі дэталямі з гатоўкаю італьянскіх форм адраджэньня пры гэтым. Ваенны стыль зьліваўся з грамадзянскім, даючы цікавае органічнае цэлае, чаго ня было ў Віленскім Ніжнім замку. Усё гэта рабіла даны замак самым орыгінальным узорам беларускага замкавага дойлідзтва, бо раней панавала раньняя нямецкая готыка.

Бясспрэчна, што з замацаваньнем фэўдальнага ладу на Беларусі павінна была і ўмацавалася рэлігія, культ. Вось таму і пачынае з канца XIV сталецьця значна паляпшацца царкоўнае дойлідзтва. Дзякуючы пэўнай сувязі з Нямеччынай і таму, што ў мураваньні культавых будынкаў часта прымалі ўдзел нямецкія майстры, першыя храмы гэтага часу былі ў стылі нямецкай цаглянай готыкі. Прыкладамі могуць служыць касьцёлы Мікалая, Марціна і інш. у Вільні. Хоць нямецкі ўплыў трымаўся бадай да XVII сталецьця, беларускае дойлідзтва і тут перарабіла ўспрынятыя формы і ўнесла свае відазьмены. Будаўнічая традыцыя адразу пачала падмяняць стрэльчатыя формы ўласьцівымі беларускай архітэктуры круглымі і г. д. У будынку касьцёлу Ганны знайшла свой канец нямецкая готыка. У званіцы Францішканскага касьцёлу ўмела распрацоўваліся чужаземныя формы. Будынак Бэрнардынскага касьцёлу пачаў сабой кругабег беларускай готыкі. Яна зноў-жа цалкам вырасла з беларускіх умоў і сынтэзавала два ранейшыя кругабегі. Справа ў тым, што ў гэты час адчувалася вялікая патрэба ў такіх будынках, якія-б маглі быць ня толькі культавымі будынкамі, але ў часе патрэбы маглі быць прытулкам наваколічнага насяленьня, г. зн. быць чымсь накшталт замкаў. Вось таму вышэйпамянёны Бэрнардынскі касьцёл быў змураваны простакутнікам з чатырма вежамі па кутох і байніцамі, г. зн. па тыпу наогул уласьціваму для беларускага дойлідзтва XVI сталецьця. Далей сваё канчатковае разьвіцьцё беларуская готыка атрымала ў Сынкавіцкай царкве б. Слонімскага пав. Горадзенскае губ., Мала-Мажэйкаўскай царкве б. Лідзкага пав., Віленскае губ. і ў Благавешчанскай царкве Супрасьлеўскага манастыра б. Беластоцкага пав., Горадзенскае губ. Сынкавіцкая царква падобна Бэрнардынскаму касьцёлу была збудавана простакутнікам з чатырма

вежамі па кутох. Асноўны корпус накрыты высокім двохскатавым дахам і мае выгляд кубу. Аўтарная частка складаецца з трох паўкружын. Нутраны прастор падзелены трыма парамі слупоў. Увесь будынак падпіразаны поясам байніц і аркавым поясам накшталт машыкуляў брамы Віленскіх гарадзкіх умацаваньняў. Усім гэтым Сынкавіцкая царква зьвязана з беларуска-бізантыцкім дойлідзтвам XII веку, з аднаго боку, і з ваенна-замкавым дойлідзтвам—з другога. Прычым прыходзіцца падкрэсьліць, што готыка выяўлялася не ў царкоўных, а ў грамадзкіх і вайсковых частках. Асноўны корпус Мала-Мажэйкаўскай царквы ўжо ўхіляецца ад беларуска-бізантыцкага пляну і ваенныя ўмацаваньні ў ім яшчэ мацней і гармонічней зьвязаны з асноваю. У Супрасьлеўскай царкве наглядаецца больш дасканаласьці і складанасьці ў вырашэньні задач, пакладзеных у аснову ранейшых цэркваў. Апрача таго, абсіды набылі кантовасьць, а часткі даху—падабенства какошнікападобных і бочкападобных драўляных дахаў і г. д., што і паказвала сувязь яе з драўляным дойлідзтвам. У Сынкавіцкай царкве было скончана конструкцыйнае і стылістычнае разьвіцьцё беларускай готыкі. Разам з тым перасталі дзейнічаць умовы, якія яе выклікалі. Новая асадная артылерыя ўжо не сустракала перашкод у гэтых будынках і лёгка спраўлялася з імі. Вунія 1596 году наогул прыпыніла разьвіцьцё беларускага праваслаўнага каменнага дойлідзтва. Каталіцкія-ж будынкі не патрабавалі ніякіх умацаваньняў, бо былі пад аховай шляхты польскай і беларускай, што з-за матэрыяльных выгад пераходзіла ў польскі стан, там касьцёльны барокко пачаў падмяняць беларускі готычны стыль. Зразумела, і апошні не абарваўся раптам на сваім росквіце. На Беларусі жыло шмат кальвіністых, якім часта прыходзілася абараняцца ад іезуіцкага натоўпу. І вось кальвінскія зборы—Койданаўскі, Слуцкі і інш. мураваліся высокім простакутным будынкам з такім-жа высокім дахам. Адзіная абсіда рабілася кантоваю. Шматлічныя вокны асьвятлялі сярэдзіну будынку. Над уваходам падымалася адна вежа, якая і мелася абараняць яго. Вежа гэта бывала самых розных форм. Нутраны прастор складаўся з трох караблёў з готычнымі, а часамі і карабовымі скляпеньнямі. Такім чынам, трацілася готычнасьць, асабліва калі і надворны выгляд будынку трациў яе. Дэкорацыйная готычнасьць, якая прышла на зьмену конструкцыйнай, ня маючы жыцьцёвых падстаў для існаваньня, зусім заняпала. З заняпадам беларускае готыкі занепадае і разьвіцьцё беларускага будаўніцтва наогул пасьля росквіту драўлянага дойлідзтва ў XVII-XVIII сталецьцях.

Апошняе вельмі рознастайнае, але асабліва вызначаюцца з яго тры тыпы. Прадстаўнікам першага адменьніка можа лічыцца Віцебская Чорнатроіцкая царква, якая зараз, мабыць, канчаткова бурыцца. Гэты адменьнік меў у сваім пляне крыж з простымі канцамі і васьмісьценьнікам у цэнтры. Апошні меў таксама васьмісьценную надбудоўку, накрытую васьмісьценным-жа купалам або шалашом, што, у сваю чаргу, канчаўся васьмісьценнаю

макаўкаю. Канцы крыжа былі простакутнымі і накрываліся двохскатавымі дахамі з ілбамі. Па абодвух баках аўтара будаваліся памяшканьні з дзьвярыма на двор. Перад уваходам быў бабінец, які часамі акружаў увесь пярэдні канец будынку ды меў прыбудоўкі накшталт адзначаных раней. Другі адменьнік, прадстаўнікамі якога можна лічыць Віцебскую Ільлінскую, Віцебскую Маркаўшчынскую і інш. цэрквы, будаваўся плянам двох узаемна перасечаных караблёў, што складаліся з трох пяцісьценяў і аднаго трысьценя. Значыць, у цэнтры быў простакутнік. Першыя накрываліся шалашамі на адпаведны лік скатаў або адным купалам. Васьмярык цэнтральнага шалаша адчыняўся ў сярэдзіну, што можна бачыць у Віцебскай Маркаўшчынскай царкве. У гэтым тыпе ёсьць прыбудоўкі, як і ў ранейшым, а навокал будынку—адчыненая або глухая галярэя, а пры ўваходзе—бабінец. Такія цэрквы ёсьць і на Украіне, куды яны, быць можа, папалі праз Беларусь. Трэці адменьнік, як, напр., Слуцкая Раждзесьцьвенская царква і інш., меў у аснове куб з васьмісьценьнікам, накрытым такім-жа купалам. Галёркі навокал асноўнага корпусу будынку, дахі з заломам і г. д. настолькі ўласьцівы беларускаму дойлідзтву, што паўтараюцца і ў сынагогальных будовах. Базылікальнасьць пляну, што наглядаецца ў некаторых з гэтых адменьнікаў, зьвязвала іх з сучасным ім каменным дойлідзтвам. Адначасна з паказанымі тыпамі і пазьней беларускае драўлянае дойлідзтва разьвівалася ў даўгаваты будынак з васьмікантоваю, а ў каменных будовах круглаю абсідаю, будынак, як відаць, італьлянскага пахаджэньня. Ён меў выгляд крыжа з купалам на трансэпце і аднэю вежаю над уваходам, што, быць можа, некалькі нагадвала дэкарацыйныя вежы позьніх кальвінскіх збораў.

У той час, як драўлянае дойлідзтва разьвівалася ў паказаным кірунку—каменнае пачало кругабег, які культываваў базыліку, гэтаму спрыялі і ўмовы заходняга ўплыву, асабліва асьветы, якую беларусы атрымлівалі ў Заходняй Эўропе. Прадстаўнікамі базылікі могуць лічыцца Слуцкі Трайчанскі, Віцебскі Усьпенскі, Віленскі Брацкі саборы, Віцебскі і Менскі Бэрнардынскія касьцёлы і шэраг іншых культавых будынкаў. Характэрным для беларускае базылікі зьяўляецца будынак з асноўным корпусам часта з трох нэфаў, якія перасечаны папярочным. На трансэпце ёсьць купал, а на галоўным фасадзе—дзьве вежы. Бывае, што купалу на перасячэньні няма, як, напр., у Віцебскай Петрапаўлаўскай царкве, часамі, як, напр., у Полацкай Сафіі, асноўны корпус будынку складаецца толькі з падоўжных нэфаў і на такіх будынках купалу няма. Такім чынам, беларуская базыліка магла быць з купалам або без яго. У пазьнейшыя часы Мураўёва на шмат якіх базыліках былі зроблены купалы для наданьня храмам больш праваслаўнага выгляду.

Калі патрэба ў замках зьнікла, дык асаблівае разьвіцьцё атрымалі палацы і вялікія дамы. Базыліка падмяніла беларускую готыку і цалкам задаваляла патрабаваньням культавага будынку. Такім чынам, конструк-

цыйныя формы былі на доўгі час знойдзены і асаблівая ўвага зварачвалася на дэкорацыйныя. Рэнэнсансавыя формы, якія зьявіліся на Беларусі яшчэ ў часы панаваньня готыкі, напр., у Віленскім касьцёле Яна, Ніжнім замку, Горадзенскім Баторыевым замку і г. д., пачалі падменьвацца барочнымі. Барокко прынёс з сабой монумэнтальнасьць важкіх конструкцый і масыўную пышнасьць дэкорацыйных форм, што выяўляліся ў разрыўных фронтонах, фронтонах з волютамі, парных колёнках і інш. аздобах. Ад пачатку XVII веку помнікаў барокко амаль што не захавалася. Менскі Дамініканскі касьцёл зьяўляецца пераходным, а Віцебскі Бэрнардынскі, Сеньненскі, Віцебская рынкавая і г. д. належаць да больш позьняй пары.

Роскаш шляхты на глебе эксплёатацыі народу, а таксама сувязь яе з Захадам у паступовым павялічэньні дэкорацыйных форм прывялі да пышнага лёгкага рококо ў Віленскіх культавых і іншых будынках.

К палове XIX сталецьця ў Віцебскіх, Віленскіх і інш. будынках, а таксама ў провінцыяльных сядзібах, побач з ухілам да антычных форм і нямецкага нэоклясыцызму, зьяўляецца ампір. Клясыцыстычныя формы зьявіліся на Беларусь разам з агульнаю рэакцыяй у адносінах барокко і рококо. У гэты час на Беларусі было збудавана шмат прыгожых і каштоўных будынкаў, як, напр., Беластоцкі палац і інш.

У XIX сталецьці б. Расія перажывала заняпад дойлідзтва, і гвалтоўны ўплыў Мікалаеўскай і асабліва Мураўёўскай русыфікацыі нічога каштоўнага ня даў, выявіўшыся ў казённай бяссэнсоўнасьці, надаваньні культавым будынкам праваслаўнага выгляду пры дапамозе купалоў, якія зусім не вязаліся з конструкцыяй будовы, забароне без дазволу ўлады будаваць будынкі па свайму пляну і г. д. Што тычыцца ранейшага часу, да XVIII сталецьця, дык Беларусь рабіла ўплыў на б. Расію. Даходзіла да таго, што цэлыя сотні майстраў, напр., разьбярнага мастацтва вывозіліся ў Маскву.

Затое пазьней, у другой палове XIX веку, умовы жыцьця зноў выклікалі і на Беларусі новыя конструкцыйныя формы. Па краіне прайшлі чыгункі, гарады беларускія: Вільня, Віцебск, Менск, Беласток і інш. сталіся буйнымі прамысловымі цэнтрамі. Зьявілася патрэба мець вялізарныя будынкі для пасажыраў на станцыях, для гандлёвых опэрацый у гарадох і т. п. Таму і былі пабудаваны прыгожыя вакзалы, як, напр., Віцебскі, Аршанскі, Берасьцейскі і інш., банкі, як напр., Віцебскі, Віленскі і г.д. У гэтых будынках распрацоўваўся далей клясыцыстычны характар.

З усяго паданага агляду відаць, што беларускае дойлідзтва ніколі ня імкнулася стаць нейкім своеасаблівым, нацыянальным, і разам з тым мела беларускі характар, няўхільны для яго па гістарычных і геаграфічных прычынах.

Цяпер, калі працоўныя гушчы б. Расіі зьнішчылі ў часе Кастрычнікавае рэволюцыі стары лад і сталі гаспадарамі свайго жыцьця, зноў

насьпелі ўмовы і патрэба для новых конструкцыйных форм. Пара дапасаваньня да нашых патрэб старых грамадзкіх і культавых будынкаў часовая і выклікана разрухаю. Палацы магнатаў, якія задаваляли індывідуальныя патрэбы магнатаў, культавыя будынкі, як месцы духоўнага прыгнечаньня і г. д., як іх ні дапасоўвай па сваёй конструкцыйнасьці, яны ня змогуць цалкам адпавядаць патрабаваньням колектыву і духоўнаму разьвіцьцю асобы. Патрэбны новыя фабрычныя будынкі, палацы працы, тэатры, клюбы і г. д. Ясна, што было-б сьмешна ў пачатку нашага новага будаўніцтва старацца надаць гэтым будовам нацыянальны характар шляхам адраджэньня старых беларускіх конструкцыйных і дэкорацыйных форм. Гэта немагчыма, як немагчыма вярнуць дзяругу заміж сучаснай добрай коўдры, суконны паясок заміж раменя, лапці заміж ботаў і г. д. Нацыянальная і тэрыторыяльная своеасаблівасьць новых будоў можа выявіцца толькі ў задаваленьні конструкцыйных і мясцовага краявіду запатрабаваньняў. Паколькі ў працу ў савецкіх краінах пакладзена творчасьць колектыву працоўных, а не індывідууму—пастолькі творчасьць і пойдзе ў гэтым кірунку.

# КНІГАПІС

## Новае ў археолёгіі

### I. Беларусь

Археолёгічнае мінулае Беларусі менш за ўсё вядома, бо археолёгічныя раскопкі ў старыя часы на тэрыторыі Беларусі адбываліся вельмі паволі. У сучасны момант трэба адзначыць вялікую зацікаўленасьць археолёгіяй. Раскопкі адбываюцца па ўсёй тэрыторыі Беларусі і здабываюцца вельмі каштоўныя рэчы. Інстытут Беларускай Культуры і мясцовыя краязнаўчыя таварыствы вядуць археолёгічныя раскопкі. Матэрыял вывучваецца, і частка гэтага матэрыялу ўжо надрукована.

Праца А. А. Сьпіцына ў артыкуле „Литовские древности“ (Täuta iz Zodis III, Knygas) падкрэсьлівае рэзультаты шматгадовай працы археолёгаў. Гэта праца зьяўляецца адыходным пунктам для вывучэньня археолёгічнага мінулага Беларусі. А. А. Сьпіцын падкрэсьлівае тую цікавую вялікую культуру, якую літоўскі народ меў на працягу VI—VIII веку і якая пашыралася далёка на ўсход. Бязумоўна, усім гісторыкам прыдзецца лічыцца з рэзультатамі прац А. А. Сьпіцына. Смаленскай археолёгіі прысьвечана дзьве працы. Вядомы археолёг А. Ляўданскі, асыстэнт Смаленскага Унівэрсытэту, займаўся раскопкамі Смаленшчыны, галоўным чынам гарадзішчаў. Рэзультаты сваіх раскопак А. Ляўданскі апублікаваў у вельмі цікавай працы „Некоторые данные о городищах Смоленской губернии“, Смоленск, 1926. Аўтар сьцьвярджае значнае распаўсюджаньне літоўскага племя на тэрыторыі Смаленшчыны, на што ўжо даўно зьвярнулі сваю ўвагу мовазнаўцы. У Чэскай Празе Е. Д. Клетнова, проф. Смаленскага Унівэрсытэту, апублікавала невялікі арт. „Великий Гнездовский Могильник“ (Niederlüv sbornik, Praga; 1925), у якім падвяла падрахункі ўсім тым археолёгічным раскопкам, якія адбываліся на тэрыторыі Гняздоўскага Магільніка. Праца знаёміць чытача з тым, у якім стане зараз знаходзіцца пытаньне аб Гняздоўскім Магільніку. Той-жа А. Ляўданскі рабіў раскопкі ў Барысаўскім павеце, а таксама каля мястэчка Новы-Быхаў. У Барысаўскім павеце ім раскопаны курганы, гарадзішчы, якія даюць вельмі многа каштоўнага матэрыялу для вывучэньня культуры і быту народаў, якія жылі на гэтай тэрыторыі. Раскопаныя курганы абхапляюць эпоху X—XI вякоў. Раскопкі каля мястэчка Новага Быхава, якія рабіліся ўжо раней Романовым, адкрылі сьляды нэолітычнай стаянкі і пазьнейшых культур, што сьведчыць аб тым, што жыцьцё насельніцтва на месцы Новага Быхава, пачынаючы з эпохі нэоліту, не перапынялася. І. Я. Сэрбаў, С. А. Дубінскі і М. Палікарповіч рабілі цэлы шэраг раскопак на тэрыторыі Меншчыны і Гомельшчыны. Раскопкі далі багацейшы матэрыял. З рэзультатамі сваіх раскопак яны пазнаёмілі ў сваіх дакладах членаў Інстытуту Беларускай Культуры. З раскопак І. А. Сэрбава асабліва трэба адзначыць знойдзеныя ім палі пахаваньняў у вадазборы ракі Сожу. На жаль, праца яшчэ не апублікавана.

## II. Украіна

Археолёгічнае мінулае Украіны было з даўных часоў прадметам навуковых дасьледзін. Раскопкі на Украіне далі бліскучыя рэзультаты і адкрылі цэлы шэраг новых момантаў у гісторыі культур, якія разьвіваліся на тэрыторыі Украіны. Старая традыцыя падтрымліваецца і ў сучасны момант. На Украіне вельмі энэргічна вядуцца раскопкі, якія далі шмат новага матэрыялу, які ў значнай меры папоўніў раней здабыты матэрыял. Новыя раскопкі далі многа матэрыялаў адносна Трыпольскай культуры. Зусім зразумела, што гэта культура зьвярнула на сябе ўвагу архэолёгаў. Адкрытая ў свой час В. В. Хвойкам, надта добра растлумачаная проф. Е. Р. Штэрнам Трыпольская культура зацікавіла як украінскіх архэолёгаў, так і заходня-эўропэйскіх. Вывучэньне Трыпольскай культуры адкрыла перад дасьледчыкамі шырокія кругавіды і дало магчымасьць параўнаць Трыпольскую культуру з культурамі ўсходу і захаду. Новыя архэолёгічныя матэрыялы, здабытыя архэолёгамі, выклікалі патрэбу скласьці зборнік, прысьвечаны Трыпольскай культуры, у які ўвайшоў шэраг артыкулаў, у аснову якіх пакладзен стары і новы архэолёгічны матэрыял. Зборнік „Трипільска культура на Украіні", К., 1926 г., зьяўляецца зборнікам артыкулаў, у якіх вывучана гэта культура з усіх бакоў. Наступным дасьледчыкам прыдзецца адпраўляцца ад гэтага зборніку. Трыпольская культура, захапіўшая такі вялікі раён, паказана ва ўсёй сваёй яскравасьці і прыгожасьці. Усе аўтары артыкулаў, прадстаўнікі маладой украінскай архэолёгіі, дакладна распрацавалі свой матэрыял і далі шэраг каштоўных, вельмі цікавых артыкулаў, якія адкрываюць перад чытачом шырокія пэрспэктывы і кругавіды. Зусім правільна, што украінскія архэолёгі зьвярнулі асаблівую ўвагу на Трыпольскую культуру. Апрача таго, украінскія архэолёгі зьвярнулі ўвагу на вывучэньне нэолітычнай эпохі ў Палтаўшчыне. М. Н. Рудзінскі апублікаваў вельмі каштоўныя матэрыялы для вывучэньня нэоліту на рэчцы Ворскле, у мясьцовасьці Белая Гара, каля Палтавы. Ужо раней каля Палтавы адбываліся раскопкі, якія далі цікавыя рэзультаты. Новыя раскопкі адкрылі вельмі цікавую нэолітычную культуру, распаўсюджаную па рэчцы Каламаху, прытоку рэчкі Ворсклы. Асабліва каштоўнымі зьяўляюцца розныя гліняныя вырабы з іх кэрамікай. Проф. В. Шчэрбакоўскі у сваёй працы: „Мальована неолітична керамика на Полтавщині". З додатком щоденних розкопів. (Навуковий збірнік Украінського Университету в Празі. Том I, Прага, 1923) датыкаецца двох момантаў жыцьця чалавека на тэрыторыі Украіны. З аднаго боку, ён разглядае так званую Трыпольскую культуру, якая адрозьніваецца сваёю асаблівою арыгінальнасьцю. Потым Шчэрбакоўскі рабіў раскопкі каля вёскі Лукашоў, Пераяслаўскага павету, на Палтаўшчыне. Матэрыялы раскопак знаходзяцца ў Палтаўскім музэі і былі прадметам спэцыяльнага вывучэньня з боку Шчэрбакоўскага. Раскопкі ў в. Лукашоў далі вялізарны кэрамічны матэрыял, які падрабязна вывучан аўтарам. Аўтар адносіць свае матэрыялы да эпохі позьняга нэоліту, але апошняя думка выклікае пярэчаньне з боку дасьледчыкаў. Аўтар уважае, што „мальованая керамика" была занесена жыхарамі Прыдуная, Днястра, Буга, Дняпра, якія гандлявалі сольлю, ад берагоў Эгэйскага мора і Двурэчча Мэсопотаміі. Разваэіўшыя соль чумакі пазнаёмілі і з кэрамікай і са звычаем спальваньня нябожчыкаў. Урэшце, бадай ці можна згадзіцца з гэтай чумацкай тэорыяй, як думае М. Макарэнка ў сваёй рэцэнзіі на кнігу Шчэрбакоўскага (Украіна, № 6, 1925). Калі аўтар не вырашае канчаткова пытаньня, дык

ён яго ставіць, і такім чынам адкрывае перад чытачамі шырокія кругавіды і пэрспэктывы. У зборніку „Київ та його околиця в історії і памятках“, Київ, 1925, акадэмік Т. Туткоўскі даў вельмі цікавы нарыс геолёгічнага мінулага тэрыторыі Кіева.

Археолёгічным мінулым Украіны цікавіліся ў апошнія часы і расійскія вучоныя.

В. Данілевіч у сваёй працы „Археологична минувшина Київщини“ (Київ, 1925) імкнецца на аснове помнікаў мінулага давесьці абсолютную самастойнасьць продкаў (дзядоў) украінцаў у Падняпроўі ў дагістарычную эпоху. Вельмі цікавым зьяўляецца тлумачэньне Трыпольскай культуры. Аўтар разглядае апошнюю, як культуру, самастойна створаную насельніцтвам Прыдняпроўя.

Проф. Ю. В. Гот‘е ў сваёй працы „Очерки по истории материальной культуры восточной Европы“. „Каменный век, бронзовый век, железный век на юге России“ (Том I, Ленинград, 1925) бліскуча спрабаваў сынтэтычна апрацаваць увесь вядомы архэолёгічны матэрыял. Аўтар разглядае культуры на паўдні ўсходня-эўропэйскай роўнядзі скрозь прызму ўсходніх уплываў, якія спрыялі разьвіцьцю мясцовых культур. Асабліва дэтальна разгледжана скіфская культура. Праца Гот‘е—першая спроба апрацоўкі вялізарнага архэолёгічнага матэрыялу і заслугоўвае поўнай увагі з боку дасьледчыкаў.

І. Н. Бороздін у невялікім нарысе „Новейшие археологические открытия в Крыму“, М., 1925, дае апісаньне прадметаў апошніх раскопак, якія маюць вялікую вагу для зразуменьня скіфа-сармацкай культуры на паўдні ўсходня-эўропэйскай роўнядзі. Той-жа аўтар у журнале „Новый Восток“ за 1926 год у некалькіх артыкулах пазнаёміў чытача з найноўшымі архэолёгічнымі раскопкамі ў старым Крыму, дзе ім знойдзен цэлы шэраг помнікаў, якія характарызуюць росквіт стара-татарскай культуры.

М. Ростовцев у сваёй бліскучай працы „Эллинство и иранство на юге России“ (Петроград, 1918), даў вельмі добры нарыс дзьвюх культур і іх узаемнай сутычкі і ўплываў. Гэты-ж самы прадмет быў спэцыяльна дасьледаван М. Ростовцевым і ў яго ангельскай працы „Iranian and greeks in Jnuhh Russia, 1922“. У апошнія часы вельмі энэргічна вяліся раскопкі ў Ольвіі.

С. А. Семёнов у невялікім нарысе „Новые находки в Ольвии“ („Известия Рос. Акад. Историч. Материальной культуры“, том IV) дае апісаньне бронзавай статуэткі, знойдзенай у 1923 годзе мясцовымі сялянамі, а таксама чорнафігурных вазаў, знойдзеных аўтарам у часе экскурсіі студэнтаў Адэскага ІНА.

Урэшце, Б. В. Фармакоўскі, які рабіў археолёгічныя раскопкі ў Ольвіі ў 1924 і 1925 г. г., надрукаваў дзьве справаздачы аб сваіх раскопках (Сообщения, том I, Лен., 1926, издание Академии Истории Материальной Культуры). Апрача таго, тым-жа Фармакоўскім у тым-жа выданьні дана падрабязнае апісаньне Ольвійскай экспэдыцыі, якую ён правёў.

К. Э. Грыневіч знаёміць з археолёгічнымі раскопкамі ў Хэрсонэсе, якія вяліся ў 1926 годзе і якія адкрылі новыя будынкі і далі вельмі каштоўны мастацкі матэрыял, як, напрыклад, мармуровую галаву аднаго юнака. Гэтыя раскопкі зьяўляліся працягам раскопак, пачатых у 1910 годзе, і паказалі законамернае чаргаваньне культурных пластоў у Хэрсонэсе (Сообщения, т. I).

Археолёгічны матэрыял, здабыты на паўдні, зьвярнуў увагу і чужаземных дасьледчыкаў. Бэрлінскі профэсар М. Эбэрт у сваёй працы „Sünd-russland in Altertum“, Bonn, 1921, пазнаёміў нямецкага чытача з рэзультатамі археолёгічных раскопак на паўдні ў працягу апошніх 50 год. Як абагульняючая праца, старанна апра-

цаваная, яна заслугоўвае ўвагі. Урэшце, фінляндзкі вучоны Tallgen у спэцыяльным журнале „Eurasia Septeu trionalis Antiqua“, прысьвечаным вывучэньню архэолёгіі Ўсходняй Эўропы, надрукаваў спэцыяльную працу перадскіфскай культуры Чорнамор'я пасьля ўжываньня мэталяў. (Da pontide prescythnique apres l' introduction des metaux).

Праца фінскага вучонага таксама абхапляе ўвесь вядомы архэолёгічны матэрыял і зьяўляецца рэзультатам самастойнага вывучэньня архэолёгічнага матэрыялу, які захоўваецца ў сучасны момант у музэях. Вывады аўтара вельмі цікавыя. Аўтар адзначае прысутнасьць вельмі высокай культуры ў вадазборы Дняпра, якая загінула, як ён думае, з прычыны навалы з поўначы якіхсьці народаў. Гэтая культура ня ўсходняга пахаджэньня. У вывучэньні культур перадскіфскай эпохі Tallgen таксама адзначае ўплыў усходу. Проф. Фасмэр у сваёй невялікай працы „Untersuchungen über die ältesben Wohnsitze der Haven“, Leipzig, 1923, спэцыяльна заняўся вывучэньнем пытаньняў аб прыродзе славян. Спачатку аўтар вывучае кімэрыйскае пытаньне. Праўда, вырашэньне гэтага пытаньня сустракае вялікія перашкоды, бо няма ніякіх астач мовы, але проф. Фасмэр адмаўляецца аднесьці кімэрыйцаў да каўкаскай групы моў. У другім разьдзеле, дзе рэч ідзе аб скіфах, аўтар рэзка паўстае супроць мангольскай тэорыі скіфскага пахаджэньня. На аснове даных мовы, Фасмэр лічыць скіфаў іранцамі. Трэці разьдзел прысьвечан сарматам, аланам, якіх аўтар залічае таксама да іранскіх пляменьняў. У чацьвертым разьдзеле аўтар разьбірае іранскія элемэнты ў хорографіі і ў топографіі па паасобных мясцовасьцях. Урэшце, гэты агляд вельмі няпоўны. Напэўна паўней агляды А. Сабалеўскага ў яго працы „Скифские этюды“, з якімі трэба лічыцца кожнаму дасьледчыку. Урэшце, неабходна адзначыць таксама працу проф. Нідэрле: Slowanske stavožitnosti. Puvnda a poczatnu slovanu wychodnich y Praze, 1924, (Изд. Отд. Русского Яз. и Славянского, 1921, т. XXVI и 1924, т. XXVII), у якой аўтар знаёміць з гісторыяй усходняга славянства да ўтварэньня дзяржавы ўсходніх славян. Аўтар шырока выкарыстаў усю літаратуру па даным пытаньні, хоць і замала зьвярнуў увагі на тыя новыя плыні ў навуцы, якія асабліва прыметны ва украінскай гісторыяграфіі. Аўтар цалкам падзяляе стары пунк погляду расійскіх вучоных адносна ўтварэньня і пахаджэньня трох народнасьцяй—вялікарасійскай, украінскай і беларускай. Праца Нідэрле вымагае шмат папраўак, але, як абагульняючая праца, захоўвае сваю каштоўнасьць. Заслугоўвае ўвагі праца Н. Я. Мара, пад назвай: „Лінгвістычна - намечаныя эпохі разьвіцьця чалавецтва і іх увязка з гісторыяй матэрыяльнай культуры“. (Сообщения, том I, Ленинград, 1925). Можна сказаць, што аўтар першы ставіць гэтае пытаньне ў сувязі з прапагандаванай аўтарам яфэтычнай тэорыяй. Аўтар, бязумоўна, мае рацыю ў тым, што вывучэньне самай старажытнай матэрыяльнай культуры павінна будавацца на даных лінгвістыкі, і ў гэтых адносінах перад дасьледчыкамі адкрываюцца шырокія пэрспэктывы і кругавіды. Усімі памянёнымі працамі ня вычэрпваюцца дасягненьні украінска-беларускай архэолёгіі. Аднак, яны сьведчаць аб значным архэолёгічным дасягненьні, якім захоплены сучасныя археолёгі. Рэзультаты досьледаў украінскімі і рускімі архэолёгамі поўдня Украіны, зразумела, маюць першараднае значэньне і для Беларусі. Беларускаму архэолёгу і гісторыку трэба лічыцца з дасягненьнямі навукі архэолёгіі, што, бязумоўна, дасьць магчымасьць разабрацца ў раньніх культурных сувязях і адносінах народаў, якія жылі на тэрыторыі Беларусі ў дагістарычную эпоху.

**Ул. Пічэта.**

**Валеріян Поліщук. Громохкий слід. Поезії**—*1922-1924. Державне Видавництво України, 1925 г., 304 стар.*

Валерыян Полішчук ужо выклікаў да сябе ўвагу ў беларускай літаратуры. Аб ім двойчы пісаў З. Бядуля (першы раз у „Савецк. Белар.“ за сьнежань 1923 г., другі раз у „Полымя“ за 1924 г., № 2).

Часьціна вершаў цікавячага нас зборніку становіць перадрук ужо раней надрукаваных твораў, але нямала знаходзім тут і новых вершаў. Па большасьці, аднак, апошнія не даюць нічога асабліва новага, і таму даводзіцца пры ацэнцы данага зборніку паўтараць тое, што раней гаварылася аб творчасьці В. Полішчука.

У кніжцы дзьве часьціны (Громохки слід і Радіо), з якіх кожная разьбіваецца на некалькі разьдзелаў.

Зьмест поэзіі В. Полішчука даволі рознастайны, але цалком зразумела, што ў яго, як у быўшага гартаўца, першае месца павінен займаць горад з яго індустрыяй, электрычнасьцю, „эстэтыкай машын“. Ён пяе гімны мэталям (Мідь, Криця, Алюміній). Узорам поэзіі дратоў і машыны можа быць удатны верш „Дінамо“.

Але ў той самы час В. Полішчук зьяўляецца і сынам цудоўнай вясковай прыроды Валыні, і апошняя такжа адбілася ў поэзіі аўтара „Думы про Бармашыху“. Нельга, напр., не зьвярнуць увагі на яго „Осінні блікі“. Бяру хоць-бы ІІІ-і „блік“. Кароткі вершык з чатырох радкоў, а пакідае добрае ўражаньне:

Воском закапали клени,
Вогкі червінці упали,—
Хилиться смуток до мене
Запахом в'ялим отави.

Шэраг удатных вершаў, прысьвечаных прыродзе, знаходзім у 2 часьціне („Радіо в житах“). На некаторыя з іх (напр., на верш „Цвіркуни“) ужо З. Б(ядуля) зьвярнуў сваю ўвагу.

Як узор яскравага малюнку прыроды, прывяду яшчэ адзін кароткі вершык:

„Зеленим пухом дише ліс,
Пряде на сяйво хризоліти.
(Разбіглися співучі діти).
Глухим дубам ніяк рудіти.
Коли під ними ряст поріс.
Зелені думи у беріз,
Зелені мрії ще прозори.
(Легенько дихають простори).
І навіть прості осокорі
Сережки вивісили скрізь“.

Ня горшым выходзіць у Полішчука і апісаньне чужой яму прыроды. Знаёмства з Крымам выклікала разьдзел „Деталі вічно і дороги“ ў І ч. цікавячай нас кніжкі. Апісвае ён мора ў „штыль“, апісвае крымскае неба (Густа тече блакить, така мастка і жирна, не дзвона височінь, як там у нас,—а йде важким текучим сплавом емаль, розтворена в огні), але больш любіць Полішчук маляваць бурнае мора (Маси, Прибій на морі, Водяне пекло), любіць маляваць нават паасобную хвалю (гл., напр., III верш у „Деталях кримських краевидів“: „хвиля, як гадина, вигинае спину, і голову підносить із шипінням. А потім—враз—в'їдаеться в пісок і гравій, аж запихаеться на повну пащу, аж хруск і шершавня, мов гуси шаркотять). Больш любіць Полішчук бурнае мора, пэўна таму, што яно бліжэй стыхіям яго ўласнай бунтарскай натуры—руху, дынамічнасьці, якія ён імкнецца заўсёды перадаць у сваёй творчасьці.

Другая характэрная рыса натуры Полішчука—радасьць жыцьця, што раней адзначыў і З. Бядуля. Аднэй з найбольшых радасьцяй жыцьця зьяўляецца каханьне, якому аўтар „Громохкого сліду“ прысьвяціў нават цэлы разьдзел сваёй кніжкі. З эротыкі, часам, чарпае ён вобразы для перадачы інш. бакоў жыцьця (гл. яго „Нова сила“).

Аб ідэёвым кірунку твораў аўтара „Леніна“ доўга не даводзіцца гава-

рыць. Як сын „кріпака“, ён ня можа гаварыць аб панох без нянавісьці (гл. верш „Ненависть“), ён шле праклёны „Блощицям революції“ і „Прогнилим закордонцям“.

Цяпер некалькі слоў аб формах творчасьці В. Полішчука. У яго мы мала знойдзем вершаў з клясычным разьмерам і рыфмамі, замест гэтага ўсяго мы бачым вэрлібр і нячыстыя рыфмы (асонансы, алітэрацыі). У сваёй пагоні за новай быццам-та дынамічнай формай В. Полішчук часам даходзіць да звычайнай прозы, і толькі таму чытач прадаўжае яго „верш“ лічыць вершам, што напісан ён паасобнымі радкамі, прычым кожны радок пачынаецца з вялікай літары. Ці таму Полішчук і іншыя украінскія сучасныя лірыкі (напр., Сэмэнко) ухапіліся так хутка за новыя формы, што старыя ня так лёгка ім даваліся, як думае проф. А. Музычка (гл. „Червон. шл.“ за 1927, № 2, ст. 164), рашуча адказаць баюся, але цалкам можна пагадзіцца з успамянёным гісторыкам украінскай літаратуры ў тым, што свае „новыя“ формы украінскія лірыкі-рэволюцыянэры запазычылі ад нямецкіх імпрэсыяністых.

Заканчваючы наш кароткі агляд „Громохкого сліду“ В. Полішчука, мы яшчэ раз павінны падкрэсьліць, што найбольшую вартасьць яго твораў становіць багацьце яскравых вобразаў. Для ілюстрацыі прывяду яшчэ адзін прыклад. У апісаньні ночы ў Харкаве мы знаходзім такое месца:

І он-де люди, і аж під обрій—люди...
І там, де тонкими уколами
Од голок лихтарів
Пришито місто краем до полів,
Там, де тонкі світляні крапки
Мішаються із зорями дрібними і переходять в небо,
І там вони окремо дишуть,
А місто в'яже в ціле.

**П. Б.**

**Язэп Пушча. Дні вясны.** *Поэзіі. Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва. Менск, 1927 г.*

Гэта кніжка зьяўляецца трэцім зборнічкам вершаў аўтара. За трычатыры гады працы для маладога поэты, якім ёсьць Язэп Пушча, гэтага досі.

Першыя два яго зборнічкі вершаў „Раніца рыкае“ і „Vita“—вышлі ў выданьні маладняк[о]ўскае кніжніцы. Яны па разьмеру меншыя „Днёў вясны“ і крыху горай з мастацкага боку выданы.

„Дні вясны“ зьмяшчаюць у сабе апошнія творы Язэпа Пушчы, лікам у сорак вершаў. Зборнічак падзелены на тры зусім нераўнамерныя аддзелы: „Струны сонца“, „Кветкі красы“ і „Залатое пахмельле“. Як назвы аддзелаў, гэтак і большасьць вершаў маюць зычныя, вычурныя назовы. Зборнічак наогул выведзены пад знакам хараства і выдае сабою ўжо вядомы па ранейшых зборнічках і настрой і стыль аўтара.

Што датычыць стылю, то Язэп Пушча ўвесь час тужыцца пабудаваць яго пад Багдановіча, даючы ў большасьці цяжкія з спатыкненьнямі строфы [1]), накшталт „мадонна, стварыў што мастак Рафаэль“, невыгаворныя сказы і незразумелыя вобразы. Ні мяккасьці, ні музычнасьці апошняга ў Язэпа Пушчы—ні званьня. Затое амаль ня ўсе вершы перапоўнены недасказанымі думкамі, часта і няяснасьцю сэнсу, які хацеў укласьці ў іх аўтар. Чытаючы некаторыя з іх, думаецца, што Язэп Пушча наогул не ганяецца за думкамі, і не даражыць імі, а піша выключна для слоў.

Да прыкладу наступны верш:

Высіцца, высіцца арка...
Ветры прыпалі к зямлі.
Сонца вясновае яркне. (?)
Песьні ў палёх расьцьвілі.
Выбег дзень спуджаным лосем,—
белыя кудлы трасе.

[1]) Ой, чаму не праліў я ўсіх сьлёз, *на зары пачынаў калі жыць.*

Лозы ля рэк не галосяць...
Песьні цудоўнай красе! (?!)
Вусны вясны васільковай
сонечны солад нясуць.
Дух мой сягоньня ня скован,
дух мой сьцюдзёніць расу.(?)
Будзе і радасьць, і шчасьце,—
вырастуць кветкі красы.
Ветры ня будуць іх шастаць,
ветры—напевы вяоны.
Сьніцца мне з зорамі вырыс...(?)
Песень ня хочу другіх;
з імі ў дуброве я вырас,—
буйства для іх дарагіх.(?)
Гром з навальніцай, як хлыне,—
Схіляцца ніцам усе.
Зелень вясновае плыні
радасьць з вачэй маіх сьсе.

Хто тут можа што-кольвечы зразумець? Куды і навошта хіліў свае думкі поэта? Што ён хацеў апець у прыведзеным вершы? І што ён захоўвае ў радкох, падобных да—„Сьніцца мне з зорамі вырыс“... Які вырыс? Чаго? Бязумоўна, што тольк і рыфмы; вырыс і вырас—модна і спрытна. Гэткага спрыту—хоць адбаўляй. Было-б месца—прывесьці можна дзесяткі прыкладаў.

Поруч з гэтым Язэп Пушча ўжывае для рыфмы і для разьмеру шмат русыцызму, як: брацьця, цярнёвы (беларуская транскрыпцыя), паруганы, лілёвым, сьпіна (націск на *а*), хохатам і інш. І ніяк не саромеецца даваць прымітывы на падоб‘е вершу на старонцы 27, які пачынаецца „Сёньня вочы свае прагледзеў“. Напэўна—прагледзеў аўтар разам з вачыма і гэткія свае вершы.

Вобразы, відаць, асьляпілі. У кожным разе бляск гэтых вобразаў асабліва дзівосны.

Вось яны:

Віхры ў стыхійнасьці шалеюць,
Адвечны лямант дораг ім.
Сарву бялявую лілею,
Надзею ласкай атулю,
*А месяц ухаплю за шлею(!)*

Ці гэта:

Ня сьніў, ня думаў, не гадаў,
што так са мною стане...
Сьлязамі горка плача даль
*І клён з кароваю ля стайні.*

А таксама:

Які у гэтым кволы боль(?)—
гатоў абняць, схапіць рукамі.
Ня буду ў песьні буйным больш,
*калі карова зарыкае?*

Рык каровы напэўна, астаўся аўтару ў спадчыну ад раніцы, якая таксама рыкала два гады таму назад. Язэп Пушча мае замілаваньне да гэткіх зыкаў, як наогул яму падабаюцца нялюдзкія вобразы, словы і разуменьне. Але маладому хлопцу цікава ўсё гэта менавіта з прычын, усвойных маладосьці. Пры выйсьці яго першага зборнічку вершаў „Раніца рыкае“ крытык У. Гайдукевіч прарочыў аўтару вялікі посьпех, як здольнаму поэце, па здольнасьці якога можна сьведчыць аб тым, што „не загіне беларуская культура“ (Маладняк, № 8 за 1925 г.). У. Гайдукевіч, хвалячыся, заяўляў: „Раніца рыкае“ выклікала нячуваны гармідар. Гэта ў разуменьні крытыка было роўназначна нечаму сур‘ёзнаму. Гармідар, зроблены „Раніцай рыкае“ акрыліў і самога аўтара, які і зараз б‘е на яго. Прынамсі з пункту гледжаньня вобразнасьці вершы Язэпа Пушчы ў зборнічку „Дні вясны“ нічым не адрозьніваюцца ад вершаў у зборнічку „Раніца рыкае“. Але гармідару яны не паднімуць... бо гармідар гэткае зьявішча, што надазаляе адразу... Ды калі чалавек сталее—гармідар не да твару.

Зусім не да твару Язэпу Пушчы і прэтэндэнцыйнасьць ды замахі на выдзьмуты, адкінуты жыцьцём псэўдоімажынізм. Гэта верна вядзе да таго, аб чым кажа сам аўтар:

Але не, не ўтапіць мне душы.
Захлынуся лепш з песьняю сам...

Буйства моладзі, ветранае і бязумнае, трэба „растрасьці“, а ад „свавольля“—адказацца. Гэтых якасьцяй, анармальных, не павінна быць, бо, іначай, ня выйсьці аўтару на дарогу, па якой можна прысьці да пастаўленае мэты. Літаратурнае будаўніцтва ня годзіцца ані з буйствам, ані са свавольлем. У наш час, наогул, літаратура з блутаным сэнсам, ці ў баку ад усякага сэнсу,—рэч мала карысная. Эпоха соцыялістычнага будаўніцтва

мусіць справодзіцца бадзёрымі, пазыўнымі воклічамі пісьменьнікаў. Яны павінны быць будзіцелямі жыцьцярадаснага настрою і ў працоўных гушчах, павінны сваімі творамі падбіваць іх на вялікія подвігі аднаўленчай працы.

У тых вершах, дзе Язэп Пушча вольна ці мімаволі задаецца высьветліць свой настрой—поўна неабмежнага смутку, жуды, роспачы. Першы верш пасьля эпіграфа дадзенага да зборніку „Дні вясны“ настраёвага і нядрэннага пачынаецца так:

Ой галосяць мінорныя струны,
Перламутныя сьлёзы на руні!
Ой зайшліся, зайшліся ад жалю...
Ніяк суму ня зважаць на шалі...
Ня скрышталіцца роспач іх лёдам,—
Колькі новых жахлівых мэлёдый!

І далей:

Струны рвуцца, рвуцца ўсё часьцей, часьцей:
Ой да боль-балючасьць ў сэрца упілася...
абступілі радасьць чорныя балясы...

У Язэпа Пушчы „у песьні сьцюжа, у слове ноч“, у яго радасьць дзесьці „за сонечнай дальлю“. Выходзіць, што яго не ратуе і хараство, якое ён пераказвае на ўсе лады, ня цешаць замыславатыя вобразы, ні да чога буйнасьць і свавольле. Пэўней, што ад настрою якраз ідзе гэты духовы стан поэты. У захопе іх (буйнасьці і сваволья) Язэп Пушча не знаходзіць на зямлі месца і кідаецца ў містыку. Ён усхваляе блікі Марыі (маткі боскай), да якой пяе:

О, сьветлыя зоры,
Пад вэлюмам срэбным я з ёй заначую!
Палкія вусны пяшчотай акрыю,
Ave, Maria!

У існасьці Марыі аўтар „Днёў вясны“ бачыць хараство, красу, якой „складае песьні“. Наогул, перад ім нічога нідзе няма, а сьвеціцца абстрактная высь (неба), а на ім усё, да чаго накіраваны думкі і пачуцьці, імкненьні і жаданьні. Гэтым і тлумачыцца выдзьмутасьць пушчавых вершаў—адарваных ад вакольнага, ад зямлі. Проста і зразумела.

Але цікавей, чаму Язэпу Пушчы ня міла зямля, на якой ён ходзіць, і чыннасьць людзей, вакол якіх ён верціцца, ня мілы людзі, да каго ён мерыцца накіроўваць свае творы, і з якімі, па яго заявах, ён будуе пролетарскую культуру. Як бачым, аўтару „Днёў вясны“—

Жыцьцё іх (песьняў)—нядоля ліхая,
Цярнёвы вянок Беларусі.

Язэпу Пушчы ня відно праяў вагромністага процэсу будаўніцтва краіны, ці ён гэта будаўніцтва ня ў моцы аценіць, ня ў сіле зразумець. Неабмерную творчасьць працоўных гушчаў ён знарок прапушчае між вачэй і начапляе на Беларусь „цярнёвы вянок“. Бачыце — Беларусь пакутуе, мучыцца—чаму? Гэтага Язэп Пушча не адкрывае. У яго нутры захоўваюцца мотывы сваіх пачуцьцяў і іх можна ведаць па аналізу выяўленых думак. „Беларусь у цярнёвым вянку“, бо бальшавікі рашуча перабудоўваюць яе экономічны, дзяржаўны, яе культурны і бытавы лад; бо бальшавікі нішчаць старое і твораць новае— а іншым усякая навіна—не да густу, або роўна барбарызму. Мажліва, што наш аўтар ня сумеў дасканала перадумаць прычын соцыяльных парушэньняў, не дайшоў да поўнага іх выяўленьня, але розум яго засмуціўся адмоўнымі нашаму часу думкамі, няпрыязным пачуцьцём. Язэп Пушча прасочаны сумным натхненьнем у адносінах да лёсу Беларусі... Вось ён дачуваецца, што праз Беларусь намераны праехаць індыйскі поэта, Рабіндранат Тагор. Язэп Пушча зараз-жа складае яму верш, у якім зварачае ўвагу індыйскага поэты на тое, што „Кветкі крыві парасьлі ў Беларусі“. Змаганьнік за нацыянальнае вызваленьне свайго народу—няхай дагадваецца аб стане Беларусі пад Савецкаю ўладаю... Наогул, сёнешнюю Беларусь аўтар зборнічку „Дні вясны“ зусім не шануе і ненавідзіць яе радасныя хвіліны будаваньня. Ён прызывае на яе смутак:

Пасьцілайся, смутак,
Пасьцілайся каляровы! (стар. 73).

Скардзіцца на тое, што

Зьняты Хрыстос са сьвятынь.
Босым праходзіў учора,
пальцы папляміў у кроў.

Кроў, якая залівае ў Язэпа Пушчы сьветласьць погляду, адначасна абурае яго да злосьці: ён не знаходзіць сабе месца, спадзяючыся на адно, калі ляжа „касьцьмі на руінах, ў сэрцы струхлявіцца злосьць".

А таму—

О, дарагая краіна,
Сына уцеш ты да сьлёз.

Праз увесь зборнічак „Дні вясны" праходзіць чорная тасьма жуды, упадку, суму, нэндзы. Ад вершаў нясе духам роспачы, карані якое захаваны ў нутры пісьменьніка. Рэдкія нятрывалыя, хісткія ноткі натужнай, няшчырай весялосьці ня правяць справы. Роля плакальніка з пахам поўнасьцю праносіцца Язэпам Пушчам між бадзёрых ружовых настрояў пераважнай большасьці беларускіх пісьменьнікаў. На фоне агульнае іх творчасьці енкі Язэпа Пушчы адзначаюцца балючаю мясьцінаю...

Пісьменьніку трэба лячыцца, каб не спаралізаваць сябе. Яму трэба прайсьці інфэкцыённую камэру і збавіцца ад шкодных наростаў, атруціўшых яго думкі і ўзбаламуціўшых яго настрой. Цешыцца гармідарам не ў пару.

Дзівачоў жыцьцё перамагло і зьмяло з дарогі. Жоўтыя кофткі, лапці на Неўскім і пастаноўкі памятнікаў на пляцох самім для сябе—згінула, як зглух і выкліканы імі гармідар.

„Дні вясны" меней усяго разьлічаны на гутарку аб іх. Толькі стромае ўхіленьне аўтара зборнічку ў бок шкадлівага ўпадніцтва зьвярнула на сябе ўвагу напісаўшага гэта... Увагу для папярэджаньня ня толькі яго (аўтара) самога, а і выдавецтва...

**Янка Пільны.**

**Rok 1863 na Mińszyźnie (Materjały archiwum wydziału III b. kancelarji cesarskiej). Zebrał i opracował J. Witkowski, O. Janiewicz i Lp. Lech.** *Выданьне Польскага Аддзелу Інстытуту Беларускае Культуры. Т. I, Inf. 8⁰. Стар. 216 Менск, 1927 г. Тыраж 1.000 экз. Цана не паказана.*

Літаратуры, якая прысьвечана паўстаньню 1863-64 г. г., даволі шмат. Гэтаму пытаньню, ад часоў самых падзеяў і да нашых дзён, у польскіх, расійскіх і др. гістарычных працах адводзілася многа ўвагі і высьвятлялася з розных пунктаў гледжаньня. Але ўся гэта літаратура яшчэ не дае поўнага, грунтоўнага малюнку паўстаньня 1863-64 г. г. у гістарычным разрэзе, што зазначаюць і навейшыя польскія гісторыкі. Прычыны гэтаму, нам думаецца, двуякія. Папершае—амаль што ўся вартаўнейшая літаратура па гэтаму пытаньню прасякнута тэндэнцыямі нацыянальнымі або палітычнымі, што не давала магчымасьці ўсебаковага, праўдзівага марксыцкага высьвятленьня гэтага пытаньня. Падругое—да Кастрычнікавай рэволюцыі саўсім былі недаступны для вывучэньня цікавейшыя крыніцы да паўстаньня 1863-64 г. г., гэта архіўныя дакументы б. царскага ўраду, якім і было прыдушана гэта паўстаньне.

Праўда, яшчэ да рэволюцыі стала зьяўляцца ў друку афіцыйная перапіска царскіх урадовых устаноў. Шмат дакумантаў зьмешчана ў „Исследованиях" сэнатара Мілюціна. Зьявіліся спэцыяльныя выданьні ўрадовых дакумантаў, якія маюць адносіны да паўстаньня 1863 г. ў Беларусі. (Белецкий, Архив. Мат. Муравьевского муз. за 1861 г.; Миловидов, Арх. Мат. Мур. муз. за 1862 і 1863 г.г., да мая і інш.). Але гэтыя выданьні друкаваліся на ўрадовыя грошы і зьмясьцілі толькі такія дакуманты, каторыя ўрад лічыў патрэбным і магчымым апублікаваць. Тыя-ж матэрыялы, каторыя ня трацілі сваёй полі-

тычнай вострасьці і адчынялі цёмныя бакі ўрадовых дзеяньняў і здрадніцкай шляхты, заставаліся ляжаць у таямніцах да самай рэволюцыі. Зборнік, уложаны. т. І. Віткоўскім і інш., ёсьць першая спроба апублікаваньня матэрыялаў, якія маюць адносіны да паўстаньня 1863-64 г. ў Беларусі, зусім об'ектыўна падыходзячы да дакумантаў.

У зборнік „1863 г. на Меншчыне“ ўвайшло 124 дакуманты і 20 сьпісаў з подпісамі шляхты б. Менскай губэрні, каторыя падавалі адрас цару, каючыся ў сваім „заблуждении“ і прыносячы „верноподданнические“ пачуцьці рускаму цару, які ў гэты час крывава распраўляўся з паўстанцамі ў Беларусі. Дакуманты ахопліваюць час са студзеня 1863 г. па верасень 1867 г., за выняткам ліста 1859 г. літоўскага мітрапаліта Сямашкі да цара Аляксандра II. Усе дакуманты зборніку адносяцца непасрэдна да Меншчыны. Толькі памянуты ліст (№ 117) і два лісты Муравьёва да шэфа жандараў Далгарукава (№№ 118 і 119) укось датыкаюцца Меншчыны. Дакуманты выдрукаваны па аўтэнтыку, без перакладу, на расійскай мове. Прадмова, рэдакцыйны тэкст, зьмест і альфабэты даюцца на польскай мове.

У невялічкай прадмове да зборніку зазначаецца, што царскі ўрад быў зацікаўлены ў тым, каб шмат якія крыніцы да паўстаньня 1863-64 г.г. у Беларусі былі недаступнымі для грамадзянства. Указваецца, што хаця Гансяроўскі паказаў 4.168 назоў прац і дакумантаў да падзеяў 1863-64 г.г., гісторыі гэтых падзеяў яшчэ няма. Робіцца некалькі заўваг аб становішчы крыніц, з якіх узяты дакуманты да зборніку, і таксама даюцца некаторыя гістарычныя нататкі да зьмешчаных дакумантаў. З прадмовы відаць, што апроч гэтага зборніку, Польскім Аддзелам Інбелкульту падрыхтаваны яшчэ да друку матэрыялы, якія адносяцца да б. губэрань: Віцебскай, Гродненскай, Віленскай, Магілеўскай, Смаленскай і часткова Ковенскай.

У сваёй большасьці дакуманты, якія зьмешчаны ў гэтым зборніку, паходзяць з жандарскага кіраўніцтва Менскай губ. і канцэлярыі б. начальніка краю Мураўёва. Апроч гэтага, у зборніку знаходзім дзьве адозвы „Жонду Нарадовага“, некалькі прыватных лістоў і заяў, інформацыі, сьпісы асоб, каторыя былі прыцягнуты да адказнасьці Камісіяй па палітычных справах Менскай губ. з 15/II па 15/III і з 15/IV па 15/XI 1863 г., адбіткі пячатак рэволюцыйных арганізацый Меншчыны і д. п.

Дакуманты характарызуюць настрой жыхарства ў пачатку 1863 г., вядома, у жандарскім асьвятленьні; паказваюць, якія былі на Меншчыне організацыі паўстанцаў, іх кіраўнікі і дзейнасьць. З данясеньняў жандараў відаць, у якіх мясцовасьцях групаваліся сілы паўстанцаў, дзе адбываліся бойкі паўстанцаў з войскам і іх вынікі. Прыводзяцца даныя аб контрыбуцыі Мураўёва, аб становішчы дробнай шляхты і аднадворцаў і д. п. У зборніку зьмешчана шмат новага, вельмі цікаўнага матэрыялу, які ў многіх выпадках пралівае новы сьвет на падзеі 1863-64 г.г. у Беларусі.

З данясеньня жандара Лосева Мураўёву і Далгарукаму (№ 67) выяўляюцца вельмі важныя даныя да гісторыі рэволюцыйнага руху ў Беларусі. Так, напрыклад, Лосеў даносіць, што яшчэ да пачатку організацыі паўстаньня 1863 г., на Меншчыне існавала таварыства „на чисто социальных основаниях“ на чале з чыноўнікам Палаты дзяржаўнай маемасьці Станкевічам і валасным пісарам Клімовічам. Гэта таварыства, як кажа Лосеў, „проповедывало между крестьянами братство с помещиками и право крестьян на землю“ (стар. 104). Ці ня будзе гэта „проповедь“ адзнакамі народніцтва ў Беларусі? Магчыма, што пад „братством“ з панамі трэба разумець „роўнасьць“ з панамі.

Варта тут застанавіцца яшчэ на двух дакумантах, хаця яны непасрэдна і не адносяцца да Меншчыны. Першы з іх (хаця ўжо быў надрукаваны раней, што і агаворана ў прадмове) высьвятляе супярэчнасьці паміж Мураўёвым і царскім урадам (№ 118). Жорсткія расправы Мураўёва з паўстанцамі, высяленьне тысячамі ў „отдаленные места“ рабілі ня мала клопату і трывог міністрам. Дакумант дае падрабязныя тлумачэньні Мураўёва па гэтаму пытаньню. Другі дакумант (№ 119) дае тлумачэньне Мураўёва аб правадзімай ім сялянскай рэформе ў Беларусі. Як відаць, міністры вельмі баяліся, што пасьпешнае правядзеньне рэформы 1861 г. ў Беларусі паслужыць грунтам для бунтаў расійскіх сялян, якія яшчэ павінны былі адбываць прыгон.

Наогул, зборнік, уложаны т. І. Віткоўскім і інш. „1863 год на Меншчыне“, уносіць новыя старонкі ў вывучэньні мінулага Беларусі. Распачатае Інбелкультам выданьне дакумантаў да гісторыі клясавай і нацыянальнай барацьбы ў Беларусі трэба толькі вітаць.

**М. Мялешка.**

# ХРОНІКА БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ

### Сярод пісьменьнікаў

* Народны Камісарыят Асьветы камандыраваў за рубеж з навуковымі мэтамі трох беларускіх пісьменьнікаў—Цішку Гартнага, Міхася Чарота і Міхася Зарэцкага. Пісьменьнікі наведаюць Латвію, Нямеччыну, Чэхаславаччыну і Францыю.

* Янка Купала выехау у Чэхаславаччыну, у Карлсбад, лячыцца.

* Якуб Колас скончыў пераглядам сваю аповесьць „У палескай глушы" і здаў яе да друку ў Белар. Дзярж. Выдавецтва.

* А. Александровіч працуе над перакладамі твораў украінскіх пісьменьнкаў для украінскага альманаху, які мае быць выдадзен Белар. Дзярж. Выдавецтвам.

* Пісьменьнікі Алесь Дудар і А. Вольны адправіліся ў чэрвені месяцы ў далёкую падарож па Сібіры з мэтаю вывучэньня там жыцьця і быту перасяленцаў-беларусаў.

* У Гомелі зорганізаваўся Гомельскі аддзел усебеларускай фэдэрацыі пісьменьнікаў. У склад яго ўвайшлі: філія „Маладняк", філія ВАПП і інш. Ініцыятарам організацыі з'яўляецца Я. Ліманоўскі.

* М. Зарэцкі перадаў свой роман „Сьцежкі-дарожкі", які друкуецца ў „Полымі", для друку ў новую газэту „Рабочий", дзе ён і пачаў друкавацца на расійскай мове.

* Дзяржаўнае Выдавецтва Украіны рыхтуе да друку беларускі альманах. Уступны артыкул да альманаху заказаны М. Байкову.

* Проф. М. Піотуховіч скончыў першую частку сваіх нарысаў па гісторыі навейшае Беларускае літаратуры і здаў да друку ў Бел. Дзяр. Выдавецтва. Першая частка ахапляе пэрыод з часоў зьяўленьня „Энэіды навыварат" і „Тараса на Парнасе" да пасьлякастрычнікаўскага пэрыоду. Пры гэтым з нашаніўскага пэрыоду проф. М. Піотуховіч датыркаецца ў першай частцы сваёй працы толькі некаторых памёршых пісьменьнікаў (Цётка, М. Багдановіч, А. Гарун і Ядвігін Ш.). Разгляд жывых нашаніўцаў будзе тэмаю другое часткі, якую проф. М. Піотуховіч намераны скончыць к сьнежню месяцу наступнага 1928 году.

* М. Чарот працуе над сцэнарыем „Карчма" са ўзораў яго-ж поэмы „Карчма".

* У Менску заснавалася новае пісьменьніцкае аб'яднаньне „Пробліск". Заснавальнікамі яго зьяўляюцца наступныя пісьменьнікі: Алесь Гурло, Н. Чарнушэвіч, Янка Бобрык, Т. Кляшторны, І. Плаўнік, Я. Туміловіч і М. Хведаровіч.

### Тэатр і музыка

* З наступнага сэзону 1927-28 г. Першы Беларускі Дзяржаўны Тэатр мецьме працаваць па чарзе—у Віцебску, Воршы і Магілеве, а другі беларускі тэатр—у Менску, Гомлі і Бабруйску.

* Як паведамляюць газэты, на сусьветнай музыкальнай выстаўцы ў Франкфурце на Майне асаблівым посьпехам карыстаюцца беларускія экспонаты: пастухова труба, дуда, ліра і цымбалы.

* З наступнага навучальнага году ў Менску організуюцца народныя музычныя клясы, у якіх будзе абучацца да 60 чал.

**Паміж кніжак**

* У выдавецтве „Маладняк“ вышлі з друку—поэма С. Фаміна „Балота“ і В. Сташэўскага „П‘есы для вясковага тэатру“.

* Вышаў з друку № 6 часопісі „Маладняк“.

* У выдавецтве Інбелкульту выданы, паміж іншымі, наступныя кніжкі: „Скарынінскі зборнік“, „Матэрыялы акадэмічнай конфэрэнцыі“ і першы том твораў М. Багдановіча.

* Музэем рэволюцыі выдаецца другі зборнік „Кастрычнік на Беларусі“, у якім будуць зьмешчаны матэрыялы, прысьвечаныя польскай окупацыі.

* Вышаў з друку зборнік „1905 год на Беларусі ў проклямацыях і адозвах“, уложаны М. Мялешкаю, з тлумачэньнямі Віткоўскага і ўводным артыкулам З. Жылуновіча. Зборнік зьяўляецца скуткам працы існаваўшай раней пры Інбелкульце „Камісіі па вывучэньні рэволюцыйнага руху на Беларусі“.

У Бел. Дзярж. Выдавецтве вышаў з друку трэці том збору твораў Янкі Купалы.

* Тым-жа выдавецтвам выпушчаны збор вершаў П. Труса „Ветры Буйныя“ і збор сатыраў Дзяркача „Міколава гаспадарка“.

* Да сёмай гадавіны вызваленьня Беларусі ад палякаў Беларускім Дзяржаўным Выдавецтвам выдадзены наступныя кніжкі: „Інтэрпэляцыі беларускіх паслоў у польскім сойме“—на беларускай і расійскай мовах; Б. Ванcоўскі і Д. Рудоміно „Куды вядзе Пілсудзкі Польшчу“—на беларускай і расійскай мовах і М. Баравы „Па крывавых сьлядох“.

* Беларускае дзярж. Выдавецтва распачало выданьне дзіцячай літаратуры. Зараз у друку знаходзіцца шэраг дзіцячых кніжак, як-то: „Што шпарчэй“, Я. Маўр „У краіне раскай птушкі“; „Шэрая шышка“, „Габрусь і Рудзік“.

* У БДВ друкуецца трэці том выбраных твораў Леніна.

* Камісіяй па сьвяткаваньню дзесяцігодзьдзя Кастрычнікавай рэволюцыі выдаецца кніжка А. Чарвякова „За Савецкую Беларусь“.

**Рознае**

* Дзевятага жніўня адбылося 10-цігодзьдзе існаваньня газэты „Звезда“. З гэтага часу газэта цалкам перайшла на беларускую мову.

**За рубяжом**

* У Празе-Чэскай вышаў № 1 за 1927 год часопісі паступовага студэнцтва „Новы Прамень“. У часопісі шмат грунтоўных артыкулаў аб становішчы Заходняй Беларусі і БССР. У хроніцы, паміж іншым, зьмешчана заява В. Ластоўскага, у якой ён выказвае сваё палітычнае Credo ў зьвязку з зваротам у Савецкую Беларусь.

* З чэрвеня бягучага году ў Празе-Чэскай адбыўся вечар беларускае народнае песьні. Вечар ладзіў вядомы чэскі „Бакулаў Хор“ з удзелам праскае філіі „Маладняк“ і „Цэнтральнага Саюзу Чэха-Славацкага Саюзу“. Уступнае слова да вечару сказаў вядомы чэскі музыкальны крытык Доктар Нэедлы, коратка ахарактарызаваўшы беларускую народную песьню. Сьледам украінская сьпявачка Д‘ячэнка прасьпявала некалькі ўзораў з беларускіх песьняў. Далей „Хор Бакулы“ прыгожа выканаў каля 15 бе-

ларускіх народных песьняў. Вечар зрабіў на прысутных добрае мастацкае ўражаньне.

* У Рызе вышаў з друку № 7 пэдагогічна-грамадзкага штомесячніку беларускае нацыянальнае меншасьці ў Латвіі пад рэдакцыяй К. Езавітава „Беларуская школа ў Латвіі". У нумары зьмешчана шмат фотографій з жыцьця Дзьвінскае Беларускае Гімназіі.

* У гор. Дэтройце (Паўночная Амэрыка) заснавалася беларускае „Таварыства помачы Беларусі", якое становіць сваім абавязкам дапамогу жыхарству Заходняй Беларусі.

*Рэдакцыйная колегія:* **З. Жылуновіч, М. Зарэцкі, Я. Лімаоўскі**

*Выдавец:* **Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва**

# ЗЬМЕСТ